


# ПОЛЫМЯ

*ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС*

**5** (1003)

***МАЙ***

**Выдаецца
са снежня 1922 года**



**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ВЫДАВЕЦКІ ДОМ «ЗВЯЗДА»**

**Мінск 2013**

## *ЗМЕСТ*


3 **Соф'я ШАХ. Роздум. Вянок санетаў.**

10 **Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ. Ліхалецце.** Раман. Працяг.

57 **Алесь КАМАРОЎСКІ. ***Такі жыцця закон суровы… Сусед. Восеньскі эцюд. ***Успамінаў з днямі — болей… Жыццё.** Вершы.

60 **Віктар СУПРУНЧУК. Мітусня.** Аповесць.

120 **Ганад ЧАРКАЗЯН. Чаргаві.** Пераклад з курдскай Казіміра Камейшы.

130 **Яўген ГАРАДНІЦКІ. Аповесць Івана Шамякіна «Гандлярка і паэт»: жанр, кампазіцыя, галасы аўтара і герояў.**

135 **Іван САВЕРЧАНКА. Амерыканская класіка ў Беларусі.**

145 **Алесь САВІЦКІ: «Толькі мужны дасягае мэты». Гутарка Зіновія Прыгодзіча.**

160 **Казімір КАМЕЙША. Зялёнае шкельца памяці.**

170 **Віктар ГАРДЗЕЙ. За лясамі, там — вясна…**

179 **Эпас пра пчол і мёд.** Пераклад з рускай Яўгена Лецкі.





ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



**Соф'я ШАХ**

# РОЗДУМ

## ВЯНОК САНЕТАЎ

**1**

Прайшло маленства ў цьмянай даўніне.
Зірну назад — ох, як яно далёка!..
Здаецца, стогадовай павалокай
замглёнае ў жыццёвай глыбізне.

Вось гэта далеч у маім акне
і то лягчэй атульваецца зрокам,
яе і то прасцей акінуць вокам,
хоць тоіцца ў блакітнай сівізне.

А горкае, няўклюднае маленства,
а беднае, сляпое малалецтва
у гэтакую вечнасць адышло,

што хоць ты крыкні ўслед: а ці было
ўсё тое на мяжы мо і вар'яцтва
спляценне захаплення і дзівацтва?!

---

*__Шах Соф'я Мікалаеўна__ нарадзілася 29 лістапада 1947 года ў вёсцы Лясец Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Дзіцячыя і школьныя гады прайшлі ў г. п. Азарычы таго ж раёна. Скончыла факультэт пачатковых класаў Мазырскага педагагічнага інстытута імя Н. К. Крупскай (1969), дэфекталагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага (1980). Працавала настаўніцай пачатковай школы ў вёсцы Гажын Нараўлянскага раёна, у вёсцы Цідаў, у пасёлку Азарычы Калінкавіцкага раёна, лагапедам у школе-інтэрнаце ў Светлагорску.*

*Аўтар паэтычных кніг «І не пакіне спадзяванне» (1989), «Пад высокай лагодай нябёс» (1995), кніг вянкоў вянкоў санетаў «Адухаўленне» (2000), «Прысвячэнне» (2001), «Прызначэнне» (2002), «Увасабленне» (2003), «Спасціжэнне» (2004), «Азарычы» (2007), зборнікаў вянкоў санетаў «На ўсё дабро ў адказ» (2003), «Кругаспеў» (2006), «Малітваспеў» (2010) і інш.*

**2**

Спляценне захаплення і дзівацтва,
ды жаху-страху, ды сараматы,
а часам і такой ужо брыды,
што вымавіць — бы праявіць нахабства.

Хапала выкрунтасістых кантрастаў
ад нелюдзімасці да блазнаты,
ад неўгамоннасці да нематы, —
галоўнае, з няўцямнасцю найчаста.

Цяпер жа, на адлегласці бясхмарнай,
амаль і не здаецца ўжо кашмарнай,
бунтарнай тая горкая пара.

Хоць гэтак жа, на межах зла, й дабра,
і лёсавага быццам бы вядзьмарства,
прайшло несамавітае юнацтва.

**3**

Прайшло несамавітае юнацтва, —
няма жадання і яго вярнуць.
Няхай дні тыя ўсё далей бягуць,
ды без мяне — вузласта-выгінаста.

І гэтак жа нязладжана-пятляста,
як некалі, калі ім разапнуць
душу было — што ветрам уздыхнуць
ці навальніцай пужануць грукастай.

О не, канешне, што там і мудрыць:
хацела б я хоць трошачкі пабыць
у тых гадах, у тых маладзіковых, —

прыгнечаных, імпэтных, бесталковых,
што не былі, здаецца, і ў цане, —
як бы ад разумення ў старане.

**4**

Як бы ад разумення ў старане,
дзе я то над прадоннем завісала,
то ў поцемках вясёлкавых блукала,
а то сябе ўяўляла і ў труне.

То ў нейчай задыхалася мане,
то гэткую ж ману сама ўзвышала,
удумацца не ўмеючы больш стала,
сагне яна мяне ці не сагне.

Як прагла я той час пераступіць,
юнацтва як мага хутчэй пражыць,
яго адпрэчыць і не аглянуцца…

І не паспела ўжо як бы ачнуцца,
ўясніць, яно мінула а ці не, —
а вось і сталасць горнецца-імкне.

**5**

А вось і сталасць горнецца-імкне
то ўзнагародзіць новаю маршчынай,
то паміж немачаміважданінай,
то сівізной у валасах мільгне.

То ў вочы недаўменнем зазірне
і адаб'ецца ў сутнасці наіўнай,
а то хады запатрабуе чыннай,
ды следам і аціхне ў слабіне.

А клопатамі гэткімі акружыць,
што іншы раз не проста іх і здужаць,
што іншы раз — хоць вочы завяжы…

І ўвогуле, бадай, што ні кажы,
а ўсё-ткі цяжка быць ёй без ліхацтва,
здзяйсняцца без прыкметнага каварства.

**6**

Здзяйсняцца без прыкметнага каварства
і сапраўды, аднак, не проста ёй,
але здзяйсняецца — Гасподзь Ты мой! —
парой то легкаважна, то грувастка.

Ідзе-ідзе, — хоць часам пакручаста
сваім кранаючы і мой настрой,
чаргуючы ўзрушэнне і спакой,
за станам духу сочачы зіркаста.

Хаця казаць «ідзе», напэўна, смешна, —
ужо і не бяжыць — ляціць паспешна,—
вось дзіва дзіўнае цяпер у чым.

Аднак жа трэба пагадзіцца з тым,
што дорыць, не згубіўшы з духам брацтва,
якоесь падабенства пастаянства.

**7**

Якоесь падабенства пастаянства…
Але іначай і не можа быць,
хаця я так і не змагла згубіць
з дзіцячасцю ранейшага сваяцтва.

Усё адно і тое ж разявацтва,
наіўнасць, што ніяк вось не пазбыць,
сябе няздольнасць неяк бараніць
ад крывадушша нейчага і хамства.

Аднак і раўнавага зараз ёсць,
нягледзячы на нейчую мо злосць,
на дробязную зайздрасць ды на жорсткасць.

Нясе сама і долечка грунтоўнасць, —
яе ўжо часам і праз нейчы гнеў
яна стараецца наладзіць мне.

**8**

Яна стараецца наладзіць мне,
бо побач існай міласцю — каханы,
аднойчы Богам-Госпадам пасланы,
калі мая душа была на дне

таго адчаю, што так больш не тне, —
бяссільны ён цяпер, як бы зламаны
і бытам нават упарадкаваны
ужо ў каторай восені, вясне.

І сталасць гэтая, нібы смуга,
яе уцяміць — не мая чарга,
яна прыйшла — а я не разумею.

Яна ідзе — а я не спакайнею.
Яна спяшае ўсё хутчэй, хутчэй…
А што за ёю дзесьці там — далей?

**9**

А што за ёю дзесьці там — далей,
калі дзіцячасць так і не знікае, —

дапамагае мне і замінае
паміж маіх жаданняў і надзей?

Цяпер усведамляю нейк глыбей,
што я невыпадкова мо такая, —
сучаснікам як быццам бы чужая,
ды так было, урэшце, і раней.

Бы сталасці не маю пачуцця, —
замест жанчыны — вечнае дзіця,
дзяўчо — у заскарузлай абалонцы.

Неадпаведнасць па задуме Творцы?
Ці будзе мне з-за гэтага лацвей
адсюль за тысячу зямных завей?

**10**

Адсюль за тысячу зямных завей,
за процьму лістападаў, снегападаў,
дажджоў, туманаў і громараскатаў
ды іншых з'яў, калізій і падзей…

Час падступае ўсё круцей, круцей,
ды з году ў год — бы не яго улада,
хоць і няма тых мяккіх перакатаў, —
цяжкія перавалы ўсё часцей…

І вось я зноў, я зноў у недаўменні:
чаго ён так пагнаў свае імгненні,
хвіліны, суткі, месяцы і дні?

Жыву на неймавернай быстрыні.
Адсюль жа і не простая цікаўнасць:
а што за тым, — сабой што зменіць сталасць?

**11**

А што за тым, — сабой што зменіць сталасць,
або, калі ўжо можна мовіць так, —
хоць недакладна й гэтае, аднак, —
наканавана сталую дзіцячасць?

Што нейкая там будзе незвычайнасць —
само сабою, несумненны факт.
Але канкрэтна абазначыць як?
Вось тут і праяўляецца ўжо слабасць.

Ні слова пэўнага, ані ўяўлення
для больш дакладнага абазначэння,
нібыта й непатрэбныя яны.

Нібы абсяг там нейкі запасны.
І сапраўды, праз бліжнюю стракатасць
зірну наперад —ззяючая яснасць.

**12**

Зірну наперад — ззяючая яснасць,
суцэльная, урэшце, светлыня,
ў якой губляецца далечыня,
уся яе адкрытая прасцяжнасць.

Не зіхатлівасць там, не асляпляльнасць,
а золкавая нібы чысціня,
і прамянёў такая гушчыня,
што траціць сэнс ужо і дальнабачнасць.

І я, Гасподзь мой велічны, я зноў
не маю адпаведных трапных слоў
для ўдакладнення і для тлумачэння.

Хоць ведаю, што маю дачыненне,
інакш бы не свяціўся так абсяг —
бязмежжа прамяністае ў вачах.

**13**

Бязмежжа прамяністае ў вачах.
Але не зманнае, не паказное,
не ілюзорнае, не іскраное,
не ў нейкіх там адзінкавых агнях.

Народжанае ў сённяшніх вірах,
яно — спакойна-роўнае, жывое,
як бы зямное і ўсё ж незямное, —
ў яго ўзірацца не ўзнікае страх.

Яно прывабнае, — бы нейкі цуд
адтуль пачаў уздзейнічаць і тут,
у гэтай зараз, у няпростай яве.

І вось пытанне на такой падставе,
для роздуму як быццам у працяг:
няўжо й мяне звядзе са свету шлях?

**14**

Няўжо й мяне звядзе са свету шлях?
З маёй-то прагай і з маім-то духам?
З маім запалам-то, імпэтам-рухам?
З маім-то адчуваннем, што я — птах?..

З маёю-то няўтомнасцю ў вянках,
што разыходзіцца санетным кругам
па-над радзімым полем, па-над лугам,
нейк большы набываючы размах…

З маім-то ўжо і здзівам без мяжы,
з маім-то і даверам у душы
да гэтае зямлі, да гэтай долі…

Я ж мо таму й з маленствам аніколі
не расставалася, хоць, нібы ў сне,
прайшло маленства ў цьмянай даўніне.

**15**

Прайшло маленства ў цьмянай даўніне —
спляценне захаплення і дзівацтва.
Прайшло несамавітае юнацтва, —
як бы ад разумення ў старане.

А вось і сталасць горнецца-імкне
здзяйсняцца без прыкметнага каварства, —
якоесь падабенства пастаянства
яна стараецца наладзіць мне.

А што за ёю дзесьці там — далей,
адсюль за тысячу зямных завей?
А што за тым, — сабой што зменіць сталасць?

Зірну наперад —ззяючая яснасць,
бязмежжа прамяністае ў вачах.
Няўжо й мяне звядзе са свету шлях?





Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# ЛІХАЛЕЦЦЕ*

*Раман*

## Частка чацвёртая

### IV

У Прусцы падзеі ішлі сваім парадкам. Вясна — веснавыя клопаты, кожны павінен быў дбаць пра сябе, пра сваю гаспадарку. Трэба было араць, сеяць. Пры нагодзе ехалі ў Камянец — да млына і на базар. Гэтым у асноўным і жылі. Уражанне ад каўпакоўскага рэйду Вяршыгары паступова ўляглося і нібы прызабылася. Яго зацьмілі паўсядзённыя клопаты. Неўзабаве, аднак, заведзены ход рэчаў парушыўся, і справа павярнулася самым нечаканым і сур'ёзным чынам. Нагадалі аб сабе тыя самыя злашчасныя міны, якія былі пастаўлены на камянецкім гасцінцы. Здарылася гэта ў нядзелю.

Буднім днём па гасцінцы мала хто ездзіць, затое ў нядзелю — рух узмацняецца. Людзі едуць па справах — на базар, з базару, купіць што, ці прадаць, або каб сустрэцца з кім. Палякі — дык тыя яшчэ і ў касцёл. Гэта, дарэчы, і была польская сям'я з Калёніі Пруска, якая вярталася з касцёла на фурманцы, запрэжанай паркаю коней. Адзін конь такую і не пацягнуў бы — столькі на ёй скарбу і седакоў. Паперадзе сядзеў фурман з шасцігадовым хлопчыкам, ззаду — гаспадар з жонкай, бабуля і бесклапотная паненка ў прыгожай белай сукенцы. Выбух быў такі раптоўны і рэзкі, нібы ўдарыў пярун — недзе зусім блізка, за клунямі. Прынамсі, прускаўцам гэтак і здалося.

— Навальніца пачалася! — перапалохаўся хапатлівы Гамон, які нешта рабіў на прыгуменні, і пабег хавацца ў хату, бо падумаў, што пойдзе дождж.

— Не, гэта штосьці іншае… — вырашыў яго сусед Цімоша Хлябіч і выйшаў на вуліцу.

Выбух пачулі многія і пачалі збірацца пад ліпай каля Мікітавай хаты. Ні ветру, ні дажджу не было. Там, на гасцінцы, за якім знаходзіліся могліцы, у небе ўзнімаўся высокі слуп чорнага дыму. Першымі кінуліся да гасцінца дзеці, за імі прыбеглі дарослыя. Разам з усімі на месца здарэння прыбег і Лявонаў унук Валодзік. Жахлівы малюнак адкрываўся перад прускаўцамі. Коней забіла. Дышла як не было. Усё разляцелася ўшчэнт. На месцы выбуху ўтварылася ямка, якая яшчэ курылася дымам і ля якой нерухома ляжалі коні з вывернутымі чэравамі і перакуленыя заднія калёсы ад фурманкі. Нейкая жанчына, відаць, гаспадыня, стаяла ля гэтых калёс, што цудам ацалелі, і

---

* Працяг. Пачатак у № 6—12, 2012 г., № 1, 2, 4, 2013 г.

нічога не магла сказаць, зайшоўшыся сутаргавым плачам. Каля яе на зямлі, угнуўшыся, сядзеў хлопчык. Тут жа, побач, абсыпаныя пяском і пылам, ляжалі забітыя, каля якіх вытыркаліся з травы жоўтыя кветачкі дзьмухаўцоў.

— О Езус Хрыстус! О Езус Хрыстус! — утрапёна паўтарала жанчына, сашчапіўшы перад тварам рукі і хітаючыся ўсёй постаццю.

Хлопчык быў жывы, хоць, відаць, ашаломлены, і таксама плакаў, абхапіўшы твар рукамі. Надта шкада было гэтага чалавечка, кволага і бездапаможнага. Калі ён разняў рукі, усе ўбачылі, што вочы малога засыпаны пяском.

Тут ужо прускаўскія жанчыны не вытрымалі, загаманілі ўсе разам:

— Ой, людкове! Што ж гэта такое?

Падняўся лямант.

— Ой, бяда! — спачувала Відэркава Вера.

— Гэта ж каўпакоўцы замініравалі. Думалі, што немцы іх па гэтай дарозе даганяць будуць, — сказаў нехта ў натоўпе. — А іх ніхто і не даганяў.

Ззаду, з боку Камянца, пад'язджалі іншыя падводы, сярод прыехаўшых былі суседзі-аднапасельцы пацярпелых. Яны пасадзілі ў фурманку жанчыну з хлопчыкам, забралі забітых і моўчкі павезлі ў сваё паселішча.

Страхотліва, да дрыжыкаў, перажываў тое, што адбылося, Валодзік. Вельмі спачуваў таму хлопчыку, які пэўна ж застанецца сляпы. Гэта ж яго равеснік, і тое, што Валодзік убачыў, магло б здарыцца з ім самім, калі ён з дзедам Лявонам ехаў па гэтай дарозе.

Таму, што адбылося, немцы не надавалі аніякага значэння да таго часу, пакуль тут не падарвалася іхняя аўтамашына з сувязістамі, якія рамантавалі тэлефонную лінію, вешалі на слупы дрот. Ніхто з прускаўцаў не звярнуў увагі на гэты, крыты брызентам, грузавік, што з'явіўся ў адзін з красавіцкіх дзён на камянецкім гасцінцы. Звычайна людзі былі настолькі запалоханыя, што кідаліся хавацца, калі бачылі, як у вёску ўязджае нейкая машына — грузавік ці легкавушка. Гэта азначала, што будуць некага хапаць, забіраць ці нешта спаганяць. Але цяпер машына рухалася па гасцінцы. Рухалася памалу, з прыпынкамі, нібы абмацваючы дарогу. У кабіне знаходзіўся шафёр, а салдаты-сувязісты залазілі на прыдарожныя тэлеграфныя слупы і, трымаючыся на сваіх цапах, чаплялі і нацягвалі дрот.

Машына параўнялася з прускаўскімі могліцамі, як раптам з-пад пярэдняга кола зырка бліснуў вогненны жмуток. Грузавік, як цацку, падкінула ўверх, і ён, ахоплены полымем, развальваўся ўжо ў паветры. З кабіны — яна была адчыненая — паспеў выскачыць шафёр. Выскачыў і скаціўся ў прыдарожную канаву. Сувязістаў таксама паскідала са слупоў на зямлю — дастала выбуховай хваляй. Над месцам здарэння адразу ж узняўся аграмадны слуп дыму і пылу. Пачуўшы новы выбух, прускаўцы зноў збегліся да гасцінца паглядзець, што адбылося ў другі раз. Гарэлі рэшткі грузавіка — тое, што засталося пасля выбуху. Полымя ахапіла яго адразу. Салдаты-сувязісты як пападалі са слупоў, так і ляжалі на зямлі, баючыся варухнуцца, бо не ведалі, што адбываецца. Ашаломлены ж шафёр у расхрыстаным замасленым мундзіры, без шапкі, хадзіў вакол таго, што дагарала ў яміне, няўцямна паводзіў вачыма і час ад часу хапаўся за галаву. Перапалоханы і крыху, пэўна, кантужаны, ён адно толькі паўтараў: «О, майн гот! О, майн гот!»

— Але ж і бухнула! — узняўшы бровы, падзівіўся Гамон.

— Бух! Бух! — паўтарыў за ім немец, нібыта імкнучыся давесці, як гэта было нечакана і страшна. Аднак паступова ён супакоіўся, і ў яго вачах засвяціліся агеньчыкі радасці: смерць была побач, але, на шчасце, абмінула, пакінула жывым, і, урэшце, ён зайшоўся смехам, ашалела зарагатаў.

Прускаўцы вярталіся да сваіх хат, паапускаўшы галовы, адчуваючы, што над вёскай навісла небяспека, што бяда падступае ўсё бліжэй. Людзей ахутаў страх перад невядомасцю. Так яно і здарылася: незаслужанае пакаранне не прымусіла доўга сябе чакаць.

Пастушкі, якія раніцой гналі кароў на пашу, на расу, заўважылі, як з боку Ратайчыцаў, грукочучы маторамі, павольна сунуліся, калыхаючыся на выбоінах, два тупарылыя, няўклюдныя грузавікі з брызентавым верхам. З-за павароту, з-за абсады Кучэўскага, паказаўся яшчэ і трэці. Ля Пана Яна машыны спыніліся, і з іх пачалі выскокваць жандары ў плямістых плашч-накідках і стальных касках, узброеныя аўтаматамі. У адной з машын знаходзіліся паліцаі. Чулася вуркатанне рухавікоў. У Прусцы, не чакаючы пеўняў, на ўсё горла закрычалі куры. Жандары, убачыўшы пастушкоў, завярнулі іх разам са статкам назад у вёску.

— Nach Haus! Nach Haus![1]

Шэрым натапыраным ланцугом расцягнуліся жандары і паліцаі па поплаве і пайшлі ў абыход Прускі. Ззаду, але не адставалі, ішлі службоўцы з аўчаркамі. Камандаваў усім гэтым «мерапрыемствам» глюгаваты афіцэр-гестапавец у лёгкім мышастым шынялі і фуражцы з высокім верхам. Ён ішоў апошнім, угнуўшы ў плечы галаву і азіраючыся па баках. У руцэ трымаў пісталет.

Лявон заўважыў іх здалёк. Выгляд ранніх гасцей не абяцаў нічога добрага: на каўнярах, на рукавах — чарапы і косці, у пятліцах мундзіраў — «дубовае лісце». Гэта была «ягдкаманда СС»[2]. «Застрашыць хочуць, — падумаў ён. — А можа, што горшае? Можа, паліць будуць, як тыя Лескі? А з намі што?»

Пруска аціхла. Напалоханыя людзі, загнаўшы ў хлявы жывёл, самі пахаваліся па хатах, клунях, агародах. Немцы паклікалі солтыса і загадалі сабраць жыхароў. Хрысан ударыў у біла, што вісела на драўляным кранштэйне пасярод вёскі, паміж хатаю Шведаў і Хомчышыным склепам. Пачуўшы сігнал, прускаўцы, калоцячыся ад нядобрых прадчуванняў, сталі выходзіць на вуліцу.

Павольна ўзбіралася на блакітны небасхіл летняе сонца, абяцаючы пагодны дзень, але людзі інстынктыўна адчувалі іншае: насоўвалася бяда.

— Alarm! Alarm![3] — звінелі аконныя шыбіны ў адным канцы вёскі.

— Raus! Raus![4] — чулася ў другім.

— Alarm!

Збірацца загадалі за Пахолкавай кузняй, на выгане, прычым усім: мужчынам, жанчынам, дарослым і дзецям. Збіраліся тут для розных патрэб і раней, але на гэты раз усё адбывалася па-іншаму: у свядомасць пранікаў страх, пачуццё блізкай небяспекі. Фёкла якраз мясіла ў дзежцы хлеб. Паспела ўжо і падаіць карову, і згатаваць снеданне, і запаліць у печы. Каля дзежкі сядзеў унук — рана нешта ён сёння прачнуўся. На падворак, пнуўшы нагамі веснічкі, увалілася двое жандараў, такім жа чынам яны адчынілі і дзверы ў хату.

— Schneller![5] — загергеталі адзін і другі.

Фёкла пакінула мясіць цеста, мітуслівa выцерла аб ручнік рукі і разам з Валодзікам выбегла на вуліцу. «Авохці мне!» — яшчэ больш напалохалася яна, убачыўшы, што там робіцца. Па вуліцы, як жывёлу, гналі людзей. Чуліся

---

[1] Дадому! Дадому! (*ням.*)

[2] Ягдкаманда СС — знішчальная каманда войск СС.

[3] Трывога! Трывога! (*ням.*)

[4] Выходзь! Выходзь! (*ням.*)

[5] Хутчэй! Хутчэй! (*ням.*)

крыкі, лямант, тупат, сабачы брэх, звон разбітага шкла. Усё рухалася ў кірунку выгана. Вуліцу завалокваў пыл ад босых ног. Цяжка ставячы на дол драўляную нагу, ішла Галеня. Невядома, як яна тут, у Прусцы, апынулася, бо жыла ў суседняй Выгнанцы.

— А дзядзюхна! А цётухна! — паўтарала яна, нібы галосячы, і нязграбна перастаўляла драўляную нагу.

Над Прускай стаяў стогн. У ясным небе, пакінуўшы гнёзды на сялянскіх клунях, трывожна кружыліся, шырока распусціўшы крылы, белыя буслы. Беглі хавацца ў карчы куры. Рыкалі, ізноў апынуўшыся ў сваіх стойлах, каровы.

— Госпадзі Ісусе! — вырвалася ў Фёклы, яна адвяла вочы на царкву і перахрысцілася.

Жандары і яе, і Валодзіка штурхнулі ў натоўп. Побач бегла Дзякрэта. Твар яе, звычайна чырвоны і парны, пабляднеў і знерухомеў. Брыжылася сцягнутая пад грудзьмі сукенка. Каля яе Хомчыха, Апанас, дзеці. Шкандыбаў на мыліцах Фэдар-японец. Разам з ім Міхаль з жонкай і дачкой. Манька азіралася, шукала, відаць, сяброўку. Выпаралі з хаты і Восіпа Дзванарыка, і ён з жонкай Софай ішоў цяпер разам з усімі. Каля іх — суседзі — туліліся Ганна і Вера Відэркі.

Валодзік спачатку назіраў за ўсім з трывожнай цікаўнасцю, але потым страх перадаўся і яму, і ён стаў бліжэй ціснуцца да бабулі, трымаючыся за яе андарак. Фёкла азірнулася і ўбачыла нявестку. Прося адной рукой вяла Віталіка, другой — туліла да грудзей Лёню.

— Ма-амо! — загукала яна, угледзеўшы свякроў, і кінулася да яе.

— Partysanen! Bandyten! — дралі глоткі жандары. Раз’юшаныя сабакі люта гырчэлі і кідаліся на людзей. Частка жандараў з паліцаямі хадзілі па хлявах і клунях, дзёўбалі штыкамі на вышках і ў застаронках.

Лявон выйшаў з клуні сам і моўчкі пайшоў за людзьмі, дагнаў жонку з Валодзікам і нявестку з малымі. Спытаў пра Васіля. «Усё яшчэ няма», — з трывогай у вачах адказала Прося.

З жандарамі хадзіў і солтыс. Мусіў і тут спаўняць сваю службу. Падышлі да хаты Ламакаў. Праз акно ўбачылі Оргія, які, адвярнуўшыся, ляжаў на ложку і, пэўна, моцна спаў. Яго Апраска яшчэ ўчора пайшла ў Зянькі наведаць сваякоў і да гэтага часу не вярнулася. Оргій, відаць, гэтым і карыстаўся, бо Апраска разлежвацца не давала.

— Оргій! — паклікаў Хрысан, але той нібы і не пачуў. Тады жандар стукнуў па акне прыкладам — пасыпалася шкло.

Оргій падхапіўся адразу.

— Іду-іду! Толькі не страляйце! Паночку!.. — пачулася з хаты.

На выгане, пад камандай афіцэра, людзей ставілі ў шарэнгу, неміласэрна штурхаючы іх кулакамі і прыкладамі. Паперадзе стаялі прускаўскія мужчыны: Оргій Відэрка, Міхаль Тупчык, Цімоша Хлябіч, Лявон, Арцём Каленік, Цішка Пахолак, Павал Гальяш, Фэдар-японец і іншыя. Прыхапілі ўсіх, хто быў на той час у вёсцы. Апошнім прыскакаў Гамон, прытварыўшыся кульгавым. У абедзвюх руках палкі, адну нагу сагнуў у калене, вяроўчынай падвязаўшы ад сцягна. Не іначай, як спадзяваўся на паблажку, але на яго жаласны выгляд ніхто не звярнуў увагі, нават свае. Іншым разам усе б зарагаталі з такой Гамонавай прыдумкі, а цяпер усе маўчалі. Гамон, абапіраючыся на палкі, стаў побач з мужчынамі, каля Мікіты Галёнкі і Хвядзюшкі Шпунта. Збялеў ад страху Коля Шведаў — малады, яшчэ юнак.

Жанчыны, дзеці, тулячыся да сваіх матак, прыстроіліся ззаду. Усе — босыя, летам у Прусцы абутку ніхто не насіў. Валодзік успомніў, як у мінулым

годзе на гэтым месцы яго заспелі раз'ятраныя паліцаі: спяваў рускія песні. Пералякаўся страшэнна. Але цяпер будзе нешта яшчэ страшнейшае. Заўважыў, як людзей ахоплівае неспакой і дрэнныя прадчуванні.

Вакол, ашчэрыўшы вострыя іклы і пырскаючы слінаю, нацягвалі павадкі аўчаркі.

— Ой, людкове, страшна! — прызналася старая Васіліха, сашчапіўшы на грудзях рукі.

— Мамачка, я баюся! — румзала чыёсьці дзіця.

Афіцэр аб нечым перамовіўся з перакладчыкам, а праз яго з солтысам і, відаць было, не задаволіўся тым, як пасталі прускаўцы, загадаў пастроіць усіх па алфавіце.

— Ordnung muss sein![1] — сказаў ён.

Хрысан збольшага ведаў польскі алфавіт, але доўга спрачаліся, каму стаць скраю. Скраю стаў Антон Дземідзюк, паколькі на А, В і С прозвішчаў не знайшлося. Оргій Ламака зноў не мог уцяміць, што ад яго хочуць, і немец выцяў яго ззаду нагой, ды так моцна, што Оргій ажно падскочыў.

Тут жа, сярод сваіх прыхаджан, знаходзіўся, разгублена паводзячы рукамі, бацюшка айцец Клаўдзій, у чорнай расе, з нагрудным срэбраным крыжам на доўгім ланцужку. Ён адчуваў сябе ў асаблівым становішчы перад Богам і сваёй паствай — як святар, бацюшка, пастыр. Дрыжэла рэдкая бародка, выдаючы яго хваляванне.

— Пацярпіце праваслаўныя, — прасіў ён нязвыкла панылым і стомленым голасам. — Усё ў руцэ Божай. Будзем спадзявацца, што Бог не пакіне нас. Прасвятая Багародзіца, абарані нас покрывам Тваім! — Час ад часу ён хрысціўся, махаючы шырокім рукавом.

Да айца Клаўдзія, амаль трымаючы яго пад руку, туліўся Лаўр Яўсеевіч, дзяк. Звычайна рухавы і ўвішны, цяпер ён меў надта разгублены і напалоханы выгляд. Знікла заўсёдная ваяўнічасць і фанабэрлівасць, круглыя вочы акругліліся яшчэ больш. «А я тут прычым?» — нібы гаварыў іх выраз.

Карнікі ўжо ставілі два кулямёты, за якімі заляглі кулямётчыкі і сталі прымервацца, цэліцца ў натоўп, потым адзін з іх нешта загергетаў свайму камандзіру, і той даў загад перастроіць шарэнгу, бо кулямётчыку перашкаджала, пэўна, нейкая нязручнасць.

Лявон адчуў, як пахаладзела ўсё нутро, і ад страўніка холад пачаў падымацца ўверх. У галаве мільгнула думка аб смерці: «Усё! Ці думаў калі, што гэтак нечакана ўсё адбудзецца! Няўжо гэта канец? Тыя разы абмінула — і на Вялікіх азёрах у Амерыцы, і на тым снежным полі каля Смаргоні, і ў галодным Паволжжы… Але на гэты раз, здаецца, усё выглядае яшчэ больш сур'ёзна. Відаць, канец… Дагнала…»

— Пастраляюць! — жахнулася, праціснуўшыся бліжэй да мужа, Фёкла. Шкада было ўсіх, асабліва дзяцей, якія яшчэ і пажыць не паспелі, малыя.

Людзі як акамянелі. Жандары зноў прыкладамі пачалі ціснуць на іх, каб сталі шчыльней. Людзі і самі, асуджаныя і безабаронныя, імкнуліся збіцца ў кучу.

— Людкове! Гэта ж яны пастраляць нас хочуць! Ой! — заенчыла Хомчыха. Каля маці стаяў сумны і замаркочаны Апанас.

— Усё можа быць, — уздыхнуў Мілецій.

Чутно было, як жанчыны пачалі шаптаць пацеры.

---

[1] Парадак павінен быць! (*ням.*)

Афіцэр перамовіўся пра нешта з чалавекам, які знаходзіўся пры ім, пэўна, перакладчыкам, бо той звяртаўся да прускаўцаў па-руску:

— Нам известно, что ваша деревня вся бандитская. Вы помогаете бандитам! Вы будете расстреляны! Всем вам будет капут! Это не шутка.

Натоўп зашумеў. Яшчэ ўчора некаторыя казалі: «Нас не зачэпяць, бо партызанаў у нас няма». А вось што атрымалася…

— Кто знает про бандитов или назовет их фамилии, пусть сделает шаг вперед! Я хочу вам добра! А иначе будет то, что будет.

Дзякрэта, як падкошаная, грымнулася вобземлю.

— Не забівайце! — закрычала яна дурным голасам, але ніхто з карнікаў не звярнуў на яе ўвагі. Дзякрэта змоўкла.

— Ой, дзядзечка міленькі, не страляй! — ныў нейкі малы.

З роспачы жанчыны браліся за галовы і галасілі. Некаторыя стрымліваліся і да крыві пракусвалі вусны. Непрывычна маўчала Аляксейчыха — маці Мікіты Галёнкі, звычайна злая і калючая, як іголка. І самому Мікіту ўсё адно як адняло мову, ён выглядаў дарэшты разгубленым. Да смерці напалоханы Гамон ніцма паваліўся на траву і нібы самлеў. Жах і адчай перадаўся дзецям, яны ўжо ўсе нылі і плакалі. Дзіцячы плач раздзіраў душу.

— Расстраляюць і спаляць нас, як Лескі, — сказаў Фэдар-японец. — Відаць, ніхто не выжыве. Мы дык ужо старыя, а дзяцей нашто?

Сонца паднімалася ўсё вышэй і пачало прыпякаць. Ад гарачыні аўчаркі сталіся брахаць і павысалаплялі языкі.

— Verbindung mit Partysanen![1] — дадаў афіцэр да таго, што сказаў перакладчык. Час ад часу ён дакранаўся да рукава і пазіраў на гадзіннік.

— Ой, што ж такое робіцца? — енчылі жанчыны.

— Ой, люкове-е!

— Ой, пакінуў нас Бог, пакінуў…

— Мамулечка мая родненькая! — сыходзіла слязьмі Галеня. — А як жа я так трапіла-а?

— А дзетачкі мае-е! Ай-яй-яй! А вы ж яшчэ не пажылі-і! — прычытала Галёнкава Таіса. — А вы ж ні ў чым не вінава-атыя!

— Прашчайце, прускаўцы, ужо не пабачымся! — загаласіла яе свякроў Аляксейчыха. — Прашчайце наве-ек!

Хтосьці застагнаў.

— Людзі! Людзі-і! На калені! — пачуўся голас святара, і адчайнае, нуднае галашэнне прыпынілася, натоўп упаў на калені.

Тое, што адбывалася, здавалася неверагодна цяжкім сном. У паветры пахла смерцю. Хто і калі думаў, што вось такім чынам давядзецца раптам апынуцца перад яе тварам? Прускаўцаў усё болей ахутваў страх. Час цягнуўся, як вечнасць. Здавалася, што гэтай жудасці не будзе канца. Ад жаху яшчэ болей знерухомеў абраслы сівым мохам стары крыж, што стаяў тут жа, пры канцы вёскі, насупраць Пахолкавай кузні. Лявону здалося, што ён ледзь чутно зарыпеў, усё роўна як ад нейкага нутранога болю.

У душу пранікаў пакутлівы перадсмяротны сум. Побач стаялі Фёкла і Прося, да іх цісналіся Валодзік і Віталік; Лёніка Прося трымала на руках. Фёкла залілася слязьмі:

— Госпадзі! За што ты нам гэткую супольную смерць згатаваў?

— Васі няма, — ціха сказала Прося, успомніўшы пра мужа, — можа, хоць ён выжыве… — Па яе шчаках таксама безупынку ліліся слёзы.

---

[1] Сувязь з партызанамі! (*ням.*)

— Осталось пять минут! — абвясціў афіцэр праз перакладчыка. — Всем будет капут! Верьте мне, всем будет капут.

У жырыле крумкалі веснавыя жабы, але і яны аціхлі, адчуўшы, што дзеецца нешта незвычайнае і страхотлівае.

Лявон пачуў за спінай, як некаторыя пачалі развітвацца, прасіць адзін у аднаго прабачэння.

— Ну, не крыўдуй, суседка, калі што не так было. Даруй…

«Ну вось, — зноў падумаў Лявон, — які ён, канец жыцця. У розныя варункі трапляў, але ніколі не думаў, што ён будзе такім. Але калі так, то хай бы ўжо адразу ў сэрца, каб насмерць. Імгненне — і ўсё».

Афіцэр падышоў да асуджаных, паўзіраўся з-пад ілба глыбока пасаджанымі бясколернымі вачыма ў натоўп. Яго худы, касцісты твар не выдаваў ніякіх пачуццяў, апроч застылай пячаткі нейкай паталагічнай пагарды. Гэта быў тыповы твар забойцы. Потым разам з перакладчыкам фашыст паасобку падышоў да некаторых мужчын. Тыцнуўшы пісталетам пад нос, пытаўся:

— Что знаешь про бандитов? Кто в той банде?

Відаць было, што здранцвелыя людзі зацяліся, чакалі канца, станавіліся абыякавымі, раўнадушна пазіралі на «дубовае лісце» ў пятліцах афіцэрскага мундзіра.

Да Лявона зноў вярнулася вострае адчуванне рэальнасці.

— Мы ніякага дачынення да гэтых выбухаў на гасцінцы не маем! — гучна сказаў ён, каб пачулі афіцэр і перакладчык.

Перакладчык пераклаў, але афіцэр заставаўся абыякавым да Лявонавых тлумачэнняў.

Над выганам, нібы што чуючы, кружылі чароды варон.

— Хрысан! — Мікіта Галёнка звярнуўся да солтыса, які стаяў на некатарым аддаленні і час ад часу шкроб патыліцу. Мяркуючы па яго выглядзе, ён не быў абыякавы да таго, што адбывалася, хоць яго сям'ю ніхто не чапаў — жонка і дзеці сядзелі ў хаце. — Хрысан! — грамчэй прамовіў Мікіта. — Скажы ты ім, што нашы людзі спакойныя і нічога злога не робяць… Сам ведаеш, мы да тых мін не мелі аніякага дачынення, не мы іх ставілі! — тлумачыў ён.

— Ён праўду кажа! — хтосьці, здаецца Павал Гальяш, ужо безнадзейна, гукнуў з натоўпу.

Хрысан нешта пачаў казаць перакладчыку, а той — афіцэру. Замест адказу афіцэр яшчэ раз халоднымі вачыма азірнуў натоўп і паднёс да твару наручны гадзіннік.

— Achtung![1] — падаў ён каманду.

— Fertig![2] — адказаў кулямётчык і прынік да сваёй прылады.

Жанчыны загаласілі.

«Ну вось і ўсё!» — пранеслася ў Лявонавай свядомасці, і ён адчуў, як сцішана, нібы чужое, здрыганулася сэрца, а потым абмякла і заціхла, нібы абвалілася кудысьці ўніз, у нейкую прорву.

Гамон падняўся, адкінуў свае мыліцы-палкі, развязаў вяроўчыну і стаў на абедзве нагі. Ніхто на гэта ніяк не зрэагаваў. І якраз у гэты час пачулася здушанае тарахценне матацыкла, які ехаў недзе праз вёску. Нарэшце ён паказаўся каля Пахолкавай кузні і, пыхаючы дымам, пакіраваў да натоўпу. За рулём сядзеў матацыкліст у чорных акулярах, у калясцы — нейкі чын у заломленай дагары фуражцы. Выган аціх.

[1] Увага! (*ням.*)

[2] Гатоў (*ням.*)

— Nicht schissen! Nicht schissen![1] — замахаў рукамі той, што сядзеў у калясцы. Потым штосьці тлумачыў афіцэру-карніку. Нарэшце ўсё вырашылася. Фашысты пра нешта загергеталі паміж сабой, забралі кулямёты, аўчарак, знялі варту і ад’ехалі.

— Nach Haus! — скамандаваў на развітанне афіцэр, звяртаючыся да прускаўцаў, што азначала, можна разыходзіцца. Але людзі ўсё яшчэ стаялі як укапаныя, не кранаючыся з месца, пасля чаго натоўп загудзеў, ажыў, усе, плачучы, кінуліся абдымацца.

— Ой! — стагнала Хомчыха, мацаючы рукамі чамусьці спіну. — Ад страху ажно сэрца скукожылася.

Небяспека абмінула, засталася ззаду. Лявон стаяў нерухома, моўчкі правёў далонню па скронях, па лбе, адчуў, як вяла скаланулася натомленае сэрца, шумна ўдыхнуў набрынялае страхам паветра. Дзень набліжаўся к канцу, сёння ён быў доўгі, як ніколі. На захадзе, нібы набраклае цёмнай крывёю, чырванела стомленае сонца. «Значыць, смерць зноў дала адтэрміноўку, — падумаў ён. — Не можа быць, каб за гэтым дзівам не было сэнсу. Значыць, я яшчэ патрэбен на гэтым свеце». Душыла смага, трэба было яе наталіць.

Да людзей падышоў Хрысан.

— Ну, што, жывыя?

Людзі маўчалі.

— Маеце шчасце, што з немцаў ні адзін не загінуў, толькі самаход разарвала, а то б усёй вёсцы хана. Гэта мне той афіцэр сказаў. Каторы на матацыклеце прыехаў.

— Ну, такога яшчэ не было, — услых падумаў Павал Гальяш і змоўк.

Айцец Клаўдзій і Лаўр Яўсеевіч, перажыўшы жах, стаялі нерухома і моўчкі пазіралі адзін на аднаго, нібы першы раз бачыліся.

Потым усе пацягнуліся ў вёску. Насустрач, агарнуўшыся сваім коцам, выйшла здзіўленая Амелія. Ёй пашанцавала. Уваход у яе хаціну, ганак, так зарос чартапалохам і ўсякім іншым, як лес, пустазеллем, што карнікі, відаць, не даўмеліся, што там нехта мог жыць.

## V

Назаўтра ў Пруску прыехаў амтскамісар Шрубэ з обер-перакладчыкам Мандрашчаком. З імі, як заўсёды, знаходзілася некалькі жандараў і паліцаяў на веласіпедах. Ахова. Новаму амтскамісару Шрубэ было ўласціва такое ж паталагічнае імкненне да парадку і дысцыпліны, як і яго папярэдніку таўстуну Люльке, але ён аказаўся яшчэ больш жорсткі. З гумовай дубінкай не расставаўся і пускаў яе ў ход, не задумваючыся. Лямант ахвяры цешыў яго і весяліў.

— Такога трэба баяцца, — сказаў пра яго Павал Гальяш, убачыўшы Шрубэ ў першы раз, — такі жартаў не разумее.

— А што ты хочаш? — згадзіўся з сябрам Лявон. — Шруба — яна і ёсць шруба.

Гэта быў узорны забойца і фашыст. Цяжка было зразумець, гаворыць ён ці проста крычыць. «О-о-о! — здзіўляліся людзі. — Дзе ж такога вырадка адшукалі?»

Да брычкі падбег солтыс.

---

[1] Не страляць! Не страляць! (*ням.*)

— Хайль Гітлер! — запыхана павітаўся ён з амтскамісарам і обер-перакладчыкам.

— Зрабіце аб'езд! — загадаў Мандрашчак, не адказаўшы на Хрысанава прывітанне і зняважліва пазіраючы на яго боты. — Аб'езд! Што, не разумееш?

Потым пра нешта злосна загергетаў сам Шрубэ, як бусел, задзёршы ўверх галаву ў высокай, з бліскучай цэшкай, фуражцы. У позірку алавяных вачэй — дзікая падазронасць і напышлівасць. У руцэ — гумовы дручок. На сярэдні палец насунуты тоўсты пярсцёнак з нейкага металу. Здавалася, што ён крычыць ад страху, ад таго, што ведае лёс свайго папярэдніка Люльке і надта баіцца сам.

— Загадваю захоўваць парадак і дысцыпліну! — пачаў перакладаць Мандрашчак. — Гэта, па-першае. Па-другое, гэты ўчастак трэба ачысціць ад мін, размініраваць! Дзеля гэтага загадваю мабілізаваць людзей з коньмі і баронамі, хай барануюць дарогу, каб урэшце знайсці гэтыя бандыцкія міны! Тэрмін — два дні!

— Слухаю, гер камісар! — адказаў солтыс, яшчэ не цямячы таго, што ад яго патрабуюць.

Тым часам паліцаі ад таго месца на гасцінцы, дзе адбыліся выбухі, адмералі па сто метраў у адзін і другі бок і ўкапалі слупкі з шыльдамі «Achtung! Minnen!»[1]

Аддаўшы загад, фашысты з'ехалі, ажно закурыўся з-пад брычкі пыл. Хрысан, стоячы на гасцінцы, яшчэ доўга пазіраў услед, пакуль камісарская брычка, хістаючыся на калдобінах, пераехала масток і схавалася за паваротам на Ратайчыцы. Становішча солтыса было не простае, ён не ведаў, што рабіць, і доўга шкроб патыліцу. Вырашыў, што без парады тут не абысціся. І, як звычайна, з гэтай мэтай рушыў да Цішкі Пахолка.

У Пахолка ўжо сядзеў другі Хрысанаў сябар — Хвядзюшка Шпунт. Гаварылі пра ўчарашнюю экзекуцыю. Яны таксама там былі, стаялі, і да гэтага часу не маглі супакоіцца, калацілася ўсё нутро. Цяпер чакалі Хрысана, які пабег сустракаць амтскамісара. Што яшчэ загадаў Шрубэ? У хаце моцна чуўся ўстойлівы, прынесены з кузні пах іржаўчыны і гарэлага вугалля. Відаць было, што хата каваля.

— Ну, што? — сустрэў Хрысана палахлівы Хвядзюшка і паглядзеў на солтыса сваімі бясколернымі вачыма. — Дрэнь справы?

— Ой, дрэнь! — Хрысан замахаў рукамі і апусціўся на лаўку каля сцяны. — Такога яшчэ не было.

— А што?

— Гасцінец загадаў баранаваць!

— Гасцінец? — здзівіўся Цішка, і ад здзіўлення ў яго ажно раскрыўся рот, пад верхняй губою заблішчэла жалезная фікса. — Гэта, значыць, каб тыя міны выкавыраць. Ну, сапраўды, такога яшчэ не было.

— І што рабіць? — Хрысан паглядзеў спачатку на Пахолка, потым на Хвядзюшку. — Каго прызначыць баранаваць гасцінец? Там жа гэтых мін дахалеры натыкана!

І адзін, і другі моўчкі паціснулі плячыма.

— Тут ёсць над чым падумаць, — сказаў Хвядзюшка і крутнуў галавой, па-дурному выскаліўшы зубы. — Але ж і прыдумалі — скародзіць гасцінец!

Сітуацыя была такая, што, як кажуць, нават і ў дрэнным сне не прысніцца.

---

[1] Увага! Міны! (*ням.*)

— А што ты хацеў? — хмыкнуў у вусы каваль. — Немцы!

— Немцы, — пацвердзіў солтыс.

— Давай вось гарэлкі вып'ем! — Цішка дастаў з кутка прыгатаваны гляк карчоўкі, паставіў на стол. — Можа, якая думка і з'явіцца… — Ён нешта яшчэ хацеў сказаць, але змоўк.

— Па кроплі можна і ўзяць, — згадзіўся Хвядзюшка.

У шафцы, што стаяла ў другім кутку, Цішка адшукаў мутны, з зялёнага шкла, кілішак, паставіў са стукам каля гляка, узяў глыбокую алавяную міску і пайшоў у склеп па капусту.

— Гэта ж калі зачапіць яе бараной, — нібы ўслых падумаў Хвядзюшка, — яна ўзарвецца.

— Дык гэта і казе панятна, — адгукнуўся солтыс, — у тым вось і справа, што ўзарвецца. Яно і калі конь наступіць, таксама можа бухнуць. Ёй не загадаеш — бухне і ўсё.

Вярнуўся Цішка з міскай кіслай капусты, паставіў на стол, адгарнуў акрыты абрусам хлеб і адрэзаў колькі скібін. Ля міскі з капустай паклаў драўляныя лыжкі. Дыхаў натужна.

— Мы тут з Хрысанам гаворым, што яна ж і ўзарвацца можа, калі яе бараной зачапіць, — сказаў Хвядзюшка, — тады і барана напэўна не ацалее — пашкуматае!

— Не толькі барану, — варухнуў галавой каваль, але і таго, хто за бараной ісці будзе.

— Ацалець будзе цяжка, — разважліва дадаў солтыс. — Так што давайце памаракуем. За нас ніхто не вырашыць.

У хаце ўсталявалася цішыня, чутно было, як, шукаючы выйсця, білася аб шыбіну муха.

— А колькі людзей прызначыць на гэную справу, не сказалі? — запытаў Цішка.

— Не, гэтага не сказалі. Іх гэта не цікавіць.

— Я думаю, два чалавекі хопіць… — як бы сам з сабою памеркаваў каваль. — Два чалавекі з коньмі.

— Хопіць! — падтрымаў яго Хвядзюшка. — А нашто болей?

— Ну, дык давайце думаць, каго? — гаспадар узяў гляк і, стоячы, наліў у кілішак. Запрасіў сябрукоў сесці за стол. Падаў кілішак Хрысану: — Пі!

Хрысан кульнуў, занюхаў хлебам і палез драўлянай лыжкай па капусту, але гэта аказалася нязручна, і ён, адклаўшы лыжку, падхапіў жмут шаткаванкі пальцамі, кінуў у рот. Сківіцы захрумсталі, унутры нешта нават ёкнула. За ім выпіў Хвядзюшка. Выпіў, крэкнуў, страсянуў кілішак, выкінуўшы апошнюю кроплю на падлогу.

Цішка наліў сабе і таксама выпіў, закусіў шаткаванкай.

— А карчоўка неблагая атрымалася! — пахваліў Хвядзюшка. — Крэпкая, градусаў пад трыццаць будзе!

— Гарыць, — ганарліва сказаў Цішка і, ссунуўшы шапку, устурбавана пашкроб патыліцу. Думаў, відаць, каму ж баранаваць той гасцінец.

Закусвалі моўчкі, хрумстала на зубах капуста. Хлеб быў глёўкі і салодкі на смак, з закальцам і адтапыранай верхняй скарынкай.

— Ну, дык каго? — прыступіў нарэшце да размовы солтыс. — Бо я атрымаў загад, каб тых мін не было.

— Добраахвотна ніхто не пойдзе! — рагатнуў Хвядзюшка. — Тут і сумнення няма. Камусьці трэба казаць!

— Жэрабя цягнуць не выпадае, — уздыхнуўшы, разважыў Цішка, — а то, чаго добрага, і сам выцягнеш…

— Выцягнеш! — чамусьці з упэўненасцю сказаў Хвядзюшка.

— Аднаго такога я ведаю, — пасля хвіліны няёмкага маўчання азваўся Цішка. — Прыхадзень гэты, да любой улады ўмее прымазацца! Кабель прыблудны! А яшчэ хорам кіруе! Вось хай і пабаранує!

Хвядзюшка ведаў, каго меў на ўвазе сябар, але для парадку запытаў:

— Гэта ты пра каго?

— Пра каго? А то не ведаеш, пра каго! Пра дзяка, пра Кухту, вядома. Перад самай вайной я яго ўжо раз правучыў, але, відаць, мала. Так бабнікам і застаўся. — Адчувалася, што ў адносінах Цішкі да Кухты было нешта асабістае.

— Думка неблагая! — разважыў Хрысан, імкнучыся надаць свайму голасу вагу і саліднасць. — Яму зручна, бо ён каля гасцінца і жыве. Толькі вось царква без дзяка застанецца. Што людзі скажуць?

— Кухта — бабнік, то за адной увяжацца, то за другой! Нягоднік! — стаяў на сваім Цішка. — Хай яго нагла возьме! Нікчэмны чалавек.

Яны закурылі. Апошнім часам Цішку дакучаў кашаль, аднак курыў ён паранейшаму шмат, не вымаючы цыгаркі з рота.

— Ты яму тады добра ўрэзаў каля Шпронькавай лаўкі, — успомніў Хвядзюшка. — Паказаў, што і па чым. Добра пацэліў.

— Юшку з носа пусціў, — дадаў Хрысан і спытаў: — Дык, а яшчэ каго? Восіпа Дзванарыка не накіруеш, бо ён і лейцы ў руках трымаць не ўмее. Васіля Платонава няма, кудысьці за Камянец паехаў, яму, бачыш, сталярка трэба…

Другую прапанову выказаў Хвядзюшка:

— Яно-то і Галёнку правучыць трэба. Насмешнік. Смяецца з усіх. Круцель гэты! Лічыць сябе разумнейшым за ўсіх. Хай бы ён выкалупаў тыя міны, калі такі разумны.

— Але ж у яго дзеці! — успомніў Хрысан. — І ён глухаваты.

— Ну і што, што глухаваты? Больш прыкідваецца…

— Мікіта выкруціцца! — махнуў рукой Пахолак. — Халера яго не возьме, выкруціцца!

На тым і пагадзіліся.

Вызначыўшы кандыдатуры «сапёраў», яны загаварылі пра «палітыку».

— А налёты авіяцыі на Берасць не спыняюцца, — сказаў Хвядзюшка, зірнуўшы збоку на Пахолка.

— Не спыняюцца, — крутнуў галавою Хрысан. — Лётаюць і лётаюць. Збіваюць, а яны ўсё адно лётаюць.

— Час надта няпэўны, — разважыў Пахолак. — Можа стацца, што вернуцца Саветы. Варта было б абдумаць, што рабіць. — Ён памаўчаў, а потым спытаў, звярнуўшыся да Хвядзюшкі: — Ну, а як там Свісціян?

— А што яму? Ён хітры. Прыладзіўся да партызан. Партызаніць, ходзяць разам з Маркелам. Каморы чысцяць, кажухі забіраюць, гадзіннікі. Кажуць, «аўстрыйца» гэта яны ахаладзілі. Прыйдзе час, разбяруцца з імі.

— Вось за яго нам і трэба дзяржацца! Калі што, дык заступіцца… — каб падтрымаць Хрысана, сказаў Пахолак.

— Свісціян ведае сваю справу і далёка наперад глядзіць, — згадзіўся Хвядзюшка. — Ну і, вядома, заступіцца. Я з ім калісьці і ў турме сядзеў.

Яны дапілі гляк, пачакалі крыху і разышліся, па правілах канспірацыі, у розныя бакі.

Вечарам Хрысан накіраваўся да Кухты, — ён жыў з краю, побач з гасцінцам, але воддаль ад вясковай вуліцы, ад якой абсаду аддзялялі высозныя кусты

белага бэзу. Вакол хаты, па ўсёй абсадзе стаялі садовыя дрэвы, паміж якімі ад весніц вілася вузкая ўтоптаная сцяжына. Ля сцяжыны красавалася грушка-дзічка, яна ўжо цвіла, зацвіталі яблыні.

Лаўр Яўсеевіч халасцякаваў, але меў пакаёўку — Хомкаву Вольку. Вольчын муж Мікалай яшчэ пры Польшчы паехаў на заробкі ў Амерыку ды так і не вярнуўся, застаўся там, пакінуўшы Вольку адну з дачкой Дусяй. Волька была для Лаўра Яўсеевіча чымсьці крыху большым, чым проста служанка. У Прусцы такіх называлі: прычэпа, — бо жыла яна з Лаўрам Яўсеевічам без шлюбу.

Да Лаўра Яўсеевіча і накіраваўся Хрысан. Адчыніў солтысу сам гаспадар, запрасіў у хату, але Хрысан заходзіць у хату не стаў, бо размова абяцала быць нядоўгай. Звярнуўся да гаспадара на «вы» — гаварыць на «ты» не пасмеў, бо Лаўр Яўсеевіч з'яўляўся — як-ніяк — дзякам, духоўнай, так сказаць, асобай, а традыцыйны «этыкет» у вёсцы нешта значыў нават для ўсемагутнага солтыса.

— Я да вас наконт мін…

Кудлатыя бровы Лаўра Яўсеевіча папаўзлі ўверх, а вочы акругліліся.

— Мін у мяне няма! — адразу ж, згодна свайму тэмпераменту, адрэагаваў ён, не даслухаўшы солтысаву гамонку. Хрысан ведаў гарачнасць Лаўра Яўсеевіча, падняў руку, каб яго сцішыць, і пачаў тлумачыць:

— Немцы патрабуюць, каб дарога была ачышчаная ад гэтых мін, і загадалі баранаваць гасцінец. А то будзе хто ехаць — і ўзарвецца! Тады зноў усіх на выган пагоняць і ўжо не адпусцяць, а там і пакладуць…

— Ну, а я тут пры чым? — усхадзіўся Лаўр Яўсевіч. Кроў хлынула да твару, па ўсім целе прайшлі дрыжыкі, ён стаў часта і шумна дыхаць. — Я іх не ставіў! Вы што? Не я іх ставіў! Вы гэта разумееце? — Каб суняць хваляванне, ён прытуліў руку да шчакі, нервова прыгладзіў бародку, потым ізноў пакамячыў яе, потым зноўку прыгладзіў.

— Я ж не кажу, што вы іх ставілі, а толькі кажу, што вам выпала баранаваць. Вам і Мікіту Галёнку. Я, між іншым, зараз ад вас да яго іду. Мяркую, што ён паставіцца да гэтага больш спакойна.

— Не трэба!

— Што не трэба? — не зразумеў Хрысан.

— Гэта несправядліва! — Лаўр Яўсеевіч зрабіў крок, пераступіў парог і нібы аслупянеў, стоячы на ганку. Пра нешта думаў. — Ты мне дзейнічаеш на нервы! — зноў сказаў ён. На лішнюю сентыментальнасць і чуллівасць ён ніколі не скардзіўся і чакаў ад людзей усяго, але такога, каб баранаваць міны, не чакаў.

Хрысан з усмешкай пазіраў сабе пад ногі.

— Глядзіце, Лаўр Яўсеевіч, мне цяжка вас прымушаць, але за непаслухмянасць немцы не хваляць, — прамармытаў ён, — маё дзела сказаць, давесці да ведама.

— А чаму абавязкова мне? Ёсць жа іншыя! Чаму я?

Хрысан сышоў з ганка, але прыпыніўся, капаючы наском бота пясок і пазіраючы на дол. Пра нешта думаў.

— У наступны раз будзе баранаваць хто іншы. Кожнаму свой час.

Сваю справу солтыс палічыў выкананай, павярнуўся і пайшоў, пакінуўшы Лаўра Яўсеевіча ў глыбокім задуменні. Ён глядзеў солтысу ўслед, і ў галаве запульсавалі адна за адной думкі: «Параіўся ўжо, як відаць, каму на смерць ісці. З Пахолкам параіўся! Гэта не інакш яго ідэя — паслаць мяне з бараною шукаць тыя злашчасныя міны. Шэльма! З Люськай жа я даўно ўжо

не сустракаюся, а ён усё помніць! Ну, шэльма! Паказаў нарэшце зубы! Не звярнуў увагі нават на тое, што я ўсё ж такі духоўная асоба — дзяк…»

Солтыс мінуў веснічкі, павярнуў за бэзавыя зараснікі, а Лаўр Яўсеевіч усё яшчэ стаяў на ганку. Пачаў даймаць страх: «На тым тыдні на выгане з вяскоўцамі стаяў. Дрыжэлі, калаціліся разам з айцом Клаўдзіем, але неяк абышлося. Пашчасціла. Думаў, што на тым і скончылася, але не. Яно, канешна, і я грэшнік, але хто без граху?.. Ну, Хрысан, ну, нягоднік! Вось каб цябе прымусіць баранаваць тыя міны, — падумаў ён пра Хрысана,— што б ты тады заспяваў? Гэта ж можа стаць апошняй хвілінай жыцця, канцом!»

— Шэльма! — раз за разам уголас паўтараў Лаўр Яўсеевіч. — Шэльма!

Ён зноў успомніў Цішку Пахолка і тое, як прылюдна біўся з ім каля Шпроньковай лаўкі і як фактычна пабіў Цішку баксёрскім прыёмам, расквасіў нос.

Розныя прыгоды здараліся ў жыцці Лаўра Яўсеевіча — шчаслівыя і не вельмі, але яго не пакідаў аптымізм. Аднак на гэты раз аптымізм знік, змяніўшыся нервознасцю. Галаву тачылі думкі: «Не, — вырашыў ён, — гэтага так проста пакідаць нельга, штосьці трэба рабіць…»

Пасля Кухты Хрысан накіраваўся да Мікіты, цяпер засталося сказаць яму. Ішоў, залажыўшы рукі ў кішэні.

— Я? — перапытаў, не паверыўшы сваім вушам, Мікіта, калі Хрысан абвясціў яму загад баранаваць гасцінец. — Як так? Чаму я? Я ж яшчэ не абсеяўся!..

— Забаронуеш гасцінец і абсеешся! — падбадзёрыў Хрысан і нават сам адчуў у сваіх словах нешта вельмі цынічнае. — Амтскамісар загадаў, каб гасцінец быў ачышчаны ад гэтых мін!

Мікіта выпукліў чорныя масляністыя вочы і ўсёй пяцярнёй пачухаў патыліцу. Для яго гэта было надта нечакана. Як гром з яснага неба!

— А чаму я? Сходка прызначыла?

— А што тая сходка? — Хрысан, апусціўшы галаву, глядзеў на свае боты. — Няма часу яе збіраць, ды і што яна вырашыць? Паслязаўтра выходзь з кабылай і з бараной. Зрэшты, як сабе хочаш, мая справа — сказаць.

— А хто яшчэ?

— Ты і Кухта.

— Кухта? — перапытаў Мікіта.

— Ён.

— Дык у яго дзяцей няма, а ў мяне іх пяцёра!

Хрысан нічога не адказаў і, апусціўшы, як звычайна ён рабіў, галаву, патэпаў у свой канец.

— Таіса! — паклікаў Мікіта жонку.

— Я ўсё чула, Мікіта, — пачуўся яе голас з-за дзвярэй. Усхваляваная Таіса зайшла ў хату. Гэта была моцнацелая жанчына сярэдняга ўзросту, курносая, нос — капялюшыкам, у фарбаваным, але палінялым андараку, хустка з’ехала на патыліцу. — Бяда! Ой! Ты ж можаш і дадому не прыйсці.

У Мікітавай свядомасці зноў, як і тады на выгане, закруцілася думка аб смерці.

— Я ж яшчэ не абсеяўся, а тут на смерць пасылае, — невядома каму паскардзіўся ён, у голасе прагучаў стоены жах.

Загаласіла маці — старая Аляксейчыха, толькі што вярнуўшыся з агарода:

— Ой, Мікітка-а! Ой, людкове-е!

Таіса, прытуліўшы да шчок рукі, пазірала на мужа так, нібы бачыла яго ў апошні раз.

— Хоць бы сход сабраў! Усёй бы вёскай вырашылі… — скардзячыся, прамовіў Мікіта. — Ці жэрабя пацягнулі…

Заставалася чакаць, куды паверне лёс.

## VI

Лаўр Яўсеевіч цвёрда вырашыў скардзіцца і з гэтай мэтай у той жа дзень падаўся ў Ратайчыцы. Накіраваўся да самога Шрубэ. Ішоў хуткім крокам, і гэта падбадзёрыла яго, крыху нават узняўся настрой, з'явілася нейкая надзея. Каля ўваходу ў гміну, ля новай драўлянай брамы, стаяў суровага выгляду жандар у мундзіры з жоўтай акантоўкай, у глыбокай касцы і з аўтаматам. На грудзях, на ланцужку, вісела бліскучая бляха — знак таго, што гэта прадстаўнік палявой жандармерыі. Ён затрымаў Лаўра Яўсеевіча, выклікаў паліцаяў, тыя доўга дапытваліся, хто і адкуль, і чаго, затым пад канвоем павялі ў будынак гміны.

У кабінет доўга не пускала ахова, і не пусціла б, калі б Лаўр Яўсеевіч не быў такі настойлівы. Урэшце, даў згоду сам Шрубэ. Кухту абшукалі і прапусцілі. Першае, што кінулася яму ў вочы, калі ён пераступіў парог, — патэфон, з якога лілася млявая мелодыя.

Кабінет абстаўлены мяккай мэбляй. Лаўр Яўсеевіч павярнуў галаву. У кутку, побач з падлогавым гадзіннікам, стаяў з гумовым дручком напагатове сам амтскамісар: у алавяных вачах падазронасць, валасы спушчаны на лоб, пад носам чарнелі вузкія вусікі. Тонкія ногі заціснуты ў хромавыя боты, а галіфэ з усіх бакоў акаймавана жоўтай скурай. Над сталом вісеў вялікі партрэт Гітлера, добра вядомы Лаўру Яўсеевічу: такі нейкі час вісеў на дошцы аб'яў, прымацаванай да ліпы, насупраць хаты Мікіты Галёнкі: пасма зліплых валасоў на ілбе, па-блазенску выпукленыя вочы. Амтскамісар, відаць, свядома падладжваў свой імідж пад фюрэра.

— Guten Tag, her Komissar![1] — па-нямецку, каб хоць крыху паддобрыцца, павітаўся Лаўр Яўсеевіч.

Шрубэ, як авадзень, упіўся ў яго сваімі бессэнсоўнымі звярынымі вачыма і ашчэрыўся, рэдкімі верхнімі зубамі прыкусіўшы ніжнюю тонкую губу.

— Was ist den?[2]

Лаўр Яўсеевіч уздрыгнуў ад яго голасу, які хутчэй быў падобны на крык. Відаць, пачуўшы гэты крык, увайшоў перакладчык. Гэта быў усё той жа Мандрашчак. Апошнім часам яны — амтскамісар і Мандрашчак — былі занепакоены сваім лёсам больш, чым калі. Ход падзей складваўся не на карысць немцаў, але нейкія надзеі былі. Адзін і другі спадзяваліся на тое, што калі савецкія войскі выйдуць да дзяржаўнай граніцы, антыгітлераўская кааліцыя распадзецца, пачнуцца спрэчкі, перагаворы, а нямецкая армія між тым застанецца ў захопленых еўрапейскіх краінах. У такім выпадку яны застаюцца гаспадарамі становішча.

— Хто ты? Прозвішча, імя, імя па бацьку! — пачаў Шрубэ, не выпускаючы з рук «гумы».

Лаўр Яўсеевіч назваў сябе і выклаў мэту свайго візіту:

— Я хачу давесці пану амтскамісару, што ў нашай вёсцы чыніцца несправядлівасць. Якое права меў солтыс Хрысан Гальяш прызначаць менавіта мяне,

---

[1] Добры дзень, пан камісар! (*ням.*)

[2] У чым справа? (*ням.*)

а не каго іншага баранаваць замініраваны гасцінец? Гэта павінен быў вырашыць агульны сход усіх сялян.

Мандрашчак перакладаў, і амтскамісар усё больш нервова кусаў ніжнюю губу.

— Чаму менавіта я павінен баранаваць тыя міны? — працягваў скардзіцца наведвальнік, не заўважаючы, як у амтскамісара бялеюць зрэнкі пад прыўзнятымі павекамі, а твар пачаў набракаць крывёй. — Гэта раз! — падсумаваў сказанае Лаўр Яўсеевіч, збіраючыся сказаць пра нешта яшчэ.

Мандрашчак ледзь паспеў перакласці — рэакцыя амтскамісара была імгненнай:

— А гэта — два! — кароткім, натрэніраваным ударам ён спляжыў Лаўра Яўсеевіча دручком па галаве, і наведвальнік, як падкошаны, зваліўся на дол.

— Wek![1] — зноў зароў Шрубэ, паказваючы бізуном на дзверы. Відаць было, што ён перажывае прыступ шалёнай ярасці, у куточках рота выступіла пена. — Я вас навучу парадку! Donner wetter!

— Я зразумеў! — сказаў Лаўр Яўсеевіч.

— Вас усіх трэба знішчаць, знішчаць і знішчаць без выключэння! Зрэшты, да гэтага і ідзе! Вы будзеце знішчаныя!

«Ах, ты, тхор смярдзючы! — моўчкі ўскіпеў Лаўр Яўсеевіч. — Ах, ты, акаянец! Ах, каб ты спруцянеў!» Ён ужо горка шкадаваў, што трапіў на вочы гэтаму злыдню.

— Пашоль! — закрычаў амтскамісар, пырскаючы пенай.

У кабінет ускочыла некалькі паліцаяў, схапілі ляжачага пад рукі і павалаклі.

— Gehe, du, Lump![2] — гукнуў услед Лаўру Яўсеевічу Мандрашчак.

Збітага выцягнулі на ганак і кінулі на зямлю. Лаўр Яўсеевіч увесь пакрыўся потам і ледзь ачуняў. Паспрабаваў устаць, але спачатку сеў, атрос пыл. Абмацаў грудзі, шыю і чамусьці нос — усё было на месцы. Падняўся. Ад жаху падгіналіся, не слухаліся ногі. Аднак ён усё ж такі сабраўся з сіламі і, хістаючыся, падаўся ў бок Прускі, далей ад гэтага злашчаснага месца. Па часе крыху супакоіўся, уздыхнуў і, здзіўлены, скрушна павёў галавой: «Яшчэ ўчора быў у спакоі. А сёння? Хто можа прадказаць павароты жыцця? Ніхто? Што чакае заўтра? Гэта, мусіць, апошні мой дзень. Ніколі не думаў, што так усё абернецца. Гэта, няйначай, Бог мяне за грахі карае. Такі, відаць, лёс…» Невясёлыя, нават, можна сказаць, роспачныя думкі раіліся ў галаве.

Вярнуўшыся з Ратайчыцаў, Лаўр Яўсеевіч адразу ж наведаў Мікіту. Галёнка сядзеў, прысунуўшыся да стала і падпіраючы далонню шчаку. Быў зусім разгублены. У вёсцы ўжо ведалі пра загад амтскамісара і пра тое, каму Хрысан «даверыў» яго выкананне.

Пра свой візіт у Ратайчыцы Лаўр Яўсеевіч нічога не сказаў. Пачалі раіцца, што рабіць, калі так ужо сталася, такі выпаў лёс. Вырашылі звязаць дзве жалезныя бараны, каб шырэй быў і захоп, і мець доўгі лейцы.

— Коней шкада! — уздыхнуў Мікіта, наморшчыўшы пукаты лоб.

— Шкада, — згадзіўся дзяк, таксама ўздыхнуўшы, — але каб самім у жывых застацца! Коні — што!

Сабраліся з сіламі і пачалі дзейнічаць. Пайшлі па вёсцы, папрасілі вяроўкі, якія ў каго былі, і звязалі з іх даўжэзныя лейцы — адну пару Галёнку, другую Лаўру Яўсеевічу. Прускаўскія мужчыны спачувалі, хоць у душы, напэўна,

[1] Вон! (*ням.*)

[2] Ідзі, ты, шэльма! (*ням.*)

кожны быў удзячны лёсу за тое, што абмінуў, што не ён пойдзе за бараной, а хтосьці іншы.

— А як баранаваць будзем? — спытаў Мікіта. — Па чарзе? У вас, Лаўр Яўсеевіч, конь лягчэйшы, ён, калі нават наступіць, то міна не ўзарвецца. Лёгкі конь! Вам шанцуе.

— Давай па чарзе: спачатку адзін пабаранує, потым другі.

— Ну, можа, і так.

Нарэшце ўсё было падрыхтавана і можна было ісці дахаты.

— Заўтра кінем жэрабя… — сказаў Лаўр Яўсеевіч.

Ноччу ён не спаў, ляжаў на ложку з расплюшчанымі вачыма, успамінаў, як калісьці, у грамадзянскую, гулялі з атаманам Сапляком. Смелы быў атаман, рызыкоўны і асцярожны, але галавы не знасіў, а яму, Кухту, пашанцавала. Потым была служба ў «бацькі» Балаховіча, праходзіў падхарунжоўку, з тыдзень нават на афіцэрскіх курсах вучыўся. Дарэчы, і пра міны там расказвалі, паказвалі, як з яе запал вывернуць. Але перш чым вывернуць, яе адшукаць трэба. За Брэстам, у Драгічыне, засталася сям’я — жонка з сынам, але вяртацца да іх ён не хацеў. На жонку крыўдаваў, падазраючы ў здрадзе. Словам, асаблівай раскошы ў жыцці не меў і ў душы лічыў сваё зямное існаванне, па праўдзе, хаджэннем па пакутах. Адзінай уцехай было хіба тое, што да яго не былі абыякавымі жанчыны. «Але што жанчыны? Жанчыны — грахаводніцы. Не, жыццё чалавека — гэта, пэўна, не што іншае, як дарога ў пекла, — падумаў ён, — аднак наўрад ці ў пекле ёсць што страшнейшае за яго». Дзесьці нязлосна прагрукатаў гром. Яшчэ і яшчэ раз. Пайшоў дождж, забарабаніў па шыбах, распырскваючы кроплі вільгаці. «Нібы плача, — здалося перапалоханаму Лаўру Яўсеевічу, які ажно ўмлеў ад страху. — Можа, па мне плача? Можа, для мяне гэта ўжо апошні дождж?» Дождж усё мацнеў і ператварыўся ў лівень, пачаў ліць як з вядра. У чарговы раз загрымела. Агністыя ўсполахі маланак наскрозь працінаді морак ночы. Падумаў пра Хрысана: «Каб цябе пярунляснуў! Паскуда! Шкурнік! Шэльма!»

Зноў паспрабаваў заснуць і не мог, не атрымлівалася. З кухні чуўся храп — там спала Волька з малою Дусяй. «А можа, уцячы куды-небудзь? Але куды ўцячэш?» Калі пачало світаць, падняўся, надзеў чыстую бялізну, памыўся, хацеў пагаліцца, але перадумаў. Апрануўся. Яшчэ болей адчуваў, што бяссільны парушыць няўмольны ход падзей. Волька прынесла і паставіла перад ім на стол гарлач малака. Хлеб ляжаў пад настольнікам. Лаўр Яўсеевіч не стаў есці, выйшаў у двор.

Раніца сустрэла цішынёй. Цела прабіраў халадок. Дождж супыніўся. На даляглядзе, над могліцамі, зіхацела калючае майскае сонца. Густа пахла язмінам — яго круглаверхія кусты кучаравіліся ля самых вокан. Расцвісці паспеў за адну ноч. На лісцях і на белых, як малако, кветках тонка ззялі не высахлыя яшчэ кропелькі вільгаці. Пах плыў і разліваўся, нібы адкрылі флакон дарагой парфумы. Так пахлі калісьці — успомніў Лаўр Яўсеевіч — парыжскія духі «Colqate». Пры паляках іх можна было купіць нават у Шпронькавай лаўцы.

Ціха ўскрыкнула нейкая птушка — раз, другі, трэці. Лаўр Яўсеевіч прыслухаўся, глыбока ўдыхнуў ранішняе паветра і зноў прыслухаўся. Не, раніца не дала палёгкі, — наадварот, нервы яшчэ болей напружыліся. Ён шырока рассунуў каўнер кашулі, далонню правёў па ўспацелай шыі, працёр грудзі, плечы.

На вуліцы, насупраць весніц, за кустамі белага бэзу, ужо стаяў Мікіта з канём і баронамі з перавернутым дагары зуб’ем. Апрануты ў старую світку з абтрапанымі крыссямі. Павіталіся за руку. З вяскоўцаў ніхто не прыйшоў,

нібы саромеліся ці баяліся таго, што адбываецца, а яшчэ больш таго, што можа адбыцца.

У Лаўра Яўсеевіча ўсё ўжо таксама было прыгатаванае, ля клуні чакаў запрэжаны конь, махаючы хвастом, каб як адбіцца ад дакучлівых мух.

— Ці дамо ім рады? — сумна пакруціў галавой Мікіта, маючы на ўвазе міны, якія трэба было выкалупнуць з зямлі. — Невядома, дзе іх там шукаць. Эх, доля ты, доля…

Мікіта выглядаў надта прыгнечаным, відаць, таксама не спаў. Лаўр Яўсеевіч прамаўчаў. Сонца схавалася за хмары. Пара была пачынаць. Абодва, з коньмі і баронамі, накіраваліся да гасцінца.

Паабапал гасцінца стаялі апранутыя ў белую квецень вішні. Каля іх — зарослыя палыном крушні камення, звезенага сюды даўно, яшчэ пры Польшчы, бо меліся брукаваць гасцінец. Вакол вішань гулі жукі, кранаючы крылцамі траву, танцавалі ў паветры белакрылыя матылі. У траве пракінуліся жоўтыя кветкі малачаю, люцікі і блакітныя, у расінках, незабудкі. Па асляпляльна зіхоткім небе імчалі кудысьці ў невядомую далячынь, як небныя коні, чароды белых хмарак. «Можа, у апошні раз усё гэта бачу?» — мільганула ў галаве Лаўра Яўсеевіча. Балюча і сумна заныла сэрца.

За вішнямі, метрах у шасцідзесяці—сямідзесяці ад дарогі, стаялі жандары з аўтаматамі. Сярод іх знаходзіўся і афіцэр, які камандаваў усім гэтым мерапрыемствам. Абстаноўка станавілася яшчэ больш напружанай і нервознай.

— Хто першы? — спытаў Лаўр Яўсеевіч.

Цяпер ужо маўчаў глухаваты Мікіта, ад перапуду ў яго блішчэлі вочы. Чалавек, бадай, нічога не адчуваў, апроч страху, які перапаўняў яго і прымушаў калаціцца ўсё цела. Кінулі жэрабя. Кароткую палачку выцягнуў Лаўр Яўсеевіч. Патрымаў нешчаслівую палачку ў руцэ і з размаху шпурнуў на дарогу.

— Было — не было!

Павярнуўся да царквы, размашыста перахрысціўся і ўзяўся за даўжэзныя лейцы:

— Н-но!!

Нервы ў Лаўра Яўсеевіча зрабіліся, як аголены дрот, у нагах з'явілася здрадлівая слабасць. У душу зноў, у каторы раз, ужо не крадучыся, лез і запаўняў яе дрыготлівы холад страху і адчуванне небяспекі — побач, недзе пад нагамі. Страх перадаўся і каню, з храпы валілася белая пена і камякамі падала на зямлю. Чуючы нядобрае, жывёліна ўпарцілася, не хацела ісці. Нарэшце зарыпелі гужы, і конь падаўся ўперад, пачулася яго цяжкае, натужлівае дыханне. Побач з канём пасунуўся па гасцінцы яго падоўжаны ранішнім веснавым сонцам цень. Лаўр Яўсеевіч адстаў ад іх метраў на сорак, на даўжыню лейцаў. Ідучы паводдаль, ён углядаўся ў свежы след, які пакідалі бароны, выкалупваючы з зямлі каменне, кавалкі дрэва, карэнне, вырываючы кусцікі падарожніка і травы. Ледзь чутна дыхаў ветрык, пяшчотна шапацеў прыдарожны асіннік. Надта нязручна было ўпраўляцца з доўгімі лейцамі, і для каня яны былі непрывычныя. Бедны конік раз-пораз упарціўся, спыняўся, не хацеў ісці. Чуваць было, як Лаўр Яўсеевіч панукваў яго, торгаў за лейцы, прымушаў рухацца, а адзін раз выйшаў з сябе і накінуўся з лаянкай. Барана з сельскагаспадарчых прылад не самая цяжкая, але на гэты раз жывёліна ледзь яе валакла. Нарэшце яна і зусім спынілася.

Сітуацыя была безвыходная. Бакавым зрокам зноў убачыў паводдаль ад гасцінца жандараў з аўтаматамі. Аўтаматчыкі не зводзілі з іх вачэй, з каня і чалавека, які на адлегласці ішоў за ім, і нічога добрага чакаць ад іх не даводзілася.

І Лаўр Яўсеевіч рашыўся. У бядзе, як кажуць, няма страху. З-за хмар паказалася сонца, і гэта дадало смеласці. Нібы чыйсьці голас пачуў, быццам хтосьці адтуль, зверху, сказаў, што не трэба баяцца, Лаўр Яўсеевіч, усё абыдзецца і, урэшце, горш для тваёй душы не будзе. Ён падышоў да каня, адчапіў лейцы і ўзяў за аброць. Ступіў крок і пайшоў. Пайшоў і конь. Калі гаспадар побач, дык і ён стаў смялейшы. «Эх, было — не было!» — зноў падумаў Лаўр Яўсеевіч, акідваючы вачыма працяг гасцінца.

Яму і сапраўды, як сказаў Галёнка, пашанцавала. Абвастрыўся, як і здараецца нярэдка ў такіх сітуацыях, зрок. Лаўр Яўсеевіч адчуў, як яшчэ больш напружылася ўся яго істота, спалучаючыся з гэтым дарожным палатном, з плоскасцю зямной паверхні, з усімі драбніцамі, якія на ёй знаходзіліся. Пачало адбывацца нешта неверагоднае. Гасцінец нібы рассоўваўся перад ім, расшыфроўваўся, гатовы даверыць свае страхотныя таямніцы. Мажа, паспрыяла і сонца, якое, нібы жадаючы дапамагчы, выслізнулася з-за хмары на чысты блакіт. Параўняўшыся з могліцамі, Лаўр Яўсеевіч угледзеў першыя жалезныя кругляшы, што ледзь прыкметна вытыркаліся з зямлі. Пад уплывам часу і асабліва, відаць, пасля начнога дажджу грунт вакол іх асеў, і міны выступілі наверх, сталі відаць у шэрым дарожным пяску. Ён спыніў каня і паклікаў Мікіту, махнуўшы таму рукой. Мікіта неахвотна, але падышоў.

— Ну, дружа, шукай кошык, грыбы будзем збіраць, — Лаўр Яўсеевіч паказаў на кругляшы, што вытыркаліся з зямлі. — Бачыш?

Мікіта доўга ўзіраўся, абмацваў дол вачыма і, нарэшце, убачыў. Убачыў і жахнуўся.

— Ну і што рабіць будзем? — захваляваўся ён.

Лаўр Яўсеевіч моўчкі прысеў ля міны на кукішкі, доўга ў яе ўглядаўся, разгроб пясок, заўважыў запал і паспрабаваў асцярожна вывернуць яго з гнязда. Гэта ўдалося не адразу. Мікіта на ўсякі выпадак адышоўся ў бок. Запал не паддаваўся, і Лаўр Яўсеевіч перайшоў да суседняга кругляша. Там справа пайшла хутчэй, і вывернуты запал апынуўся ў руках «сапёра». Гэтаксама ён зрабіў і з іншымі мінамі, вывернуў запал і з першай — дапамог хутка набыты вопыт.

Мікіта пабег па кошык. Прынёс нават не адзін, а два, і гэта аказалася дарэчы: у адзін кошык яны склалі запалы, у другі — міны. Вынікі свайго «баранавання» прад'явілі афіцэру: сем мін і столькі ж запалаў.

— Больш там іх і няма, — далажыў Лаўр Яўсеевіч, выцершы пот з ілба.

— Wirf sie ins Fluβ![1] — загадаў той, агледзеўшы адзін і другі кошыкі. — Ins Fluв! — паўтарыў ён, паказаўшы рукою ў бок Лосьны.

Мікіта запытальна паглядзеў на сябра па няшчасці.

— Загадвае кінуць іх у раку, — патлумачыў Лаўр Яўсеевіч, які крыху цяміў у нямецкай мове.

Прускаўскім «сапёрам» нічога не заставалася, як выканаць гэтае распараджэнне. Яны пабралі кошыкі і рушылі да Лосьны. Воддаль за імі ішлі пасланыя афіцэрам жандары з аўтаматамі. З поля, пагоркам спусціліся да рачной поймы. Спатыкаліся на купінах — пойма Лосьны гразкая і куп'істая. Жандары спуджана азіраліся на хоць і рэдкія, але густыя лазовыя карчы, што палохалі сваёй невядомасцю: а раптам там, у карчы ці за карчом, хто сядзіць ды, можа, яшчэ са стрэльбай. Кіраваліся да таго месца, дзе, насупраць могліц, знаходзілася «чортава вока» — напоўненая чорнай вадой і парослая вадзянымі лілеямі і збаночкамі затока, у якой звычайна ніхто не купаўся, дно было

[1] Кіньце іх у раку! (*ням.*)

мулкае, тарфяное і правальнае. Туды, у самую сярэдзіну, пад наглядам жандараў, яны і кінулі сваю «знаходку» — злавесны ваенны «скарб».

— Ну вось і ўсё, — стомлена азваўся Лаўр Яўсеевіч, калі апошняя міна боўтнулася ў ваду. — Дзякаваць богу, абышлося. Усё!

Мікіта нічога не мог сказаць, адняло голас.

— Усё, — нарэшце выціснуў ён з сябе, паўтарыўшы Лаўра Яўсеевіча.

Свяціла сонца, відаць было, як па зямлі паўзлі цені ад хмар. Яны яшчэ крыху пастаялі на беразе і разам пабрылі да пакінутых на гасцінцы коней. З коньмі вярталіся ў вёску.

Атрад жандараў на чале з афіцэрам, з пачуццём выкананага задання, вярнуўся ў гміну, у Ратайчыцы.

Конь Лаўра Яўсеевіча ад стомы ледзь пераstaўляў ногі. Калі павярнулі на прыгуменне, дык, бедны, статыкнуўся і ледзь не ўпаў. «Табе таксама давялося зазірнуць у вочы смерці», — падумаў пра каня Лаўр Яўсеевіч, распрагаючы яго каля хлява. Распрог, адвёў у хлеў і насыпаў аўсу. Сам таксама падаўся ў хату і зняможана паваліўся на ложак. Волька хацела прыхінуцца, але ён адвёў рукою.

Мікіту каля яго хаты чакалі пруськаўскія мужчыны. Спачувальна маўчалі і выгляд мелі прысаромлены, нібы ў чымсьці вінаватыя. Хрысана з імі не было.

— Ну, што, хлопцы, закурым? — падаў думку Сяргей Сталетнік і абмацаў свае кішэні, дзе ляжалі тытунь і папера — складзены ў столку кавалак нейкай газеціны.

Пахла крапіва, што разам з лопухам тулілася да падгнілага плоту Грышкі Латушкі. Шырока раскінула сваю вячыстую крону ліпа каля Натоліевага склепа. Ліпа яшчэ не цвіла. Паміж хатамі імкліва лёталі ластаўкі, зноў збіралася на дождж.

Падышоў Лявон.

— Паспрабуйце майго самасаду! — прапанаваў ён.

Яны закурылі, згарнуўшы цыгаркі з газетнай паперы, перабіўшы пах крапівы.

— Ну, не сакрэт, неяк абышлося, — сказаў усё яшчэ вельмі ўзрушаны Мікіта, зацягнуўшыся і пыхнуўшы тоўстай цыгаркай. — Сам не ведаю. Думаў, што ўжо ўсё. Я баяўся, а Кухта яшчэ больш.

— Дзіва што! — падтрымаў яго Гамон.

Прышкандыбаў на мыліцах Фэдар-японец.

— Бачыш, як лёс іграе чалавекам, — загаманіў ён, не выпускаючы з рук мыліц. — Хто яго ведае, што заўтра будзе…

— Што будзе — гэта, браце, пытанне да Кузёмкі, — разважыў Павал Гальяш. — Хіба ён толькі ведае.

— Кузёмка — блазан! — пасміхнуўся Апанас Хомка. — Прыдуркаваты.

— Ну, не скажы! — устаў на бок Кузёмкі Мілецій. — Часам і ён слушна кажа. Можа, і блазан, але ходзіць, тое-сёе бачыць.

— Што будзе, тое аднаму Богу вядома, — азваўся Натолій. Баптыст, ён згадваў Бога надта часта.

— Жыць трэба, як бы цяжка ні было, — далучыўся да размовы Лявон.

Усе аціхлі, калі заўважылі Хрысана. Солтыс ішоў не спяшаючыся, на вуснах гуляла ўсмешка. Падышоў, спыніўся.

— А ты баяўся! — кіўнуў ён у бок Мікіты. — А Кухта як?

— Жывы.

— І ён жывы? — Хрысан паблажліва засмяяўся сваёй звычайнай самазадаволенай усмешкай.

— За жыццё ўсяго даводзіцца паспытаць, — сказаў Цімоша Хлябіч, прыгадаўшы, напэўна, свой жыццёвы досвед.

Прысутныя сумна і, як падалося Лявону, вінавата ўздыхнулі. Размова неяк не клеілася. Пастаяўшы яшчэ крыху, яны разышліся.

Пасля таго, што за апошнія дні адбылося — на выгане і на гасцінцы, людзі яшчэ болей аціхлі і папрыгіналі галовы.

## VII

...А Васіль сядзеў усё ў тым жа Шчырчове, у падвале. Прайшло ўжо колькі дзён. Тое, што ён перажыў, даводзіла да роспачы, здавалася, што ён знаходзіцца тут вельмі і вельмі даўно і адсюль яго болей не выпусцяць, а калі выпусцяць, дык толькі на той свет. Ён ужо ўсведамляў усю сваю бездапаможнасць і безнадзейнасць становішча. Чакаць дапамогі не даводзілася, бо хто ж ведаў пра яго лёс? Ніхто. Нават родныя не ведалі, куды ён трапіў. Выйсця з гэтага падвала не было. Заставалася сядзець і чакаць смерці.

Наверсе, за акном, перамінаўся з нагі на нагу вартавы — паліцай з белай павязкай на рукаве. Калі крокі вартавога аціхлі, над акенцам нехта нахіліўся, у падвал заглянулі цікаўныя хлапечыя вочы. Прысеўшы, падлетак паўзіраўся ў змрок сутарэння. Убачыў, відаць, чалавека і праз краты прыглушаным голасам загаманіў:

— Тут сядзеў адзін, ён аўтамабільны акумулятар партызанам даў...

Пачуўся вокрык вартавога, і падлетак знік. «Значыць, партызаны тут ёсць, — падумаў Васіль. — Можа б, і вызвалілі, каб ведалі, што я тут. Але адкуль ім ведаць? І што ім я?..»

Аднекуль з закутка вылез велізарны руды пацук і ўтаропіўся вачыма ў Васіля. Пазіраў вельмі ўважліва, ацэньваючы і, як здалося вязню, вельмі сумна. Магчыма, спагадаў ці нават шкадаваў або чакаў чагосьці. Можа, таго часу, калі вязень абяссіліць настолькі, што можна будзе беспакарана да яго падступіцца, адгрызці вуха або нос. Цяжка меркаваць, чаго хоча ад цябе прырода...

Са скрыпам прыадчыніліся дзверы. Вартавы прынёс усё таго ж варыва і кавалак хлеба. Напалоханы пацук адразу ж знік. Арыштаваны ўзяў лыжку і паспрабаваў есці, як за дзвярыма зноў пачуліся чыесьці крокі. Кагосьці вялі. Бразнуў замок і ў адчыненыя дзверы ўвапхнулі чалавека. Калі дзверы з грукатам зачыніліся, незнаёмы кінуўся назад і прытуліў вуха да дзвярнога вушака, прыслухаўся. Пастаяўшы гэтак хвіліну-другую, ён, ледзьве клыгаючы, адышоў ад дзвярэй і пачаў разглядаць памяшканне. Пасля зыркага сонечнага святла ў падвальным сутонні ён, відаць, мала што і бачыў. З ніжняй губы ў яго капала кроў. Нарэшце спыніўся вачыма на ім, на Васілю. Васіль таксама прыгледзеўся, міргаючы асалавелымі пасля бяссонных начэй вачыма. Постаць незнаёмага нагадвала кума Якава Арыстархавіча. «Няўжо ён? Неверагодна! Як ён мог апынуцца тут?»

Так, гэта быў Якаў Арыстархавіч. Выгляд, праўда, меў не такі прэзентабельны, як звычайна. Твар схуднеў, з-пад вачэй выпіралі шырокія скулы. На абліччы страх і ўтрапенне, адчувалася, што кум ніяк не мог зразумець, што ж такое з ім адбываецца. Белы палатняны гарнітур — пінжак і штаны — пакамечаны, нібы хтосьці яго жаваў. І сарочка, белая, у палоску, таксама. Камізэлька — без гузікаў, нехта паадрываў. Больш таго, не відаць было капелюша. Галава — круглая і голая, як вялікі більярдны шар. У сваю чаргу не менш здзіўлены быў і кум. Яны сустрэліся вачыма.

— Гэта ты, Васіль?

— Я.

— Ай-яй-яй! — Фальварковец ажно рукі расставіў ад нечаканасці. — Вось, хоба на яго, як у свеце здараецца!

Адзіным, што ў пэўнай меры ратавала становішча і нагадвала пра яго прывычны імідж, быў гальштук. Салідны, пашыты невядома якім майстрам з шчыльнай тканіны ў клетачку, завязаны тоўстым вузлом, крыху зашмальцаваны, ён звісаў з шыі і надаваў яго ўладальніку нейкую долю самапавагі і адноснай упэўненасці.

— Маё шанаванне! — з уздыханнем вымавіў ён, крывячы напухлыя вусны. — А як ты сюды трапіў?

Васіль таксама ўздыхнуў.

— Сталярку меўся заказаць, да Дацкевіча ехаў, ну і на засаду напароўся. Яны і прычапіліся, нібы я партызан які ці дэсантнік. Як бы мяне з парашутам у пушчу скінулі. Абы-што!

— Дык і мне, хоба на яго, тое самае кажуць. Партызан — і ўсё тут! Як дурні нейкія. А я пра млын перапытваў, млына шукаў. Яны не вераць. «З кім меў сувязі?» — пытаюць. А я млын думаў купіць. «Ты нам зубы не загаворвай!» А я праўду кажу: млын хацеў прыдбаць…

— Млын?

— Але. І ўжо, хоба на яго, надыбаў!

— Млын? — перапытаў здзіўлены Васіль, і яны яшчэ раз уважліва агледзелі адзін аднаго і яшчэ раз міжвольна здрыгануліся ад усведамлення таго, якія горкія нечаканасці можа падрыхтаваць чалавеку лёс. Нездарма кажуць: неспазнаныя шляхі Гасподнія.

Якаў Арыстархавіч — гэта было вядома — звычайна, па жыцці, паводзіў сябе так, як раіў апостал Павел: з мясцовымі — як мясцовы, з палякамі — як паляк, з яўрэямі — як яўрэй, — і ўсё абыходзілася. Замінкі, вядома ўзнікалі, але непаразуменняў не было. Непаразуменне ўзнікла з бальшавікамі, якія ўпяклі фальваркоўца ў турму за «эксплуатацыю чужой працы». А цяпер — з немцамі. Прыдраліся былі за падаткі, і ён сядзеў разам з Амброжыем у каталажцы ў Высокім, і вось зноў…

— Сядайце, Якаў Арыстархавіч! — Васіль кіўнуў на куль саломы. Кум, крэкчучы, сеў і яшчэ раз здзіўлена агледзеўся.

Купіць вятрак было даўняй блакітнай марай Якава Арыстархавіча, і Васіль пра гэта ведаў. Нават сам калісьці параіў куму ехаць за Камянец, шукаць вятрак у прыпушчанскіх гаспадароў, якія часта нават будавалі ветракі на продаж. Вятрак для фальваркоўца — рэч аніяк не лішняя: і сабе змалоць, і таксама дзеля прыбытку. Жывыя грошы. Вадзяны млын — не пабудуеш: надта ціхая яна, Лосьна, што плыла каля фальварка. Лянівая. Наўрад ці захоча кола круціць. Вятрак — іншая справа. І месца яму, разам з Амброжыем, прыкінулі — каля лесу, там, дзе дуб. Там прастор і вецер ходзіць.

— І надыбаў ужо! — паўтарыў фальварковец, грузна апусціўшыся побач з Васілём на перацёрты куль саломы. — За Рэпішчам, хоба на яго, за хутарам, бачу, стаіць на ўзвышшы вялізны бяскрылы вятрак. Прыгожы! Не вятрак, а казка. Як Камянецкі стоўп! Кіруюся да яго на ровары. Пад'ехаў. Прыглядаюся. Такі прыгажун! Цоколь, ведаеш, складзены з часаных дылёў, пасаджаных на мох. Абапёрты на мураваны фундамент. Ну, думаю, тое, што трэба! А крылы прырабіць не складана, знайду майстроў — прыробяць. Дрэва яшчэ новае, моцнае, як звон!

Васіль уздыхнуў, апусціў галаву, яму стала не па сабе. Падумалася: «Людзям вайна, людзям гора, кругом бяда, а ты… За ветраком пагнаўся! Вятрак яму тэрмінова спатрэбіўся! Выбраў час! Сам сабе на галаву расчырванелае вуголле ўскінуў! Эх, куме, куме!..»

У меркаваннях Васіля было шмат праўды. Разважлівы, здавалася б, чалавек Якаў Арыстархавіч, а пачуццё карыслівасці над усім пераважае. Зрэшты, гэта можна і зразумець: чалавеку заўсёды мала таго, што ў яго ёсць. Рыхтык такі быў і фальварковец: сядзела ў ім даўняя і неадольная прывычка: набываць, набываць. Нават калі гэты набытак несвоечасовы і лішні. Нехта на гэты конт добра, хоць і жартам, сказаў: «Без неабходнага пражыць можна, без лішняга — нельга».

«Але, — цюкнула раптам Васілю, — хіба я лепшы? Вунь у Ліпне людзі ў зямлянках жывуць, а мне, маючы хату, новай захацелася, у новую перабрацца закарцела, па сталярку кінуўся!..» Ён уздыхнуў.

Між тым Якаў Арыстархавіч працягваў:

— Стаўлю ровар, падыходжу да дзвярэй, дзверы зачыненыя. Прытуліўся лбом да шчыліны паміж дошкамі. Спачатку нічога не разабраў, потым у сутонні бачу вялізныя каменныя жорны і калёсы з драўляным зуб’ем. Паверыш, ажно захваляваўся! Усё цэлае — і дубовая мучніца, і жолаб, і каванка! Ужо падумаў быў нават, як гэта ўсё перацягнуць. Альбярцін жа няблізка. Угары, бачу, на драўляным перакрыжаванні пад самым дахам сядзіць сава, хоба на яе, і з цікаўнасцю на мяне пазірае. Сонца баіцца, у прахалодзе ўладкавалася, у цемрыве. Я зноў на ровар і да гаспадара падаўся, на хутар. Цікава было, колькі ж ён запросіць. Раптам чую ззаду: «Halt! Zurick!»[1] Азіраюся, а яны, хоба на іх, на мяне ўжо аўтаматы наставілі. Немцы і паліцыянты з белымі павязкамі на рукавах. Ровар адабралі, падагналі фурманку і мяне за рукі да люшні прывязалі. А я ж па-нямецку крыху ведаю, яшчэ ад тых немцаў навучыўся — ад вільгельмаўцаў. Яшчэ ў тую вайну. «Іх бін цывільгаспадар!»[2] — тлумачу ім, а яны і слухаць не хочуць, пагналі ўперад. Бягу, да люшні прывязаны. А яны радуюцца, што партызана ўпалявалі. Рагочуць. А адзін паліцай, хоба на яго, ну, недаростак, мне па грудзі будзе, — Якаў Арыстархавіч далонню паказаў, які малы быў той паліцай, — апроч усяго яшчэ і тыцнуў мне кулаком у зубы. Упаў бы, але люшня падтрымала. Ну і брыдота! Прыгналі сюды, у Шчырчова, адразу дапытваць пачалі. Дапытваў, хоба на яго, немец у чорным мундзіры. Гестапавец з ашалелымі вачыма. Скажы, кажа, хто ты, з кім звязаны. А з кім я звязаны? Я звычайны цывільгаспадар. А ён — сваё, ад старання ажно пеніцца. «Ну, што, скажаш? Надумаешся?» І пакараць гразіцца! Каб быў у чымсьці вінаваты, каб які праступак меў, дык хай бы тады каралі! Але ж я ні ў чым не вінаваты! Я гляджу, цябе таксама білі.

— Білі, — сказаў Васіль.

— Я бачу. Ой, што робіцца! Што робіцца! У мяне ж, хоба на яго, і капялюш адабралі. Яшчэ за Польшчы купляў. І жывот да спіны прысох. І калі выпусцяць адсюль?

Васіль уздыхнуў і моўчкі паціснуў плячыма, разламаў хлеб і палавіну працягнуў куму, той узяў, падзякаваў, сербануў колькі лыжак «супу» і стаў жаваць хлеб.

— І гадзіннік адабралі! Як іх пасля гэтага можна назваць? — усё яшчэ не мог закончыць Якаў Арыстархавіч, енчыў і круціў галавой.

---

[1] Стой! Назад! (*ням.*)

[2] Я цывільны! (*ням.*)

Васіль маўчаў.

— Ты даўно тут сядзіш?

— З тыдзень ужо.

— Дык ты не ведаеш, што там у вас у Прусцы было! Хтосьці, хоба на яго, міны на гасцінцы падлажыў, дык фурманка на іх падарвалася, а пару дзён назад нямецкі самаход у паветра ўзляцеў, увесь да тла згарэў. Добра яшчэ, што ніхто не загінуў, а то было б! Справы сур'ёзныя…

— А фурманка чыя?

— Палякі з Калоніі-Прускі, з Камянца ехалі, з касцёла.

Васіль з трывогай падумаў пра сваіх. Як там Прося, дзеці, маці з бацькам? Цяжка адным, без яго.

— Баланда! — кіўнуў кум, паказаўшы вачыма на суп. — Мяне ёю калісьці яшчэ, хоба на іх, Саветы кармілі, калі я ў Берасці сядзеў, а цяпер гэтыя…

Васіль нічога не адказаў, засяродзіўшыся на сваіх думках.

— Мяне, як успомню, хоба на яго, — зноў, уздыхнуўшы, загаманіў Якаў Арыстархавіч, — пры кожнай уладзе арыштоўвалі. Такі ўжо, відаць, лёс. Той раз разам з Амброжыем у Высокім сядзелі, а цяпер тут, з табою. — Ён зірнуў на Васіля: — А тут, куме, горш, чым у Высокім! І перадачу няма каму прынесці…

— Не ведаюць яны, — азваўся Васіль. — Дзядзька Амброжый адразу б прымчаўся. Ды і Мірык…

— А Мірык — разумны, мне казаў: «Не едзь, бацьку, пад пушчай немцаў да халеры. Зловяць!» Але я не паслухаў, і вось, хоба на яго, што выйшла…

Мірык — інфармаваны і на розум пракідкі. Гэта — так. Якаў Арыстархавіч яшчэ ў мінулым годзе пачуў ад яго: «Тато, немцы прайгралі». — «Халера іх не брала, яшчэ дужыя!» — сказаў тады Якаў Арыстархавіч. — «Не, ужо на ладан дышуць!» — не згадзіўся сын. — «Ну дык так ім і трэба. Тыя былі лепшыя, — гэта Якаў Арыстархавіч успомніў тых немцаў, якія былі ў 1915—1918 гадах. — А гэтыя гады!» Мірык скептычна паглядзеў на бацьку: «Хай сабе гады, але ж жыць можна, гандляваць даюць…» — «Гандляваць — гэта добра, а тое, што яны нас з Амброжыем у турму пасадзілі, у Высокім, ты забыў?» — «Ну дык выпусцілі…»

— А каб Мірыку як паведаміць… — сказаў Васіль, нібы ўгадаўшы кумавы думкі.

— Я ўжо ім казаў! У мяне, кажу, у Камянцы сын гандлюе. Дык яны пасля гэтага яшчэ больш падазрона да мяне ставіцца пачалі. Западозрылі, што ў мяне нейкія сувязі.

Якаў Арыстархавіч падняўся, падышоў да закратаванага акенца, каб дыхнуць свежым паветрам. Дзень дагараў, хіліўся к вечару. Праз краты цадзіліся апошнія, нібы развітальныя, промні сонца.

Васіль маўчаў. Кум зноў вярнуўся на сваё месца, зашамацеў саломай і зноў паскардзіўся:

— Нават коўдры не далі. Нягоднікі, жываглоты! Як стаіш, хоба на яго, так і спі.

— Васіль, — зноў пачаў ён, — нам нельга прызнавацца, што мы з табой знаёмыя. Тады палічаць, што нас з адным дэсантам скінулі. Тады ўжо не дакажаш нічога.

Васіль нічога не адказаў.

Назаўтра Якава Арыстархавіча выклікалі, і ў падвал ён больш не вяртаўся. Васіль ізноў упаў у стан адрынутасці і мінору. Ночы даймалі холадам, у падвале холад узмацняўся і даставаў да касцей. Яшчэ разы са два вылазіў усё

той самы руды пацук, паводзіў носам, углядаўся ў вязня, нібы хацеў штосьці паведаміць, а потым ізноў недзе хаваўся.

А яшчэ праз дзень прыехалі бацькі — Фёкла з Лявонам. Прад’явілі дакументы, што арыштаваны і сапраўды з’яўляецца жыхаром вёскі Пруска Ратайчыцкай гміны і што ён будуе хату, а яны яго бацькі.

Як сын з’ехаў і доўгі час не вяртаўся, дык Фёкла месца сабе не знаходзіла, рукі заломвала: «Ай, сынок-сынок, а ці ёсць жа ты хоць на свеце? А ці жывы хоць? А што ж такое здарылася?» Матчына сэрца не знаходзіла спакою. І вось нарэшце знайшоўся.

Выпусцілі Васіля пад распіску. Ён страшэнна схуднеў — скура ды косці.

— Зблажэў як! — вырвалася ў Фёклы замест прывітання, яна кінулася сыну на шыю, адчуваючы, як цяжка ўздрыгваюць яго плечы, а ззаду з-пад выцвілай кашулі выпіраюць лапаткі. «У чым толькі душа трымаецца!» — думала яна.

— Нацярпеўся, — уздыхнуўшы, прызнаўся сын.

— Дык вы думаеце, што мы арыштоўваем нізавошта? — напудзіўся на Фёклу чырванатвары паліцай у чорным галіфэ, зняважліва скрывіўшы вусны. Яму, відаць, не спадабалася, як зірнула на яго гэтая жанчына. — Не! Мы абавязаны былі яго затрымаць!

Фёкла нічога яму не адказала, доўга абдымала сына і плакала, адчуваючы, як моцна б’ецца яго сэрца. Па Лявонавай шчацэ таксама пралілася сляза, сляза радасці. Ён саскочыў з воза, абтрос з крысоў світкі саламяныя сцяблінкі, абняў пасынка. Васіль выглядаў надта змарнелым і стомленым, твар аброс густым шчаціннем і за час знаходжання ў падвале набыў нездаровае зямлістае адценне, нос пабляднеў і завастрыўся. Запрэжаны ў вазок Юша азірнуўся на яго і не адразу, але пазнаў, прыязна фыркнуў.

Лявон паправіў у кельні радзюшку, адвязаў ад плота лейцы, і яны ўсе трое селі ў вазок, усцешаныя тым, што пошукі скончыліся. Васіль успомніў пра «ровар» і памкнуўся быў забраць яго, але паліцай-вартавы толькі вырачыў на яго лупатыя вочы: «Які ровар? Дзякуй Бога, што самога выпусцілі! Ровар… І не заікайся!»

— Вось хлеб з салам, падсілкуйся, — Фёкла падала сыну торбу з прыпасамі, выціраючы ражком хусткі заплаканыя вочы.

— Увесь час хацелася есці і пячайка даймала, — загаманіў Васіль.

— А кармілі чым?

— Баланда і кавалак хлеба.

— Ты згаладнелы, шмат не еш, — параіў Лявон і цмокнуў на каня, торгнуў лейцамі.

— Недалюдкі! — сказала Фёкла.

Так рушылі яны ў адваротны шлях, дадому. Пругка падуў сустрэчны вецер, і Васіль нечакана для сябе адчуў, як застукала, загудзела ў скронях кроў. Як быццам бы і яна вызвалілася на свабоду.

Юша бег трушком, але жвава. У параўнанні з ранейшым коніка было не пазнаць. Стомленага, замуленага каўпакоўскага Юшу Лявон з Фёклай адхадзілі, і праз месяц конік выглядаў нядрэнна, адкарміўся і больш-менш выгладзіўся. Быў ён яшчэ не стары. Лявон штодня конскім згрэблам ачэсваў яму бокі. Ад задавальнення конік ажно хроп і гulліва круціў хвастом. Перажываў, мабыць, тое ж, што і чалавек, бо чалавек таксама любіць, калі яго хто-кольвечы пашкадуе і прылашчыць. На ім Лявон ужо выязджаў у поле. Усё было нармальна, але здзівіў Юша ў першую навальніцу: нечакана грымнуўся на калені, а потым паваліўся на бок, пераблытаўшы, відаць, далёкія раскаты грому з

артылерыйскай кананадай. Лявон зразумеў: ваенны конь! Не ведае бедалага, што ўжо дэмабілізаваны…

Шчырчова засталося ззаду, праехалі Галасяціна. Нейкі час маўчалі, быццам не было чаго казаць. Седзячы ў сутонні таго сутарэння, Васіль страціў адчуванне часу.

— Колькі ж гэта я прабыў там? — нібы ў самога сябе ўголас спытаў ён.

— Дык ужо сярэдзіна мая, — падлічыў Лявон. — Дзён дзесяць!

— Дзесяць дзён?

— Прыкладна так, не менш.

— Хай бог крые! — перахрысцілася Фёкла.

Па дарозе бацькі расказалі, што адбылося за гэты час у Прусцы. Пра тое, як прускаўцы стаялі пад расстрэлам і выратаваў толькі цуд, і пра тое, як Лаўр Яўсеевіч і Мікіта баранавалі гасцінец і пазнаходзілі тыя міны.

— А як вы мяне знайшлі? Гэта, напэўна, таксама цуд.

— Кум паведаміў, — патлумачыў Лявон, — у Шчырчове, кажа, ён у пастарунку сядзіць.

І сапраўды, выратавала Васіля тое, што выпусцілі Якава Арыстархавіча. Бацьку дапамог Мірык, у якога былі сувязі. Па дарозе дадому Якаў Арыстархавіч завярнуў у Пруску да Кужалёў і ўсё расказаў. Яны ўжо даўно за яго непакоіліся: «Дзе ён? Куды падзеўся? А можа, што нядобрае здарылася?» Асабліва трывожыліся і перажывалі Фёкла з Просяй. Месца сабе не знаходзілі. Прося калыхала малога Лёніка, слязьмі ўмываючы сына. Хадзіла па хаце, заломвала рукі і ў бяссіллі зноў плакала. «Дзе ён зараз?» — з трывогаю думала яна пра мужа. У галаву лезла самае горшае: «А можа, яго ўжо і няма?..»

Якаў Арыстархавіч сказаў, што і яго самога паліцаі моцна пакрыўдзілі, рэчы забралі. Капялюш вярнулі, а гадзіннік не.

Пасля візіту кума, на другі дзень, на світанні, Лявон запрог каня — каўпакоўскага Юшу, кінуў у кельню абярэмак саломы, каб ямчэй было сядзець, торбу з харчамі і разам з Фёклай паехалі ў Шчырчова.

— Давай хутчэй! Што ты сабе думаеш! — не магла стрымацца, прыспешвала Фёкла. — Спознімся!

Тут ужо дапамог Юша, паклаліся на яго конскія магчымасці. Спачатку ён цягнуўся памалу, марудна перастаўляючы ногі, а потым разышоўся, пайшоў подбегам. Лявон торгаў лейцамі, падганяючы каня.

Да Шчырчова шлях няблізкі, у сустрэчных вёсках раз ці два давялося папытаць дарогу. На шчасце, ніхто іх не спыніў і навальніцы не здарылася. Ехалі без прыгод. У другой палавіне дня яны былі ўжо ў Шчырчове. Ім паказалі, дзе месціўся пастарунак…

Дадому Юша бег шпарчэй.

— Тато, а вы таксама пасівелі за гэты час, — звярнуўся Васіль да айчыма.

— Пасівееш... — уздыхнуў той і дадаў: — А можа, і добра, што ў гэты час дома не быў. Нацярпеліся і мы.

Лявон расказаў пра тое, што адбылося за гэты час у Прусцы, як стаялі перад карнікамі на выгане і як потым Лаўр Яўсеевіч і Мікіта баранавалі міны на гасцінцы.

— Хрысан прызначыў, — сказала Фёкла. — Усё магло здарыцца. Дзякуй богу, неяк абышлося.

— Гэта ж ён мяне б прызначыў, — устрапянуўся Васіль. — Злы на мяне…

Палі паабапал дарогі пеніліся ўжо бульбянай квеценню. Вольны ветрык казытаў ноздры. Пад яго павевамі ляніва хілілася ўжо добра адросшая ад зямлі рунь. Навакольны свет здаваўся Васілю новым і нязвыклым, быццам бы

ён нарадзіўся нанова, яшчэ раз. Усёй сваёй істотай адчуў востры, ап’яняючы пах волі. Так, гэта быў пах, водар ветру і прасторы. Хацелася ўпасці на калені, шырока абхапіць гэтую зямлю і моцна, пяшчотна прыгарнуць да грудзей. «І ўсё ж такі жыць — добра!» — ад гэтай думкі ён міжволі пасміхнуўся, і яму стала лягчэй.

Бліжэй да апоўначы яны былі ўжо ў Прусцы. Дома сустрэла Прося. Змаглася ад слёз і чакання.

— Ой! — ускрыкнула яна і кінулася насустрач.

## VIII

Вайна прадаўжалася, а з ёю і партызанка. У канцы красавіка атрад імя Ушакова зноў вярнуўся ў свае старыя мясціны, у прыпушчанскую зону. Даводзілася манеўраваць, блытаць сляды, але не забывалі пра баявую дзейнасць, па-ранейшаму хадзілі на «жалезку», рабілі засады, знішчалі ворага. Фронт няўхільна каціўся на захад, бліжэй да Берасцейшчыны. У пачатку чэрвеня пра яго набліжэнне загаварылі ўсе: «Нашы голас падаюць!» Прыйшоў пасланец з штаба брыгады.

— Есць загад палкоўніка Сцяпана, — перадаў ён, — каб увесь ваш атрад выйшаў на «жалезку»! Камандаванне нацэльвае на масіраваны ўдар па чыгунцы. Цэнтральны камітэт партыі і Цэнтральны штаб партызанскага руху ўзмоцнена патрабуюць усямернай баявой дзейнасці партызанскіх атрадаў і груп, пашырэння дыверсійнай работы, асабліва на чыгунках і шасэйных дарогах. Немцы са скуры лезуць, каб здзяржаць наша наступленне. Эшалон за эшалонам пруць. Тут патрэбен ашчуцімы ўдар. Хай ведаюць!

— Трэба рашыцца на што-та крупнае! — сказаў Афінагенаў, які ў гэты час знаходзіўся ў атрадзе. — У другіх мястах таварышы на кіламетр палатно разбураюць!

— А што? Можа, так і зробім? — звярнуўся Гарланаў да Беражняка. Андрэй у знак згоды кіўнуў галавой.

Камандаванне параілася з камандзірамі ўзводаў, і тыя ўхвалілі.

— Перадышкі яму даваць нельга! — адгукнуўся камісар Мачалаў.

На гэты раз дыверсію вырашылі правесці з 19 на 20 чэрвеня на ўчастку Лінёва — Блудзень, роўна ў поўнач, і не чакаць цягніка, а на вялікай адлегласці ўзарваць рэйкі.

— Гэта надоўга спыніць рух! — згадзіўся Афінагенаў.

Была прапанова рушыць усім атрадам. Адразу з’явіліся пытанні.

— Але як ахова сябе павядзе? — першым запытаў Беражняк, які, як начальнік штаба, хацеў, каб усе ўяўлялі сабе складанасць аперацыі. — Гэта — вапрос!

— Ад такой сілы ахова проста разбяжыцца! — раздаліся галасы. Гэта гучала самаўпэўнена, але меліся на тое падставы: быў ужо не 1941 год, а 1944-ты. З’явіліся вопыт і ўпэўненасць.

— Давайце размяркуемся на групы, — прапанаваў Гарланаў, параіўшыся з камісарам і начальнікам штаба. Афінагенава ў атрадзе ўжо не было — пайшоў па сваіх справах.

Раздзяліліся на тры групы. Кожная мела пры сабе тол і вопытных падрыўнікоў. Да чыгункі, як звычайна, ішлі расстаўным маршам.

— У агнявы кантакт не ўступаць! — папярэдзіў камандзір. — Задача ў нас больш адказная: «Жалезка»! Дыверсія на рэйках!

Абыходзілі паселішчы. Днявалі ў зацішных месцах, у лесе. Зелянеў мох, і ўжо адскочыла дзераза — для партызана, каб адпачыць, умовы камфортныя. Ідучы, Санька моцна выцяў нагу аб нейкі корч, што непрыкметна ляжаў у траве. Балела, але трываў.

На падыходзе да «жалезкі» спыніліся, каб агледзецца, разведаць абстаноўку, падрыхтавацца. Паўсюль уздоўж чыгункі высечаны лес — на сто і болей метраў, і ўсё навокал замініравана.

— Спакойна! — падняў руку Гарланаў.

Яны заляглі і сталі чакаць. Дачакаўшыся ночы, ўзяліся за справу. Падрыхтавалі для кожнай групы тры вялікія калоды і апоўначы рушылі па насыпе па загадзя размеркаваных пераходах. Кожная група, дзейнічаючы бусакамі, штурхала паперадзе сябе калоду, каб не падарвацца на мінах, там-сям бабахнула — міны ўзрываліся, але ад асколкаў ратавалі калоды. І вось партызаны ўжо ўскочылі на насып, занялі абарону, а падрыўнікі пачалі мініраваць рэйкі. Над чыгуначным палатном вісеў густы туман, і гэта ім дапамагло. Але іх, вядома, заўважылі. Справа, з бункера, затахкаў кулямёт, пачуліся аўтаматныя чэргі. Людзі прыціснуліся да палатна. Стралялі з пераляку, не цэлячыся, у туман, аднак немагчыма было падняць галавы.

Раздаўся голас камандзіра:

— Загадваю знішчыць кулямёт!

Пяцёра партызан, у тым ліку і Санька Растатуеў, кінуліся выконваць загад. Удала падпаўзлі — зноў дапамог туман — і закідалі кулямётнае гняздо гранатамі.

Заклалі тол і чакалі сігналу, каб падпаліць шнуры. Сігналу не было. Нарэшце ўзвілася ў неба ракета і расплылася ў белым ранішнім мораку. Падпалілі шнуры і адбегліся. Хутка загрымелі выбухі, іх было некалькі. Сутаргава азвалася зямля, задрыжэў дол і, здаецца, нават тое, што было пад ім.

— Адыходзім! — скамандаваў камандзір.

— Вяртаемся на стаянку! — прадубліраваў каманду Беражняк.

Адыходзілі бягом, не спыняючыся. Потым перайшлі на крок. Удала заблыталі сляды і схаваліся ў глыбіні Казённага лесу. Селі адпачыць, стаіўшыся ў густым ельніку, выставіўшы на ўсякі выпадак ахову. Некаторыя адразу ж паснулі, прывучыўшыся спаць пры першай магчымасці.

Пачынала світаць, і пад раніцу першымі абудзіліся салаўі, для якіх, мяркуючы па залівістых песнях і звонкім цёхканні, вайны не існавала, а існавала толькі радасць жыцця.

Санька Растатуеў слухаў салаўёў і ўспамінаў Маняшу і той вечар з ёю. Маняша па-ранейшаму не выходзіла з галавы, але пра тое, каб убачыцца, не магло быць і гамонкі. Не той час, ніхто не адпусціць.

Мурашка заўважыў, як з галінкі на галінку скакала, мітусілася, нібы ў нейкай трывозе, маленькая птушачка, якую ў народзе здаўна называлі вяртлявай чаротаўкай. «Сапраўды, вяртлявая», — пасміхнуўся партызан. Успомніў, як цікавіўся птушкамі ў дзяцінстве — і сам, і шматлікія сябры-пастушкі. «Эх, згарэла мая Ліпна!» — уздыхнуў ён. Ліпна — вёска, адкуль Мурашка быў родам.

Прырода, як звычайна, жыла сваім уласным, самавітым і неадольным жыццём.

Дні праз два вярнуліся на стаянку. Як абыходзілі Высокае, трапілі пад абстрэл, але адбіліся. Ужо калі небяспека мінула і страляніна заціхла, шалёнай куляй забіла Непагодзіна. Невядома нават, адкуль яна, дрэнь, і прыляцела. Непагодзін якраз хацеў нешта сказаць Саньку Растатуеву, які ішоў побач, але,

слаба войкнуўшы, упаў на спіну, падкурчыўшы ногі, дагары тварам. Прабіла галаву. Побач звалілася з галавы шапка.

— Забіла, — здзіўлена сказаў Санька.

Непагодзіна паклалі ў плашч-палатку і нейкую адлегласць неслі. Пахавалі ў лесе.

— Лёс! — адно, што сказаў Беражняк.

Рух на чыгунцы быў паралізаваны на некалькі дзён. Настрой у людзей падвысіўся: ужо бачыўся нейкі прасвет у канцы тунэля іхняга бядотнага ляснога існавання.

* * *

Афінагенаў між тым накіраваўся на сустрэчу з сувязнымі. У Пруску, да Васіля, ён з’явіўся сярод ночы і, як і ў той раз, нечакана. За дзень перад гэтым Васіль вярнуўся з Шчырчова і яшчэ як след не аправіўся ад перажытага, але на стук у акенца ўстаў, хутка апрануўся, адчыніў дзверы.

З Афінагенавым было яшчэ двое з аўтаматамі. Відаць, ахова. Павіталіся. На гэты раз упаўнаважаны быў апрануты ў афіцэрскі кіцель, толькі што без пагонаў. Дробны курносы твар чыста паголены. Ахова — адзін высокі мужчына, другі меншы ростам, каржакаваты — у шэрых ватніках, падпяразаных шырокімі вайсковымі рамянямі.

— Можна да вас?

— Калі ласка, мы рады гасцям, калі яны прыходзяць.

— І няпрошаным?

— Заходзьце.

— Не пазнаеш? — Афінагенаў паспрабаваў пажартаваць, хоць Васіль пазнаў яго адразу. — Немцы ў дзярэўне ёсць?

— Няма.

Усе, адзін за адным, пераступілі парог, паздымалі зброю, падселі да стала, на якім ляжаў загорнуты ў абрус хлеб. Гаспадыня была ўжо таксама на нагах. Святла не запальвалі. Дзеці спалі.

— А дзе таварыш Мурашка?

— Ён заняты іншым.

— Дык падмацавацца трэба, — прапанаваў Васіль.

Госць зірнуў на гаспадыню, ён помніў яе імя:

— Дай нам, Прося, калі ёсць, кіслага баршчу!

— Капусты?

— Капусты. Як у той раз.

— З абеда засталася.

— Давай!

— Але ж халодная?

— Нічога, смачная і халодная.

Прося пайшла ў камору па хлеб. Афінагенаў кіўнуў Васілю, прыхапіў свой рэчмяшок, і яны, як звычайна, выйшлі на вуліцу. Разам з імі памкнуліся былі і ахоўнікі, але ўпаўнаважаны іх спыніў.

Пасля хаты ў твар дыхнула свежасцю начной прахалоды. Над царквою, паміж хмар, вісеў маладзік і, здавалася, штосьці паціху нашэптваў, але што — цяжка было ўцяміць. Нешта, відаць, добрае, зычлівае. За месяцам там-сям сціпла ззялі рэдкія зоркі. Навокал панавалі паўзмрок і цішыня.

— Ну як справы? — загаманіў госць, як толькі яны выйшлі з хаты.

— Мяне ж былі другі раз арыштавалі. У Шчырчове.

Афінагенаў, якога і на гэты раз не пакінула падазронасць, паглядзеў на Васіля недаверліва і запытальна.

— Як — у Шчырчове? Гэта ж далёка, па той бок Камянца. Як ты там апынуўся?

— Па сталярку паехаў, для хаты. — Пра тое, што спадзяваўся сустрэцца з партызанамі, Васіль у самую апошнюю мінуту вырашыў не казаць, бо пошукі сувязі з партызанамі парушалі тыя інструкцыі, якія ён калісьці, у першы раз, атрымаў ад упаўнаважанага. — На гестапаўцаў напароўся…

— Ну і што?

— Звычайная рэч — білі. За савецкага дэсантніка прызналі.

— Цябе?

— А што? Не падобны?

Упаўнаважаны пасміхнуўся:

— Чаму ж? Каб парашут за плечы ды аўтамат… Дык што? Адпусцілі?

Васіль уздыхнуў, не вельмі прыемна было ўспамінаць тое, што адбылося.

— Бацькі даведаліся, дзе я, і прыехалі…

— Бацькі выратавалі?

— Пацвердзілася, што не дэсантнік.

— Ну, так. Спадзяюся, што нічога лішняга ты там не балбатнуў?

Васіля гэтае пытанне пакрыўдзіла, і ён не стаў на яго адказваць, як бы прапусціў між вушэй.

— А яшчэ што чуваць? Якія навіны?

— Тут быў Вершыгара прайшоў.

— Пра гэта вядома.

— Мін панастаўляў. Падрывацца пачалі. Аўтамашына нямецкая падарвалася. Хацелі вёску расстраляць, але неяк абышлося.

— Ну, а яшчэ?

— Чакаем нашых.

— Чырвоную Армію?

— Ну, а каго ж яшчэ? Ужо ж не доўга засталося.

— Не доўга, — згадзіўся ўпаўнаважаны і ўздыхнуў, на момант задумаўся.

Наступіла паўза.

— Савецкія танкі ўжо ў Магілёве, — дадаў упаўнаважаны. — Падзеі развіваюцца імкліва. Хутка будзе вызвалены Мінск, а там і ўся Беларусія.

— Пасля вайны жыццё будзе добрае! — у тон суразмоўцу сказаў Васіль.

Твар Афінагенава пасуравеў.

— Добрае, але, імейце ў віду, нялёгкае. Усё давядзецца, к вашаму сведзенію, аднаўляць. Немцы адступаюць, а за сабой адны толькі руіны пакідаюць. Узрываюць, паляць, знішчаюць, усё дабро ў Германію вывозяць. Васіль слухаў, дакараючы сябе, што раней пра гэта не думаў.

— Трэба іх хутчэй гнаць, не даць ім апомніцца! — Афінагенаў зірнуў на свой рэчмяшок, які ён паклаў ля ног на траву. — Да цябе, Васілій, просьба.

— Якая?

— Нада дапамагчы нашай авіяцыі.

— Авіяцыі? — здзівіўся Васіль. Чаго-чаго, а такога ён не чакаў.

— Ты не здзіўляйся. Ты ж сам мне некалі казаў пра налёты на Брэст. Дык вось, разумееш, днём яны арыентуюцца добра, а ноччу бачаць слаба, — патлумачыў Афінагенаў. — Трэба дапамагчы. Нам гэта рабіць няма як, сам разумееш, а ваша меснасць якраз на іх маршруце. Пра гэта, каб ты ведаў, высокае начальства падумала. Даручэнне адказнае. Абы-каму такое не даручыш. Трэба выканаць у што б там ні стала!

Упаўнаважаны выцягнуў з рэчмяшка вялікі чорны пісталет з шырокім дулам і працягнуў Васілю.

— Ракетніца, — патлумачыў ён і з таго ж рэчмяшка дастаў дзясяткі два доўгіх, падобных на паляўнічыя, патронаў. Паказаў, як зараджаць.

Не згаджацца не выпадала, хоць справа была вельмі небяспечная.

— Бліжэй да апоўначы выходзь за вёску, у поле, і слухай. Яны набліжаюцца з усходу. Калі пачуеш, што ляцяць, давай тры выстралы ў паветра, у неба. Гэтага дастаткова, яны заўважаць. Зразумела?

Васіль кіўнуў галавой:

— Зразумела.

— Гэтым самым ты пакажаш ім дарогу на Брэст. Справа вельмі адказная, даручаем табе. Пачнеш з заўтрашняга дня.

— Я ўсё зразумеў.

Яны стаялі пад грушай. Зашаптаў у густой лістоце дробны дождж і неўзабаве пачаў церусіцца на дол. Спачатку прыкрывала груша, але вільгаць знайшла сабе дарогу і праз лісце. Упаўнаважаны між тым працягваў:

— Гэта яшчэ не ўсё! — перабіў яго ўпаўнаважаны. — Ракетніцу і патроны нада надзейна схаваць. І не ў хаце, а ў больш надзейным месцы, недзе пад кустом…

— Пастараюся.

— На сустрэчы прыходзь! Як дамовіліся. Калі мяне не будзе, доўга не чакай, прыходзь у наступны раз. Значыць, я заняты. Можа быць і сувязны. Мурашка ці хто яшчэ. Месца сустрэчы памяняем. Сустракацца будзем каля Выгнанскага Лугу, на ўскрайку Бярэзіны. Там ёсць такая чорная сасна, дык каля яе, пасля дванаццаці. Запомні!

Яны, адзін і другі, змоўклі. Зрэшты, і гаварыць не было пра што — не пераходзіць жа на асабістае. Пасля некаторай паўзы Афінагенаў спытаў. Усё пра тое ж:

— А пра архіў што-небудзь чуў?

Васіль адмоўна пахітаў галавой, а ў душы вельмі здзівіўся, што гэтае пытанне так і не пакідае ўпаўнаважанага...

— Архіў мы знойдзем! — уздыхнуў той. — Дакументы адшукаць нада абязацельна, а віноўных мы строга пакараем. Гэта я абяцаю.

Цяжка было зразумець, каму ўпаўнаважаны адрасуе гэтыя словы — суразмоўцу ці самому сабе. Васіль помніў іх яшчэ з таго часу.

Затым яны вярнуліся ў хату, дзе чакала капуста. Побач ляжаў хлеб. Ахоўнікі падрыхтаваліся сёрбаць, узяўся за лыжку і ўпаўнаважаны.

— А солтысам у вас хто? — спытаў ён. — Усё той жа Хрысан?

— Ён, — адказала Прося.

— З немцамі ўцякаць не збіраецца?

— Адкуль жа мы ведаем?

— Яму, імейце ў віду, не паздаровіцца, — адгукнуўся Афінагенаў. — Здраднік. Кожны, хто працуе на іх, здраднік, — патлумачыў ён. — Гэта адназначна. Спрос будзе строгі і разгавор кароткі. Пад суд!

На гэтым госці развіталіся і, не марудзячы, рушылі ў дарогу, пакінуўшы Васілю свежую, як сказаў адзін з ахоўнікаў, газету.

Калі госці пайшлі, Васіль разгарнуў газету і ўбачыў набраны буйнымі літарамі загаловак: «*За Родину*». Невялікая па памеры, складзеная ў дзве столкі. Пад загалоўкам стаяла: «*Орган Брестского Антифашистского комитета БССР № 26, суббота, 3 мая 1944 г.*»

Нехта бразнуў клямкай. Васіль памкнуўся схаваць газету ў стол, але гэта быў бацька. Лявон, як звычайна, раніцой, зайшоў праведаць. Ужо збіраліся выганяць на пашу кароў. Гаспадыні выходзілі іх даіць.

Васіль дастаў і зноў разгарнуў газету.

— Што ў цябе там? — пацікавіўся Лявон.

— Газета. На гасцінцы знайшоў, нехта згубіў, — зманіў пасынак.

— Ну і што там пішуць?

Васіль стаў чытаць. Гэта быў на ўсю паласу, заклік: «*Таварышы беларусы! Не давайце фашыстам таптаць родную зямлю! Хай гарыць наша зямля пад нагамі гітлераўскіх гадаў!*»

З другога боку яшчэ адзін тэкст: «*Звяртаемся да тых, хто яшчэ не страціў гонар і сумленне, і прапаноўваем перайсці на наш бок, каб са зброяй у руках у барацьбе супраць захопнікаў загладзіць сваю віну. Знаходзячыся на службе ў нямецкіх акупантаў, вы ганьбай заплямілі сваё імя. Мы даем вам магчымасць змыць гэтую ганьбу сваёй крывёй, змагаючыся за свабоду Беларусі. Адумайцеся, пакуль не позна!*»

— Умеюць пісаць! — адгукнуўся Лявон, калі Васіль скончыў чытаць.

— Тато, усё вельмі сур’ёзна.

— Я ведаю.

* * *

Васіль адразу ж, пасля візіту начных гасцей, узяўся выконваць заданне, даручанае яму Афінагенавым. Спаць пакладаліся, як звычайна, з вечара, але, калі ўсе паснулі, ён, бліжэй пад поўнач, хуценька ўстаў, апрануўся, накінуў кажушок і выйшаў з хаты.

— Куды ты? — занепакоілася Прося, якая, аказваецца, таксама не спала.

— Пагляджу, што ў вёсцы робіцца, з мужчынамі пастаю! — на хаду патлумачыў Васіль.

Усе ўжо спалі, хаты стаіліся ў начным мораку. Не адчувалася нават самага ціхага подыху ветрыку, адно толькі на ўсю моц звінелі камары. Ён дастаў прыхаваныя ў дупле прыдарожнай вярбы загорнутыя ў анучыну ракетніцу і патроны. Стараючыся быць незаўважаным, збочыў з гасцінца і выйшаў у поле, стаў на пагорку, дзе ішла затравелая палявая дарога. На прускаўскіх загонах, у начным сутонні, красавала жыта, там-сям чарнелі бульбяныя барозны, цвіў лубін. Стаў чакаць, калі пачуецца набліжэнне самалётаў. Непакоіла думка: «А можа, сёння не паляцяць?»

Бліснуў ражок месяца, кінуўшы на зямлю жменьку рэдзенькага святла, і тут жа схаваўся. Усё болей гусцеў начны змрок. Пачуўся нарэшце далёкі гук.

Самалёты ляцелі з усходу. Неба напаўнялася цяжкім, надрыўным гулам. Ён чуў, як яны цяжка гудуць высока над галавой, кіруючыся ў бок Брэста. Ад іх гула, дрыжэла і, здавалася, прагіналася зямля. Днём яны арыентаваліся на Камянецкі Стоўп — старажытную Белую Вежу, а ў непраглядную ноч патрэбна была чалавечая дапамога.

Падняўшы ракетніцу над галавой, ён стрэліў. Ракета шумна ўзляцела, загарэлася, асвяціўшы зялёным бляскам усё наваколле, і, апісаўшы дугу ў напрамку Брэста, згасла. Самалёты ішлі марудна, як бы з неахвотаю, надрываючыся ад смертаноснага цяжару, які трэба было скінуць на чыгуначны вузел. У Брэсце іх, відаць, ужо чакалі. Па небе над горадам ужо хадзілі чырвоныя сполахі, шарылі вышыню прамені пражэктараў, завісалі ніткі трасіраў. Далёка рассыпаліся каласістыя снапы іскраў. Можна было ўявіць, што там адбывалася, — выбухі бомб, полымя пажараў, дым…

У наступную ноч паўтарылася тое ж самае. Кожны раз аднак ён мяняў месца, хадзіў пад Бярэзіну, за раку, заходзіў пад Бранавічы і за Выгнанку. Налёты савецкай авіяцыі не спыняліся. Самалёты паяўляліся амаль кожную ноч, заведзеным парадкам. На падлёце да Брэста яны натыкаліся на шчыльны агонь нямецкіх зенітак і імкнуліся ўхіліцца ад яго. Перагружанаму бамбавозу гэта зрабіць няпроста. Таму — пра гэта Васіль даведаўся пасля вайны ўжо — многія самалёты не дацягвалі да чыгуначнай станцыі і скідвалі цяжкія бомбы на шырокі луг паміж Брэстам і прыгараднай вёскай Пугачова, якая знаходзілася на другім беразе Мухаўца.

## IX

Механізаваныя дывізіі Чырвонай Арміі па палескіх дарогах за суткі адольвалі да сотні кіламетраў, імчаліся, як на крылах. Немцы адступалі, не ў стане аказаць сур’ёзнага супраціўлення. Па меры набліжэння фронту падчышчалі тылы — што забіралі з сабой, што ўзрывалі, палілі, руйнавалі.

І хто толькі не таптаў у гэты час прускаўскую вуліцу! Увесь свет, здаецца, прайшоў па ёй: і немцы, і італьянцы, і румыны, і ўласаўцы. У нейкай жаўтлявай, выцвілай на сонцы форме, вільготнай ад поту, ішлі праз Пруску мадзьяры. Аблепленыя пылам, нямоглыя, змучаныя. Дакучала страшэнная гарачыня. Спагадлівыя і жаласлівыя прускаўскія жанчыны (мужчыны недзе пахаваліся) выносілі ім у збанках ваду, кіслае малако, квас. Салдаты спыняліся, прагна пілі, вяртаючы жанчынам пустыя збанкі, пілоткамі і рукавамі выціралі спатнелыя твары і ішлі далей. Куды — не ведалі, пэўна, і самі. У канцы вёскі яны павярнулі налева, абмінулі могліцы і схаваліся за Маркавай гарою, над якой непаспешліва плылі летнія аблокі. Праз нейкі час у тым баку, куды яны пайшлі, дзе знаходзіліся Зянькі, заклубіўся густы дым. Ён узнімаўся высачэзным шэра-чорным слупам і відаць быў ва ўсім наваколлі. Гэта гарэлі Зянькі. Перад гэтым згарэла Ліпна, а цяпер настала чарга Зянькоў. Усё бліжэй да Прускі. Барвяным зарывам адсвечвала неба. Чырвоны водсвет вісеў на чорных хмарах і то атухаў, то разгараўся зноў. Трэск пажару чуўся здалёк, у насы біў прынесены ветрам даўкі пах гарэлага. У тым баку, дзе знаходзілася паселішча, да раніцы млела, стухаючы, афарбаванае чырванню, неба. Зянькаўцам і да гэтага не шанцавала — больш, чым у іншых вёсках хварэла і здыхала жывёла, сохлі сады, а потым і зусім вывеліся, не радзіў колас, гніло сена. Гэта была бедная вёска. Людзі жылі больш з ракі, у якой лавілі рыбу, і вось цяпер згарэлі нават чаўны, на якіх зянькаўцы выпраўляліся на свой промысел.

Вёску палілі мадзьяры — тыя самыя, якіх прускаўскія жанчыны частавалі малаком ды квасам. Дзякуй яшчэ, што не чапалі жыхароў, пакінулі жывымі. Гарэлі хаты, клуні, хлявы, раўла жывёла, якую людзі спешна выганялі з палаючай вёскі ў поле. Толькі дрэвы на дварышчах засталіся абгарэлыя ды печы з камінамі. Зянькаўцы бусакамі расцягвалі чорныя галавешкі, абпаленыя бярвенні, прыкрывалі імі паграбы, ратаваліся ў буданах.

Пруска зноў закалацілася ад страху, чакаючы, што вось-вось прыйдзе неўзабаве чарга і да яе. Людзі, каб перажыць небяспечны час, сталі капаць у агародах, далей ад хат, зямлянкі, той-сёй шукаў прытулак у іншых, больш глухіх вёсках, далей ад гасцінцаў і вялікіх дарог.

Аднойчы вечарам да Платонавых зайшоў солтыс. Васіль з Просяй і дзецьмі меліся вячэраць. Прося паставіла на стол гладышку свежага малака, талерку з леташнімі квашанымі гуркамі і збіралася даставаць з агню чыгунок

з бульбай. Дзецям зрабіла цюпку — накрышыла ў малако хлеба. Хрысан заходзіў да Платонавых рэдка, хіба толькі па справе, таму яго візіт заўсёды насцярожваў. У руцэ ён трымаў згорнутыя ў трубку газеты і яшчэ нейкія паперы. Не зняўшы з галавы шапкі, абыякава зірнуў на Васіля і зрабіў глыбакадумны выраз на твары.

— Ну, як ты тут? — спытаў замест прывітання і, не вытрымаўшы Васілёвага погляду, апусціў вочы. Апошнім часам солтыс пахмурнеў і настрой у яго, адчувалася, падупаў. У параўнанні з мінулым ён, як заўважылі прускаўцы, перамяніўся, не паказваў так, як раней, сваёй улады над вяскоўцамі і зрабіўся надта панылы, жыў у нейкім одуме, бесперастанку курыў, жадаючы, відаць, прыглушыць неспакойныя думкі і трывогі. Менш стараўся па службе.

— Вячэраць вось збіраемся, сядай да стала, — запрасіў гаспадар. — Бульба сопкая…

— Дзякуй! Не да вячэры мне — спраў шмат, клопаты. Пакуль паперы разнясеш, дык ногі саб’еш… — Солтыс глядзеў спадылба, як вол з-пад ярма. Пакалупаў пальцам у носе, правёў жоўтымі вачыма па сценах. — Клопаты!

— Вядома, клопатаў шмат, — паспачуваў Васіль, адчуваючы, як па шыі і па спіне нервова прабег халадок.

— Стаміўся я, браце, — уздыхнуў Хрысан, прысаджваючыся на лаўку каля сцяны, — а ніхто таго не бачыць, не зважае… З сіл выбіўся! Хоць разарвіся!

Дзіўна было чуць такое ад Хрысана, гэтак ён ніколі не разважаў, і цяжка было зразумець, куды ён хіліць і што надумаў.

Вядома, ад вяртання Саветаў ён нічога добрага не чакаў і вяртання баяўся. Немцы адступалі, апраўдваючыся тым, што спрамляюць лінію фронту, што гэта ім вельмі патрэбна. Спачатку Хрысан гэтаму верыў, але з часам перастаў. Асабліва працяла яго трывога, калі пачуў ад інфармаванага Мікіты Галёнкі: «Саветы ўжо, кажуць, у Баранавічах!» А потым нехта ляпнуў, што ўжо ў Пружанах. Не раз раіўся з сябрамі — Цішкам Пахолкам і Хвядзюшкам Шпунтам. Галовы, у аднаго і ў другога, моцныя. Нарадзілася сумесная думка…

Хрысан пакорпаўся ў сваім скрутку і выцягнуў адтуль зеленаваты аркуш.

— Табе тут папера ёсць з гміны, з Ратайчыцаў, ад Мандрашчака. Распараджэнне.

— Якое?

— А вось.

Васіль узяў паперу, якую яму працягнуў Хрысан. Ведаў, што нічога добрага яна не абяцала, хіба што зноў абклалі нейкім новым падаткам. Стаў чытаць. Адчуў, як упала сэрца. Мандрашчак, як звычайна, пісаў папольску. З паперы вынікала, што Хрысан ідзе ў адпачынак, а выкананне яго абавязкаў ускладаецца на Васіля Платонава. Прачытаўшы, Васіль паблядгнеў: «Што ж гэта такое?» Ён ажно рукі расставіў ад нечаканасці. Солтыс шморгаў носам і пазіраў кудысьці ўбок, потым сабе пад ногі, нарэшце загаварыў:

— Мне, ведаеш, адпачынак трэба. Сам разумееш. Ты ўсё ж такі маладзейшы, — сказаў ён, калі Васіль скончыў чытаць і падняў ад паперы галаву. — Улады паспытаеш, начальнікам пабудзеш. А мне з немцамі не сполка, ды я іх ніколі і не любіў.

Прося і дзеці — Віталік і Лёнік, якому ўжо было паўтара годзіка, — седзячы за сталом, насцярожыліся.

У Васіля ўнутры ўсё абарвалася, ён не мог стрымаць хвалявання. Мандрашчакова папера і словы Хрысана апяклі, як варам. Спрабаваў бараніцца:

— Дык у цябе ж наместнік ёсць — Міша Латушка. І людзі яго паважаюць. Разумны, разважлівы. Хай бы ён і выконваў тыя абавязкі, пакуль ты адпачнеш.

Хрысан пасміхнуўся:

— Які з яго солтыс? Баптыст — яго ніхто не слухае.

— Паслухаюць!

— Што ты мяне вучыш?

— Я не вучу, я так думаю.

— Як сабе хочаш, мая справа — сказаць!

Васіль успомніў, што ў апошні прыход казаў Афінагенаў, і адчуў, як на скронях пацёк раптам пот, перасохла ў горле. Хрысан зноў ледзь прыкметна ўсміхнуўся. Гэта была едкая зласлівая ўсмешка. Не ўсмешка, а ўхмылка. Васіль зразумеў, што яму прыемна бачыць яго нежаданне і страх.

— Давай выйдзем, — прапанаваў ён. Працягваць размову пры Просі і дзецях яму відавочна не хацелася.

Яны выйшлі на вуліцу і спыніліся ля грушы. Солтыс засмаліў цыгарку, дыхнуў дымам і насупіўся, пазіраючы сабе пад ногі, як гэта ён звычайна рабіў.

— Хрысан, — пачаў Васіль, — ты ж бачыш, колькі ў мяне дзяцей. Трое.

— Ну і што? І ў мяне дзеці. Шашу баранаваць я цябе не пасылаў? Не пасылаў.

— Дык мяне тады дома не было, я ж у Шчырчове быў!

— Не мае значэння, дзе быў. Важна, што шашу не баранаваў, а баранавалі Кухта з Мікітам. У Мікіты ж таксама дзеці, яшчэ болей, чым у цябе. Гэта дзяк — халасцяк, і яшчэ крык падняў. Я, кажа, тыя міны не ставіў, чаму я павінен іх даставаць?

Васіль адвярнуўся ў бок, нічога не адказаў, сцяўся. У Хрысана была свая логіка, якою ён карыстаўся.

— Чырвонаармеец у твайго айчыма жыў? Прыпіснік. Жыў. А куды ён раптам знік? Пра гэта я нікому не дакладваў, а калі б далажыў? Што б з айчымам было?

— Пыр пра гэта ведаў, прыязджаў.

— Прыязджаў… — Дык куды той прыпіснік дзеўся? Я не ведаю. Ты ведаеш? — У партызанах ён, не інакш.

Васіль паціснуў плячыма.

— Не палохайся, не бойся, солтыс — гэта не паліцай, — Хрысан зноў ухмыльнуўся, а потым раскаціста, як бы вельмі шчыра, засмяяўся. — Не вешай нос! Не пераймайся надта! Абыдзецца! Выконвай абавязкі, ды і ўсё. Да солтыса не прычэпяцца.

Васіль зразумеў, што будзе так, як спланаваў Хрысан, а дакладней, як параілі яму сябры — Пахолак і Шпунт.

— Ніхто цябе не зачэпіць — усё ж такі ты з Расіі. Сваіх яны чапаць не будуць! — суцяшаў ён Васіля. — А з народам трымайся строга, нікому не спускай! Як я!

Перадаўшы такім чынам свае абавязкі Васілю, Хрысан пайшоў, не азіраючыся і ўнурыўшы галаву.

Васіль вярнуўся ў хату.

— Ну, што? — сустрэла Прося. — Адмовіўся?

Ён уздыхнуў і бездапаможна махнуў рукой:

— Можна павіншаваць: солтыс!

— Ой! — жахнулася Прося. — Што ж цяпер?

— Праз тыдзень ці праз два прыйдуць Саветы і што будзе, не ведаю. Тады гестапа ледзь не расстраляла за тое, што быў начальнікам пошты, а цяпер энкавэдэ прычэпіцца.

— А можа неяк абыдзецца?

— Ну ўжо ж пабачым.

Пагаварыўшы з жонкай, ён кінуўся да маці.

Апошнім часам Фёкла нібы прадчувала, што нешта павінна здарыцца. Нешта непрыемнае. Днямі хадзіла хмурная, абыякавая да ўсяго, не мяла ў хаце, не мыла посуд.

Васіль прыбег прыцемкам, занепакоены.

— Мама, што рабіць?

— А што такое?

Сын расказаў, што адбылося.

Фёкла на пачатку проста разгубілася і не ведала, што і казаць, адно толькі вымавіла:

— Такі ён чалавек — гэты Хрысан, подлы, усіх хоча замараць.

Пачакалі Лявона, які пад вечар пайшоў на поплаў па траву, хацеў укасіць каню. Юша надта любіў свежую траву.

— Як жа цяпер быць? — не сунімалася Фёкла.

Прыйшоў Лявон, пакінуўшы пад паветкай мяшок і касу, зірнуў на пасынка:

— Нешта ты, Вася, змарнеў! Што з табою? Ці не захварэў часам?

— Не, я не хворы, але клопат ёсць.

— Што такое?

— Солтысам прызначылі! — апярэдзіла сына Фёкла.

Васіль расказаў, як у хату нечакана з'явіўся Хрысан і што ўрэшце адбылося. Лявон доўга церабіў патыліцу, але і ён не змог нічога парадзіць.

— Што ж рабіць? — Васіль заклапочана ўздыхаў, уставаў, сядаў, хадзіў, разгублены, па пакоі. Усё больш выспявала думка звярнуцца да Афінагенава, расказаць пра ўсё яму.

— Які сёння дзень?

— Панядзелак, — адказаў Лявон.

З упаўнаважаным пасля таго візіту ён яшчэ не сустракаўся — не прайшло яшчэ двух тыдняў. Дачакаўшыся серады, пабег на сустрэчу адразу ж пасля таго, як праляцелі самалёты і ён выпусціў дзве ракеты, паказваючы ім арыенцір.

Выгнанскі Луг, куды ён накіраваўся, недалёка — кіламетры тры, тры з паловай. Ішоў падбегам, узмежкамі, прымінаючы быльнёг, удыхаючы пах прывялага палыну. Побач, не адстаючы, бег, коўзаючыся па палыне, яго цень. Баяўся, каб хто не заўважыў. Ракетніцу схаваў пад каменем, абгарнуўшы анучай і травою.

Дайшоў да Бярэзіны і павярнуў улева. Пад нагамі рыпеў пясок. Мучыла смага, хацелася піць, але трэба было спяшацца. Вось, нарэшце, і Луг, і чорная сасна. Васіль спыніўся паводдаль, агледзеўся. Вясною і восенню, а таксама ў сырое лета тут стаяла вада. Цяпер Луг напалову высах. Вада адступіла на сярэдзіну, і яе месца заняў густы мурог. Адчуваўся водар мацярдушкі, якой тут было шмат. Звычайна яе збіралі жанчыны для прыгатавання лекаў.

Стаяла ноч. Паміж хмарамі жаўцеў месяц, быццам за кімсьці сачыў. У душы Васіль праклінаў гэтае здрадлівае святло, непажаданае ў такой сітуацыі. Нястомна таўклі мак камары. Навокал цішыня — нідзе нікога. У Бярэзіне закувала нейкая начная зязюля. Доўга цягнулася яе далёкае «ку-ку», і гэта яго

крыху супакоіла, ён яшчэ раз азірнуўся навокал, у прывіднае месячнае святло. За кустом лазы, каля чорнай сасны, нехта стаяў, тулячыся ад мігатлівага святла. Па постаці гэта быў не Афінагенаў. «Тады — хто? — насцярожыўся Васіль. — Магчыма, і ён мяне ўжо заўважыў...» Вырашыў прайсці міма, бокам, як бы кіруецца кудысьці па справе. Калі што, можна сказаць: «Іду да цесця». Дарога і сапраўды вяла ў Пакупчыкі, дзе жылі Просіны бацькі.

І ён выйшаў на дарогу, што бялела ў месячным святле, і, стрымліваючы хваляванне, рушыў па ёй, бакавым зрокам сочачы за незнаёмым, што стаіўся за лазовым кустом. Тварам адчуў ціхі подых ветрыку.

— Эй! — ціха паклікаў незнаёмы. — Мінутку!

Васіль спыніўся. Чалавек падышоў бліжэй.

— Вы не Платонаў?

— Ну?

— Вам прывітанне ад Івана Мітрафоравіча. Ён не змог прыйсці, заняты, і прыслаў мяне.

— Які Іван Мітрафоравіч?

— Той, хто сустракаўся з вамі два тыдні назад. Што ў вас чуваць? Гэта ваша работа — ракеты?

Васіль нічога не адказаў.

— Гэта добра. Працягвайце, але будзьце асцярожныя.

«Як быццам я без цябе не ведаю, што трэба быць асцярожным», — падумаў Васіль.

— Вы мяне не пазналі? Мінулы раз я быў з Іванам Мітрафоравічам у вас, у хаце. Хазяйка частавала капустай.

Васіль прыгледзеўся, аднак не пазнаў, але дзеля прыліку сказаў:

— А-а-а, дык гэта былі вы?

— Ну.

Яны колькі часу прастаялі моўчкі, нічога не гаворачы.

— Ну, што ж, калі ў вас нічога цікавага для Івана Мітрафоравіча няма, дык давайце развітвацца, — прапанаваў незнаёмы. — Я пайду.

І тут Васіль нарэшце рашыўся:

— Ведаеце, якая справа. Я трапіў у прыкрае становішча.

— А што такое?

— Ды солтысам мяне прызначылі.

— Солтысам у дзярэўне?

— Хрысан увесь час ім быў, ад самага пачатку, а цяпер мяне...

Сувязны хвіліну-другую думаў, а потым сказаў:

— Гэта некстаці. Нашто гэта вам?

— Дык што рабіць? Можа, да вас падацца?

— Да нас? — сувязны зноў задумаўся: пытанні, адно і другое, былі звыш яго кампетэнцыі, і ён асцярожна стаў казаць: — Як на мой розум, Васілій Аляксандравіч, дык трэба згаджацца на солтыса, хоць должнасць гэтая не харошая. Але мы цябе ведаем, ты нам дапамагаеш, і мы табе давяраем. Ніхто цябе не троне. Згаджайся! Я далажу Івану Мітрафоравічу.

— Я ўсё ж такі хацеў да вас падацца.

— А ты і так партызан. Толькі што не ў атрадзе. Гэта — па-першае. Па-другое, позна, парцізанка заканчваецца.

Недзе ў глыбіні Бярэзіны зарагатала сава.

— А хто пасля вайны паверыць, што я не здраднік?

— Нехта, я думаю, застанецца, засвідзецельствует. Усё далжно быць харашо. Не хвалюйцеся!

Пасля гэтай размовы яны развіталіся і разышліся ў розныя бакі. Прускавец крыху супакоіўся і зноў адчуў, як казытліва пахне мацярдушка. «Будзь, што будзе!» — падумаў ён.

Цьмяным срэбрам blішчэла на траве начная раса.

## X

Неяк у Прусцы з'явіўся Кузёмка. Як звычайна, завітаў да Кужалёў. Лявон пачуў, як скрабянулі па зямлі весніцы, і ўбачыў, як за вокнамі прасунулася Кузёмкава постаць. Кужалі, было, неяк згадвалі пра яго. «Нешта Кузёмку даўно не відаць?» — успомніў Лявон. — «Можа, хлопнулі дзе таго Кузёмку? — азвалася Фёкла. — Цяпер гэта нядоўга». Але, дзякуй богу, жыў-здароў.

— Ёсць хто? — пачулася з сенцаў. Кузёмка намацаў клямку, адчыніў дзверы.

У хаце знаходзіліся Лявон з Фёклай. Вясна ўжо скончылася, заставаўся тыдзень які да сенакосу, самы той час, пра які кажуць: зязюля падавілася ячменным коласам. Можна было крыху і перадыхнуць.

— Добры вечар у хату! — прывітаўся падарожны і паставіў ля дзвярэй ядлаўцовы кій, які быў пры ім.

Здзіўленыя нечаканым візітам гаспадары адказалі на прывітанне.

— Заходзь!

— Аднака, — уздыхнуў вандроўнік і павёў галавой, нібы нечаму здзіўляючыся. Зняў і павесіў на цвік магерку, тое ж самае зрабіў са світкай — расшпіліў драўляныя гузікі, таксама зняў і павесіў на сцяну. Не ўтрымаўся, дастаў з кішэні нейкую шмаціну, абмахнуў пыл з халяваў, боты заблішчэлі.

— Стаміўся? — спытаў Лявон, спачувальна аглядаючы госця.

— Не, — адказаў Кузёмка, падышоўшы да лаўкі пры сцяне. Сеў. Без адрыву пазіраў на Лявона, быццам бачыў у першы раз. — Мне не прывыкаць. Калі падумаць, дык я ўсё жыццё на нагах.

— Неапынны ты нейкі. Для цябе і вайны няма.

— Ёсць.

— Сядай бліжэй да стала! — запрасіла гаспадыня.

— Ну, што добрага скажаш? — пачаў гаворку гаспадар. — Што дзе чуваць?

Кузёмка перасеў да стала, зноў наставіўшы на Лявона свае бясколерныя, вылінялыя, як дзве вараныя гарошыны, вочы, у якіх можна было прачытаць і спачуванне, і нейкую няўцямнасць.

— Аднак! — здзіўлена вымавіў ён.

— Што гэта ты так глядзіш? Не пазнаеш? — Лявон прыгладзіў пасмачку валасоў над ілбом і, у сваю чаргу, паўзіраўся ў Кузёмку.

— То ты, аднака, яшчэ жывеш, бо я чуў, што цябе забілі. Аблаву, кажуць, рабілі. — У Кузёмкі вылецеў пярэдні зуб, і ён крыху шапялявіў, блытаючы свісцячыя і шыпячыя гукі.

— Жывы, як бачыш. Дык не адзін я стаяў перад тым кулямётам, усе стаялі. Як з таго свету вярнуліся…

— Хай Бог крые! — уздыхнула Фёкла. Успомніўшы ўсё, што было, яна міжвольна заплакала, закапалі з вачэй слёзы. Яна выцерла іх ражком хусціны, а потым далонню, шморгнула носам. «Нешта надта плаксівая я стала», — падумала яна.

— Нічога, — суцешыў Кузёмка, ткнуўшы пальцам кудысьці ўверх, — там залічыцца, там усё залічыцца!

Лявон зірнуў туды, куды ён паказаў пальцам, але нічога не сказаў, толькі ўздыхнуў.

— А Бог ёсць! — галавой і плячмі ўстрапянуўся госць, як бы яшчэ раз даказваючы сабе і іншым гэтую здавалася б даўно засвоеную і неабвержную ісціну. — Для таго, хто ў яго верыць, Бог, канешна, існуе. Ёсць! — удакладніў ён. — А хто не верыць, дык для таго, яснае дзела, няма! Вось як яно ўсё на свеце зроблена. Мудра!

Лявон з Фёклай слухалі.

— Гэта ж, Божа мой, пастаяць пад кулямётамі! — зноў жахнуўся госць і перахрысціўся.

— Ой, братка, не прымушай успамінаць, — прамовіў Лявон і таксама ўздыхнуў.

Кузёмка скрушна матлянуў галавой:

— Такога яшчэ не было.

Гаспадыня паставіла на стол кубак, наліла малака, адрэзала скібіну хлеба. Госць прысунуўся бліжэй да стала, пачаў есці. Фёкла прапанавала яшчэ і пшоннай кашы, якая засталася ад абеду.

— Гарачага я даўно не каштаваў, ужо каторы дзень усухамятку харчуюся, — шапялява паскардзіўся вандроўнік. — Аднака цярплю. Апошнім часам пячайка нешта прычапілася. Але што зробіш — кожны нясе свой крыж.

Фёкла паставіла кварту ўзвару з сушаных яблыкаў. Госць, не спяшаючыся, выпіў.

— Ну то дзякуй богу! — сказаў ён і, зірнуўшы на покут, шырокім жэстам перахрысціўся і павярнуўся да гаспадароў: — Хто шчыра дае, той удвая дае! Можа, калі залічыцца.

Назалялі мухі, якіх гаспадыня не паспела яшчэ вывесці, тнулі, не разбіраючыся — гаспадар ці госць. Лезлі адна на адну, спарваліся.

— Куслівыя! — непрыязна адмахнуўся Кузёмка. — Як нямецкія зеніткі.

— Ну, што чутно на белым свеце? — пацікавіўся Лявон, каб пачаць гаворку. Кузёмка звычайна нешта ды скажа. Навіны да яго так і ліплі.

— Саветы з-за фронту лётаюць Берасць бамбіць, станцыю.

— Пра гэта вядома, бо над намі якраз яны і лётаюць.

— Да самога Берасця часта не далятаюць, у Пугачоўскае балота кідаюць бомбы тыя. Зенітак баяцца.

— Што ж, усякае здараецца.

На сцяне цікаў, адлічваючы час, гадзіннік. Хто не стаіць на месцы — дык гэта час. Крочыць, мінута за мінутай.

Кузёмка працягваў:

— Пра нейкі другі фронт размовы ідуць, які быццам бы маюць адкрыць амерыканцы. Толькі ці адкрыюць? Нешта марудзяць надта. Выгадваюць. Могуць і не адкрыць.

Лявон прыслухаўся, што кажа госць. Раптам той ажыў, пажвавеў, бадзёра матлянуў галавой:

— Ідуць ужо Саветы! Блізка!

— І калі ж яны? — не ўцярпела Фёкла. — Калі?

— Ідуць! Хутка ўжо! — абвясціў Кузёмка. — Тады, пэўна, і вайне канец. Ой, напакуталіся, намучыліся!

— Яшчэ ж не ўсё…

— А што пасля вайны будзе? — уголас падумаў Лявон. — Што пасля вайны будзе? — паўтарыў ён. Вось бы дачакацца! Хоць пару гадкоў пажыць. Паразумнеюць жа людзі. Не можа быць таго, што было!

— Людзі выжывуць! — заверыў Кузёмка. — Але сэрцы будуць халодныя. І душы стомленыя, бо стамілася душа! Калхозаў, кажуць, не будзе.

— Добра было б, каб без калхозаў, — сказаў Лявон. — Усё адбяруць!

Начаваў Кузёмка ў Кужалёў, але ўстаў рана, сказаўшы: «Не люблю бакі адлежваць». Паснедаў і выбраўся ў дарогу.

* * *

8-га чэрвеня былі вызвалены Баранавічы.

Вогненны вал вайны набліжаўся да Прускі. Начамі чуваць было, як удалечыні, на ўсходзе, глуха грыміць. Немагчыма было адрозніць, ці то гром гудзе, ці гарматы бухаюць. Потым стала зразумела, што гэта працуе артылерыя.

Сітуацыя мянялася на вачах. Адступаючыя немцы, раз'юшаныя сваімі няўдачамі, маглі спагнаць злосць на кожным, хто трапіў ім пад руку. Дзяцей Васіль і Прося палічылі за лепшае адправіць у Пакупчыкі, да Просіных бацькоў. Пакупчыкі, як-ніяк, а далей ад гасцінца. Там надзейней — і лес бліжэй, і балота. Аднак праз нейкі час Прося забрала іх назад, у Пруску, каб трымаць каля сябе, быць разам. Фёкла, якая дапамагала нявестцы, ухваліла такое яе рашэнне.

У Прусцы гаспадарылі фашысты. Чакалі, што праціўнік будзе наступаць з поўдня, таму лінію абароны будавалі з усходу на захад, па правым беразе Лосьны. З дапамогай мясцовай адміністрацыі з усяго наваколля сагналі людзей, хто не паспеў схавацца, капаць акопы. Бурылі, разбіралі хлявы, клуні і падводамі вазілі бярвенні, рабілі накаты ў бліндажах. За наглядчыкаў былі Пыр і паліцаі — яго падначаленыя. У Прусцы забралі — у каго быў — увесь калючы дрот. Перад акопамі ставілі слупы і вешалі на іх гэты дрот — скруткамі, у некалькі ліній.

Спілавалі ўвесь Лявонаў сад, які займаў значную частку Крухмальні, павалілі ля сажалкі дрэвы, што стаялі нахіленыя над вадой, каб усё было навідавоку. Словам, рыхтаваліся да ўпартай абароны.

Прускаўцы таксама імкнуліся глыбей закапацца ў зямлю, ладзілі, па прыкладзе Оргія Відэркі, схроны. Гэткі ж схрон выкапаў за хатаю, у садзе, і Васіль, узвёўшы над ім нізенькі паддашак і накрыўшы дзёрнам. Дно заслаў саломай. Заставацца ў хаце не выпадала. Нанач усе, разам з дзецьмі, перабіраліся ў схрон. Тут надзейней і ад ліхога чалавека, ды і снарад не так пацэліць (усё ж такі акоп). Сядзелі ў ім, не распранаючыся. Гарматная страляніна прымушала ціснуцца да нізу, падаць на самае дно схрону.

Нямецкая артылерыя дзейнічала буйным калібрам, недзе за Шастаковам стаялі «фердынанды» і стралялі ў бок Відамлі і далей, дзе ўжо маглі знаходзіцца савецкія часці. Бухала раз за разам. Стралялі пастаянна — і днём, і ўначы, з невялікімі перапынкамі. Чутно было, як у вышыні, з хрыпам і шоргатам разрываючы паветра, ляцелі буйнакаліберныя снарады. Усе насельнікі схрону — Васіль, Прося і Віталік з Лёнікам — міжвольна прыслухоўваліся да гэтай страхотлівай музыкі. Адчувалася, што снарады вельмі вялікія, цяжкія, непаваротлівыя і куляюцца дзесьці пад самымі хмарамі, а можа, і вышэй. Але гарантыі, што які-небудзь не зваліцца адтуль, не было. Некаторыя снарады ляцелі з асаблівым выццём і скрыгатам, нібы незадаволеныя тым, што ім даводзіцца адольваць гэту адлегласць ноччу, калі навокал нічога не відаць. Здаралася, што нябачны ў вышыні, у начным цемрыве, снарад раптам завые асабліва прарэзліва, як вяпрук, якога прызначылі калоць, з енкам, нібы ляцеў не туды, куды хацеў, і зараз зачэпіць комін і разам з комінам абрынецца ўніз. У адказ глуха стагнала зямля, і гэта гняло, дзейнічала на нервы.

Узбуджанасць не пакідала, і спаць не хацелася. Бліжэй да раніцы пачулі, як нехта настойліва загрукаў у дзверы. Папрачыналіся, зашалясцелі, зашасталі саломай усе, хто знаходзіўся ў схроне.

— Адчыні! — загадваў чыйсьці голас за дзвярыма.

Васіль устаў, падняўся па крутой кароткай лесвіцы, адчыніў.

Гэта былі Свісціян з Маркелам. Лета, а яны, адзін і другі, у кажушках, падпяразаныя папружкамі, каўняры паднятыя, а шапкі ў абодвух насунутыя на самыя бровы.

— Не бойся, гэта мы, — сцішана супакоіў Свісціян. — Пазнаеш?

У гэтым «супакаенні» прагучала дрэнна прыхаваная пагроза. Абое былі, натуральна, пры зброі. Свісціян свой ППШ закінуў за плечы, а Маркел трымаў вінтоўку ў руках. Ад іх пахла тытунём, потам і самагонкай. Свісціян, як звычайна, быў нешматслоўны:

— Выйдзем! — загадаў ён, агледзеўшы ў поцемках схрон і абмацаўшы вачыма кожнага, хто ў ім знаходзіўся.

— Вось дзе ты схаваўся! Цёпленькае месцейка! А мы, ліха яго матары, жыццём рызыкуем!

— Ой, людкове, чаго вы ад яго хочаце? — загаманіла Прося, адразу кінуўшыся ў слёзы. — Ён нікому нічога дрэннага не зрабіў. Што ж гэта такое? Ой!

— Перастань! — зашыпеў Маркел. — Сціхні! Сціхні!

Пачуўшы нядобрую гаману і матчын плач, зарумзалі дзеці.

— Збірайся, пойдзем! — паўтарыў Свісціян. — Ты нам патрэбен. Ты ж цяпер солтыс?

— Прызначылі…

— Ну дык пагаворым! Не будзем траціць часу, пайшлі! — закамандаваў Свісціян і кіўнуў на лесвіцу. Вочы яго пачалі набракаць нейкім незразумелым шалам.

— А ты сядзі! — прасіпеў Маркел, маючы на ўвазе Просю. — А ў нас ёсць пра што пагаварыць!

Утрох — Маркел, за ім Васіль, апошнім Свісціян — яны па лесвіцы падняліся наверх і пасунуліся, куды паказаў Свісціян, — у бок царквы, што ў пышнай зеляніне дрэў цямнела на фоне яснага летняга неба. Абмінулі разложысты куст бэзу каля хаты, грушу. Перайшлі гасцінец, па другі бок якога стаяў тэлеграфны слуп. Чутно было, як гудзелі правады. На траву ўпала буйная раса, і ў начным сутонні яна здавалася сівой. Востра пахла крапіва. Да твару са звонам ліплі камары.

— Хутчэй! — прыспешваў Свісціян. — А то развіднее, а мы ўсё яшчэ валаводзімся.

Прайшлі па дарожцы, што вяла да царквы. Гэта была алея, абсаджаная таполямі. Узняліся на пагорак і наблізіліся да складзенай з каменняў агароджы. І тут пачалося неверагоднае, чаго Васіль ніяк не чакаў.

— Стой! — Свісціян зняў з пляча ППШ, адцягнуў затвор і спытаў у заклапочаным одуме: — Дзе ж цябе паставіць? — Паказаў на месца каля агароджы: — Стань там!

«Гэта ж яны ці не расстрэльваць мяне збіраюцца! — мільгнула ў Васілёвай галаве. Ад страху залекацела сэрца. — Усё! Апошнія хвіліны жыцця…» Ён спыніўся, павярнуўся да сваіх канваіраў, адчуўшы, як памлелі калені. «Хаця б не ўпасці…» Канваіры, адзін і другі, мелі пахмурны выгляд.

— Папаўся! — хрыпла, прыдушаным голасам загаманіў Свісціян.

— Чаму — папаўся? Я ні ад каго не ўцякаў. І зла нікому не зрабіў…

— Сказана: паслугачоў нямецкіх убіраць! — напудзіўся на сваю ахвяру Маркел і таксама наставіў зброю.

— Я ж табе, ліха яго матары, абяцаў, што палічымся! — выціснуў з сябе Свісціян, пагардліва звузіўшы вочы. — Што, не помніш?

— Тады ты ў мяне ўсё з хаты вынес, а цяпер забіць хочаш?

Відаць было, што напамін пра леташні візіт Свісціяну не спадабаўся.

— Помніш нашу размову, калі ты зямлю ад немцаў узяў? А я цябе папярэджваў!

Васіль паглядзеў свайму непрыяцелю ў вочы, вялікія і нерухома дрымучыя.

— А дзяцей хто будзе карміць? Іх у мяне трое. Ты?

— За дзецьмі схавацца хочаш? — Свісціян, трымаючы аўтамат у левай руцэ, правай штурхнуў Васіля ў грудзі, і той прываліўся спінаю да агароджы. — Не ўдасца!

— А душа ў цябе ёсць!

Свісціян яшчэ болей нахмурыўся, пазмрачнеў.

— Душа ў мяне лясным мохам абрасла.

— Афінагенаў сёння ж будзе ведаць, калі ты гэта зробіш! За мяне ён не даруе!

Глыбокі шрам на Свісціянавым ілбе надуўся і наліўся чырванню.

— А ты і Афінагенава ведаеш? Эйш ты яго!

— А ты як думаў? І не толькі ведаю, але і знаюся! — Васілёў голас дрыжэў і зрываўся.

— Ну, ты спакайней, не выдумляй! — азваўся Маркел, шмаргнуўшы носам. — Выдумляць пачаў.

— Ого! — Свісціян глянуў на Васіля, быццам не пазнаючы, хто перад ім стаіць. Цюкнула думка праверыць, ці праўду ён гаворыць: — А завуць яго як?

— Іван Мітрафоравіч, калі не ведаеш! Глядзі, ён табе не даруе! Загрыміш следам за мною.

— Ведае! — здзівіўся Маркел.

Гэты прыход Свісціяна быў яго асабістай ініцыятывай, і ён пашкадаваў, што не ўзгадніў яго з упаўнаважаным.

— Эйш ты яго! — зноў паўтарыў Свісціян. — А чаму, ядрона вош, у партызаны не ідзеш, у строй не становішся? Асабістага запрашэння чакаеш?

— А можа, я стаю ў тым страі яшчэ раней за цябе.

— Не раней! — уступіўся за сябра Маркел.

Зноў загаманіў Свісціян:

— Глядзі ў мяне! А то будзе, ліха яго матары, як з тым «аўстрыйцам»! Я жартаваць не люблю. — Ён закінуў за плячо свой ППШ і злосна плюнуў.

Васіль зірнуў на Маркела:

— А ты Божык? Так?

— Ну, Божык. А якая табе справа? — адказаў той і таксама перакінуў на плячо вінтоўку.

Час быў аднаму і другому пускацца ў дарогу.

— Замудохаліся мы тут з табой! — злосна дадаў Божык.

— Пайшлі! — загадаў Свісціян напарніку, і яны шырокім крокам рушылі ў бок могліцаў і хутка зніклі за прыдарожнымі вішнямі.

Васіль, бледны, знясілены, амаль непрытомны, усё яшчэ стаяў на тым самым месцы, ля агароджы, адчуваючы сябе так, нібы вярнуўся з таго свету. «І ўсё ж такі не даўся. Жывы, дзякуй богу. Ад немцаў адбіўся і ад сваіх таксама…»

Скрозь ранішні морак заўважыў на гасцінцы разгубленую Просю, якая разглядалася па баках, шукаючы яго. «Добра, што яна не бачыла». Ціха паклікаў:

— Прося…
— А я думала, што ты з імі пайшоў, у лес…
— Не, не пайшоў…
— А запрашалі?
— Не, не запрашалі.
Прося няўцямна пазірала на мужа.
— Вася, што з табой? Ты ўвесь калоцішся!
— Ледзь на той свет не адправілі…
— Ой! Хай яго нагла возьме — Свісціяна таго! Бандыт! — Яна прынікла да мужа, абняла і павяла дадому.
Ён ішоў спатыкаючыся.

## XI

З пачатку чэрвеня атрад імя Ушакова выконваў заданне палкоўніка Сцяпана і Антыфашысцкага камітэта не прапускаць нямецкія часці, што адступалі пад націскам Чырвонай Арміі. Заданне не з лёгкіх. У немцаў на ўзбраенні танкі і гарматы. Гэта былі хоць і патрапаныя, але часці рэгулярнай арміі. У партызан у асноўным стралковая зброя, пры гэтым з надта абмежаваным боезапасам, ды яшчэ гранаты. Партызаны адкрывалі агонь па асобных групах фашыстаў, але тыя ўвязваліся ў бой неахвотна, часцей ухіляліся, разгрупоўваліся і адыходзілі ў лес.

Праз нейкі час у атрад да ўшакоўцаў прыбыла армейская разведвальная група на чале з капітанам Скакуновым. У многіх разведчыкаў на гімнасцёрках з левага боку віселі медалі, і ва ўсіх з правага боку палымнеў знак «Гвардия». Сустракалі іх радасна, з прыўзнятым настроем. Нехта не вытрымаў, гукнуў:
— Ур-ра!
— Ур-ра-а! — падхапілі астатнія.
Камандзір з камісарам сабралі атрад. Партызаны з усіх бакоў абступілі доўгачаканых гасцей.
— Гоцаць! Гоцаць! — пачуліся галасы.
Падкінулі ўверх капітана Скакунова і іншых.
— Ну як вы тут? — пыталіся госці. — Не прыціснулі немцы?
— Прыціснуць нас не проста! — хваліўся камісар Пятро Мачалаў. — Мы самі, каго хочаш, прыціснем!
— Не проста! — падтрымалі камісара партызаны.
— Арлы! — падхвальвалі армейскія.
— Ну, хлопцы, — гаварыў, як бы куражыўся, адзін з прыбыўшых чырвонаармейцаў, па ўсім відаць весялун і закапёршчык, душа кампаніі, — як толькі Беларусію ачысцім, адразу ж усіх — у Крым. Гады на два — адпачывай! Віна, дзяўчат будзе пад завязку! — ён правёў далонню ў сябе пад носам. — Ужо нядоўга засталося.
Хто верыў, хто не верыў, але чуць такое было прыемна.
— Паляскалі зубамі, — сказаў Грышка, — і ад холаду, і ад голаду.
— Пасля вайны жыццё будзе добрае! — згадзіўся Калеснікаў. — Эх! Столькі выцерпець і ў жывых застацца — гэта неверагодна! — дзівіўся ён. — Значыць, нехта нас чакае! Нехта застаўся!
Санька Растатуеў, як і астатнія, згаджаўся, але больш маўчаў, думаў пра нешта сваё. З усходу даносілася артылерыйская кананада, чуліся выбухі, цяжкі дых наступаючых і адступаючых.

Атрад пастроіўся ў дзве шарэнгі пры поўным баявым рыштунку і амуніцыі, якая ў каго была. Камандзір абвёў вачыма сваіх падначаленых, павярнуўся да капітана Скакунова і, не адрываючы рукі ад казырка фуражкі, па-ваеннаму далажыў, што атрад пастроены. Слова ўзяў капітан Скакуноў. Гэта быў каржакаваты мужчына з загарэлым на сонцы тварам, на гімнасцёрцы пазвоньвалі медалі, пры баку кабура з пісталетам.

— Немцы адступаюць, і вельмі хутка, — сказаў ён прыўзнятым тонам. — Таварышы, вы павінны быць гатовы да ўзаемадзеяння з наступаючай Чырвонай Арміяй! Канкрэтную задачу паставіць перад вамі ваш камандзір таварыш Гарланаў. Я толькі так скажу. Выганім немцаў з Беларусіі, а тады на захад пойдзем дабіваць! Пойдзем, таварышы? Як?

Пытанне было нечаканае, таму стройнага адказу не атрымалася. Выручыў камандзір:

— Так точна, пойдзем, таварыш капітан! — адказаў ён і распарадзіўся падзяліцца на дзве групы. Адну ўзначальваў камісар, другую — ён сам.

— Нам загадана, — працягваў ён, — сустрэць перадавыя часці Чырвонай Арміі на падыходзе да населенага пункта Навіцкавічы! Дзе гэта знаходзіцца, вы ведаеце. Пойдзем па маёй камандзе.

Кожная група падрыхтавала чырвоны сцяг, з якім павінна была выйсці насустрач.

— А нам куды? — запытаў Маркел, не ўцяміўшы, у якую групу ён трапіў.

— Мы з табой і Калеснікаў з камісарам пойдзем, мяне трымайся! — тлумачыў яму абстаноўку Свісціян. — Разам з намі Растатуеў і колькі чалавек яшчэ.

Разведчыкі рушылі на захад, а партызаны на ўсход. Спачатку ішлі лесам, затым выбраліся на поле. Бульба ўжо адцвіла, толькі на некаторых корчыках віднеліся яшчэ запозненыя бялявыя кветачкі. Палавела жыта, збіраючыся наліваць колас.

Група на чале з камісарам, у якой разам з іншымі знаходзіліся Калеснікаў, Санька Растатуеў, Свісціян з Маркелам, Непагодзін, спынілася на ўскрайку лесу за Навіцкавічамі. Ужо добра ўмерклася, але ніхто не спаў. Недзе за начным даляглядам пульсавалі ўспышкі далёкага святла, чулася натужнае дыханне наступаючага фронту.

На досвітку на прасёлачнай дарозе ў напрамку Камянца паказаліся танкі. Іх было тры. Раздаліся галасы:

— Таварыш камісар! Танкі! Танкі!

Адразу цяжка было зразумець, чые яны. Савецкія ці, можа, гэта адступаюць фашысты, і Мачалаў распарадзіўся падрыхтаваць гранаты. Між тым машыны набліжаліся, і на пярэдняй, на вежы, можна было ўбачыць чырвоную зорку і нейкі надпіс белаю фарбаю.

— Дык гэта ж нашы! — гукнуў Бокша. — Нашанскія!

Узняўшы чырвоны сцяг, насустрач ім пайшлі адразу некалькі чалавек.

— Т-34! — радаваўся Бокша. — Я сам танкіст!

— Якаў Ксенафонтавіч, узначальвай! — загадаў Мачалаў. Разам з Калеснікавым пайшло яшчэ некалькі чалавек, у тым ліку і Санька. Пэўна, танкісты заўважылі пасланцоў, бо машыны раптам пачалі збочваць з дарогі і рухацца ў напрамку да іх.

На танках — цяпер ужо можна было разабраць — сядзелі, учапіўшыся за браню, вайскоўцы. Гэта былі матастралкі-дэсантнікі, узброеныя аўтаматамі. Апранутыя ўсе ў прамасленыя ватнікі, на пілотках — чырвоныя зорачкі. Танкі з ходу, рэзка спыніліся, дыхнуўшы чорным дымам і хіснуўшыся сваімі магутнымі зялёнымі тулавамі.

— Ух ты! — падзівіліся партызаны. Цяпер можна было прачытаць і надпіс на вежы: «Вперёд! За Родину!»

— Хто вы такія? — сурова запытаў дэсантнік, што сядзеў ля гарматнага ствала з сяржанцкімі лычкамі на пакамечаных пагонах.

— Партызаны мы! — у адзін голас азваліся Калеснікаў і Непагодзін. — Вас сустракаем! Здарова, таварышы!

У гэты час падбеглі астатнія, партызаны перамяшаліся з вайскоўцамі, пачаліся сяброўскія абдымкі, пачуліся радасныя воклічы. Жарты. Гэта была разведгрупа на танках, якая накіроўвалася на захад, у бок Брэста. Падышоў Мачалаў.

З брані саскочыў невысокі ростам блакітнавокі дэсантнік, з аўтаматам, падбег да Калеснікава:

— Пазнаеш?

Калеснікаў паглядзеў на незнаёмага.

— Бонк?

— Ён самы.

Яны абняліся.

— Фартуна! — радаваўся Бонк, абдымаючы сяброў.

— А Храбрых? — спытаў Калода.

— Загінуў, пад Баранавічамі.

— Таварышы, хто знает меснасць? — звярнуўся да партызан афіцэр-танкіст з зорачкамі на пагонах, мабыць, камандзір. Твар абпалены — адзнака танкісцкага лёсу.

— Ведаем! Можам дапамагчы! — запэўніў камісар. — Мы тыя мясціны ведаем.

Афіцэр з абпаленым тварам папрасіў выдзеліць людзей. Камісар звярнуўся да сваіх, шукаў добраахвотнікаў.

— Хто? Дабравольцы ёсць?

Вызваліся Калеснікаў і Свісціян. Са Свісціянам, зразумела, Маркел. Не пажадаў адставаць Бокша і некаторыя яшчэ.

— Мяне, вазьміце мяне! — закрычаў Санька ў надзеі, што недзе наперадзе будзе Пруска. А калі так, дык, можа, пашанцуе ўбачыцца з Маняшай. Нават думка з’явілася: «Хай убачыць мяне на танку!» Апошнім разам, з месяц таму, калі ён на некалькі хвілін заскочыў у Пруску (было па дарозе), яна неяк жартам нават папракнула: «Што гэта ты цалавацца развучыўся? Можа, ужо не кахаеш? Можа, мінула каханне тое?» — «Не, не!» — горача запэўніў ён, адчуваючы смак яе салодкіх вуснаў. Потым збегала, прынесла паесці.

— Мы ўсе дабравольцы! — сказаў Калеснікаў. — Акажам дапамогу! Рабяты надзёжныя, абстрэляныя!

Афіцэр дастаў планшэт, пачаў знаёміць з картай-двухвёрсткай.

— Гляньце на карту! Мы рухаемся па гэтай дарозе: Камянец—Мікалаева—Ліпна—Пруска—Ратайчыцы… На Астрамечава і Лышчыцы! А можа, і далей!

— Зразумела! — запэўніў Калеснікаў, а Санька, пачуўшы пра Пруску, узрадаваўся яшчэ болей.

— Дзе ў яго ўмацаванні на гэтым напрамку?

— Ля Прускі ён, ліха яго матары, добра акапаўся! — сказаў Свісціян, шырока раздзімаючы ноздры. — Там у яго на мастку скапленне будзе. Рэчка! Дарогу я ведаю. Я там быў! Я…

— Не гарачыся! — прыпыніў яго сябар, бачачы, што той завёўся на поўныя абароты.

— Давайце на браню! — загадаў афіцэр. — Па-быстраму! Давай! Адна нага здзесь, другая — там! — Дадаў нібы жартам — У арміі загады выконваюцца бягом. Цяпер вы — армейскія!

Калеснікаў з Санькам, ступіўшы на гусеніцы, палезлі на пярэдні танк, за імі, не жадаючы адставаць, Свісціян і Маркел. На іншых машынах апынуліся Непагодзін з Ціхаміравым, Кубартаеў, Храбрых… Больш за дзесяць чалавек паселі на танкі, далучыўшыся да дэсантнікаў. Калеснікаў з Санькам умасціліся паперадзе, каля гарматы. Дэсантнікі пасунуліся, вызваляючы ім месца. Некаторыя закурылі.

— Ну, у добры час! — памахаў рукою Мачалаў.

— Увідзімся! — адказаў яму Санька.

— Калі жывы застанешся, — буркнуў сабе пад нос Маркел.

— Хлопцы, усё будзе, як у аптэцы, мой «дзягцяр» не падвядзе! — падбадзёрваў сяброў Калеснікаў.

Танкі адзін за адным крануліся з месца, павярнулі і пачалі набіраць хуткасць. Гналі праз Замасты, Мікалаева і спаленую Ліпну. Уз’ехалі на Бабіцкую гару. Бабіцкая гара — крутая, стромкая, ледзь не перавярнуліся, прынамсі, Свісціяну гэтак здалося.

— Будзем жывы — не памром! — пажартаваў Санька.

Маркел крэпка ўчапіўся за гарматны ствол.

— Не прывычны я да гэтага жалеззя! — скардзіўся ён. — Але што зробіш!

— Яно і відаць, — пацвельваў з сябра Свісціян, — сядзіш, як сабака на плоце.

Дэсантнікі рагаталі.

— Быццам бы ты інакш сядзіш! — знайшоў, што адказаць, сябар, назіраючы, як Свісціян пару разоў стукнуўся галавой аб ствол гарматы. — Затое з танкам ужо нішто не страшна! Тут ужо ніякая халера не возьме!

— Не люблю пустых разгавораў, — крыкнуў, перасільваючы напружанае гудзенне матора, Калеснікаў.

Адолеўшы Бабіцкую гару, танк раптам спыніўся, накрыўшыся воблакам пылу. Адчыніўся люк, і паказалася галава камандзіра:

— Ёсць загад па радыё павярнуць на Высока-Літоўск! — гукнуў ён, здымаючы шлемафон. — Як лепш туды праскочыць?

Калеснікаў і Свісціян адразу ж паказалі направа, на дарогу ўздоўж Бярэзіны.

— Да Шастакова, а там і Высокае! — крыкнуў Свісціян. — Давай, ядрона вош!

Люк зачыніўся, і танк, раскідваючы зямлю, рэзка развярнуўся і імкліва рушыў у напрамку, які паказалі партызаны. Ад першай машыны не адставалі астатнія.

— Замарыўся пыл глытаць, — адплёўваючыся, выгукнуў Маркел, але яму ніхто нічога не адказаў. Хутчэй за ўсё, што не пачулі.

Праз нейкі час застаўся ззаду лясны масіў Бярэзіны, адолелі нейкую тваністую балацявіну, праехалі Бугамле, Свішчова, Царкоўнікі, наперадзе былі Шастакова і Шастакоўскі Двор. Іх мінулі, таксама не спыняючыся.

Убаку апынулася і Пруска, а разам з ёю і Маняша, і такі паварот справы засмуціў Саньку і пазбавіў вясёлкавай надзеі, якою ён сябе цешыў. Хлопец пазмрачнеў.

Па гасцінцы негустымі кудлатымі зданямі клубіўся туман. Ён і паспрыяў таму, што пад Мінкавічамі напароліся на нямецкую пешую калону. Немцы

арганізавана ўдарылі з кулямётаў, і дэсантнікі ў адно імгненне на хаду пачалі саскокваць з брані, мітусліва адбягаць у бакі і шукаць дзе б схавацца ад куль. Разам з усімі саскочылі і Свісціян з Калеснікавым, за імі Санька, Кубартаеў, Непагодзін, Бокша. Саскочыў Грышка. Апошнім на танку застаўся Маркел. Трымаўся за гармату і разгублена азіраўся па баках, не рашаючыся расстацца з гэтым жалезным стварэннем, ад якога чакаў абароны. Вачыма шукаў Свісціяна.

— Скачы! — крыкнуў яму сябар, але Маркел чамусьці заўпарціўся, а можа, проста разгубіўся. Танк раз і два крутнуў вежай, выбіраючы, пэўна, куды стрэліць, матлянуў ствалом, і Маркел не ўтрымаўся, страціў раўнавагу, а ў дадатак яшчэ і паслізнуўся на прамасленай брані, і няспрытна скаціўся на дол. Свісціян з Калеснікавым ляжалі непадалёку і ўсё бачылі, але дапамагчы ўжо не было як.

— Не ўтрымаўся, пад гусеніцу і паляцеў! — скрушна пахітаў галавой Калеснікаў. — Эх, шкада-а!

— Дурань, ліха яго матары, але ж мазгі не ўставіш! — па-свойму адрэагаваў на тое, што адбылося, Свісціян. — Можа, яшчэ жывы? Але ж так бразнуцца! — Ён пакруціў галавой. — Гэта трэба ўмець.

Што ўрэшце сталася там з Маркелам, ніхто ўжо не глядзеў. Ды і не да таго было. Немцы ціснулі з усіх бакоў. Хто мог падумаць, што такое здарыцца! «Эх, дарэмна я ў гэта дзела ўвязаўся! — дакараў сябе Свісціян. — На танк узлез! Дурань! Але Маркел…

Калеснікаў азірнуўся. Паблізу, прыціскаючыся да зямлі, ляжалі людзі. Тут, на гэтай адкрытай, лысаватай мясцовасці ў спешаных дэсантнікаў і партызан можна было страляць, як у зайцоў.

— Паўзіце туды! — Калеснікаў паказаў рукою ў бок старой, перакошанай клуні, што адзінока стаяла каля высокай сасны. — Туды!

Усе, прыгінаючыся, кінуліся да гэтай клуні і занялі кругавую абарону. Сюды ж, даўшы задні ход, падышлі і танкі, дапамагаючы гарматным і кулямётным агнём.

— Halt! Nicht schissen![1] — чулася з нямецкага боку, але ніхто не звяртаў на гэта ўвагі.

Калеснікаў прылёг за вуглом, яго «дзягцяр» працаваў кароткімі чэргамі. «Смелы, не баіцца!» — падумаў пра яго Санька Растатуеў, які знаходзіўся тут разам з усімі, і таксама злавіў на дрыжачую мушку нейкую шэрую постаць і даў чаргу. Постаць паваліласяся.

Немцы былі добра, па-франтавому, узброеныя, пачалі абстрэл мінамёты. Бліснулі выбухі мін. Міны рваліся, з шумам і свістам рассыпаючы асколкі і прымушаючы ніжэй угінаць галовы. Хтосьці застагнаў на ўвесь голас. Дастала, відаць, куля ці асколак.

Становішча ўскладнілася яшчэ больш. Падышла, рухаючыся з усходу, калона нямецкіх танкаў. Танкі павярнулі гарматы і ўдарылі па клуні, якая адразу ж загарэлася. Загарэўся і адзін з савецкіх танкаў. Становішча пагаршалася. Куляй скасіла Грышку Пішчыка. Санька ўбачыў, як каля танка прыўзняўся і ўпаў Бонк. Успомніў яго любімае слоўца «фартуна». «Пэўна, забіла «фартуну» ці параніла, але чым дапаможаш!» Да Калеснікава падпоўз дэсантнік з сяржанцкімі лычкамі на пакамечаных пагонах.

— Што будзем рабіць? Абараняцца?

«Тут ужо няма выкруту!» — падумаў Свісціян і ліхаманкава зірнуў на Калеснікава, жадаючы пачуць, што ён скажа. Чакаць хуткай дапамогі не

---

[1] Стой! Не страляць! (*ням.*)

даводзілася, трэба было неяк ратавацца самім. Востры на думку і смякалісты, Калеснікаў, здавалася, мог знайсці выйсце з любога становішча. Так павінна было быць і на гэты раз. Вось ён трапна пацэліў у назіральную шчыліну танка, шчодра паліваючы яе доўгім свінцовым струменем, які дастаў, відаць, вадзіцеля, бо машына крута павярнулася, падставіўшы пад агонь свой бок, і спынілася. «Але ж і можа! — падумаў Свісціян. — Куляю танк спыніў!»

— Скажы дэсантнікам, каб падцягваліся сюды, будзем прарывацца! — пачуўся голас Калеснікава.

Сяржант-дэсантнік перадаў каманду па ланцужку, не забыўшы пры гэтым крэпка мацюкнуцца, і да іх адзін за адным сталі падпаўзаць дэсантнікі, а таксама ацалелыя танкісты. Скарыстаўшы замінку, немцы падняліся на ўвесь рост і, ашчацініўшыся аўтаматамі і не спыняючы страляніны, пачалі набліжацца да клуні. Адну з груп у дзесяцьдванаццаць чалавек узначальваў, аддаючы рэзкія каманды, афіцэр у кароткаполым шынялі з пісталетам у руцэ.

— Падрыхтаваць гранаты! — скамандаваў дэсантнік з лычкамі на пагонах. — Давай!

Дэсантнікі і партызаны, хто меў, шпурнулі гранаты.

— Упяро-од! — гукнуў Калеснікаў. — За мной!

Яго ахапіў нейкі азарт. Ён рыўком падняўся і кінуўся якраз на гэтую групу, не цэлячыся, паласнуўшы па наступаючых з «дзегцяра».

— За мной! — зноў крыкнуў Калеснікаў і даў кароткую чаргу. І тут нешта здарылася. У руку штурханула, і ён адчуў, як ад локця ўніз паплыло нейкае вільготнае цяпло, але звяртаць на гэты ўвагі не было часу.

Свісціян стараўся не адставаць ад Калеснікава, верыў у яго ўдачу і нават не падумаў пра што-небудзь дрэннае, калі згледзеў, як той упаў. Упаў, як падкошаны. Свісціян прыгінаючыся кінуўся да Калеснікава, прылёг побач, пачаў тармасіць за плечы, потым павярнуў на спіну. Калеснікаў намагаўся нешта сказаць. З вуснаў, з самага куточка, выплыў струменьчык крыві. Навокал ляжалі забітыя, нагадваючы пашкуматаную і пакамечаную груду старога, вывалянага ў пяску адзення. Свісціян паспрабаваў адцягнуць параненага ўбок, дзе ляжаў урослы ў зямлю вялізны камень, і ўсперці на гэты валун.

— Нап-пішы маім! — пачуў Свісціян, і паранены глуха захроп. Стала жудасна да ўтрапення. Такога страху Свісціян яшчэ ніколі не перажываў. Ён быў у роспачы. «Усё добра складвалася, і ў адначассе ўсё перамянілася!» Над галавою зноў густа засвісцелі кулі, і ён, не даслухаўшы Калеснікава, прыгнуўся, падхапіў зброю і кінуўся шукаць паратунку. За купінай на некага спатыкнуўся. Не хацеў, але міжвольна спыніўся, прыгледзеўся і пазнаў Растатуева Саньку. Павярнуў тварам дагары. Санька быў ужо мёртвы, куля трапіла ў грудзі…

***Працяг будзе.***





## Алесь КАМАРОЎСКІ

### * * *

Такі жыцця закон суровы...
Хто вінаваты, а хто правы?
Бывае, справу вершаць словы,
А ход падзей рашаюць справы.

У параўнанні пазнаём мы:
Набытак гэта ці мо страта?
Бывае, сябра ці знаёмы
Радней становіцца за брата.

Былых памылак не закрэсліць,
Іх бег — імгненны, непапраўны…
Ды каб найлепшае уваскрэсіць,
Вяршы з дабром заўсёды справы.

Цані жыццё і дзякуй Богу
За дзён узвіхраную замяць,
І, можа быць, тваю дарогу,
Праз многа год азорыць памяць.

### СУСЕД

У маім акне —
Абрысы коміна,
І сусед,
Падобны на коміка,
Лазіць па даху...
Можа, ад страху,
А можа,
Заблудзіўся дым...
Ён яшчэ малады,
Грыбнік, жартаўнік,
Не жанаты...
Ды ўсё-ткі
Жыццё наступае на пяты...
Праз пару гадоў —
Пенсія,
А ў яго у душы —
Песня...
Хаця
Для жыцця,
Хто ведае,

---

***Камароўскі Аляксандр Адамавіч*** *нарадзіўся 1 сакавіка 1947 года ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1970). Служыў у Савецкай Арміі, працаваў на Беларускім тэлебачанні, у часопісе «Маладосць», у выдавецтве «Юнацтва», у часопісе «Вясёлка», у філіяле музея Якуба Коласа ў Смольні.*

*Аўтар паэтычных кніг «Пачатак» (1975), «Зямля маіх надзей» (1988), «Валошкі памяці» (2002), «Азбука жыцця» (2010), аповесцей для дзяцей «Адкрытая тайна» (1979), «Заварожаны мяч» (1989), «Пенальці» (2000).*

Што ў яго на душы...
Можа, хвароба
Вантробы душыць,
Тады бараду не паголіш,
А ён:
«Мяне не дагоніш...» —
І бяжыць, бяжыць... —
Неяк жа трэба жыць.
Паможа заўсёды ў бядзе,
Бо сэрца яго —
Не лядзень.
Да ўсіх старажытных багоў
Чую малітву яго:
«Мілы,
Мой родны лес,
Каб не высах ты,
Не аблез,
Ягад мне дай
І грыбоў,
І будзе ў мяне любоў!»
Лета цяплом шчыруе,
Фарбамі чэрвень чаруе...
А ён, як на плаху,
Ступае па даху,
Здаецца, яшчэ малады
На гады...
Толькі у скронях
Заблытаўся дым...

## ВОСЕНЬСКІ ЭЦЮД

Упаў жалудок
З галінкі дубовай,
Такі,
Як баравічок
З барвовай дубровы,
І восень-цыганка
Ранкам,
Як калісьці,
Над ганкам
Бліснула ў лісці
Залацістай цыгаркай.
На вяроўцы вялізнай
Не сохне бялізна:
Туман-атаман
Вельмі
Яе адбельвае доўга,
Як вэлюм.
Месяц
Хмары раскідвае рогам...
Смуткуе дарога
Да храма, да Бога.
Поле
Ніхто не поле,
Паўстала, як прывід,
Зелле...
Унукі
Ў кватэрах паселі,
Ім бы — вяселлі,
Ім сёння — воля,
Камп'ютарнае раздолле...
Трызніць горка
У торбах
Насенне...
Падстрыглі камбайны
Пожні...
А будзе
Лісток апошні...
Некалі ён сарвецца.
Быццам прыроды сэрца...
А я,
Правёўшы лета,
З марай няспетай,
З пачатаю песняй
Буду чакаць прадвесня.

* * *

Успамінаў з днямі — болей...
Колькі іх, удач-няўдач?
Ды часамі сніцца поле,
А на ім — футбольны мяч.

І нічога не забыта,
Покуль дыхаеш, жывеш.
Колькі іх, галоў, забіта!
І прапушчана не менш...

Забівалі — як спявалі,
Радасць — музыкі ключом!
Ды усё ж не забывалі
Незабітых тых мячоў.

Тых мячоў, галоўных самых,
Што вяршылі б, можа, лёс...
Вінаваты, пэўна, самі,
Ці рашалася з нябёс...

Шмат жыццёвых паваротаў —
Колькі радасці і мук?
Б’е з размахам па варотах
І смяецца мой унук.

## ЖЫЦЦЁ

Пачатак бярэ рака
З крыніцы цяністай,
Рака — як пачатак рыўка,
Гэта — маё дзяцінства.

Мінаючы выдмы, віры,
Яснее калі, шарэе,
Стужкай плыве праз бары
І неўпрыкмет шырэе.

Рве крыгаломы вясной,
Каб вольнай застацца...
Рака з маіх светлых сноў —
Гэта маё юнацтва.

Разводзіць далей берагі,
Грузы трымае, трывае...
Як прыпамін дарагі,
Сталасць мая праплывае.

Шырэе, глыбее рака,
Шукае адвечнае выйсце...
За небакраем рука
Адчуе аднойчы вусце.





**Віктар СУПРУНЧУК**

# МІТУСНЯ

*Аповесць*

## *Раздзел першы*

Я гартаў адну ўплывовую расійскую газету, бегма праглядваў артыкулы пра багатых спартсменаў, артыстаў, а пасля мае вочы раптам натрапілі на невялічкае інтэрв'ю аднаго з маіх знаёмых пасля яго наведвання Амерыкі. Ён, дзеяч ад культуры, расказваў пра сустрэчы з эмігрантамі, некаторыя з іх, па яго словах, былі даволі заможныя. Называў некалькі вядомых імён. Пра іх я ведаў яшчэ гадоў дзесяць назад. У канцы гэтага спісу прачытаў прозвішча, якое даўно не чуў. Я дагледзеў інтэрв'ю да канца і зноў вярнуўся да пачатку. Здзівіўся і ўзрадаваўся. Гэта было прозвішча майго суседа па студэнцкім інтэрнаце. У інтэрв'ю ўспамінаўся Міхаіл Іванавіч Гедройц. Родам з невялічкага магілёўскага мястэчка. Некалі проста Міхась Гедройц, чалавек з цікавай сям'і. Міхась мне сам у студэнцкім інтэрнаце пра гэта казаў, калі мы напіліся, як бэлі. Казаў, што маці яго была высокаадукаванай і інтэлектуальнай жанчынай, бацька ж — цёмны мужык, які зусім выпадкова змог ажаніцца з ёй. Міхась расказваў і рагатаў, пільна пазіраючы на маю рэакцыю. Тады якраз шмат хто выязджаў з Савецкага Саюза…

Потым мы недзе гулялі, кідаліся снежкамі і, урэшце, пайшлі па вуліцах, гарлапанячы песні пра Адэсу і Кацюшу, і яшчэ шмат пра што. Ля гадзіны ночы нас спыніў міліцэйскі патруль, які спярша спрабаваў угаманіць нас, адправіць спаць у інтэрнат. Але дзе там! Нам было мора па калена. Мы з Мішам і Васілём Крыніцкім апынуліся ў выцвярэзніку, дзе спявалі песні інжынер з праектнага інстытута і маёр-танкіст, якога пазней забрала ваенная камендатура.

---

***Супрунчук Віктар Пятровіч*** *нарадзіўся 6 снежня 1949 года ў вёсцы Сялец Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў вучылішча электратэхнікі, факультэт журналістыкі БДУ (1976). Працаваў электрамантажнікам, карэспандэнтам «Сельскай газеты», на тэлебачанні, у часопісах «Полымя» і «Всемирная литература», намеснікам старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі, галоўным рэдактарам аўтамабільнага часопіса «Карвет», галоўным рэдактарам газеты «Наш банк сегодня» і часопіса «Вестник» «Беларусбанка».*

*Аўтар кніг «Страсці» (1983), «Недзе баліць ля сэрца» (1987), «Набат» (1987), «Жывеш толькі раз» (1988), «З плоці і крыві» (1992), «Баю-бай, мой генерал» (1996), «Ратуйце вашы душы» (2007) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1997).*

Быў усё-ткі Бог, таму што раніцай старшы лейтэнант міліцыі па мянушцы Чыка, так называлі пастаянныя наведвальнікі выцвярэзніка вялізнага хлопца з трыма курсамі медыцынскага інстытута і сябра Васіля Крыніцкага, яго аднакурсніка па медыцынскім вучылішчы, даў нам па чарцы гарэлкі, па дзве сасіскі і адвёз у інтэрнат. Міхась Гедройц у яго гонар сыграў на трубе, якая з ім была ўсе студэнцкія гады, а я станцаваў польку.

Гэта было так даўно, што я нават забыў пра існаванне Міхася. Зрэшты, мы з ім не сустракаліся гадоў пятнаццаць. А мо гэта зусім і не той Міхась Гедройц, якога я ведаў? Ці мала людзей у свеце? У адным раённым музеі я прачытаў на стэндзе, прысвечаным вайне, прозвішча адважнага сяржанта, якое поўнасцю адпавядала майму, такое ж было імя і па бацьку. Але ж гэта не значыць, што я некалі ў сорак першым годзе страляў з гарматы па фашыстах. Да майго нараджэння было яшчэ вельмі далёка.

Усё-ткі, калі Міхась у Амерыцы, канечне, цікава. Для яго, а мне ад гэтага што? Калі ў Амерыцы ён, хай сабе будзе там. Яго справа, дзе жыць. Я зноў прабег вачыма па інтэрв'ю і адклаў газету. Мне не да Гедройца, ці мала хто са мной вучыўся. Іншы пройдзе міма і зробіць выгляд, як і не бачыў. Я перажываю, хвалююся. Не магу супакоіцца. Як гэта можа быць?.. Здаецца, ужо няблага ведаю людзей, але ўсё роўна часам спатыкаешся на тыя ж граблі. Няма ні ў душы, ні ў сэрцы кнопак «плюс» і «мінус». Потым сябе папікаеш, сварышся, але ад гэтага ўжо ніякага сэнсу няма.

Гедройц Гедройцам, аднак трэба займацца справамі. Мы вырашылі з сябрамі стварыць невялічкае прадпрыемства. Было гэта на пачатку так званай перабудовы. Па агульнай згодзе я стаў яго кіраўніком і ўсе спадзяваліся, што грошы пацякуць ракой. Галоўнае, ёсць пячатка, ліцэнзія, памяшканне, а астатняе — дробязь. Будзем варушыцца, мітусіцца і ўсё атрымаецца. Надышоў час імклівага жыцця. Толькі ўперад!

Трэба для пачатку грошы? Не праблема. З крэдытам пытанне я амаль вырашыў, дамовіўся ў адным прыватным банку пад, здаецца, нармальны, не грабежніцкі працэнт. Час ужо грошы хуценька запускаць у работу.

Пад абед у мяне павінны былі адбыцца дзве, я спадзяваўся, важныя сустрэчы, якія дапамогуць нарэшце разгарнуцца ў бізнесе. Акрамя таго ўчора мяне запрасілі пад'ехаць у адзін раён на перамовы. Пакуль сваім калегам нічога пра гэта не казаў. Напачатку я вырашыў заняцца пастаўкамі розных тавараў, якія змагу здабыць. Рынак быў пусты, хаця і шмат дзялкоў (такіх, як мы), новых камерсантаў пачалі яго памалу запаўняць.

Вядома ж, ніякай сакратаркі ў мяне не было, і да мяне заходзілі ўсе, каму захацелася паразмаўляць, лічачы, што мая праца — гэта гульня. І я часам слухаў пустыя разважанні прыяцеляў замест таго, каб выставіць іх з кабінета. Мяне гэта вельмі раздражняла, але я ўсё яшчэ цярпеў. Вопыт, як кажуць, набываецца з гадамі.

Праз трыццаць хвілін я збіраўся ў банк, каб адкрыць рахунак, на які пяройдуць грошы крэдыту. Склаў усе патрэбныя паперы ў папку і пачуў асцярожны стук у дзверы. Прыяцелі звычайна не стукаюцца, заходзяць, як да сябе дамоў.

— Можна, — буркнуў я, упэўнены, што ўсё роўна ніхто мяне не чуў. Сказаў, абы задаволіць сваю слабенькую самаўпэўненасць, бо пачаў ужо адчуваць сябе трошкі вышэй за астатніх: дырэктар! Раней на такой пасадзе былі людзі ого-го. А тут і мне можна аб'явіць: я — дырэктар! Нібы, як у «Литературной газете» было: што зрабіў бы, калі б быў дырэктарам. Альбо: калі далі б мільён рублёў…

Я варушыў паперы, з радасцю гледзячы на свой подпіс, — дырэктар Іван Антонавіч Васілец. Мае вочы проста лашчылі яго, нібы гэта былі медалі,

ці прэмія ў памеры гадавой зарплаты. Ад гэтага занятку адцягнуў кашаль. Я падумаў, мабыць, Васіль Антусік ці Валодзя Лысюк прыйшлі з бутэлькай і — уся праца кату пад хвост. Вось табе і камерцыя. Трэба іх выгнаць, інакш будзе, як і пазаўчора, калі набраліся так, што старую вахцёрку назвалі міленькай дзяўчынкай.

На крэсле перада мною, вольна кінуўшы нага на нагу, сядзеў мужчына гадоў сарака — сарака пяці. Валасы шэрыя, твар шэры, касцюм на ім таксама шэры. Вельмі сціплы чалавек. Ну, як увесь народ — адна маса, ці цеста. Ідзеш па вуліцы і бачыш жанчын і мужчын: усе каратканогія, шыракаплечыя, нібы грузчыкі з таварнай станцыі. І твары шэрыя.

У яго вачах цішыня і спакой, нібы вакол ні душы, яму ні хлеба не трэба, ні бульбы: анічога. Яму ўсё роўна, хоць ты вушы кампрэсарам прадзьмі.

Гэта я так яго ацаніў з першага позірку. Прыйшоў, няйнакш, прасіць дапамогі. Многа зараз вас ходзіць вакол. Дапамог бы, але хто ж мне працягне сваю руку і пакладзе на стол рубель, пяцёрку?

— Здрасці! — мужчына іранічна нахіліў галаву і ў яго шэрых вачах мільгнуў агеньчык, пасля другі. І вочы з шэрых сталі амаль чырвонымі. Склалася ўражанне: цемраю ўначы, сціснуўшыся ў спружыну, падбіраецца воўк. Ад маіх паводзін залежыць, ці скочыць звер на мяне. Мне зрабілася няўтульна.

У горле было суха, я мог толькі шыпець, нібы змяя. Апошняй сілай волі наліў сабе вады і выпіў. Стала вальней.

Я павітаўся, нават працягнуў яму руку, адчуўшы, якая халодная яна і вільготная. Можа, рэдка мые рукі? Я памыў бы свае зараз у гарачай вадзе. Уявіў, як змываю ягоныя сляды са сваіх рук.

— Вось якая ў мяне да вас справа, — сказаў мужчына такім тонам, нібы я ўзяў у яго ў доўг на аўтамабіль і не аддаю. Ледзь стрымаў сябе, але нават вокам не павёў, слухаю далей.

— Каб вам было адразу зразумела... Я — Алег Пятровіч. Чытайце, — мужчына дастаў з кішэні пашпарт. — Мянушка — Філосаф. Я наглядаю за нашым раёнам. Ну, вы разумееце мяне, у якім гэта сэнсе... У маладосці я пісаў вершы. Захапляўся Ясеніным... Але ж такі склаўся ў мяне лёс. Раз па дурасці патрапіў у Магадан, а пасля — другі... Пайшло і паехала... Жыццё ўжо не зменіш. Дый, мабыць, і не хачу… Зайшоў да вас вось па якой патрэбе... — ён нібыта задумаўся, ціхая і сумная ўсмешка паплыла па ягоным твары. — Памёр наш сябра Паўлік Шуляк. Гэта ў яго была такая мянушка. Мы яго ўсе вельмі паважалі, чалавек быў аўтарытэтны. Калі казаў слова, дык гэта было жалеза, а мо і нават алмаз. Трэба пахаваць яго па-чалавечы, а не па-сабачы. Вось так... Я нікога не змушаю, проста адчуйце боль яго сяброў, таварышаў... Мая прапанова простая: кожны, колькі зможа, няхай пакладзе ў кошык памяці Паўліка. Яго паважаў увесь наш горад, аўтарытэт быў незвычайны...

— Я вас разумею, Алег Пятровіч, але адкуль у нас грошы? Мы яшчэ не разгарнуліся як след... Нават рубель я не магу забраць на нейкія няпланавыя мэты, усё распісана. Прыдбаць аловак лішні ці ручку — праблема.

Зноў паплыла па твары сумная ўсмешка. Мой госць уздыхнуў, пахітаў галавою:

— Шаноўны Іван Антонавіч... Шаноўны Іван Антонавіч... Я жыву праз тры кварталы ад вашай канторы і ўвечары люблю са сваім сабакам Сашкам пагуляць уздоўж ракі і па парку. Ведаеце, пасля вельмі добра спіцца. Ніколі не бачу ў сне пасля прагулянкі з Сашкам сяброў па Калыме і Котласе. І вось, тры дні назад, нейкая ў мяне справа была і я, быццам апошні дурань, бег сам, без сабакі, па парку і раптам убачыў, як вы, шаноўны Іван Антонавіч, сядзелі за

сталом з сябрамі. На стале былі шампанскае і каньяк. Дарэчы, армянскі. Тры зоркі. Закусвалі смачна... Не буду аб дробязях... Як кажуць, хто паспеў, той і з'еў. Я правільна гавару? І яшчэ. Мой сябра бачыў, як Іван Антонавіч стаяў з прыгожай маладой жанчынай... Не буду, не буду... Я — не шантажыст. Мне шмат не трэба. Я кажу для таго, каб зразумелі: кожны чалавек навідавоку ў грамадства. Хочаш схавацца, але не схаваешся. Нешта я загаварыўся… З інтэлігентнымі людзьмі часам адпачываю, успамінаю пра вечнае і добрае. Стаміў я вас, дарагі Іван Антонавіч... Гавару коратка. Пяцьсот даляраў на пахаванне Паўліка Шуляка. І ўсё. Болей ніколі не пачуеце пра нас. Я паважаю разумных людзей. Гэта слова сур'ёзнае. Мы паважаем і любім таксама сваю зямлю. На жаль, я не стаў паэтам. Кожны жыве, як атрымалася. Свет наш несправядлівы, спагады да слабых няма. Талент нікому не патрэбен...

Ягоны маналог мяне стаміў. Навошта я прыйшоў сёння на працу, калі мог паехаць куды-небудзь? Хоць бы да Алены, якая мяне запрашала дамоў, бо яе муж быў у камандзіроўцы. І нам не трэба было б ашывацца па завуголлі, каб адчуць узаемную асалоду. Я слухаю нейкую хворую прамову і, самае галоўнае, не ведаю, што сказаць. Адчуваю страх, хоць, здаецца, ніколі і нікога не баяўся. Гэты шэры чалавек мяне напалохаў. Найвялікшае жаданне ў мяне, каб ён знік. Заплюшчу вочы і — яго няма. Гэта нібы сон, проста нейкае ачмурэнне, але ўчора мы з сябрамі сапраўды пілі шампанскае і каньяк у гэтым парку і нікога побач не было. Пасля я пайшоў у свой кабінет, дзе мяне чакала Гануля Паўловіч… Раніцай з чорнымі ад пагулянкі тварамі, — Гануля першай, а я за ёй, — праскочылі міма вахцёркі, калі тая пайшла ў туалет. Аднак яна, канечне, ведала, што я з Гануляй начаваў у кабінеце...

Я паглядзеў у вочы свайму госцю і зразумеў: не адчаплюся. Маё толькі выратаванне — аддаць яму гэтыя грошы. Хоць як іх аформім, якімі паперамі, — пакуль не ўяўляў. Аднак трэба, каб ён хутчэй знік з майго кабінета і больш ніколі сюды не з'яўляўся.

— Пайшлі са мною, — рашуча сказаў я і, не азіраючыся, пакіраваўся з пакоя. Скураю адчуваў, што ідзе, хоць мяккі і тоўсты дыван на падлозе глушыў ягоныя крокі. Прыняўшы рашэнне, я перастаў баяцца.

Я завёў яго ў бухгалтэрыю да нашай ціхай і маленькай, але калючай, бы вожык, Алены Станіславаўны, галоўнага бухгалтара і загадаў тонам, якім дагэтуль ніколі не гаварыў: заплаціць... Мусіць, яна хацела запярэчыць, але толькі зірнула на мяне і перасмыкнула вуснамі. Я пакланіўся і ветліва паціснуў госцю руку. Хоць так хацелася яму даць па вушах. Я на галаву вышэйшы за яго. І мая рука ў параўнанні з ягонай — як більярдны шар і курынае яйка.

— Калі што, звяртайцеся! — гукнуў ён мне наўздагон.

Настрой быў сапсаваны, недзе ў глыбіні душы яшчэ варушыўся страх, які не даваў засяродзіцца, думаць пра нешта іншае, акрамя сённяшняга наведвальніка. Колькі разоў ужо гаварыў сам сабе: трымай сябе ў руках, калі на розныя дробязі надта зважаць, — жыцця не хопіць.

## *Раздзел другі*

Я сядзеў у сваім кабінеце, нічога не хацелася рабіць, нікога не хацелася бачыць. Як заўсёды недарэчы ўзнік перада мною Рыгор Курылік, мой паплечнік і ідэйны натхняльнік. Вочы ў яго ажно гарэлі. Ён ледзь не падскокваў, задаволены і радасны.

— Ёсць ідэя. Мы заробім шмат грошай.

Ён нават выскачыў у калідор, быццам правяраў, ці не падслухоўвае хто нас. Зачыніў дзверы на замок.

— Што заўсёды патрэбна людзям? — спытаў ён, узняўшы ўверх палец, і тонам чалавека, які мае тэлефонную сувязь з Богам.

— Ну і што? — абыякава адрэгаваў я, яшчэ знаходзячыся ў палоне сваіх сумных думках.

— Прачніся ўрэшце. Людзям трэба віно! Віно і яшчэ раз віно. Яно, яно — на радасць нам дано! — амаль праспяваў Рыгор.

Я і без яго ведаў, што для добрага гешэфту нам не пашкодзіла б некалькі эшалонаў віна. На гэтым тавары ўзраслі ўжо многія прыватныя фірмы. І нават мой сваяк Пятро, былы муж стрыечнай сястры, адчыніў крамку і гандляваў у ёй віном з поўдня. Прывозілі яго цыстэрнамі і разлівалі на вінзаводах па бутэльках. Галоўнае было здабыць пустыя бутэлькі, бо не хапала тары. Але я добра ведаў, чым скончылі бутлегеры ў Амерыцы. Хоць чым яны ўжо там і скончылі? Грошай набраліся багата. Канечне, нехта і галаву палажыў. Зрэшты, ідэя з віном неблагая… Чаму не паспрабаваць?

— Будзем развіваць тваю ідэю, Рыгор. Але як… — у мяне перад вачыма ўжо плылі, як па канвееры, скрынкі з закаркаванымі бутэлькамі віна, бясконцая рака. Я адразу ўспомніў, як мы студэнтамі хадзілі зарабляць на музычныя інструменты для факультэцкага ансамбля на вінаробчы завод. Там бачыў, як па стужцы канвеера паўзлі бутэлькі гарэлкі, і мы пасля працы частаваліся, прыладкаваўшыся ў складзе. У інтэрнат ішлі праз заводскую прахадную вясёлай кампаніяй. Кожны з нас нёс у кішэнях па некалькі бутэлек. Колькі мы зарабілі тады грошай — не ведаю, але студэнты нашага факультэта месяц гулялі. Успомніць ёсць што.

— Значыць, не будзем губляць часу. Едзем у банк, — я ўжо зрабіўся рашучым, апрануўся і — на выхад. Рыгор ледзь паспяваў за мною.

Наш мікрааўтобус «Рафік» быў на двары. Вадзіцель Павел пабурчэў, яму трэба было ехаць на тэхагляд, але на гэта мы ўжо не звярталі ўвагі. Нас, мабыць, чакалі ў банку (так самаўпэўнена думаў я), дзе абяцалі крэдыт.

Яшчэ на тым тыдні мне патэлефанавала Людміла Іванаўна Казульская. У мяне былі з ёй прыязныя адносіны. Пры сустрэчах заўсёды ўсміхаліся адно аднаму, размаўлялі пра тое-сёе, ні пра што канкрэтна. Мне прыемна было яе бачыць і, спадзяюся, — ёй мяне таксама. Карацей, сімпатыі ў нас былі ўзаемныя. Яна сярэдніх гадоў, паўнаватая і каржакаватая, з чорнымі, ледзь прыкметнымі вусікамі. На вечары ў мастака Кузняцова, куды я трапіў зусім выпадкова, мы з ёй пасля добрай чаркі цалаваліся. І чым усё скончылася б, калі б па яе не прыехаў муж, высокі сівавалосы падпалкоўнік унутраных войскаў. Пазней не раз, убачыўшы мяне, Людміла Іванаўна радасна ўсміхалася. Нашы ўзаемаадносіны далей тэлефонных размоў не пайшлі.

У яе былі вялікія сувязі, яна ведала шмат. Сваёй інфармацыяй часам падсілкоўвала мяне. Гэта яна паведаміла мне, што яе багатыя знаёмцы на свае грошы стварылі банк, у якім можна ўзяць крэдыт на ільготных умовах. Толькі папярэдне абавязкова трэба спаслацца на яе. Людміла Іванаўна назвала мне імя чалавека, з якім я павінен быў пагаварыць сам-насам, без сведак.

У шыкоўным будынку мы з Рыгорам доўга стукаліся ў дзверы пакоя пад лічбаю 5. Нам ніхто не адчыняў. Мы ўжо збіраліся павярнуць, як кажуць, аглоблі назад, калі раптам шчоўкнуў замок, і на парозе ўзнік у залатых, так мне здалося, акулярах мардасты мужчына. На твары — поўная абыякавасць і ніякіх думак. На левай руцэ ў яго была татуіроўка: якар са словам «Вася». Сваім целам ён амаль закрыў праход, але я ўбачыў за ім яшчэ аднаго, маладога хлопца з доўгімі пшанічнымі валасамі.

— Што патрэбна? — спытаў мардасты.

— Не працуеце? — пытаннем на пытанне адказаў я.

— Чаму ж… Заходзьце.

У пакоі акрамя двух сталоў, шафы і вялізнага сейфа нічога не было. З гэтага пакоя прыадчынены дзверы ў суседні, з якога чуваць нягучныя галасы. Хрыплы мужчынскі і звонкі жаночы.

— Мы па рэкамендацыі Людмілы Іванаўны Казульскай, — пачаў я пад насцярожанымі позіркамі. У вачах мардастага можна было прачытаць: не пайшлі б вон адсюль. Што я зрабіў? Мне Казульская некалькі разоў напомніла: пра крэдыт гаварыць толькі з… Я ўсё забыў. Рабіць няма чаго. Трэба працягваць далей. — Вы ведаеце Людмілу Іванаўну?..

— Мы ведаем Людмілу Іванаўну? — мардасты іранічна спытаўся ў даўгавалосага. Той маўчаў, потым вельмі неахвотна хітнуў галавою.

— Валянціна Пятроўна, вам яшчэ гадзіну на зборы і ў — дарогу. Спадзяюся, часу хопіць, каб сабраць паперы і рэчы, — з суседняга пакоя шырока адчыніліся дзверы і выйшаў Міхась Гедройц. Мой былы аднакурснік. Ён паглядзеў на мяне, я — на яго. Міхась памажнеў, твар блішчэў здароўем. На ім — багаты шэры касцюм, шыкоўная прычоска: валасінка да валасінкі, а на левай руцэ — залаты пярсцёнак, мабыць, з дыяментам. Ведаючы Гедройца і ягоную пыху, якую назіраў за ім яшчэ ў студэнцкія часы, наўрад гэта — шкло..

Я ўжо не сумняваўся — перада мною Міхась. Скроні толькі сіваватыя, твар гладкі, самаўпэўнены. У вачах — рашучасць і недаўменне: хто гэта надумаў перапыніць яго шлях. Маўляў, прэч з дарогі. Можа, і не так. І ўсё-ткі я ўпэўнены: ён мяне адразу пазнаў, хоць ніводным рухам, ні словам не паказаў гэтага. Тады я спакойна, быццам учора развіталіся, сказаў, нічога іншага не прыдумаўшы:

— Каваю, Міхась, не пачастуеш? Здароў, даўно не бачыліся…

— Здароў, здароў… — ён памарудзіў нейкае імгненне, потым працягнуў руку: — Прабач, пачаставаў бы, толькі зараз няма зусім часу. Моцна заняты. Іншым разам. Што ў цябе?

— Ды вось, — няпэўна пачаў я. — Не ведаю, з чаго пачаць… Ты да банка якое-небудзь дачыненне маеш? Я ад Людмілы Іванаўны Казульскай… Мне сказалі, быццам тут можна ўзяць крэдыт… Слухай, я ж чытаў у «Комсомольской правде», што ты жывеш у Амерыцы?

— Цяпер не праблема, — ледзь прыкметна ўсміхнуўся Гедройц. — Сёння ў Амерыцы, а заўтра — у Маскве. Былі б грошы… Зараз, прабач, у мяне няма часу. Табе патэлефануюць. Пакінь нумар тэлефона. Пакуль усё. Магу сказаць, што рады цябе бачыць. Даўно не сустракаліся… Пабачымся, — ён хітнуў галавою, і мардасты пайшоў на нас, выціскаючы ў калідор. З левага боку ў мужчыны пад пінжаком выпінала нешта цвёрдае і паўкруглае, няйнакш пісталетны кабур.

— Даўно яго ведаеш? — у Рыгора ад здзіўлення голас стаў хрыплы.

— Вучыліся разам.

Чую носам, нічога нам тут не выгарыць. Надта ў іх морды бандыцкія. Лепш з такімі людзьмі справы не мець. Але ж, хто ведае, хто ведае… Нам пакуль яшчэ ніхто нічога не прапануе. Будзем думаць.

Я ўспомніў, што з Гедройцам апошні раз мы выпадкова сустрэліся сем гадоў назад. Пятнаццаць мінула пасля заканчэння інстытута. На дварэ было халаднавата. Я чакаў ля кінатэатра «Цэнтральны» Свету Казак. Мы дамовіліся з ёй паглядзець фільм Феліні «Рэпетыцыя аркестра». Жонка была ў камандзіроўцы, і я вырашыў, што нічога кепскага не здарыцца, калі ўспомню маладосць і наведаю незамужнюю Свету, якая гэтага даўно хацела.

Яна спазнялася, і я мерз у тоненькім плашчыку, прыкідваючы, што калі праз пяць хвілін не з'явіцца, паеду дамоў. Мяне нехта крануў за плячо, і замест Светы я ўбачыў Міхася Гедройца. У чорным скураным паліто, чорным капелюшы і з белым шалікам, ён глядзеўся заможна, не менш, як сакратар райкама. Такія скураныя паліто можна было пашыць альбо ў атэлье ЦК, альбо прыдбаць у спецыяльнай краме. Я гэткай магчымасці не меў.

У Міхася праз дзве гадзіны быў цягнік на Маскву. Света не прыйшла на спатканне. Пасля я даведаўся, што ў яе захварэла ў вёсцы маці, і яна паехала туды. Мы з Гедройцам, пастаяўшы хвілін колькі ля білетных кас кінатэатра, зайшлі ў сталоўку, дзе і прасядзелі да ягонага цягніка. Больш ён гаварыў, а я слухаў. Міхась толькі скончыў вышэйшую партыйную школу і ўжо меў запрашэнне на пасаду інструктара ў ЦК. Нават уявіць мне было цяжка, якой вышыні дасягнуў чалавек, што сядзеў са мной побач, задаволена рагатаў, смокчучы піва. Я толькі пачаў працаваць намеснікам начальніка аддзела ў адной невялічкай канторы і лічыў сябе таксама не апошнім. Але ў параўнанні з Гедройцам быў ніхто, проста кузурка. Ён апавядаў мне такія рэчы, якія я не змог бы нават прысніць. Ці варта ўспамінаць усё тое, гэта было ягонае жыццё, не маё. Я чалавек не зайздросны і абсалютна абыякавы да поспеху знаёмых ці сяброў. Проста калі сустракаеш прозвішчы, вядомыя табе, успамінаеш гэтых людзей. Гэта звычайная, нармальная рэакцыя. І я ўжо зусім не здзівіўся, прачытаўшы ў адным з часопісаў невялікі артыкул за подпісам Гедройца. У ім Міхась выступаў рэфарматарам партыі і нават крытыкаваў Гарбачова. Пасля ў некалькіх нумарах гэтага часопіса дыскутавалі розныя аўтары, абмяркоўваючы мудрыя думкі Гедройца. Мне было цікава, і я, чытаючы маскоўскую прэсу, ужо шукаў знаёмае прозвішча.

І вось табе сустрэча з чалавекам, пра якога зусім нядаўна я думаў. Аднак ён глядзеў на мяне так, нібыта мы толькі што пазнаёміліся. Зрэшты, навошта здзіўляцца, сябрамі не былі і ўбачыліся праз столькі гадоў.

— Дай сваю візітоўку, я патэлефаную табе, — сказаў Гедройц. — Зараз у мяне проста няма часу. Бывай!

Ён ужо не глядзеў на мяне, а я для яго, мусіць, не існаваў. Яго мардасты памочнік шырока адчыніў дзверы, запрашаючы нас з Рыгорам на выхад. Шэрыя і халодныя вочы як свідравалі. Было адчуванне, быццам аб мяне выцерлі ногі.

## *Раздзел трэці*

Паўгадзіны назад мне пазваніла жонка майго супрацоўніка Яўгена Казлова і адразу ў гвалт, плач: дзе мой муж?.. Два тыдні ўжо, як мы паслалі яго ў камандзіроўку, і — няма. Што ёй казаць? Паабяцаў знайсці Яўгена і прымусіць патэлефанаваць дамоў. Хоць, па праўдзе, і сам пачаў хвалявацца. Казлоў быў хлопец працавіты, але меў мянушку СА (гэта, значыць, стары алкаголік), тады-сяды запіваў, мог не выйсці на працу тыдзень-другі. Пасля з'яўляўся, чорны, худы, плакаў, прасіў прабачэння, калі б у яго быў хвост, пэўна, віляў бы ім, як пабіты сабака.

Я рэгулярна даваў яму прачуханца. Потым Яўген хадзіў на працу акуратна апрануты, ад яго пахла адэкалонам. Усім здавалася, што ён узяў сябе ў рукі. Алкаголікаў, на жаль, былых не бывае.

Нам тэрмінова былі патрэбны матэрыялы, і я накіраваў Казлова ў Карэлію. Па словах Яўгена, быццам бы там у яго было шмат сяброў на Айкірскім

цэлюлёзна-папяровым камбінаце, дзе і выраблялiся гэтыя матэрыялы. Каб перамовы прайшлі ўдала, Яўген пад Івянцом купіў дзесяцілітровую каністру самагонкі. Была ў яго і немалая сума грошай: магчыма, спатрэбіцца некага запрасіць у рэстаран.

Цяпяр я зразумеў, якую памылку зрабіў, накіраваўшы Казлова ў гэтую камандзіроўку. Мінула ўжо два тыдні, ад яго ж ніводнага званка. Не дай бог, калі што здарылася. Мне ж, як начальніку, адказваць. Ад гэтай думкі стала ніякавата. За грошы, што ляжалі ў ягонай кішэні, маглі забіць і пакалечыць. Дый ці мала што… Гэта ж далёкі свет, у дарозе шмат не толькі спагадлівых, але і паскудных людзей: за бутэльку могуць пазбавіць чалавека жыцця.

Мне ад усяго гэтага трэба неяк супакоіцца. Ля Гума я сеў за столік на вуліцы і папіў піва. Яно было цёплае і нясмачнае, горкае. Не дапіў і ледзь прымусіў сябе не пасварыцца з дзяўчынай-барменкай, якая штохвілінна пазяхала. Нягледзячы на вечар, наведвальнікаў было мала: за суседнім столікам сядзелі яшчэ двое мужчын.

Ля аэрапорта жыла мая даўняя сяброўка Насця, з якой мы сустракаліся да таго, як я ажаніўся. Замуж яна не выйшла, і мы часам перамаўляліся па тэлефоне. Яна — сімпатычная жанчына маіх гадоў, у яе прыстойная фігура, добры характар, у нейкім сэнсе нават мяне кахала. Я заўсёды заходзіў да яе, быццам да сябе дамоў, дзе мяне чакалі скварка, чарка і цёплы ўтульны ложак. Насця ведала, што ніколі за мяне замуж не выйдзе. Я любіў сваіх дзяцей і па-свойму кахаў жонку. Насця была маёй прывычкай, ад якой не хацелася адмаўляцца. Мы даўно з ёю паставілі кропкі над усялякімі «і». Працей кажучы, я часам начаваў у яе і адчуваў там сябе гаспадаром. Я, канечне, жартую, таму што ажыццяўленне, па словах майго аднаго сябра, любога праекта з жанчынамі павінна менш за ўсё нерваваць мужчын.

Бывала, я наведваў Насцю раз у паўгода, а калі-нікалі і штотыдня. Маё гасцяванне ў яе ніколі не планавалася. Я званіў і прыязджаў. Можа, яна рабіла выгляд, што рада мне ды толькі я ніколі не пачуў ад яе ніводнага слова крыўды, абурэння.

У мяне якраз быў такі настрой, каб наведаць Насцю. Я сеў на тралейбус і паехаў. Але ж зноў так проста не бывае.

— Здароў, Іван! О, які ты чалавек, ты мне столькі зрабіў! — да мяне падышоў знаёмы, зусім п’яны, акцёр Ігнат Васькоўскі.

— Прабач, дарагі, мне трэба ехаць дамоў! — паспрабаваў я адчапіцца ад яго. Ён працаваў у Тэатры юнага гледача. Ігната любілі сябры і прыяцелі, таму што, калі ў яго з’яўляліся грошы, ён усіх частаваў. Але часцей у яго грошай не было.

— Ты ведаеш, — нечакана заплакаў Ігнат, — у мяне нават капеек няма на бульбу, не кажучы пра сасіскі. Мне ж абяцалі ў наступным месяцы званне народнага артыста.

— Ігнат, я з задавальненнем табе дапамог бы, але ў самога ні капейкі. — Мне сапраўды было шкада Ігната. Я шмат разоў пазычаў яму грошы, і ён ніколі мне не вяртаў доўг. Я не шкадую. Пражыву. Мне ніколі ніхто не дапамагаў. Дый навошта, не інвалід, не калека. На бульбу, хлеб і малако зарабіць можа кожны. А тут дай, дай, дапамажы… Чаму? Хоць — дапамажы іншаму і табе дапамогуць.

Не хапіла ў мяне моцы духу і цела, дастаў я з кішэні астатнія грошы і аддаў Ігнату. Не будзь скнараю і табе некалі адгукнецца. Мама і тата, якіх я вельмі любіў, але іх ужо даўно няма, казалі і рабілі так: лепш дапамагчы, аддаць апошні рубель, чым прасіць дапамогі.

— Ігнат, адчапіся, — сказаў я, хоць ніколі на нікога не сварыўся. — Ідзі ты...

У мяне ў вёсцы быў сусед з прозвішчам вельмі падобным на маё, якога таксама звалі Іван. У яго, казалі, не хапала клёпак у галаве. Гэта як у цэбра: калі нацягваюць абруч і не хапае клёпак, тады цэбар развальваецца.

Я слухаю Ігната і думаю пра суседа, у якога не хапае клёпак. А можа, у мяне не хапае клёпак, калі я не магу дагэтуль разабрацца з самім сабою?

Вось жыў той сусед, амаль з маім прозвішчам. Ён адбыў у турме дзесяць гадоў. Пасля я зразумеў, што ён прасядзеў ля парашы (гэтак называюць клазет, які мы з татам некалі зрабілі, гэта, значыць, хатку з маленькім дахам). Я прыехаў неяк на сваю сядзібу і ледзь не заплакаў: плот згніў, дрэвы нежывыя, і клазет нахіліўся да зямлі.

Сумна мне, цяжка. Праспект перад вачыма плыве. Хачу ляпнуць па мордзе гэтаму Ігнату і пайсці, каб нікога не бачыць і не чуць. Я ўвесь напяты, злосны.

— Ігнат, не пайшоў бы ты вельмі далёка, — кажу я, хоць злосць ужо выціснулася, нібы з лімона сок.

— Дай мне грошай яшчэ, — гаворыць Ігнат, — калі можаш. І няхай Бог будзе суддзя: жабраку, чалавеку, у якога няма нават на хлеб, ты пашкадаваў грошай. Іван, цябе не пазнаю…

Я вельмі хачу, каб гэты лысы, з чырвоным носам Ігнат больш не трапляў мне на вочы. Не хачу бачыць яго гнілыя прышчы на носе і нюхаць пах яго-ных гнілых зубоў. Чамусьці, калі ён мяне сустракае, абавязкова дыхае гніллю проста ў твар. Ну, не люблю, калі ў чалавека смярдзяць зубы і мокрыя рукі. Так і заехаў бы яму. Хоць рост у мяне метр з шапкаю, але кулакі, як добрая бульбіна, што хопіць на патэльню аладак…

…Я не тэлефанаваў Насці, але, убачыўшы мяне, яна проста заззяла, кінулася збіраць на стол. У яе халадзільніку прысмакаў хапала на добрую кампанію.

Я пацалаваў Насцю, трохі палашчыў яе, пасля прыняў душ, і мы селі баляваць. Пілі гарэлку і чырвонае віно, якое ёй прывезла сястра з Малдавіі. Я люблю сухое чырвонае віно яшчэ з таго часу, калі служыў у Абхазіі. О, які гэта быў час і якое таннае віно!

Мы сядзелі з Настуляй задаволеныя, радасна аб нечым шчабечучы, разамлелыя ад ежы і блізкасці. Яна расказвала пра суседзяў, работу, яшчэ аб нечым, і я ні аб чым не думаў. Мяне пацягнула на сон, і я калыхаўся пад шчабятанне Насці.

— Можа, паглядзім тэлік? — спытала яна.

Мне было ўсё роўна. Якраз пачыналіся навіны. Карэспандэнт расказваў пра нейкую выкапнёвую звяругу, казаў, што з рэштказ яе малекул можна адрадзіць жывую істоту, копію той, якую знайшлі ў зямлі. Калі могуць, дык хай і зробяць. Колькі разоў я чуў гэткія глыбакадумныя развагі. Што ж, кожны зарабляе грошы, як умее.

Я падняўся, каб легчы ў ложак, калі раптам на экране пайшлі кадры, пасля якіх з мяне сон нібыта рукою зняло. Па словах вядучай перадачы, у адной з суседніх з Беларуссю абласцей Расіі ў горадзе Прыгранічным напрыканцы дня застрэлілі старшыню гарвыканкама Каранца. Некалькі хвілін ішлі кадры з гэтага горада. Паказалі машыну «хуткай дапамогі», насілкі з нябожчыкам, накрытым прасцінаю. Потым міліцэйскі чын захіліў рукою аб'ектыў тэлекамеры.

Я некалі пазнаёміўся з Каранцом, ён быў кантактны чалавек. Гадоў дзесяць працаваў першым сакратаром райкама партыі. Ведаем, дурняў у партый-

ны апарат не бралі. Калі і траплялі, дык вельмі мала. Каранец быў, на мой погляд, разумнік. Горад пад яго кіраўніцтвам за апошнія гады расквітнеў, стаў больш прыбраны, чысты.

— Хто б мог нават падумаць некалькі гадоў назад, што такое можа быць? — перапыніла мае думкі Насця. — Гэта — жах! Сярод белага дня застрэлілі чалавека.

У яе словах было столькі шчырага здзіўлення, разгубленасці, а на вачах блішчэлі слёзы. Мне стала шкада сваёй вернай сяброўкі. Я пачаў яе горача цалаваць... Пакуль можна, хай той жорсткі свет застанецца за акном, у тэлевізары, а мы ўзрадуем адно аднаго, у гэтай цішыні і спакоі будзем атрымліваць асалоду ад кахання. Я помню, як з Каранцом мы спявалі і танчылі на хутары ў ягонага сябра…

## *Раздзел чацвёрты*

Я толькі ўвайшоў у свой кабінет, як адразу заверашчаў тэлефон. Чуў ягоны характэрны гук яшчэ на другім паверсе, улічваючы, што наш будынак у чатыры паверхі.

Тэлефон званіў, званіў, а я баяўся зняць трубку. Не ведаю чаму, але раптам узнік страх, што мяне чакае нейкая непрыемнасць. Нехта хоча, каб я здурнеў ці атрымаў па мазгаўні. Вось так усё жыццё: стараюся зрабіць найбольш добрага, мудрага, а ўрэшце атрымліваецца ні сабе, ні дзядзьку.

Раніцай, у тралейбусе, я чуў размовы толькі на адну тэму: застрэлілі Каранца. Канечне, што абмяркоўваць у восем гадзін раніцы. Усе ж глядзяць тэлевізар. Нікому не цікава, памерлі мой дзядзька ці цётка, ёсць у мяне грошы на кілбасу альбо няма. І нават калі б я памёр на вачах у гэтага натоўпу, надта ніхто не перажываў бы. Можа, нейкая душа прамовіла б: «Унь, яшчэ малады, а, бач, згуляў у скрынку».

Я падняў тэлефонную трубку, паслухаў, падыхаў у яе, мне ў адказ была цішыня. Можа, жонка званіла? Успомніла ў вёсцы, што ў яе ёсць муж. Кепскі, нікуды не варты. Але я ніколі не здраджваў ёй у галоўным. У мяне каханкі былі і будуць, ад гэтага не гарантую. Толькі заўсёды заставалася разуменне: жонка і дзеці — святое, астатняе, як пакладзе Бог…

Я проста стаўлю шматкроп'е, якое больш за Ігната, маіх сяброў і сяброўак, што неаднаразова здраджвалі мне. Юда ўзнік невыпадкова, яго нарадзілі мы, сваёй зайздрасцю і сквапнасцю, він ом і мясам. Юда сеў нам на плечы, што і так згінаюцца ад непрыемных успамінаў, ад таго, што няправільна робім, забываем пра родных і блізкіх. Наогул, усё асэнсоўваем пасля. Мой тата, калі паміраў, сказаў мне і брату: «Сыночкі, як і не жыў». А было яму амаль восемдзесят тры з паловаю. А ці жыў ён так, як чалавек? Даношваў з мамаю нашу, маю, братоў і сясцёр вопратку. Душа ў яго была вольная, непадуладная нікому, ніхто не мог яго прымусіць адмовіцца ад сваёй веры: ні немцы, ні палякі, ні бальшавікі. Што будзе заўтра?.. У галаве бязглуздзіца, сечка, мітусня…

Тэлефон зараз, мусіць, узарвецца ад свайго тлуму, трэску. Гэта быў Рыгор, які адразу, калі я падняў трубку, мяне абмацюкаў. Хоць ён раней такога сабе ніколі не дазваляў.

— Дзе блындаешся? Ахоўнік мне сказаў, што ты даўно пайшоў у кабінет. Іван, д'ябал, тут справа добрая агнём гарыць. — Рыгор крычаў так, што ў маё вуха ляцеў звон, бы з паравоза.

— Якая праблема? — ужо я не стрымаўся. — Што, ты сеў на каня?

— Ні на каня, ні на карову! Мы ж дамаўляліся ехаць. Я ўжо дамовіўся і нас чакаюць. Бяры ўсе грошы, сустрэну на выездзе з горада.

Я абяцаю Рыгору праз пяць хвілін выехаць. Спярша трэба знайсці вадзіцеля. Ён прадстаўнік таго тыпу вадзіцеляў, якія возяць начальства. Трошкі гультаяваты, нахабны, шмат ведае і ўвесь час думае, каб зарабіць, бо зарплата ў яго невялікая.

Мы з ім знітаваны ўсімі ніткамі. Таму што ён у курсе, дзе я быў мінулую ноч, аб чым размаўляў у машыне пазаўчора з сябрам — старшынёй калгаса. Не трэба «цэкістаў» па тэлефоне, калі свой сядзіць, толькі руку працягнуць, — за рулём. Але самае галоўнае — ён у любы момант гатоў у дарогу.

Павел — мужчынка сярэдніх гадоў. Лысаваты, каржакаваты, вочы блакітныя і хітрыя. Глядзіць на цябе і нібы гаворыць: нічога ад мяне не схаваеш, усё ведаю, помню і не забуду. Павел да мяне яшчэ гадоў дваццаць назад вазіў розных начальнікаў. І не абы-якіх, а тых, хто вітаўся за руку з самымі-самымі высокімі чынамі рэспублікі.

Я бягу ўніз па лесвіцы і думаю, што, мусіць, няма яго на месцы: на запраўцы, на тэхабслугоўванні ці яшчэ дзе, ліха яго матары. Адгаворак знойдзе поўную кішэню. Ля варот у двор спыняюся і ад здзіўлення разводжу рукамі: машына ёсць, і Павел анучкаю выцірае лабавое шкло. Ён глядзіць на мяне і бурчыць:

— Няйнакш сварыцца збіраліся. Вадзіцель калыміць, машына не гатова. А тут не! Машына гатовая, вадзіцель не калыміць.

Я рагачу, і задаволены Павел ідзе мыць рукі ў гараж. Перад маімі вачыма павольна кружыць чырвонае лісце, якое ляціць са старога галінастага клёна. Пад дрэвам, як ні дзіўна, трава зялёная, не вытаптаная. Можа, таму што побач ля вуліцы міліцэйскі пост у жоўта-блакітнай будцы. Яна стаіць на тэрыторыі нашай канторы. З аднаго боку, нам гэта выгадна: вартаўнікоў не трэба, як кажуць, круглыя суткі міліцэйскае вока не дрэмле. Але, з другога боку, навошта нам гэтае пастаяннае вока? Я вёў перамовы з іх начальствам аб незаконным назіральным пункце ля нашага будынка, хаця і разумеў зноў і зноў: сядзі і не рыпайся. Можа быць і горш. Што?.. Пра гэта няма патрэбы доўга думаць. Жыццё пакажа, у ім столькі непрадбачанага, незапланаванага, як нараджэнне і смерць чалавека. Хоць цяпер і плануюць нешта такое, але хачу верыць: таямніца была і застаецца вакол нас.

Мяне здзіўляе, чаму зараз Павел праз кожную хвіліну хмыкае і хітае галавою. Нешта яго свідруе, рвецца з сярэдзіны. Маўчыць пакуль. Я ўпэўнены, як толькі выедзем на Партызанскі праспект, Павел загаворыць. Калі не так, тады я зусім яго не ведаю.

— Ты не забыў, што ля гастранома «Дарожны» забіраеш Рыгора? — правакую я вадзіцеля.

— Помню, Антонавіч, помню, — Павел амаль падразае чорную «Волгу» з цёмнымі вокнамі, якая спрабуе нас абысці справа насуперак усялякім правілам, — Ну, бандыт, ну, паразіт. Калі ў яго чорная «Волга», дык усё можна. Ах, бандыт, — лаецца Павел. — Вось такіх чарцей трэба страляць. Праўда, Антонавіч?..

— Нікога, Паўлюк, нельга страляць. Кожны мае права на жыццё, якое падараваў Усявышні.

— Дык навошта Каранца?

— Што? — раблю выгляд, нібыта нічога не зразумеў.

— Каранца застрэлілі, мэра расійскага горада Прыгранічны. Чулі, Антонавіч? Вы ж казалі, ён ваш знаёмец? — Павел узбуджана пачынае разважаць пра тое, што няма ў тым горадзе гаспадара, які б цвёрдай рукою навёў парадак.

— Павел, ты — не арыгінальны! Мой сусед з пятага паверха, які кожны вечар ляжыць ля ліфта ў лужыне, амаль штораніцы кажа мне: няма гаспадара. Швагра майго Казіміра бачыў?

— Чаму ж не, Антонавіч. І чарку разам бралі.

— Дык ён амаль штовечар пад плотам адпачывае. І пры сустрэчы мне гаворыць тое ж самае.

— Ну, дык мо і праўда… — уздыхае Павел.

Якраз тым часам забіраецца ў машыну Рыгор. Ён заўжды пры форме: у касцюме з гальштукам і з дыпламатам. Кейс трошкі пашарпаны, але гэта — дробязь. Важна, што ў ім.

— Як самаадчуванне? — першыя словы Рыгора. Паціскаючы руку, дадае: — Магу паспрачацца: Паўлу трэба гаспадар.

— Як ты даведаўся? — мы ад душы смяёмся.

— Ён мне штодня пра гэта гаворыць. Нібыта пры Саветах ты, Павел, у любой краме купляў мяса ці каўбасу, не браў па блаце шыны на аўтамабіль. Тады быў гаспадар?!.

— Ты, Рыгор, заўжды ўсё пераводзіш на кілбасу.

— А на што яшчэ, Павел, як не на яе самую? — Антонавіч, мусіць, ты не снедаў? І твар у цябе бледны, дыханне цяжкае. А кілбаса… Яна тут, як тут. І ты, напэўна, ад яе не адмовішся? — Рыгор расчыняе дыпламат, у якім пакет з каўбасою, хлебам, памідорамі, агуркамі, а з краю — бутэлька «Белавежскай». — Машына сёння, спадзяюся, укамплектавана.

— Крыўдзіш, Рыгор, — Павел левай рукой трымае руль, а правай падае нам шклянкі, мінеральную ваду і нож-складанчык, які год назад я прывёз з Беластока. Гэта — найбольш каштоўная рэч, што прыдбаў, упершыню трапіўшы за мяжу. Хоць і кажуць, што курыца — не птушка, а Польшча — не замежжа, аднак адчуванне ў мяне было незразумелае. Мы з сябрамі прывезлі, каб угандляваць, у Беласток па дзесяць бутэлек гарэлкі. Мяне адразу вельмі здзівіў рынак, на якім прадавалі, здаецца, усё што можна і што нельга. Толькі мы прасядзелі ў гатэлі тры дні, выпілі ўсю гарэлку і на астатнія грошы набылі сувеніраў. Жонка прасіла, каб я купіў сыну джынсы, дачцэ — сукенку, ёй — спадніцу, вядома, збыўшы гарэлку. Я ж прывёз з Беластока прыгожанькі складанчык, які жонка выкінула праз акно на вуліцу. Каб дабру не прападаць, я падабраў яго, ледзь паспеў, бо сусед ужо бег па яго, — і аддаў Паўлу ў машыну.

— Нас чакаюць праз дзве гадзіны… І ні ў якім разе нельга спазняцца. Інакш усё згарыць, — Рыгор парэзаў кілбасы, хлеба, і мы выпілі за тое, каб усё было добра. Павел не адмовіўся ад бутэрброда і агурка. Мы перакусілі на хаду, не спыняючыся. «Рафік» не які-небудзь «Масквіч», тут можна і паабедаць, а пры неабходнасці і паспаць. Што я не раз і рабіў у камандзіроўках.

Машын па дарозе было няшмат. Зрэдзь нам насустрач раўлі замежнікі-цяжкавозы з гуманітарным грузам для Расіі. Яны ішлі калонамі па пяць—сем аўтамабіляў. Іх вадзіцелям прыветна махалі рукамі сімпатычныя дзяўчаты ў кароткіх спаднічках. Дзяўчаты стаялі на ўзбочыне. На нас ніхто не звяртаў увагі. Брудна-сіні «Рафік» для дзяўчат, пэўна, быў не цікавы. Мы ж іх баяліся, бо такія прыгажуні на вялікіх дарогах самі па сабе не гуляюць. Зрэшты, каб мы з Рыгорам і захацелі б прытармазіць каля іх, Павел наўрад ці спыніўся б. Ён ужо атрымаў урок, пра які расказаў мне.

Павел быў са мною, калі памёр мой бацька. Мы з ім тады прабылі разам у вёсцы амаль тыдзень. Пры пахаванні не абысціся без машыны. І неяк позна

увечары за сталом, а гэта было зімою, у поўнай цішы, пасля доўгага раздумлівага маўчання, Павел прамовіў:

— Жывём, жывём і — усё… Чалавек пакутуе, нешта робіць, здабывае, шукае смачнейшага і потым — пшык. Разумееш, Антонавіч, пшык!..

У мяне не было аніякай ахвоты нешта аспрэчваць. У вачах яшчэ стаяла карціна, як труну з бацькам апускаюць на вяроўках у магілу: ты ведаеш, што больш ніколі яго не ўбачыш, але асэнсаваць пакуль гэтага не можаш.

— Чуеш, Антонавіч? — штурхае мяне ў плячо Павел. — Толькі табе раскажу, што са мною месяц таму здарылася. Глядзі, нікому ані-ні… Ехаў я з Гомля. Да абеда. На ўзбочыне дарогі за Жлобінам галасуе жанчына. Я ж ніколі нікога не бяру…

Гэта ён мне расказвае, калі я яго лавіў на «леваку» па горадзе і ледзь не выгнаў з работы. Пашкадаваў, таму што жонка не працавала і дачка тады моцна хварэла, шмат грошай трэба было на лекі.

— Затармазіў. Сімпатычная такая, чарнявая, у целе, — расказвае Павел. — Я такіх люблю. Што гэта за жанчына, у якой праз скуру косці відаць? Села побач са мною, не ў салон. Ля-ля-ля. Дарога ж — ехаць ды ехаць. Смяёмся, жартуем. Вочкі гараць, вусны чырвоныя, бы каліна. Ну, думаю, нарэшце, Павел, табе пашэнціла. Такая бабенцыя! Праехалі кіламетраў сто. Я ёй: стаміўся. Можа, заедзем у лясок, перакусім. Ножкі разамнём. Не супраць? Я ў адно месца заварочваю, руку на яе круглае калена кладу, пагладжваю. У галаве адна думка, як хутчэй у лес і — спыніцца. Толькі хацеў павярнуць і чую штосьці цвёрдае ўперлася ў мой бок. Глянуў уніз, ледзь руль не выпусціў. Мая прыгажуня трымае ў адной руцэ пістолю, а ў другой — чырвоную кніжачку, у якой напісана: следчы пракуратуры. Хацела мне прышыць спробу згвалтавання. Вось табе і прыгажуня. Не дай бог…

Мы даехалі да вінзавода нават на паўгадзіны раней дамоўленага часу. Сустрэў нас лысаваты мужчына, як кажуць, без узросту: такім на выгляд і трыццаць пяць і пяцьдзясят гадоў. Мы яму перадалі грошы, і ён знік. Мінула гадзіны дзве і думка аб тым, што нас абдурылі, — пачала мяне непакоіць. Нарэшце адчынілася прахадная і выехаў з двара цяжка нагружаны «МАЗ», у кабіне якога сядзеў «лысун».

— Усё, парадак. Давялося даць яшчэ і начальніку аховы, — ён аддуваўся, як пасля марафонскага бегу, і ад яго моцна пахла віном. — Калі што, звяртайцеся. Глядзіце, на мянтоў не натрапце.

У магазінах яшчэ быў дэфіцыт з пітвом, а людзей, якія хацелі глыкнуць таннага віна, на родных прасторах шмат. Спыніўшыся па дарозе ў ляску, мы адышлі ўбок ад машыны, далей ад Паўлавых вушэй, і падлічылі, што за адзін дзень зарабілі па два аклады з прэміяй.

Віно мы перадалі пакупніку і рушылі дамоў. Аперацыя атрымалася ўдалай. Так мы лічылі.

— Калі гэтак далей пойдзе, Антонавіч, мы з табою будзем багатыя, — Рыгор задаволена смяяўся і прыкідваў, праз колькі месяцаў купіць сабе «Масквіча». На большае ягоныя планы не ішлі. Гэта асабістыя, але ж трэба думаць і аб прадпрыемстве, што існавала пакуль на паперы. І я зноў успомніў Міхася Гедройца. Мне з ім абавязкова трэба спаткацца. Мітусня мітуснёй, але варта падумаць пра нейкую перспектыву.

## *Раздзел пяты*

Дома ў мяне яшчэ нікога не было, і мы да ночы сядзелі за кавай на кухні ў Рыгора. Планы ў нас атрымліваліся напалеонаўскія. Мы склалі спіс знаёмых, хто-дзе займаў больш-менш салідную пасаду і меў уплыў на размеркаванне тавараў. Элементарныя камбінацыі. Проста мы заплануем у цану свой інтарэс. Якая розніца, чым гандляваць? Палова маіх сяброў фізікаў і лірыкаў займаліся тым, што шукалі тавар, а пасля збывалі яго іншым фірмам.

— Мы што — дурнейшыя! — амаль крычаў Рыгор, і ўсё лічыў, які прыбытак атрымаем праз год.

— Ідзіце спаць, — не вытрымала ўрэшце нашых размоў ягоная жонка Тэрэза. — Што ўжо я буду рабіць з тваімі грашыма?

— Залатую ванну пастаўлю. А табе на шыю навешаю дыяментаў. Спярша куплю «Запарожац», а потым — «Мерседэс».

— Не, «Кадзілак» альбо «Вольву», — мяне раптам так пацягнула на сон, што я зразумеў: нікуды не рыпайся, начуй тут.

Я лёг на канапу і імгненна заснуў. Прысніўся мне былы крымінальнік, аматар паэзіі, які прыходзіў да мяне па грошы на пахаванне свайго «аўтарытэта». Ён сядзеў перада мною і маўчаў. Потым дастаў з кішэні штосьці бліскучае і агністае, бы сонца, сыпнуў па стале. Загуло, заляпала і мне зрабілася так страшна, што я заплакаў.

Я ледзь расплюшчыў вочы, спрабуючы зразумець: гэта быў сон ці рэальнасць. На суседняй канапе пасвістваў носам Рыгор, нешта мармытаў. За акном світала, і пачынаўся новы дзень.

Угандлявалі мы з Рыгорам трошкі грошай, але ж гэта не бізнес. Нібыта дробныя спекулянты, якім пашэнціла выпадкова перапрадаць левы тавар. Хоць, пэўна, дзяды сённяшніх амерыканскіх магнатаў былі бутлегерамі ў часы сухога закона. Зрэшты, у нас не сухі закон. Дзе ж толькі ўзяць тавар, за які не трэба адразу аддаваць грошы? Грошай таксама няма.

Не, трэба ехаць у той банк, дзе я сустрэў Гедройца. Адчуваю, атрымаецца ў мяне з ім добрая каша. На гады два ўзяць у яго крэдыт і — наша прадпрыемства ўстане на ногі.

Не заязджаючы на працу, я паехаў шукаць Гедройца. На вуліцы было нядужа холадна, дзьмуў вецер, мяккі, з паўднёвага захаду. Па дарозе я забег у кафетэрый, не спадзеючыся на гасціннасць Гедройца, перахапіў кавы з малаком і бутэрброд з сырам. Не мог я снедаць у Рыгора, таму і пайшоў ад яго, калі ён яшчэ з жонкаю спалі. Я хацеў перад спатканнем з Гедройцам падумаць, дый асвяжыць галаву пасля ўчарашняй доўгай вячэры. Што магу я прапанаваць яму? Якія выгоды Гедройц будзе мець ад нашага супрацоўніцтва? Але чаму абавязкова выгоды? Без гэтага нельга сябраваць, дапамагаць адзін аднаму? Але ж мы не дружбакі. У яго сотні, а, можа, і тысячы такіх знаёмцаў, як я.

Я настроіў сябе на доўгае чаканне, што прыйдзецца сядзець у калідоры гадзіну-дзве. Мне ўсё роўна, толькі каб быў станоўчы вынік.

Ахоўнік прапусціў мяне ў будынак адразу. Я паказаў яму сваё пасведчанне пазаштатнага супрацоўніка адной газеты. Некалі адзін мой прыяцель, што ў ёй працаваў, зрабіў мне гэты сур'ёзны дакумент у чырвоных вокладках з залатым надпісам. І хоць тэрмін яго даўно скончыўся, але, калі я паказваў пасведчанне, мяне адразу пускалі туды, куды мне трэба было.

Не стукаючыся, я адразу паспрабаваў адчыніць дзверы, але яны былі замкнёны. Ну, што ж, буду чакаць. Пакуль спяшацца няма куды. Калі гэта банк, дык ён усё роўна адчыніцца. Часам туды-сюды сноўдалі службоўцы, не звяр-

таючы на мяне ўвагі. У кожнага былі свае турботы. Твары ў людзей заклапочаныя. Я ведаў, што інстытут зачыняюць і многія з іх застануцца без работы. Тут не да вяселля, і каму справа да нейкага мужчыны, які ашываецца ў калідоры немаведама чаго. Аднак гэта мне толькі так здавалася. Паўнаваты мужчына ў светлым касцюме, у акулярах разы тры-чатыры прайшоў міма, пільна ўзіраючыся ў мяне. Я збіраўся ўжо спытаць яго, чым выклікана цікавасць да маёй асобы, калі ён раптам загаварыў сам:

— Прабачце, мы, здаецца, з вамі знаёмыя?..

Я пацiснуў плячыма, не ведаючы, што сказаць.

— Так, так, мы сядзелі побач за сталом на дні нараджэння ў Васіля Сакуты. Летась у маі.

О Божа, калі ўспамінаць усіх, з кім святкаваў юбілеі і быў на хаўтурах, дык, пэўна, і дня не хопіць. Год таму па службовых абавязках вымушаны быў прысутнічаць на розных святах і пахаваннях. Усюды гаварылі аднолькавыя словы, прыгожыя і абыякавыя: які разумны, таленавіты, добры. Мне часам сняцца гэтыя застоллі. Я прачынаюся ў халодным поце: гэта ўжо было, ці зноў ісці на хаўтуры? Але ж усё-ткі ўспомніў дзень нараджэння Васіля Сакуты і мужчыну, з якім сядзеў побач за сталом.

Я радасна ўсміхнуўся, моцна пацiснуў мужчыну руку. Мы дамаўляліся сустрэцца? Канечне, помню, але не хапае часу. Усё мітусня, мітусня… Праца адымае ўсе сілы, а ўвечары адно жаданне: упасці на канапу і паглядзець тэлевізар. Вось такое нікуды няwartae жыццё.

— Што прывяло вас у нашу ўстанову? — мужчыну звалі Анатоль Іванавіч. Ён бачыў мяне тут з Гедройцам.

— Хацеў перамовіцца з ім. А яго нешта няма і няма.

— Вы сюды? — паўшэптам прамовіў Анатоль Іванавіч і пальцам паказаў на дзверы банка.

— Так, сюды, — я незадаволена хітнуў галавою. Мяне пачаў раздражняць гэты чалавек. Не люблю дакучлівых людзей. Толькі што зробіш? Мы шмат чаго і каго не любім, але вымушаны цярпець.

— Наўрад ці вы іх сёння ўбачыце. Яны тут рэдка з’яўляюцца. Дзверы больш усё зачынены. Яшчэ ўсё арганізуецца. Я неяк выпадкова зайшоў у гэты кабінет, дык там акрамя стала і трох крэслаў нічога не было. Што ж гэта за банк?..

— Не ведаю. Вырашыў зайсці, паглядзець.

— Мне казаў наш намеснік дырэктара, што нібыта гэта багаты прыватны банк, — ажно вочкі заблішчэлі ў Анатоля Іванавіча і лысіна ад поту. — Нас разганяюць і чорт ведама куды ісці. Можа, што пачуеце наконт работы, патэлефануйце. Буду ўдзячны. Я вам даваў свой тэлефон. Мабыць, забыліся. Вазьміце візітоўку.

— Добра, добра. Усяго добрага, — я амаль сілком узяў ягоную руку, пацiснуў і шыбануў у канец калідора, дзе быў туалет.

Мой манеўр быў марны. Толькі пачаў мыць рукі, старанна намыльваючы, як ззаду пачуў знаёмы голас:

— Правільна, нам трэба адразу было зайсці ў туалет. У калідоры кругом вушы. Вы ж, пэўна, чакаеце Гедройца?

Я падняў галаву ад рукамыйніка і, не паварочваючыся да Анатоля Іванавіча, чамусьці ціха спытаў:

— Ведаеце Гедройца?

— Даўно. Некалькі разоў сутыкаліся на курсах у Вышэйшай партыйнай школе ў Маскве, былі ў адной кампаніі. У адрозненне ад вас, Іван, ён мяне адразу пазнаў.

— І што?

— А тое, што запрашаў на працу ў гэты банк.

— Згадзіліся?

— Не, чалавек я гуманітарнай прафесіі. У матэматыцы слабы. Умею лічыць зарплату, аванс і аддаю жонцы, пакінуўшы ў патаемнай кішэні чырвонец-другі. Гэта не для мяне. Хаця… Жыццё прымусіць і ў падмятайлы пойдзеш, каб з голаду не памерці. Дый сям’я ж… Гедройц іншы чалавек. У яго ўжо маскоўскі вопыт. Там школа о-го-го: альбо — ты, альбо — цябе… Наўрад ці ён тут хутка з’явіцца. Так што не варта чакаць. Вы самі добра ведаеце Гедройца?

— Вучыліся некалі разам. А навошта вы мне ўсё гэта расказваеце?

Анатоль Іванавіч уздыхнуў, бруднаватай насоўкай выцер пот з ілба. Пальцам паказаў на столь, а потым на падлогу.

— Разумееце, ён там — высока, а мы з вамі на зямлі. І калі я кажу, што нас разганяюць, то думаю, хто мне дапаможа знайсці работу. Да неба далёка, трэба звяртацца да сяброў, знаёмых, якія побач. Я — гісторык, прафесія — не грашовая, не надта каму патрэбная. Мне сорак пяць гадоў. Дагэтуль не абараніў дысертацыю, хоць напісаў яе яшчэ пяць гадоў назад.

Мы з Анатолем Іванавічам яшчэ пастаялі хвілін дзесяць у калідоры. Ён выкурыў «прыму» ў самаробным, пажаўцелым ад тытуню, муштуку. Мы ўспомнілі агульных знаёмых: хто дасягнуў нейкіх вышынь, а хто зусім кудысь з’ехаў.

— Між намі кажучы, Іван… Толькі вы гэтага не чулі, — Анатоль Іванавіч азірнуўся, бы шпіён у кінафільме. — Дні тры назад я размаўляў з Гедройцам і яму нехта патэлефанаваў па сотавым. Гедройц амаль толькі слухаў. Я адышоў убок, каб не замінаць. Ён некалькі разоў раздражнёна прамовіў: ці то Гродна, ці то Гомель. А, можа, зусім іншы які горад. Усё-ткі стаяў я няблізка.

— Вам Гедройц не даваў нумара свайго тэлефона?

— Не, ён сам званіў мне дамоў і ў інстытут. Мабыць, не хацеў.

— Анатоль Іванавіч, калі раптам Гедройц вам патэлефануе, перадайце яму, што я хацеў бы з ім сустрэцца.

— Добра. Абавязкова перадам. А вам ён не даў сваіх каардынат?

— У мяне ёсць яго візітоўка. Але ні па адным тэлефоне ніхто не адказвае.

Мы развіталіся, і я пайшоў з пачуццём, што спаткаў добрага чалавека. З ім можна за сталом пасядзець, па шчырасці пагаманіць, набываючы пры гэтым спакой і раўнавагу ў душы. Ёсць такія людзі, сустракаючыся з якімі атрымліваеш радасць, і свет тады бачыцца лепшым. Кажуць, што ў такіх людзей светлая энергетыка. Ёсць і з чорнай. Яны быццам атручваюць тых, хто з імі кантактуе. Не ведаю, я — не спецыяліст па чалавечых душах. Адно скажу, на сваім шляху сустракаў людзей, якіх пасля ніколі не хацеў бы бачыць. Успамін пра іх у мяне выклікае толькі агіду. Колькі падарыў Усявышні гадоў жыцця? Няшмат. Дык навошта іх псаваць, кантактуючы з непрыемнымі асобамі? Канечне, я так мяркую, але што наканавана, тое не аб’ехаць, не абысці. Важна самому як менш выпацкацца ў брудзе.

Нягледзячы на словы Анатоля Іванавіча, што наўрад ці з’явіцца Гедройц у банку, я рэгулярна, з дня ў дзень, пад’язджаў туды. Кожны раз дзверы былі замкнёныя.

Перад выхаднымі, выкарыстаўшы ўсе свае сувязі і страціўшы надзею на Гедройца, мы змаглі нарэшце ў адным з банкаў аформіць крэдыт на льготных умовах. У той жа дзень грошы былі на нашым рахунку. Цяпер, здавалася, мы ажыццявім усе свае планы. Перад намі шырокая і прасторная дарога паспяховага бізнесу, па якой паімчым, не азіраючыся назад. Толькі ўперад,

мы — разумнейшыя за ўсіх, нашы сілы — бязмежныя. Вось такімі словамі я скончыў свой рабочы дзень, і ўсе мае памочнікі дружна іх падтрымалі. Аднак мне не хапала Гедройца. Усё-ткі, меркаваў я, з ягонай дапамогаю камерцыя будзе ісці лепш.

Дамоў ехаў на таксі. Па расійскім радыё перадавалі інтэрв'ю з нейкім следчым, які апавядаў, што следства па забойстве Каранца ідзе ў правільным кірунку. Узяты пад арышт чалавек, магчымы забойца кіраўніка Прыгранічнага. Следчы доўга разважаў пра непазбежнасць пакарання злачынцаў і скончыў сваё інтэрв'ю заклікам змагацца з п'янствам, якое, пэўна, прычына гэтага забойства.

— Вось так, пачаў за здароўе, а скончыў за спачын, — засмяяўся таксіст. — П'яніца з дубальтоўкі застрэліў кіраўніка горада. Смех дый годзе!

У маёй кватэры ў вокнах гарэла святло. Значыць, прыехала жонка з дзецьмі. Я больш ні пра што не хацеў думаць. Кожную хвіліну ў свеце некага забіваюць, абкрадваюць, рабуюць. Таксама дыялектыка жыцця. Галоўнае, што там, на пятым паверсе, мяне чакаюць мае самыя родныя і блізкія людзі. Усё астатняе мітусня.

## *Раздзел шосты*

— Табе званіў разоў пяць Алег Свістуновіч, — толькі паспеў я пераступіць парог, як гэтымі словамі мяне сустрэла жонка. — Што ён ад цябе хоча? Нейкі дзіўны чалавек. Пытаюся, што перадаць, — ён адразу кідае трубку, а праз дзесяць хвілін зноў тарабаніць. Патэлефануй яму: нешта ж гарыць.

— Ай! — адмахнуўся я.

Ёсць у мяне такі знаёмец. Мы з ім некалі працавалі разам у адной канторы. Там яго наогул не ўспрымалі як нармальнага чалавека. Нават мянушку прыдумалі: Свістун. Неяк сам расказваў, што ў юнацтве лячыўся ў псіхіятрычнай клініцы ў Навінках. Лепш бы маўчаў. Людзі — злыя істоты, і гэты факт біяграфіі даў магчымасць некаторым з яшчэ большай пагардай паводзіць сябе з Алегам, быццам з вясковым дурнем. У мяне на радзіме такіх, як Свістуновіч, называюць Алёша з батонам, ці Алёша з хутара. Я, бывала, абараняў Алега ад асабліва жорсткіх калег, любіў з ім пагаварыць пра жыццё. Ён няблага ведаў сучаснае кіно і тэатр, шмат чытаў. Калі я звольніўся з той канторы і пайшоў працаваць у іншае месца, мы з ім пачалі тады-сяды тэлефанаваць адзін аднаму. Мне было вядома, што Алег ужо з паўгода актыўна займаецца бізнесам.

У гонар свайго прыезду жонка прыгатавала адбіўныя са смажанай бульбай, салату з памідораў і агуркоў. На стале былі торт «Кіеўскі», пячэнне і цукеркі. Маленькая наша дачушка Настуля скакала ля мяне, праз кожную хвіліну лезла на калені, потым чаплялася за шыю. Яна смяялася і смяялася, церлася вакол, як кацяня. Сын Хведар, старэйшы за яе на шэсць гадоў, сядзеў са спакоем дарослага, і, пакуль не быў накрыты стол, не адрываючыся, чытаў кніжку.

Мы павячэралі нетаропка, ад торта засталіся толькі ўспаміны. Дачка з сынам так разгуляліся, што толькі пыл ляцеў па кватэры. Ужо было позна, і мы з жонкай як маглі ўтаймавалі дзяцей, паклалі іх спаць. Але яшчэ з гадзіну то сын, то дачка прыбягалі ў гасцёўню, ніяк не маглі заснуць. Ля дванаццатай нарэшце сціхлі. У кватэры было цёпла, яны спалі, скінуўшы з сябе коўдры.

Цяпер можна адпачыць і нам.

Мае разважанні спыніў тэлефонны званок. Каму не спіцца а палове першай ночы? Я гатовы быў ужо абурыцца, але як пачуў у трубцы голас Свістуновіча, толькі ўздыхнуў. На яго сварыся хоць штодня, вынік адзін: як сядзеш, так і злезеш.

— І што ты хочаш, Алег? — паўраздражнёна спытаўся я, чуючы за спінаю жончын шэпт: позна, дзяцей разбудзіш. Я махнуў рукою, маўляў, не перашкаджай. Па тэлефоне ніколі доўга не размаўляю. Гэта жонка любіць сядзець на «дроце» і абмяркоўваць з сяброўкамі свае справы гадзіну-паўтары.

Па звычцы Алег не адказаў на пытанне, а пачаў плясці розную лухту пра агульных знаёмых, потым перайшоў на амерыканскую літаратуру перыяду Хемінгуэя і Фіцджаральда.

Я сказаў сабе: яшчэ хвіліна — і кідаю трубку. На дварэ ноч, а мне па тэлефоне аналізуюць раманы Хемінгуэя.

— Алег, кладу трубку…

— Іван, для цябе прапанова. Заробіш добрыя грошы. Маёй фірме патрэбен бартар. Падумай, пашукай. Дзесяць тваіх працэнтаў.

Я ўявіў, як Свістун зараз узбуджана размахвае рукамі, вочы гараць. Ён адчувае сябе каралём бізнесу. Яшчэ паўгода назад быў Алёшам з батонам, а бач, заткнуў за пояс усіх сваіх крыўдзіцеляў. Ці надоўга?

— Іван, вельмі цябе прашу. Дапамажы, не пашкадуеш! — крычаў Алег. — Зразумей, жыццё дае вялізны шанц. Ён цябе ўздыме з каленяў, надасць годнасці і ўпэўненасці на будучыню. Заўтра цябе чакаю.

Я паабяцаў, што прыеду. Жонка таўкла мяне ў спіну, каб хутчэй клаў трубку. Мне гэта не дужа спадабалася, і я выказаў усё, што думаў пра яе размовы з сяброўкамі па тэлефоне. Жонка пакрыўдзілася, заплакала, а мне засталося толькі прасіць прабачэння і суцяшаць яе.

На вуліцы было светла. Яркі і поўны месяц, здавалася, зазірнуў у нашы вокны. Я зацягнуў як мага шчыльней фіранкі, пры такім святле спаць не мог. Толькі дарэмныя былі мае намаганні: сон усё роўна не ішоў. Жонка ўжо лічыла бараноў, а я — сланоў. Нібы я ў Афрыцы, а яна — у Сярэдняй Азіі. Я пацалаваў жонку, пагладзіў яе па валасах, прылашчыў. Яна нешта яшчэ бурчэла, але адчувалася, што злосць мізарнее. Як ні кажы, але ласка і дабрыня — вялікі лекар.

Мы ляжалі ў цемры і ўспаміналі многае з таго, што было ў нашым жыцці і нашых дзяцей.

— Зусім забылася, — сказала жонка. — Табе перадавала прывітанне цётка Вераніка. Яе Гарык вярнуўся. Гэта ж адбыў амаль сямнаццаць гадоў. Бедная цётка Вераніка…

Мне таксама было шкада цётку Вераніку, сяброўку жончынай маці. Яна была ў свой час з ліку «залатой моладзі» пачатку пяцідзясятых. Хоць амаль толькі што скончылася вайна, але ж жыццё ніколі не спынялася: як у сталіцы, так і ў любой вёсцы. А тым больш у такім горадзе, як Бабруйск.

Пакуль жонка пачынае доўгі экскурс у мінулае, сам успамінаю, што ведаю пра Гарыка, яго маці... Цётка Вераніка вучылася разам з маёй цешчай у інстытуце, толькі яна на філфаку, а цешча на юрыдычным. Пасля мая цешча выйшла замуж за вайскоўца і паехала на Чукотку, а Вераніка апынулася ў Бабруйску, дзе жылі ўсе яе дзяды і прадзеды. Штовечар увесну, летам, зімой і ўвосень Вераніка адзявала на шыкоўную прычоску капялюш, абувала туфлі на танюсенькіх абцасах і, пафарбаваўшы вусны, гуляла па вуліцах роднага горада. Ля носа справа яна абавязкова малявала мушку і горда, выпраставаўшы свае шыкоўныя грудзі, шпацыравала да плошчы Леніна, па цэнтры Бабруйска,

дзе ўжо ствараўся тэатр. Побач быў Дом афіцэраў, куды таксама збіраліся бабруйскія прыгажуні. Лейтэнанты, капітаны, а лепш маёры, па ўяўленні дзяўчат, мелі ў кішэнях грошы. І, зрэшты, быць афіцэрскай жонкаю — гэта вельмі і вельмі няблага. О, афіцэр, афіцэр!.. Толькі Вераніка надта не глядзела на хлопцаў з пагонамі. Вераніка імкнулася трапіць у больш узвышанае асяроддзе, якое фармавалася вакол артыстаў тэатра. Гэта, здавалася, былі абраныя Богам людзі.

Ёй спадабаўся высокі прыгажун артыст з блакітнымі вачыма, светлавалосы, з ласкавымі рукамі, якія маглі з ёй рабіць усё. Вераніка так кахала свайго Карлулена (ад Маркса і Леніна), што і не заўважыла ў эйфарыі кахання, як нарадзіла сына. Яна была нібы ў стане вар'яцтва: адно акно ў свет — Карлулен. Карлулен Сімкін. Цяжка і прыдумаць больш алагічнага, чым Карлулен Сімкін. Пасля стала вядома, што ён адарыў дзецьмі не толькі маладых і дурных настаўніц, але і іншых прадстаўніц жаночага роду. Умеў прайдзісвет улашчыць любую красуню і гэтым карыстаўся, не адкладваючы надоўга.

У Веранікі мінуў шал кахання разам з дзіцячым гвалтам, бруднай бялізнай і адсутнасцю грошай, а калі аднойчы прачнулася халодным восеньскім ранкам, побач артыста не было. Ён знік, забраўшы з сабой залаты гадзіннік, падарунак дзеда на шаснаццацігоддзе, завушніцы і дзве бляшанкі свіной тушонкі. Пасля, калі Вераніка ўдосталь наплакалася, вымыўшы слязьмі тварык сына, яна ўбачыла, што каханы забраў яе святочную сукню і нават бялізну, што купіла ў жонкі палкоўніка, які прыехаў з Германіі. Ёй хацелася быць для Карлулена найпрыгажэйшай жанчынай на свеце, а ён быў хоць і артыст, але злодзей. Артыстычны злодзей.

Вось такая была Вераніка. Невысокага росту, цёмныя валасы, у вачах — чорт. Нават, здаецца, зусім непрыгожая, але незвычайна абаяльная. Гэта была Вера-Ніка, якую любілі ў школе, дзе яна выкладала рускую мову і літаратуру.

У яе быў сын. Я паўтараю зараз тое, што мовіць жонка, хоць гэта ўсё даўно чуў. У яе быў сын Гарык, які адседзеў у калоніях і лагерах сямнаццаць гадоў. Вось менавіта ў гэты момант я зноў успамінаю: забілі Каранца. Хоць, зрэшты, прычым Каранец да Гарыка? Я адчуваю, што засынаю… Калі Гарык адседзеў сямнаццаць гадоў, ён павінен, выйшаўшы на волю, нешта ведаць. Каранец, Гарык…

Голас жонкі манатонна пляце павуціну, гаворыць, гаворыць… Гарык, Шмарык. Трымае агульную казну. Чыю? А навошта мне гэта ведаць? Вераніка, Гарык, Каранец. Голас сціхае, мая галава робіцца зусім цяжкая, і я заплюшчваю вочы, адплываю ў густую чорна-сінюю цемру, у глыбіні якой вясёлая Вераніка махае хусткай Каранцу, а яе сын страляе з дубальтоўкі. І зноў усё мітусня, мітусня…

## *Раздзел сёмы*

Я даўно прачнуўся. Розныя думкі лезуць у галаву, калі я прачнуся. Зрэшты, я і не спаў. Успомніў, як гады тры-чатыры назад мы з Каранцом на хутары ля возера елі юшку і пацiскалі адзін аднаму рукі ў знак сяброўства на доўгія гады. Калі я прыязджаў у камандзіроўку да яго ў раён, ён ствараў мне свята. Забываў пра сваё кіраўніцтва, мы гулялі ў карты, а пасля ехалі на хутар, дзе жыў ягоны сябра. Самае цікавае, што не запрашалі жанчын. Нам было дастаткова мужчынскай кампаніі. Пятро, ягоны сябра, браў у рукі гітару і спяваў, а мы скакалі, бы чэрці, таму што нам было добра і лёгка на душы.

Мы забывалі пра тое, што ён начальнік, а я просты, звычайны чалавек, хоць і клерк з канторы рэспубліканскага масштабу. Мы — паважалі адзін аднаго. Так было. І адзін з яго самых бліжэйшых на той час сяброў, старшыня калгаса, даваў мне заўсёды ў дарогу рыбу і мяса.

У Каранца быў вадзіцель Сяргей, малады, ружовашчокі хлопец. На левай шчацэ — цёмна-карычневая радзімка. Вочы сталёвыя, халодныя. На руках — татуіроўкі. Што яны азначаюць, не ведаю. Мы неяк купаліся ў Дняпры і здзівіліся адзін аднаму: у мяне на грудзях і ў яго былі партрэты Сталіна і Леніна. Я служыў на Каўказе, і ў нашай роце туркмен Дурдыеў і чачэнец Тароеў мелі такія татуіроўкі. Усім нам, дурням, гэтага захацелася. Тароеў мне гаварыў:

— Іван, я намаляваў сабе гэтых таварышаў, каб ніколі іх не забыць...

Што не зробіш за кампанію… Слабы часам чалавек і бязвольны…

Я думаў зараз пра Каранца. Магчыма, нехта на мяне абурыўся б, даведаўшыся пра мае думкі. Але яны не чарнейшыя, чым у іншых. Мы ведаем некаторых людзей, нібыта сябруем з імі, плачам на іх пахаванні, абяцаем родным сваю дапамогу і вельмі хутка забываем. Проста выкрэсліваем з памяці, так лягчэй жыць. Менш турбот. І я так не аднойчы рабіў, бо не лепшы за астатніх.

Забілі Каранца, я сумую, шкадую яго. Хоць, зрэшты… Ну, ведаў яго, чарку браў разам. Нават неяк уначы пасля юшкі заязджалі дамоў, у вялізную двухпавярховую хаціну, дзе была адна жонка — дзеці вучыліся тады ў Маскве.

І ўсё-ткі мне не падабаецца, калі забіваюць людзей. Бог нас стварыў не для таго, каб поскудзі, выкарыстоўваючы розныя сучасныя прылады, знішчалі сабе падобных. Я веру: кожнае злачынства павінна быць пакарана….

Усю ноч жонка расказвала мне пра лёс Гарыка і Веранікі. Добра, што цемра наклала свае прасціны на нашы вочы, інакш можна было б убачыць слёзы на маіх вачах. Я ніколі не быў сентыментальны. Аднак, канечне, такі лёс, які выпаў на долю Гарыка, не дай бог нікому. Хоць ён стварыў сябе сам. Гэтага чалавека я ніколі не бачыў. Шмат чуў пра яго, таму што ўсё сваё астатняе жыццё Вераніка прысвяціла толькі яму. Так мне расказвалі, але як было — не ведаю.

Мне хацелася сустрэцца з Гарыкам, адчуць ягоны настрой, чым дыхае. Ён для мяне, быццам касмічная істота ці фантом. Я паспрабую неяк убачыць яго, а раптам гэтая сустрэча будзе карысная? Зрэшты, любое занёмства не бывае дарэмным. У любым сэнсе: і ў адмоўным, і ў станоўчым. Калі буду ў Бабруйску, можа, пашэнціць спаткацца. Мне ўсё-ткі вельмі і вельмі цікава зірнуць на Гарыка…

…Я хацеў паехаць на працу на машыне, але мой «Масквіч», хоць і гадоў яму няшмат, — не завёўся. Пагыркаў, пагыркаў і — сціх. Павел з «Рафікам» быў на тэхабслугоўванні і давялося ехаць тралейбусам.

Да добрага хутка прывыкаеш, і мне было нязручна, няўтульна. Здавалася, што ўвесь час людзі штурхаюцца. Цесна, душна і марудна. У акно свяціла, хоць і восеньскае, але яшчэ яркае сонца.

Я толькі і марыў, каб хутчэй даехаць да свайго прыпынку і выбрацца з потнага, шумнага натоўпу. Перад святлафорам вадзіцель нечакана затармазіў і пасажыраў кінула ўперад, а пасля пацягнула назад. Мне нехта быццам уваткнуў у спіну ля самага пазваночніка жалезным рогам. Ад болю перахапіла дыханне, ледзь не закрычаў. Я рашуча павярнуўся, каб выказаць сваё абурэнне.

— О, д’ябал! — толькі і вымавіў, бо за мною стаяў Казімір Цвіркевіч, з якім мы ў юнацтве трошкі сябравалі. Ён быў з суседняй, паўкіламетра ад маёй, маленькай вёсачкі.

— Што, спалохаўся? — сказаў Казімір. — Я цябе на прыпынку яшчэ заўважыў. Нават крычаў: Іван, Іван! Ты і вухам не павёў. Ці даўно быў у вёсцы?

— Месяцы тры назад. Клопату шмат, дый там нікога і не засталося, акрамя швагра. А твае як?

— Дзякуй богу! Покуль жывыя, — у Цвіркевіча выгляд, быццам толькі прыехаў з Амерыкі. На ім цёмна-сіні гарнітур з дарагой тканіны, белая кашуля, чырвоны гальштук. У руках — дыпламат з цёмна-карычневай скуры з бліскучай, пад золата, фурнітурай.

У дзяцінстве Казімір быў маленькі, худы і вучыўся нядужа. Калі я спаткаў яго пасля арміі, дык не пазнаў. Ён вырас, пашырэў у плячах, хлопец — хоць куды. Скончыў фінансава-эканамічны інстытут і пайшоў уперад. Што такое жыццё і як плыць па ім, Казік зразумеў даўно. Мабыць, з маленства, бо ягоны бацька быў інвалід, але спраўна ўмеў шыць кажухі, штаны, паліто. Калі я прыйшоў з арміі, мне дзядзька Фядул змайстраваў такі гарнітур, што я прахадзіў у ім усе студэнцкія гады. Дый скончыўшы ВНУ, доўга не скідваў яго з плеч. Майстра дзядзька Фядул быў адмысловы. Але ж як іхняя сям'я жыла б, каб не ягоны заробак з іголкі ды ніткі. З калгасных працадзён ногі хутка працягнулі б.

— Ты спяшаешся? — Казіміру нешта трэба было ад мяне, таму што проста так ён ніколі да мяне не звяртаўся. Меркантылізм паўнюткі. Кожны жыве, як можа, а можа, як жыве. Гэта нешта з таго, што мой нябожчык тата казаў: чаму ты бедны, бо — дурны, а чаму дурны, бо —бедны.

— Еду на працу, але магу і затрымацца.

— Трошкі пройдземся.

— Я не супраць.

Мы выйшлі ля Галоўпаштамта. На прыпынку стаяла з доўгаю шыкоўнаю касою высокая бялявая дзяўчына, якая весела смяялася. У яе быў, мабыць, вельмі добры настрой. Немагчыма было не азірнуцца. Маладосць, прыгажосць і чысціня…

— Глядзіш на такую, — сказаў Казімір, — і думаеш, што багіня… А, можа, яна немаведама хто…

Яго халодныя шэра-блакітныя вочы глядзелі нібыта праз мяне. Выраз твару быў сумны, як глынуў лыжку воцату.

— У цябе нешта здарылася? Ты нейкі кіслы. Мо захварэў?.. Ці з работаю праблема?

— Здаровы і на рабоце парадак. Можаш павіншаваць. Я — цяпер начальнік упраўлення. Улады ў мяне досыць і людзей у падначаленні шмат. Ну, няблага… Усё няблага. Здаеццца, так. Ты помніш наш край? Родную Ясельду?

Пытанне было дзіўным. Як не магу любіць свой родны край, выганы, палі і лясы, з якімі знітавана мая душа.

Казік глядзеў на мяне, і нібыта чакаў майго прызнання ў каханні. Гэтак я падумаў бы, калі б быў жанчынаю. У маім чарапку нешта зазвінела, і я сказаў, надта не думаючы: гавары канкрэтна, што трэба.

— Зараз вельмі няпэўны час, варта падумаць пра сябе… — Казімір азірнуўся па баках, доўга глядзеў некуды паўзверх будынкаў. — Мы ўвесь час дбалі пра партыю, дзяржаву, каб ім было добра. Хто калі спытаў, ці добра мне, маім ці тваім бацькам?

— Ісціну ты, браце, не адкрываеш. Сёння пра гэта хто толькі не гаворыць.

— Я, Іван, пазаўчора вярнуўся з Берліна. Быў у складзе адной дэлегацыі. Падаравалі мне там вось гэтую штуковіну, паглядзі.

Ён дастаў з сумкі тоўстую кніжку. Я пагартаў яе. Тэлефонны даведнік, але такіх у нас яшчэ тады не было. Я вучыў у школе нямецкую мову і трошкі ведаў яе. Таму змог збольшага прачытаць.

Даведнік быў зроблены вельмі практычна: нумары тэлефонаў аптэк, бальніц, магазінаў і гэтак далей.

— Неблагая рэч, — сказаў я.

— Але ж, — Казімір схаваў даведнік у сумку. — У Мінску такіх пакуль няма. Ты ж выдавецкімі справамі займаешся. Як мяркуеш, можна на ім зарабіць?

— Канечне, і вельмі добра. Мне даручаеш яго выдаць?

Казімір толькі пасміхнуўся:

— На яго ўжо ёсць кліенты.

— Дык навошта мне паказваў?

— Хацеў параіцца. Ты ж больш у гэтай справе разумееш, чым я. Колькі на гэтым даведніку можна зарабіць, як думаеш?

— Казік, каб я ведаў, дык ужо і сам нешта выдаў бы…

— Дык варушыся. Мазгі ў цябе ёсць. Будзеш працаваць, атрымаецца, — Казімір зірнуў на гадзіннік. — Усё, ліміт выйшаў. Праз дваццаць хвілін у мяне важная нарада. Іван… Не ведаю, што рабіць. Параіцца трэба… Жонцы не магу гаварыць, бацькам таксама. Я заўсёды цябе паважаў. Мы з табой выйшлі з адной зямлі… Раней пра гэта не думаў, а цяпер… Карацей, у мяне апошнім часам узнікла некалькі вельмі сур’ёзных праблем… Помніш хату старой Тафілі на тваёй вуліцы?

— Помню, чаму ж не.

— Калі штосьці здарыцца са мною, паедзь у вёску і ля клуні пад ліпаю, дзе камень-валун, знойдзеш пакет. Пра яго нікому не кажы. Пасля рабі, як табе сэрца падкажа.

— Што здарылася, Казімір? Можа, я дапамагу чым? У мяне невялікія магчымасці, але ж…

— Ты мне ўжо нічым не дапаможаш… Што наогул чутно?

— Што чутно, усе нібы звар’яцелі, кінуліся ў камерцыю. Калі можна гэта так назваць.

— Так-так… — Казімір уздыхнуў. — У людзей доўга не было грошай, а цяпер яны з’явіліся. Смагу адразу цяжка наталіць.— Мне здалося, што ягоныя вочы трошкі пацяплелі, на вуснах узнікла мяккая ўсмешка. — Ладна, праз пяць хвілін нарада. Звані, заходзь. Можа, разам з’ездзім у вёску. Праз… тыдні тры.

Казімір махнуў мне рукою і пайшоў. Па тым, як ён крочыў, трымаў у руцэ дыпламат, адразу адчуваўся ў ім начальнік. На ўсёй постаці было адценне важкасці і грунтоўнасці. Уяўляю, як ганарацца ім бацькі і сваякі. Што ж, ён сам дасягнуў сваёй пасады. Значыцца,варты яе.

Аднак, што ён хацеў мне сказаць? Навошта столькі загадкавасці, таямнічасці? Зрэшты, не было ў мяне большай бяды і клопату, як думаць пра ягоныя праблемы. Канечне, я б з радасцю выдаў бы такі даведнік. Пры пустых паліцах у крамах яго разабралі б умомант. Што ж, не захацеў мне аддаць. Яго права. Свае планы. Памятаю, мы з ім год назад вярталіся разам з вёскі. Усю дарогу Казімір разважаў пра тое, як хутчэй купіць новую машыну. Скардзіўся на малую зарплату, што не хапае грошай. Двое дзяцей, жонка-настаўніца. Калі б не бацька ды цесць, хто ведае, як жыў бы. А так мяса, бульба, агародніна, яблыкі — усё сваё. Толькі паспявай грузіць «Жыгуля».

Грошы яму патрэбны на новую машыну? Няйнакш. Дарэмна, што не ўгаварыў яго аддаць мне нямецкі даведнік, дарэмна. Зрэшты, усё роўна мне без

дапамогі Казіміра не абысціся, не абысціся… У яго сувязі, уплыў. Праблемы праблемамі, а мне трэба неяк браць жыццё за бараду ці каўнер. Што атрымаецца, тое атрымаецца. Заўтра абавязкова да яго зайду. Як кажуць, без блату ці пратэкцыі — ні туды і ні сюды.

Мой сябра Аляксей Калеснік, з якім я вучыўся ў інстытуце, атрымаў выдавецкую ліцэнзію і паўгода ўжо хадзіў па друкарнях, не мог выпусціць ніводнай кніжкі. Мы з ім пяць гадоў разам жылі ў інтэрнаце. Мне хацелася яму дапамагчы, але нічога не атрымлівалася. Канечне, быў у мяне і свой інтарэс. Я спадзяваўся, што праз нейкі час Аляксей выдасць маю кніжку вершаў, слабенькіх, прымітыўных, але маіх. Мне дастаткова было б экзэмпляраў сто, каб падараваць сябрам.

Месяцы тры назад праз знаёмага я выйшаў на галоўнага інжынера адной друкарні. Мы з ім выпілі бутэльку каньяку, развіталіся амаль сябрамі, але ніякіх зрухаў не было. На ўсе мае званкі ён адказваў: няма магчымасці. Тады я пачаў дапытвацца, можа, што яму патрэбна. Дык без праблем, вырашым. Ён нядоўга аднекваўся. Выціснуў: у бацькі на сядзібе плот кепскі, стары, паламаны. Вось каб сеткі ацынкаванай на агароджу… Ну, зусім дробязь. Калеснік завёз яму гэтай сеткі і нават машыну бетонных слупоў. Кантакт адбыўся.

Аляксей ад радасці ледзь не скакаў, штодзень дзякаваў мне. Паперу і кардон завёз у друкарню, здаў рукапіс кнігі, але яе так і не выдалі да гэтага часу. Зноў я накручваў дыск тэлефона. Праклінаючы ў думках галоўнага інжынера апошнімі словамі, пры размове з ім заставаўся ласкавы і пачцівы. Было зразумела, што ацынкаванай сеткі з бетоннымі слупамі для яго ўжо мала, проста семкі. Апетыт прыходзіць у час яды.

Можа, Казімір здолее паўплываць на яго? Канечне, за пэўны інтарэс. Ніхто без інтарэсу нічога не хоча рабіць. Гэта я ўжо зразумеў. Пытанне толькі ў велічыні інтарэсу. Была б мая воля, я гэтага галоўнага інжынера накіраваў бы куды-небудзь далёка-далёка, дзе сабакі сена косяць.

Нічога, прыйдзе яшчэ час, будзе свята і на нашай вуліцы. І тады пабачым, якую песню заспявае ашуканец і прайдзісвет галоўны інжынер. Можа, і пабачым… У гэтай бясконцай мітусні, калі невядома, дзе пачатак і дзе канец.

## *Раздзел восьмы*

Калі быў Савецкі Саюз, усё было зразумела. Як пісалі на плакатах, партыя і народ — адзіны. Хто ўкраў больш за сто пяцьдзясят тысяч рублёў, таго да сценкі. Хто ношку саломы ўначы набраў на падсціл для сваёй каровы і яго злавілі, — той ішоў пад таварысцкі суд, але мог і — пад народны.

У розны час людзі жылі па-рознаму. Нехта за кавалак хлеба кроў чалавечую, можа, ліў, а нехта еў лыжкаю ікру, нават пальцам не варухнуўшы.

Жыццё — рэч складаная, цікавая, але і часовая. Каля двух месяцаў назад мне ўначы патэлефанавалі, што загінуў Макар. Мой самы блізкі сябра. Ён гасцяваў у мяне, і тыдзень мы гулялі па Мінску. Ён быў вясёлы і прыгожы мужчына, якога ўсе, здаецца, любілі. Таленавіты чалавек і шчыры, ніколі не шкадаваў капейку. Што з ім здарылася, хто на яго гэтак паўплываў? Каб выскачыць з дзясятага паверха, трэба нейкі моцны ўплыў. Мне пасля расказваў адзін з яго былых калег, быццам Макар, знаходзячыся ў дэпрэсіі, скончыў жыццё самагубствам... Я гэтага не мог зразумець. Не верыў гэтаму.

Я не трапіў на яго пахаванне, але быў на саракавінах. Дагэтуль часам мне сніцца бяскроўны і маленькі, бы у кацяняці, з патухлымі вачыма тварык

жонкі Макара. Ён вярнуўся на радзіму насуперак усяму, але ў труне. Моцна спяшаўся жыць...

Ці ведалі яны адзін аднаго з Гедройцам? Якая ўрэшце розніца. Адзін у магіле, а другі ў Амерыцы. Заможны бізнесмен, з поўнай торбаю грошай. І ў прэсе пра яго ўжо пішуць... Далёка пайшоў мой знаёмец. Вось каб дапамог мне хоць трошкі разгарнуцца ў бізнесе. Але ж не дарэмна кажуць, брат брату блізкая радня, але каўбаса — за грошы. А мне Міхась хто? Ніхто. У яго розум, а ў мяне нешта неакрэсленае, калі я не здольны быць бізнесменам. Але ж буду, д'ябал яго вазьмі! Хоць ці гэта галоўнае ў жыцці? Мітусімся, сварымся, да нечага імкнёмся, а потым азіраемся — ззаду пустэча. Чалавеку здаецца, што ён вечны, а ў сапраўднасці, як кляновы ліст: вырас зялёны і прыгожы, а потым пачырванеў, пачарнеў і ўпаў на зямлю, каб стаць угнаеннем для новага жыцця.

Я вырашыў паехаць у камандзіроўку ў Прыгранічны, дзе ў мяне былі знаёмыя. У першую чаргу трэба наведаць Кузьму Вашкова, Івана Пяткевіна і яшчэ таго-сяго. Усе яны былі ў нейкай ступені блізкія мне. З некаторымі вучыўся, з іншымі працаваў. Усё звычайна, як у большасці людзей. Нічога звыш магутнага ў маім жыцці не было. Нават дагэтуль ні разу не пабыў за мяжою, калі не лічыць Беласток, — не ваяваў у Афганістане, хоць і маю медаль з арміі. Мусіць, мне яго ўручылі выпадкова. Дагэтуль я не зразумеў, за што.

Паехаў я ў Прыгранічны аўтобусам, вырашыў не гнаць машыну. Рыгору будзе прасцей займацца справамі, на грамадскім транспарце аператыўна не вырашыш ніякіх пытанняў.

Пасяліўся ў гасцініцы. На другім паверсе мне знайшлі аднамесны нумар з тэлефонам і тэлевізарам. У ім яшчэ была ванна з туалетам. Так што я адчуў сябе вельмі камфортна і ўтульна. У Прыгранічным у мяне было два вялікія пытанні. Я дамовіўся аб сустрэчы з дырэктарам адной фірмы Іванцовым. Праз Кузьму Вашкова, які даўно ведаў гэтага чалавека. Яны некалі разам працавалі інструктарамі райкама партыі. Іванцоў мне паабяцаў даваць на продаж тавары, якія ён вазіў з Кітая.

Я прыехаў у Прыгранічны, каб рэалізаваць нарэшце нашу дамову. Кузьма мяне папярэдзіў, што з кожнай партыі, якую буду браць ад Іванцова, яму асабіста трэба аддаць дзесяць працэнтаў. Мяне гэта ўжо не здзіўляла. Бізнес ёсць бізнес. Кожны хоча добра жыць.

Яшчэ я хацеў убачыцца з Ганнай, з якой пазнаёміўся тры гады назад. Яна мне вельмі падабалася. Ніколі нічога ад мяне не патрабавала. У мяне нічога не пыталася і нават не ведала, дзе я і кім працую. Мабыць, ёй было ўсё роўна. Я мог спыніцца і ў Ганны. Але ж у яе быў пятнаццацігадовы сын, а гэта такі ўзрост, калі, як кажуць, лепш не дражніць гусей. Дый былы муж часам любіў на падпітку наведацца да яе. Навошта мне і Ганне лішнія турботы, праблемы? Гасцініца — ідэальнае месца для сустрэч. Карацей, я вырашыў неяк сумясціць работу і асабісты інтарэс.

Да вечара яшчэ было далёка, і я, прыняўшы душ, памалу пайшоў па вуліцы. Ганне тэлефанаваў, але яе не было пакуль дома. Па словах сына, яна пайшла на дзень нараджэння да сяброўкі. Я спярша зазлаваў, бо папярэджваў, калі буду. Казаў, што сумую і хачу адразу пасля прыезду ў горад бачыць яе. Пасля пераканаў сябе, што не маю рацыі: столькі часу мяне не было, рэдка званіў. У яе сваё жыццё, планы. Таксама ёсць гонар, характар. Хто ведае, можа, за той час, пакуль мяне не было, у яе з'явілася плойма такіх, як я. Кожны мужчына цешыць сябе думкай, што ён адзіны і непараўнальны. І гэта нас, прадстаўнікоў так званага моцнага боку, псуе. Мы губляем каштоўнае і падбіраем такое, ад чаго тваніць усё астатняе жыццё.

Восень была як казка. Я з замілаваннем глядзеў на чырвоныя клёны і жоўтыя бярозы, на блакітнае, там-сям падфарбаванае ружовасцю, неба і думаў, што ўсё-ткі шчаслівы. Магчымасцю бачыць гэту прыгажосць, крочыць па роднай зямлі, ведаць, што нехта мяне кахае і чакае. Колькі людзей на свеце, якія нікому непатрэбныя, якім абы пражыць дзень да вечара. Выпіць сто грамаў, з’есці кавалак сала з цыбуляю...

А чаму не шчасце сала з цыбуляю? Мне так захацелася паесці. Мой страўнік зайграў усе маршы. Гэта ж з раніцы ў роце нават чаю не было. Былы мой вадзіцель Мікалай, якога я выгнаў за п’янства, любіў казаць пасля запою: чаю больш не п’ю.

На другім баку вуліцы я заўважыў кафэ «Расстанне». Магло быць і спатканне, якая розніца, абы мяне там пакармілі.

Так званае кафэ было простай сталоўкай. Аднак шніцаль з бульбай мне знайшлі, салату з капустай і нават чай. Спадзеючыся, што не атручуся, імгненна ўсё праглынуў і пашкадаваў, што больш нічога няма.

Вячэра абышлася даволі танна. Я прыкінуў, што ў Мінску наўрад ці за гэтыя грошы паеў бы.

Я выйшаў з кафэ ў добрым настроі, толькі не хапала для поўнага шчасця Ганны. Можа, яна ўсё-ткі сёння пад’едзе да мяне. Яшчэ дзіцячы час, на вуліцах шмат людзей. Дарэчы, у гэтым месцы Прыгранічнага я не быў ніколі. Бач, колькі тут шыкоўных будынкаў, нейкія фірмы, прадпрыемствы. І крамаў шмат. Чым не Еўропа?

Я прайшоў крокаў сорак і спыніўся, нібы перада мною раптам узнікла сцяна. Толькі прачытаў шыльду на будынку і мне зрабілася ніякавата. Я не разумеў, чаму, што мяне насцярожыла. Але ў сярэдзіне стала горача. Мне захацелася вярнуцца назад, каб не чытаць больш словы «Дыяменты Поўначы».

Я не спыніўся, падышоў да дзвярэй крамы і адчыніў іх. У прасторнай зале было шмат жанчын і некалькі мужчын. Па другі бок прылаўка завіхаліся прыгажунькі, усе светлагаловыя, гадоў ім па дваццаць — дваццаць пяць. У блакітных сукенках, з белымі каўнерыкамі. Я ўжо прачытаў, хто гаспадары крамы, але мне хацелася яшчэ раз пераканацца, што не памыліўся…

Хвілін пятнаццаць я разглядваў дзівосы прыроды, чыстыя, бы сляза дзіцяці, розных памераў дыяменты. Яны былі ў пярсцёнках, у завушніцах, калье і яшчэ ў нейкіх невядомых мне вырабах. Я ніколі не цікавіўся каштоўнасцямі, быў да іх абыякавы. Помню, калі ў продажы амаль нічога не было, па вялікім знаёмстве жанчыны здабывалі па двайной цане розныя ўпрыгожванні. Потым быў перыяд, калі везлі гэтае багацце на продаж у Польшчу.

У мяне ў шафе ляжыць з вяселля залаты пярсцёнак, які па талоне купіў у салоне для маладых. Разы два надзяваў яго на палец. Я абыякавы да золата і срэбра. Аднак зараз перада мною такая прыгажосць, што нельга было адвесці вока. Я доўга глядзеў на гэты цуд, мне здавалася, што трапіў у незвычайны свет.

Людзі стаялі, як і я, глядзелі, радаваліся, забываючы пра дрэнь, мярзоту, думалі пра чыстае. Магчыма… Ну, вось так... Я падумаў і вырашыў, што так і было.

— Мужчына, вы нешта хацелі набыць? Каханай жанчыне альбо жонцы?

Я ўздрыгнуў, насупраць стаяла чарнявая, высокая, без грудзей і з ненатуральным бляскам у вачах жанчына. Гэта была мымра, альбо, прасцей, сцерва. Я не экстрасенс, але варта было на яе глянуць. Пра такіх жанчын так і гавораць: сцерва. Калі б ёй палец у рот засунуў, адкусіла б. Здаецца, дыхае агнём. Яна адкусіць нават тое, пра што і не падумаеш…

І вось стаю я сумны, шмат што разумею, але зрабіць нічога не магу. Дый што рабіць? У галаве варушыцца, думкі забегалі, як мышы ля зерня. Ціхім голасам пытаю:

— Скажыце, паважаная… Гаспадары вашай крамы Міхаська Гедройц і Вольга Каранец? — і праз паўзу дадаю: — Я іх добра ведаю. Аднаго і другую. Як мне з імі ўбачыцца?

Жанчына правяла па мне вачыма, нібы нажом, і нічога не адказала. Але я ў сталоўцы выпіў чакушку і пасля глынуў яшчэ грамаў сто. Каб быць смялейшым, дый спяшацца няма куды. Відаць, гэтыя сто грамаў былі лішнія. Я пачаў расказваць, якія мы сябры з Гедройцам, як ён выдатна грае на трубе. І ўсё пытаўся, дзе Міхась здабыў столькі дыяментаў. Адкуль яны ў яго? У чалавека, які ўсе пяць гадоў у інстытуце прахадзіў у адных штанах? І нешта яшчэ я плёў, а вакол стаялі людзі, слухалі і рагаталі…

Я прайшоўся ля прылаўка туды-сюды, зноў туды-сюды і, мусіць, пачаў мазоліць вочы, бо ля дзвярэй мяне спыніла танклявая, вочы, бы блакітнае люстэрка (здавалася, такіх не бывае), дзяўчынка гадоў сямнаццаці і ціха вымавіла:

— Маўчы, сука! Калі толькі гаўкнеш, табе ўсё...

Што заставалася рабіць? Я задумаўся. Да дзяўчынкі падышлі два быкі, чые твары мне здаліся знаёмымі. Недзе я іх бачыў. Толькі дзе? Яны рухаліся на мяне, быццам бульдозеры, ад якіх ужо няма паратунку. У аднаго з іх на левай руцэ татуіроўка: якар і слова «Вася».

— Не зразумеў... Што і дзе?.. Ведаеце, што будзе, калі Міхаська?..

— Навошта ты тут?

— Гэта толькі мая справа?

— Змоўкні і як хутчэй…

— А ну пакліч жонку Каранца альбо Міхаську! — выгукваю я.

— Больш нічога не хочаш, калода з дзярмом?.. Ты — нікчэмнасць! — у мой адрас льецца рака бруду.

— Ты што, правяраў мяне? — гавару я быку, у вачах якога, здаецца, штосьці мільгнула. Жорсткае і бязлітаснае.

Ззаду чую голас чарнявай:

— Рабіце тое, што вам сказалі. Прыбярыце гэтае пустазелле…

Яны рухаюцца на мяне, рухаюцца, а я стаю і слухаю. У маёй галаве поўны ростбіф і біфштэкс. Тое-сёе пачынаю разумець. І трэба ўжо вастрыць лыжы. Галоўнае, адступіць своечасова. Язык мой — вораг мой. Ляпнеш, а пасля не ведаеш, што рабіць.

## *Раздзел дзявяты*

Я папіў кавы і, пакуль яшчэ не асэнсаваўшы, што рабіць далей, з паўгадзіны бяздумна глядзеў на залатыя лясныя прасторы за акном. Быў відаць Днепр, свінцовага колеру вада і шэрае неба, якое, здавалася, нізка-нізка нахілілася над зямлёй. Я пачынаў шкадаваць, што прыехаў у Прыгранічны. Толькі змарную час. Што я знайду тут, які сэнс у маёй камандзіроўцы?.. Я апрануўся, выйшаў на вуліцу. Церушыў дождж.

Шэрае неба амаль датыкалася сваім крысом дахаў дамоў. Праз хвіліну мой твар быў мокры ад дажджу, але мне не было холадна. Я крочыў нетаропка, азіраючыся, як турыст, быццам спрабаваў занатаваць у сваёй памяці ўвесь навакольны свет. Мяне абганялі, ішлі насустрач незнаёмыя людзі, амаль усе

пад парасонамі. Яны спяшаліся, у кожнага была нейкая справа. Толькі я, бесклапотны турыст, гуляў без усялякай патрэбы, абы бавіць час. Мне трэба было б купіць білет і ехаць дамоў, таму што там мяне чакалі. Нічога не атрымаецца з усіх гэтых сустрэч. Да Вашкова я яшчэ не дазваніўся, не адказваў і тэлефон Пяткевіна. Я ж незразумела куды іду, навошта? Аднак ногі нібыта самі сабой варушацца.

Часам варта ісці і ісці, ні пра што не думаючы. Калі гэта магчыма. Аднак я ўспамінаю, што мяне прывяло ў гэты горад, навошта прыехаў. І пачынаю варушыцца больш актыўна. Мяне самі ногі вядуць да будынка, на якім напісана пра дыяменты Поўначы. Цяпер я канчаткова разумею: хто гаспадары гэтай крамы.

Акрэслена бачу дамы, тралейбус, што пайшоў міма мяне, людзей, апранутых у рознае адзенне, жанчын і мужчын, старых і малых. Гэтак жа выразна асэнсоўваю тое, аб чым толькі што думаў. Мінаю адну вуліцу, другую… Іду, іду, навошта іду? Але нібыта цягне магнітам. Падыходжу да дзвярэй крамы, на якіх прыгожа намалявана, а на вітрыне выштукавана яшчэ больш адмыслова: «Дыяменты Поўначы»…

Мне было цікава, што, урэшце, у сапраўднасці за гэтымі дзвярыма. Ясна, што Вольга Каранец — жонка Каранца, а Міхась — мой аднакурснік. Багач са Злучанных Штатаў. Так усё элементарна атрымлівалася па маёй логіцы. Можа, надта проста. Пэўна, Міхась Гедройц — гэта нейкі рускі багач, які пад’ехаў ад якуцкіх алмазаў, а Вольга — яго сяброўка з Прыгранічнага. Проста ажно да смеху. Я прыдумляю розныя варыянты на пустым месцы, гуляю ў дэтэктыў, а тут звычайная камерцыя, якой займаюцца разумныя людзі. Галоўнае, ім не перашкаджаць. Я сто разоў сабе казаў: каб мне не перашкаджалі, я дасягнуў бы вышынь, як Сорас, фінансавы геній з Венгрыі, які нават абрушыў у свой час валюты Японіі і Англіі.

Урэшце, якая розніца, хто што зрабіў. Усе мы выйшлі з зямлі і ў яе пойдзем. Я памятаю, у Прыгранічным жыў знаёмы, які ля ўвахода ў будынак, дзе працаваў, паставіў басаножкі і напісаў ля іх: у гэтых лапцях хадзіў вялікі чалавек. Ну і што, што ён хадзіў, падумаў тады я, пахадзіў, пахадзіў і перастаў. І гэтак кожны з нас: да пары, да часу…

Я зайшоў у кафэ насупроць крамы «Дыяменты Поўначы» і глядзеў на яе дзверы. Не ведаю, што хачу ўбачыць, што чакаю.

— Вам штосьці прынесці? — злева ад мяне стаіць кудлатая з шырокімі плячыма афіцыянтка. Нібыта штодзень займаецца штангай, альбо класічнай барацьбой. Цяпер жанчыны і такія віды спаборніцтваў любяць. На правай руцэ ў афіцыянткі залаты пярсцёнак з чырвоным каменем часоў савецкіх дэфіцытаў.

— Каму? — я ўздрыгнуў ад нечаканнасці.

— Вам, — афіцыянтка глядзіць убок і круціць сваім пярсцёнкам. Я, як зачараваны, гляджу на яе тоўстыя пальцы з абламанымі пазногцямі і думаю: няўжо нябрыдка маладой дзяўчыне хадзіць з такімі недагледжанымі рукамі.

— Ну, што? — зноў пытаецца яна мяне.

— Аб чым што? — пачынаю я нейкую гульню.

— Што п’еш? У нас так проста не сядзяць. Пасядзець ідзі на Днепр. Там і піва пап’еш! — гаркнула мне ў вуха афіцыянтка.

— Апельсінавага соку!

— Толькі таматны.

— Тады сто пяцьдзясят крывавай мэры! — мне абрыдла слухаць гэтую прапахлую тытунём жанчыну. З дзяцінства не люблю пах тытуню. У нас у

вёсцы быў сусед, які цягнуў самасад, седзячы ў хаце. Дык там стаяў такі пах, што нават мухі ўцякалі на вуліцу.

Афіцыянтка прынесла мой напой. Я глынуў раз-другі. Нешта мне не надта спадабаўся гэты кактэйль, але ўсё-ткі выпіў паўшклянкі, гледзячы на дзверы крамы па продажы дыяментаў. Ва ўсім целе ўзнік цяжар, і мне захацелася легчы.

Мая галава апускалася ўсё ніжэй і ніжэй. Я нічога не мог зрабіць, каб яе ўзняць. Цела зусім аслабела. Мае мазгі не варушыліся, толькі плыла адна маленькая думка: што са мною? У шэра-чорным тумане бачу, як да мяне падыходзяць двое. У аднаго чалавека твар афіцыянткі, што давала мне напой, у другога — твар ахоўніка Гедройца. У зале нікога, акрамя нас, няма. Мне хочацца закрычаць, таму што страх узнімаецца ў сярэдзіне. Я залез бы зараз пад стол, каб мяне ніхто не бачыў, і там прылёг бы, паспаў і здолеў бы стаць на ногі. Але я не магу анічога. І гэтыя дзецюкі здымаюць з мяне маю прыгожую, з Турцыі, скураную куртку, пасля світэр, што мне падаравала Насця летась на дзень нараджэння. Я пакорліва ўсё гэта аддаю. Хай сабе забяруць, калі такія жабракі. Мне не шкада. Настуля яшчэ звяжа світэр. А куртку... Маім нагам ужо зусім лёгка, і ветрык іх абдувае.

Зноў, як у тумане бачу, што на мяне нацягваюць нейкую анучу, бяруць пад рукі і цягнуць. Цягнуць, цягнуць і няма гэтаму канца, а ў мяне сілы скончыліся і так спаць хачу... Мне ўсё роўна, толькі б легчы. Раптам маланка ў галаве і — усё. Змрок. Прорва. Я лячу, выцягнуўшы рукі, а за мною бяжыць маленькая, абадраная, у лахманах бабулька і дробна хіхікае, раззявіўшы бяззубы рот. А спераду твань, здыхляціна, парасяты з чалавечымі галовамі і мноства бамжоў, ад якіх смярдзіць так, што адзін паратунак — адзець процівагаз. У мяне нумар шэсць. У арміі па камандзе «ўспышка справа, успышка злева», — я спрытна адзяваў процівагаз. І мне так хочацца выратавацца ад гэтай д'ябальшчыны, бо ў мяне раптам узнікае думка пра дзяцей, жонку — што я шукаю, куды мне схавацца. Махаю рукамі, нагамі, матляю галавою і дыхаю, дыхаю... Нарэшце ў горла трапляе глыток свежага паветра, пасля другі, і чарната пачынае знікаць з вачэй. Апошні раз рагатнуўшы, бабулька скокнула некуды ўбок, а за ёю ўся навалач.

Нечакана расплюшчыліся вочы, і ў мяне хапіла моцы страсянуць галавою, каб з іх зніклі рэшткі туману, які, бы вата, разрываўся на кавалкі. Я няўцямна агледзеўся і нічога не зразумеў. Побач са мной у нейкім пашарпаным вагоне сядзелі незнаёмыя мне людзі, пра нешта гаманілі і, амаль з нянавісцю, пазіралі на мяне. Моцна смярдзела, нібыта побач са мною вылілі вядро чалавечага дзярма.

— На наступнай станцыі трэба яго выкінуць, — сказала маладая кабета з суседняй лаўкі.

— Навошта чакаць, выкінем цяпер! — са злосцю выгукнуў мужчына ў спартыўным касцюме. — Можа, у каго ёсць рабочыя пальчаткі?

— А сіні халат не хочаш? — зарагатаў хлопец з вусікамі, падобны на каўказца.

Пасля гэтых слоў я зірнуў, наколькі змог, на сябе і мне зрабілася страшна. Я быў у незразумелага колеру падранай балоневай куртачцы, без кашулі, у падраных штанах і босы. І гэта смярдзела ад мяне. Камяк папоўз у горле і ледзь не званітавала. Як мог сцяў зубы і, просячы Бога дапамагчы, стрымаў сябе. Холад, нібы абцугом, ашчаперыў маё цела.

— Прабачце, — не сваім, тоненькім голасам вымавіў я. — Яшчэ раз прабачце. Мне вельмі кепска. Скажыце, дзе я?

І спярша ўзняўся гвалт. Крычалі, здалося, усе, праклінаючы мяне, маю маму, бацьку і тую зямлю, на якой я нарадзіўся. Я маўчаў, таму што не было сілы адказваць і нешта тлумачыць.

— Прабачце, — зноў сказаў я. — Са мною нешта здарылася. Дзе я?! — і гэтыя словы выгукнуў. Выдыхнуў з сябе паветра і з ім усе сілы. Нібыта мінула вечнасць. Я пачуў, як ляскаюць колы вагона, як праз адчыненае акно свішча халодны вецер, хоць трошкі перапыняючы смурод ад майго цела і маёй вопраткі.

— Дзядзя! — да мяне падышла бялявая блакітнавокая і прыгожанькая, бы анёл, дзяўчынка. — Вам кепска? А чаму ад вас смярдзіць? Як у нашай бабулі ў вёсцы ў туалеце...

— Дзе я?

— Вы ў цягніку.

— У цягніку? Што я тут раблю?

— Едзеце з намі ў Бранск.

— У Бранск. Чаму ў Бранск?

— Піць менш трэба, тады паедзеш у Маскву, — зароў мужчына ў спартыўнай куртцы. — Што з ім гаварыць. Трэба выклікаць міліцыю і хай яна з ім валэндаецца.

— Якая міліцыя будзе з ім валэндацца? Яны бамжоў і не чапаюць. Рукі не будуць пэцкаць аб гэтага казла.

— Грамадзянін, ад вас вельмі пахне, — сказала жанчына, маці бялявай дзяўчынкі, — не маглі б вы куды-небудзь пайсці? Нам кепска і дзецям нашым. Бачыце, Алеся ажно задыхаецца ад вашага смуроду.

— Прабачце, гэта не мой смурод. І я — не казёл. Тое, што здарылася са мною, можа адбыцца з любым з вас. Скажыце, дзе я?! Куды еду?!. — крыкнуў я.

— Вы сапраўды ў цягніку, які ідзе на Бранск.

— Дзе цяпер я?

— Хутка станцыя Сураж.

— Сураж?..

Сураж, Сураж.... У мяне ў галаве заварочалася гэтая назва, з кожнай хвілінай усё хутчэй і хутчэй. Сураж, Сураж, Сураж.... Ад гэтай неверагодна цяжкай працы мозгу пацягнулася нітачка да таго месца, дзе я, здаецца, толькі што быў і хутка, магчыма, апынуся. Прыгранічны — адзін край, а Сураж... Божа мілы! Гэта ж зусім розныя бакі. Божа, ты ўсемагутны! Дапамажы мне вярнуцца ў родную хату, да родных і блізкіх, да дзетак маіх любімых! Дапамажы! Я ведаю, ты можаш зрабіць гэта!

Я падняўся з лаўкі і, стараючыся не трымацца рукамі ні за што, каб незнарок не выпацкаць якога чалавека альбо рэч той брыдотаю, якой мяне аблілі, пайшоў у канец вагона. Гэта быў незвычайна цяжкі шлях. Я ішоў нібыта па палубе карабля, які трапіў у шторм і ў любы момант мог перавярнуцца. Мяне хістала, маё цела трэслася, бы галінка на моцным ветры. І яшчэ гэты смурод, што выварочваў мае вантробы, ламаў косці і суставы. Дзе былі мая душа і сэрца, пра гэта я не думаў. Але цяпер разумею, што, менавіта дзякуючы ім, метр за метрам, нібыта па мінным полі, я пераадолеў вагон і дапяў да тамбура.

Для іншых перамога над сабою — гэта ўзняцца на Джамалунгму альбо скокнуць з парашутам, забіць мядзведзя, а для мяне Джамалунгмай стаў вагон даўжынёю ў некалькі дзясяткаў метраў.

Толькі не ўпасці, толькі не ўпасці — нема шапталі вусны. Маё цела ўжо ашчаперылі гарачыя абцугі, выціскаючы з мяне апошнія рэшты вільгаці.

## *Раздзел дзясяты*

«Ойча наш», — пачыналіся нашы пацеры да Бога кожны вечар. Мы з татам і мамаю, укленчыўшы, чыталі малітвы. Мне хацелася, каб тата і мама былі са мною заўсёды, і я пра гэта шаптаў, шаптаў. Я бачыў у вышыні Бога і анёлаў, якія сачылі за кожным нашым крокам. Мне здавалася, што яны чулі словы маіх таты і мамы, якія прасілі, каб усё добра было ў дзяцей.

Шмат у небе зорак, але якая блішчыць табе? Дзень мінае, ноч, адыходзяць у далячынь гады... Ойча наш... Дапамажы нам... Калі нам ён дапамагае? Тады, калі верыш. Мой бацька Антон маленькім сярод дзясяткаў тысяч бежанцаў у пачатку Першай сусветнай вайны спярша на кані, а пасля цягніком па загадзе цара Мікалая рушыў у бежанства ў Расію. Уся Заходняя Беларусь пайшла з месца, быў гэты паток, нібы зрух цалюткага пласта зямлі. Мой бацька быў тады малы, а я нарадзіўся ў яго, калі яму было за сорак гадоў, і як далёка ўжо той час. Але ён быў, існаваў, у плоці і крыві. Ішлі тут, па дарозе людзі, якіх ужо даўнютка няма. Толькі я чую іх дыханне, нават позіркі і, адчуваю, як мой татачка, зусім маленькі, у цяплушцы цягніка сярод мноства людзей пад татахканне колаў, што не змянілася ад часоў з’яўлення паравоза, едзе некуды на Усход. Па загадзе нейкага цара яго нясе бура ў цёмны і незразумелы свет. Як несумяшчальна: цёмны і свет.

— Сынок! — казаў мне бацька. — Пачытай Біблію і зразумееш ісціну. Толькі гэтая кніга скажа, што будзе заўтра і далей.

«І што яна скажа?» — думаю я. Навошта мне тлуміць галаву, бо я ўсё разумею сам.

Цягнік рухаецца на ўсход, адвозячы дзяцей і дарослых ад вайны, нібыта ратуючы іх, але праз чатыры гады ў лагеры пад Самараю ад тыфу памерла каля трыццаці тысяч бежанцаў з Гродзенскай губерні.

Ойча наш... Пасля пацераў я кладуся на ложак, шырокі і ўтульны, таму што побач салодка пахне мама і вельмі спакойна дыхае тата. Засынаю, сплю ціха, бясчутна, і раптам за мною пачынаюць бегчы ваўкі. Я спрабую ад іх уцячы, а яны ўсё роўна мяне даганяюць. Пашчы шэрыя і зубастыя дыхаюць на мяне і паратунку няма, але недзе ж ёсць мой Бог. Выратуй мяне! Я памятаю, калі я быў зусім маленькі, не сказаць, каб маленькі, таму што было гадоў дванаццаць і летам, прыгожым летам, я ўбачыў на назе нейкі незвычайны пухір і раптам падумаў, што памру. Гэта надышоў мой канец. Я стаў на калені і доўга маліўся, плакаў, а пасля зусім забыў пра свой плач і стаў вельмі самаўпэўнены. Калі я быў малы, да мяне прыйшоў мой стрыечны брат, што быў старэйшы за мяне на дваццаць пяць гадоў, і сказаў: «Ты рэдказубы і ты будзеш хварэць хваробаю зубоў. І тое, што ты рэдказубы, гэта гаворыць, што ты хлус». Ён так мне сказаў, і мне стала страшна. Я ўсё маленства думаў пра тое, што ў мяне рэдкія зубы і я буду ашуканцам. І калі я ішоў па вуліцы, стары Шантыка сказаў мне: нічога — выжывеш. Я пра гэта расказаў свайму тату, калі мне было ... ён мне адказаў, ці помню, калі іх везлі ў пятнаццатым годзе ў Расію, у Расію…

Цягнік рухаецца на Усход, а разам з ім яшчэ цягнікі, каровы, коні і людзі. Мой тата са сваімі бацькам і маці, якіх я ніколі не бачыў…

…На нашай вуліцы было вяселле, і мы з сябрамі цікавалі побач, таму што так смачна пахла з хаты. Там былі кілбасы, сальцісон, пірагі. Ой, чаго там ні было!.. Спявалі, танцавалі, а мы есці хацелі. Нас было чацвёра: Калюн, стрыечная сястра, якога выходзіла замуж, Капярэй Віця і я, сын Штунды. Якога называлі маджарам. Чаму маджар, я не зразумеў да гэтага часу. Мо таму,

што праз нашу вёску ў вайну праходзілі мадзьяры, якія гарэлі сінім полымем, і мой брат чуў, як яны плакалі. І крык стаяў за пяць кіламетраў ад таго месца, дзе гарэлі людзі.

Ліза, сястра Калюна, выходзіла замуж за нейкага начальніка, але нам было ўсё роўна. Галоўнае, у хаце вельмі смачна пахла. Ля акон стаялі людзі. Амаль усе суседзі, яны не імкнуліся сесці за стол, яны хацелі панюхаць пах шчасця і радасці, адчуць тое, што называюць каханнем. Гэта я так цяпер разумею, так думаю. Аднак перада мною плыло сонечнае бясконцае неба, пад якім была наша вуліца, сады, рэчка...

…Чорная хмара апускалася ніжэй і ніжэй, ціснула мяне да зямлі. З бакоў лютаваў вецер. Я гэта адчуваў, таму што пачалі хрусцець косці. І мае вочы ўрэшце расплюшчыліся. Я ляжаў на голай зямлі, за паўметра ад рэек, якія звінелі, бы напятыя струны. Мне было так холадна, што, здавалася, і маё цела звінела ад калатуна, быццам гэтыя рэйкі. Выў вецер, як галодны воўк. Я паспрабаваў узняцца, але дрыжыкі, што малацілі кожны сантыметр скуры, прымусілі зноў легчы на зямлю. Яна была трывалейшай за паветра, можна было за яе трымацца. І тады я папоўз пад выццё і скавытанне ветру, адчуваючы, як ад гэтага руху ў маё цела вяртаецца цяпло. Поўз уздоўж рэек, поўз, пакуль не стаў мокры ад поту твар. Нібыта сціх і вецер. Некаторы час я паляжаў амаль непрытомны, апусціўшы галаву на руку. Аддыхаўшыся, паспрабаваў агледзецца. Быў паўзмрок. Які час, я не мог зразумець, але пастулова даўмеўся, што надыходзіла раніца. Заціх вецер. Пастулова, усё больш акрэслена і выразна, узнікалі дрэвы, абрысы дамоў. За метры тры ад мяне сядзеў на задніх лапах брудны і худы сабака. Мусіць, я стагнаў, а ён мне падвываў. Ён быў падобны на мяне, гэткі ж пакрыўджаны, выкінуты і нікому непатрэбны. І я заплакаў, ціхенька, жаласліва, шкадуючы сябе. Навошта так жорстка са мною абышліся, што я зрабіў каму дрэннага, ці перайшоў дарогу? Анічога. Толькі прыехаў у Прыгранічны і — цяпер я тут. Тут, гэта дзе? Дзе я?

— Тузік, дзе я?

Пачуўшы мой голас, сабака падняўся на чатыры лапы і, хістаючыся, наблізіўся да мяне. Вочы ў яго былі панурыя і стомленыя, быццам ён пражыў сто гадоў і стала нецікава жыць.

— Ну што, Тузік?

На мае словы сабака высунуў доўгі сіні язык, патрымаў яго, цяжка дыхаючы, і схаваў у абслюняўленай сівой пашчы. Потым ён лёг, паклаў галаву на лапы і прыплюшчыў вочы. Здавалася, заснуў. Праз некаторы час, калі я падняўся ва ўвесь рост і паціху рушыў ад сваёй лежні, сабака таксама пайшоў за мной.

Пасунуўшыся трошкі, я спыніўся: куды іду? На мне былі тыя ж падраныя штаны, куртка. Я быў босы і ад мяне смярдзела. Я агледзеўся. Па левую руку чарнела доўгая паласа кустоў. Далей узвышаліся дрэвы. Там, дзе я стаяў, было сыра. Трохі ўбаку бліШчэлі лужыны, ці то была балотная вада. Трава вакол, хоць і паўсухая, але высокая, накшталт асакі, трашчала пад нагамі. Значыць, недзе побач рэчка альбо возера. Усё паказвала на гэта. І мне трэба спярша памыцца, ачысціць цела ад бруду, ад смуроду, які быў проста невыносны. Далей будзе бачна, што рабіць. Памыцца, памыцца, і як хутчэй! У момант я дапяў да кустоў, пралез праз гушчар і перада мною разгарнулася сіваватага колеру невялічкае возера, з тых, што гавораць: сажалка.

Было вельмі холадна, але я на гэта ўжо не звяртаў увагі. Скінуў з сябе, як садраўшы жывую ненавісную скуру, усё аддзенне і скочыў у ваду. Мяне адразу быццам абпаліла, і холад дайшоў да самага сэрца. Ад гэтага яно пачало

біцца, нібы молат у руках каваля. Яго ўдары я адчуваў у патыліцы і ва ўсім целе, якое рабілася ўсё дужэйшым і слабасць знікла. Праз некалькі хвілін мне стала горача, быццам у ванне. Я быў зноў дужым і, мне здавалася, як рыба плаваў у возеры. Даваў нырца, перакульваўся з жывата на спіну, успомніў усе стылі, якімі авалодаў, купаючыся ў ласкавай рэчцы майго дзяцінства.

Цела расчырванелася, пахла восеньскім лісцем і возерам. Стомлены купаннем, я падплыў да берага, на якім, па-ранейшаму паныла гледзячы на мяне, сядзеў сабака.

— Тузік, ідзі да мяне! — здавалася, ён пасміхнуўся. — Ідзі сюды!

Яму таксама было холадна і купацца ён не хацеў, а ў мяне не было жадання яго цягнуць у ваду. Я выскачыў на балоцісты бераг і мой настрой праз хвіліну сапсаваўся. Што далей? Адзець гэтыя лахманы я не магу, а без вопраткі замерзну. Дзе мой паратунак? Што рабіць? Гарачыня ад купання пачала ўжо праходзіць. Куды бегчы, дзе ратавацца? Думай, думай, думай!.. Як ні банальна гучыць, але ж безвыходных сітуацый не бывае. Банальна, не банальна. Тут абы выжыць, не да філасофіі... Божа, я ўспомніў! І гэта мне трэба рабіць. Так, я ўспомніў! Як аднойчы мой прыяцель Васіль Базылюк, зарабіўшы добрыя грошы, вырашыў гульнуць. Пазнаёміўся з дзвюма жанчынамі і павёў іх у рэстаран, частаваў, спадзеючыся на ўзаемнасць. Грошы цяклі ракой. Хутчэй за каньяк і шампанскае. Елі ікру лыжкамі. Ён нічога не шкадаваў. У цвярозага халоднай вады не выпрасіш, а падпіты — апошнюю кашулю з сябе здыме. Дзень гуляў, ноч, а раніцай ачнуўся за Ракавам у лесе, у трусах, без грошай і дакументаў. Нават туфлі і касцюм забралі. Прагуляў тысячу даляраў, і добра, што жывы застаўся. Была такая ж восень. Туман, холад і ніводнай душы. Да Мінска няблізкі край. Вось табе і сітуацыя! Але ж Іван не прапаў. Змікіціў, што зрабіць. І дзякуй яму, дай бог здароўя!

Васіль выбраўся на трасу і пабег. У адных трусах, басанож. Спярша прыкінуўся спартсменам-марафонцам, які рыхтуецца да спаборніцтваў, з кіламетр так-сяк адолеў. Потым пачаў галасаваць. І знайшлася добрая душа, спыніла машыну. Калі апавёў сваю гісторыю, дык вадзіцель давёз да самага пад’езда.

Які ў мяне выхад, — толькі выкарыстаць вопыт Васіля Базылюка. Трэба бегчы, і я пабег. За мной ззаду трухаў, хістаючыся, сабака. Тое, што я назваў бегам, надта моцна сказана: скакаў, нібы спутаны конь. Аднак гэта мне пайшло на карысць — пацяплела і з’явілася ўпэненасць не памерці ад холаду.

Выкараскаўшыся з высокай атавы і густога кустоўя, я апынуўся на лузе, наўпрост ад якога відаць былі будыніны. Значыць, там жытло. Я пашкандыбаў у той бок, пераходзячы час ад часу, як і сапраўдны спартсмен, з хадзьбы на бег. Пакуль на мае вочы не спатыкалася ніводная жывая душа. І па-ранейшаму стаяла сонная глухая цішыня. Хоць за некалькі дзясяткаў крокаў блішчэлі халодныя рэйкі чыгункі, з травы тырчэлі стрэлкі, а ля іх узвышалася гара рачнога гравію.

Як ні дзіва, але мае трусы, памытыя пасля купання, амаль ужо высахлі і набылі выгляд абсалютна нармальнай цывілізаванай бялізны. Я правёў рукою па твары і супакоіўся: шчэць была яшчэ невялікая, а, улічваючы, што ў мяне светлыя валасы, дык калі не галюся і дні тры, усё роўна маю ахайны выгляд.

Вось і першыя хаты. Гэта быў нейкі пасёлак, хутчэй за ўсё станцыя, на якой я ў паўсвядомым стане сышоў з цягніка. Галоўнае, не спяшацца, трымацца ўпэўнена.

— Ну, што, Тузік, куды пойдзем? Маўчыш, не ведаеш. Я таксама не ведаю. Лепш, каб ты адстаў ад мяне. Два бамжы — гэта ўжо занадта.

### *Раздзел адзінаццаты*

Я ішоў, зноў дрыжучы ад холаду, таму што бегчы сіл не было. Я паеў бы гарачага супу ці выпіў бы кубак чаю, салодкага, з лустаю хлеба, намазанага маслам. Хоць бы што пакласці на зуб і ўжо весялей было б. Ніводнай душы. Што гэта — нежывое паселішча?

Ад дома, да якога было найбліжэй, насустрач мне пасунуўся нейкі цень, што праз некалькі крокаў ператварыўся ў мужчыну. Ён быў у доўгім шэрачорным жаночым футры. На твары, як на балоце, — там-сям рудая шчэць. У руках ён трымаў на тры чвэрці поўную паўтаралітровую бутэльку з-пад мінералкі. Зрабіўшы крок наперад, адразу на крок адыходзіў назад.

Убачыўшы мяне, ён чамусьці пачаў ікаць, але ж здолеў прамовіць:

— Ты-ты, што?..

— Што, што?.. — адказаў я.

— Інша-інша-планецянін?.. — нарэшце сказаў мужчына.

— Здароў, — сказаў я. — Што гэта ў цябе?

— Гэта? — мужчына доўга разглядваў бутэльку, потым адпіў ад яе. — Гэта — самагонка. Не, як настаўнік гісторыі, пацвярджаю: напітак багоў. Б’е амаль адразу. На, калі хочаш, выпі... Мне не шкада. Толькі не ўсё. Трэба даць яшчэ Аксане, бо ёй таксама хочацца.

У яго рукі былі гэткія ж брудныя, як гадзіну назад у мяне, і пахла ці то бензінам, ці то пральным парашком. Перасиліўшы агіду, я ўзяў бутэльку і, заплюшчыўшы вочы, глынуў. Спярша было адчуванне, што мне залілі кіпеню ў горла. Я закашляўся, пырхаў, чмыхаў і смаркаўся. Аднак напой багоў дайшоў да майго страўніка, які прагна пачаў яго ўсмоктваць.

Аддыхаўшыся, я весялей глянуў на свет, і мужчына мне здаўся ледзь не сімпатычным. Я паляпаў яго па плячы і тонам ганарыстага пеўня спытаў:

— Цябе як зваць?

— Мяне Вася.

— Вельмі прыемна.

— І мне таксама прыемна. На, глыні яшчэ. Толькі не да донца. Мне трэба Аксану пачаставаць.

Я глынуў і ўбачыў недалёка двух сабак. Зразумеў, што гэты глыток быў лішні, каб не пашкодзіў мне.

— Ты што, і зімой гэтак ходзіш? — Вася паказаў сваім брудным пальцам на маё цела. — Не, ты не інша-пла-іншапланецянін. Ты — морж!

— Адкуль ты здагадаўся, што я — морж?

— Адкуль? — Вася задумаўся, нават бутэльку паставіў на зямлю, і я спалохаўся, што зараз яе перакуліць. Не, падняў, схаваўшы ў кішэні свайго футра, знайшоў жалезны аргумент: — Хто ў гэты час ходзіць па вуліцы ў адных трусах? Хто? Толькі морж. У вопратцы яму горача. Я — не морж, таму хаджу ў футры.

Так, з Васем мне ўсё зразумела, але якое ж выйсце? Пакуль ён адзіны жывы чалавек, з кім мяне звёў лёс. І трэба паспрабаваць знайсці дапамогу з ягонага боку.

— Нешта я цябе раней не бачыў тут... у трусах, — сказаў Вася. — Не, не бачыў...

—А без трусоў? — у мяне яшчэ духу хапае на іронію.

— Хочаш пакрыўдзіць? — мутныя і бяздумныя Васіны вочы як бы пасвятлелі. — Я цябе раней не бачыў у нашым пасёлку без трусоў. — З упартасцю алкаголіка паўтарыў ён. — І ў трусах таксама. Ніяк не бачыў. А можа, ты маньяк? Нашых усіх баб хочаш забіць.

— І Аксану?..

— Аксану... Аксану... Не, Аксана спіць. Ёй сто грамаў і — мужчына не патрэбен. Дык ты морж? — зноў завёў сваю песню Вася.

— Морж я, морж, — дзеянне напою ўжо канчалася, і я з задавальненнем нацягнуў бы на сябе Васева футра і дзіравую аблавушку. Дый штаны не пашкодзілі б, боты хоць якія.

— Слухай, Вася, — сказаў я амаль ласкава, стараючыся разбудзіць у ім дабрыню і спагадлівасць, — ты не мог бы мне дапамагчы? Я потым табе аддзячу... І някепска аддзячу...

— Мне нічога не трэба — захітаў галавою Вася, — нічога, акрамя віна. Давай бутэльку і дапамагу.

— У мяне зараз нічога няма. Пасля я табе падару цэлую скрынку віна альбо гарэлкі. Калі мне дапаможаш.

— Давай бутэльку, тады дапамагу. Потым мне скрынка не трэба. Мне зараз давай бутэльку, — забубніў Вася. — Маё піў, у трусах ходзіш, давай бутэльку!

У яго голасе з'явілася адценне агрэсіўнасці. Бы заведзеная цацка, бубніў адно і тое ж. Трэба было шукаць другога чалавека, бо з гэтым алкаголікам ніякай кашы не зварыш. У мяне зноў быў калатун, і зубы выдавалі такі пошчак, што пачала трэсціся галава.

— Вася, я не морж і не іншапланецянін. Мяне абакралі і выкінулі з цягніка. Цябе ніколі не выкідвалі з дому голым на мароз? Мяне, бачыш, пакінулі ў адных трусах. Чуеш ты, асліная морда, ці не!?. — я ўчапіўся рукамі за каўнер яго ванючага футра і затрос што было сілы. Мяне надоўга не хапіла і я выпусціў яго, перапалоханага і слюнявага ад страху. Праз імгненне ён нібы растварыўся ў паветры. Толькі што стаяў, смярдзеў, нешта гаварыў і знік, пакінуўшы мяне зноў аднаго перад невядомасцю. Пэўна ж, пабег у бліжэйшы дом, вакол якога буяў хмызняк. Мне нічога не заставалася, як ісці ўслед. Каб хоць трошкі адагрэцца, я гатоў быў залезці хоць у мядзведжую бярлогу. Ад холаду маё цела пачынала касцянець. Мускулы рабіліся цвёрдымі і малярухомымі.

Гэта быў двухпавярховы дом з адным пад'ездам, недагледжаны, аблезлы. Дзвярэй у пад'езд не было. Нейкая частка іх вісела на цвіку, трошкі прыкрываючы чорную зеўру праёма. Перад парогам ляжала куча рознага смецця. І я балюча выцяўся правай нагой аб кавалак цагліны, ледзь не ўпаў, але паспеў рукою ўтрымацца за сцяну. Зрабіў крок, другі, як мяне ў спіну нехта моцна штурхнуў. Я сваім голым целам, параніўшы ўсё што толькі можна, грымнуўся на падлогу, мацюкаючыся і праклінаючы таго, хто гэта зрабіў. Мне адразу ўдарыў у вочы востры прамень ліхтара. Я быццам аслеп і прыкрыў твар рукамі. Увесь сцяўся, чакаючы штосьці яшчэ больш горшае, якое і адчуў на сваім жываце. Той, хто свяціў ліхтаром, ці яго памочнік, ударыў мяне з веданнем справы. Магчыма, хвіліну не хапіла мне да страты прытомнасці, але вопыт баёў у далёкім дзяцінстве, пра які, здаецца, забыў, усё-ткі спрацаваў. І я, выдыхнуўшы раптоўна паветра, гэтак ж раптоўна ўдыхнуў і мне стала лягчэй. Мая правая рука абапіралася на сцяну, і я намацаў нешта цвёрдае і гладкае, якраз зручнае, каб разлічыцца з крыўдзіцелем.

— Стаяць, тваю маць! Інакш буду страляць! — зароў гаспадар з ліхтаром, і я апусціў руку, зрабіўшы выгляд, што ніякага кепскага намеру ў мяне не было.

Калі вочы трошкі прывыклі да змроку пад'езда, я ўбачыў, што перада мной стаяць міліцыянер і Вася. Алкаголік няшчасны, каб табе ніколі добра не было пасля гарэлкі! Каб сённяшняя бутэлька была апошняй у тваім жыцці!

— Што тут робім у адных трусах, не ў форме? — ад міліцыянера пахла мала лепш, чым ад Васі, і выйшаў ён, відаць, вунь з тых паўадчыненых дзвярэй, з якіх плыла ракою цеплыня. Мне хацелася як хутчэй зайсці туды і даць магчымасць майму целу сагрэцца. І я, нічога не адказваючы на грознае пытанне міліцыянера, моўчкі пайшоў насустрач гэтаму выратавальнаму патоку жыцця. І ніхто не мог мяне спыніць.

Пераступіўшы парог, я сеў на падлогу, прыхіліўшыся да сцяны. І адразу здрадніцкі сон пачаў сціскаць маю галаву. Але мент наском чаравіка ўдарыў па маёй абадранай левай назе. Толькі сон быў мацнейшы за боль. Спаў я нядоўга, гэта быў нібыта правал. Як раптоўна заснуў, гэтак жа імкліва прачнуўся.

Незнаёмыя галасы гудзелі, бы чмялі. Калі я ўзняў галаву, дык убачыў ужо знаёмага мне Васю, які сядзеў на табурэтцы без футра, міліцыянера ў расшпіленай да пупа форменнай кашулі і рыжую маладую жанчыну, чый твар быў напалову сіні, а напалову жоўты. Яна курыла цыгарэту і нешта спявала хрыплым панылым голасам.

— Вось за што я цябе, Вася, люблю, дык гэта за кемлівасць. Трэба ж, дапамог органам злавіць маньяка. І вось ён, як апошні пацук, сядзіць пад венікам у кутку і чакае свайго пакарання, — бубніў міліцыянер. — Калі б не ты... Аксана, чуеш?.. Усю прэмію прап’ём!.. Запросім начальства, Пятровіча і... Ты, сука, сядзіш, дык сядзі, а то ўрою. Відзел, які ў мяне, у рускага мента, пістоль? Толькі раз, два, тры і ты замахаў крыламі, паляцеў да Бога. І нічога мне не будзе. Я пры выкананні сваіх службовых абавязкаў. Я, участковы міліцыянер, павінен абараніць насельніцтва ад такіх маньякоў галапузых. Малайчына, Вася! А ну,налі мне з той жоўтай бутэлькі! Ах, сука, і моцная! Дай, Аксана, капусты. Што, усю ўжо з’елі? Хто дазволіў? Сам з’еў? Піць — піў, а вось пра капусту не помню. Наша справа своечасова выпіць, а закусіць Манька і ў краме дасць. Усё аддасць. Не аддасць, забяром. Вось зараз пойдзеш і возьмеш у яе яшчэ такіх дзве жоўценькія кілбасы, кансерваў і хлеба. Ясна?!. Вось так, са мной лепш не жартаваць, а то і без галавы можна застацца. Аксана, адна нага тут — другая там! Цяпер будзем рабіць допыт. Ты, Вася, будзеш пракурорам... Я — следчы, а гэты — маньяк… Бяры паперу і пішы. Не помніш, як пісаць? Ну, ты казёл! Ты ж яшчэ мяне ў школе гісторыі вучыў. Як гэта? Першая руская рэвалюцыя адбылася ў тысяча дзевяцьсот пятнаццатым годзе...

— Не ў пятнаццатым, а ў пятым. Эх, участковы, участковы, кепска я вас вучыў, калі не можаш адрозніць тысяча дзевяцьсот пятнаццаты год ад пятага. Тады ж была руска-японская вайна, — уздыхнуў Вася. — Няўжо не помніш? Эх, цёмны ты чалавек.

— Я — цёмны?!. Ах ты, бамжына, алкаш! Інстытут закончыў, а дурань дурнем застаўся. Цябе Манька за што выгнала з хаты?!. За што?.. Цябе пара з пасёлка ўжо выгнаць. Маць тваю!..

Вася нешта замармытаў у адказ, дапіваючы сваю шклянку, але абурэнню міліцыянера ўжо не было мяжы, і ён з размаху добра-такі выцяў яго кулаком па галаве. І той з грукатам, перакуліўшы табурэтку, лёг на падлогу пад сталом.

— Вось так! — задаволена сказаў міліцыянер. Трымаючы шклянку на адлегласці, праверыў яе на наяўнасць напою. Відаць, здалося малавата, таму што дадаў рэшту, якая яшчэ заставалася ў бутэльцы. — Будзеш? — невядома ў каго спытаўся ён і адказаў праз паўзу: — Будзем.

Ён доўга, з клёкатам, піў. Мусіць, ужо не лезла, але ён настойліва заганяў у сябе гэтую вадкасць, і я ў думках дапамагаў яму. Нарэшце ён адолеў сваю цяжкую задачу. Некаторы час сядзеў за сталом, бубніў, потым устаў і, хістаючыся, пайшоў па пакоі. Вочы яго спыніліся на мне, і ён спытаў у недаўменні:

—Ты хто?

—Міша.

—А, Міша. Ну, зразумела. Ты, Міша, пакуль пабудзь на каравуле, а я закушу. Можа, у гэтай шалавы хоць сала ёсць. Дзе гэтая шалава? Міша, дзе Аксана?

— Спіць.

—Ай! — махнуў рукою міліцыянер. — Каму яна патрэбна, гэтая шалава.

Ён тупаў па хаце, тупаў, ужо размаўляў сам з сабою і, здавалася, канца гэтаму не будзе. І ўсё-ткі зваліла з ног і яго жоўтая бутэлечка. Ён прысеў на табурэтку, пахістаўся і хутка, шырока раскінуўшы рукі і ногі, пляснуўся недалёка ад Васі. Ягоны «Макараў» блішчэў на стале ў шалупінні, мокры ад напою.

Я даволі бадзёры, адпачнуўшы, толькі галодны, бы сабака, агледзеўся. Пуста ў кватэры, а існі далей голым адсюль не было ніякага сэнсу. Нешта трэба было вырашаць. Я зазірнуў у шафу: нейкія лахманы віселі. У кутку стаяў розны абутак, у пыле, брудны. Атрымлівалася не зусім прыгожа. Калі я вазьму якіясь рэчы, дык выйдзе, што ўкраў. Тады ўжо буду злодзеем, якога трэба сапраўды лавіць.

Але ж, але ж... Тут нічога няма свайго, усё агульнае... Я яшчэ раз перабраў адзенне, што было ў шафе, і з усяго рыззя мне падаліся больш-менш прыстойнымі спартыўныя штаны і майка з доўгімі рукавамі, падобная на лёгкі світар. І па памеры яны былі якраз для мяне. Хай Бог даруе, але ж неяк трэба ратавацца. Не чакаць жа таго моманту, калі гэтыя два абалдуі расплюшчаць вочы, і маё кіно пачнецца зноў. З абутку я выбраў старэнькія, але не парваныя кеды. Ад вопраткі пах быў гэткі ж, як і ва ўсёй хаце, — састарэлага п'янства і бруду.

Я, нібыта дваццаць гадоў назад у арміі, імгненна нацягнуў на сябе ўсё, што падабраў, і збіраўся ўжо даць лататы. У гэты момант пачулася мармытанне і парог ледзь-ледзь перапаўзла сіне-жоўтая Аксана. У яе торбачцы былі дзве бутэлькі з дзівосным напоем, пра які на этыкетцы было напісана: «Ужываць толькі для мыцця ўнітазаў». Аксана прынесла яшчэ бохан чорнага хлеба, надгрызены кавалак варанай кілбасы і некалькі цыбулін.

З цяжкасцю дапяўшы да стала, яна правяла па ім рукою, скідваючы смецце на Васю і міліцыянера, і выставіла свае прысмакі. Няўцямна паазіралася і ляпнулася на табурэт.

— Сядай, мужчынка! Сядай, частую. Мне нічога не шкада... Сядай!

П'яная, як кажуць, у дым, аднак, бач, запомніла мяне. І глядзіць вар'яцкім вокам, калыхаецца. Замест таго, каб адразу ўцякаць, я сеў побач з ёю за стол. Адкаркаваў бутэльку і наліў ёй поўную шклянку напою, сабе — каб накрыць донца.

— Аксана, за тваю прыгажосць, на здароўе!

— Да-вай! І за тваю прыгажосць! — яна бы ваду глынула вадкасць, якая пахла пральным парашком. Акуратна паставіла шклянку, пагрызла акраец хлеба і, неяк усхліпнуўшы, імгненна заснула. Я асцярожна нахіліў яе з табурэта на ложак, які стаяў побач.

Аксана спала, падклаўшы рукі пад правую шчаку, ледзь чутно дыхаючы. Я з хвіліну пастаяў ля яе: відаць, некалі гэтая жанчына была прыгажуняй. Гнуткая высокая шыя, правільныя рысы твару, якія пачало ўжо разбураць п'янства. Чорныя, бы вугаль, валасы, даўно нямытыя, але густыя і доўгія. Дый фігура ў яе была на зайздрасць многім жанчынам. Зусім абясцэніла сябе дзеўка. А было ёй не больш як дваццаць. Самы росквіт, лепшыя гады... Ад яе

ж смярдзела, як гадзіну назад ад мяне, і нічога светлага не было ў гэтай забруджанай кватэры. Мне стала яе шкада. Я нахіліўся над ёй, каб правесці рукою па валасах. Хоць было і непрыемна. Ззаду пачуўся стогн, і я, азірнуўшыся, убачыў, што гэта заварушыўся міліцыянер, цмокаючы сасмяглымі вуснамі...

Больш мне тут рабіць не было чаго. Я на дыбачках, баючыся, каб не зачапіцца за што-небудзь, выйшаў з кватэры, прыхапіўшы яшчэ і старэнькую спартыўную шапку. Вася ўсё роўна ходзіць у аблавушцы, а мне наперадзе далёкая дарога. Прабач, Вася, некалі вярну табе новыя спартыўны касцюм, кеды і шапку. У даўгу не застануся. Усё роўна гэтае адзенне табе пакуль без патрэбы.

На вуліцы было ўжо зусім відна. І мяне перад домам чакаў Тузік, які адразу заматляў хвастом. Дзесьці наперадзе раўлі аўтамабілі. У той бок я і накіраваўся, а за мной трухаў сабака.

Па дарозе я спаткаў некалькі жанчын, апранутых мала лепш за Аксану, і вясёлых. Яны не звярнулі на мяне аніякай увагі. Жанчыны неслі таксама напой для ўнітазаў.

Праз якой паўгадзіны я выйшаў на трасу. Мне амаль адразу пашэнціла, таму што машына ішла ў бок Мінска. На развітанне, памахаўшы рукою Тузіку, які тужліва глядзеў мне ўслед, нібы просячы ўзяць з сабою, я рушыў у бок родных мясцін. Як найхутчэй адсюль ад’ехаць. Мне шмат пра што трэба цяпер падумаць. Нічога добрага, адна мітусня…

## *Раздзел дванаццаты*

Мне трапіўся спагадлівы зямляк, які чамусьці паверыў, што я актыўна займаюся спортам і дапяў так далёка, што ўжо ніякі бег мяне дамоў не верне. Амаль што, нібы байдарачнікі, — паплавалі, паплавалі, а потым свае лодкі і вёслы на плечы, — альбо найлепшы варыянт — на машыны і — паехалі куды вочы глядзяць. І так думаў я. Мне надышоў момант добра падумаць галавою, дый і ўсімі мазгамі, як рухаць далей, што, нарэшце, зрабіць, каб выжыць сёння. Я сказаў, і мне стала вельмі непрыемна, бо жыццё, — я кажу банальную рэч, якую можна было чуць з розных вуснаў, — але яно найлепшае з таго, што стварыў Усявышні.

Часта думаю пра дзень, пра вечар. Але ніколі пра ноч і раніцу.

Я думаю...

Выгляд быў у мяне, канечне, вясёлы. Быццам вяртаўся з дачы пасля тыднёвага там знаходжання. Без жонкі і дзяцей. Аброслы, у брудных штанах, зашмальцаванай куртачцы. Падобны на бамжа. Але, галоўнае, жывы і не хворы. Толькі галодны, бы сабака, і без капейкі грошай.

На шчасце, дома быў адзін сын, які адчыніў мне дзверы. На яго твары было столькі здзіўлення, што адчувалася: ён мяне ў першы момант не пазнаў.

— Тата, гэта ты? — ён нават наблізіў да майго твару вочы.

— Я, сынок, я, — і хуценька праз парог, ля якога адразу зняў з сябе вопратку і выкінуў у смеццеправод. Туды ж паляцелі і кеды. Хоць мо і трэба было пакінуць на памяць. Не, не патрэбна мне такая памяць.

Я залез ў гарачую ваду. Цёрся мылам, ліў на галаву шампунь. Здавалася, ніяк не знікне смярдзючы пах. І цела не магло сагрэцца. Калі мяне пацягнула на сон, тады, нарэшце, я вылез з вады.

Было ціха і спакойна. Я быў у сваёй кватэры. У дзіцячым пакоі за сталом сядзеў мой сын. Мне было так добра, што я ледзь не заплакаў. Дні мінаюць,

гады, і калі ўсё роўна, гладка, ты нават не здольны ацаніць гэтага. Здаецца, інакш і не можа быць. А вось, калі раптам цябе жыццё павалтузіць тварам аб глебу да крыві, тады разумееш кошт кожнай хвіліны, кожнага дня.

Я падышоў да сына, абняў яго і пацалаваў у макаўку. Ніколі асаблівай ласкі не паказваў, быў заўсёды стрыманы з ім. А тут неспадзеўку нахлынула на мяне цёплая хваля.

— Ты што, тата? Чаму ты не званіў з камандзіроўкі?

— Не было як. Пасля раскажу, — я вырашыў, што пра свае прыгоды абавязкова раскажу сыну, каб ён ведаў: у жыцці не толькі сябры, але ёсць і ворагі. І сябра можа стаць у любы момант тваім ворагам, і гэта будзе самы небяспечны вораг.

Я паеў сала з цыбуляю, выпіў вялікі кубак салодкай гарбаты і ўпаў на канапу. Ужо засынаючы, адчуў, як сын накрыў мяне коўдраю.

Назаўтра я з'явіўся на працу. З паўгадзіны Рыгор мне дакладваў пра справы нашага прадпрыемства. Яны былі нібыта і някепскія. Крэдыт нам у банку аформілі. Можна было купляць паперу, кардон і пачынаць выдаваць кніжкі. Аднак на нашым шляху ўзнікла яшчэ адна перашкода. Дырэктар прадпрыемства, з якім я сустракаўся некалькі месяцаў назад і быццам дамовіўся аб нашым супрацоўніцтве, прыпыніў работу.

— Чым ён гэта тлумачыць?

— Нічым. Быццам у яго няма магчымасцей, усе тэхнічныя магутнасці заняты на паўгода наперад. Наш праект могуць пачаць толькі напрыканцы года.

— Цікава... Як мы будзем разлічвацца за крэдыт? Нам каюк...

— Я гаварыў яму пра гэта. Яму ўсё роўна. Сказаў, што гэта нашы праблемы. У яго свае справы, якія трэба вырашаць. І болей не стаў са мной размаўляць. Трэба табе падысці да яго. Яшчэ раз паспрабаваць пагаварыць.

— Усё гэта я разумею. Нешта трэба прыдумаць. Мы павінны прыдумаць...

— На прадпрыемстве ўсе такія сталі нахабныя, што няма слоў, — Рыгор развёў рукамі. — Я не ведаю... Дарэчы, як твая паездка ў Прыгранічны? Раптам знік і ніводнага гуку. Вырашыў там што-небудзь?

— Пра гэта пасля. Пайду на прыём да галоўнага інжынера, — я падумаў, што на гэты раз здолею з ім дамовіцца. Не атрымалася некалі з Аляксеем Калеснікам, дык са мною ўсё будзе інакш. Я яго прымушу аддаваць даўгі. І, урэшце, трэба падключыць Казіміра Цвіркевіча. — Галоўны інжынер, лічы, другі чалавек на прадпрыемстве. Падключым і Фядзякіна.

— Ну-ну... — засумняваўся Рыгор. Фядзякін быў той самы міліцэйскі палкоўнік, з дапамогаю якога я спрабаваў паспрыяць Аляксею Калесніку. — Ён аднойчы ўжо дапамог.

— Тады не змог, але зараз будзе ўсё нармалёва. Паўздзейнічаем з розных бакоў.

Я вырашыў Рыгора пакінуць на тэлефоне, а самому ісці на прадпрыемства. Дзесьці ў мяне быў запісаны нумар галоўнага інжынера. Вось, дарэчы, і яго візітоўка. Аляксандр Васільевіч Грам. Гучнае прозвішча. І месца ў цябе хлебнае з маслам, таварыш Грам.

— Добры дзень, Аляксандр Васільевіч! — я набраў нумар яго телефона, абмінаючы сакратарку, назваў сябе. Ён нешта мармытнуў у адказ, а пасля я пачуў:

— Ну, і што?..

— Вам вялікае прывітанне ад палкоўніка Фядзякіна Юрыя Андрэевіча.

— Дзякуй, — ужо менш раздражнення ў голасе.

— Мне трэба з вамі ўбачыцца.

— Я сёння моцна заняты, заўтра таксама. Паслязаўтра еду ў камандзіроўку.

— Юрый Андрэевіч прасіў напомніць вам пра Семанюка... Што ён ёсць.

Тады, калі я безвынікова спрабаваў дапамагчы сябру Аляксею выдаць кніжку, мы з Фядзякіным неяк былі разам на адной вячэры. Фядзякін пад ужо добрай чаркай расказаў мне, што ён выратаваў пляменніка Грама ад турмы. Той з сябрамі абрабаваў некалькі машын. Забіралі аўтамагнітолы, асабістыя рэчы гаспадароў. Гэта ў іх была такая гульня. Ім пагражала да пяці гадоў «хіміі». Дэталяў палкоўнік не ўдакладняў, але з усёй кампаніі за краты не трапіў толькі пляменнік Грама. Фядзякін нібы падарыў мне гэты факт наўмысна, і я вырашыў яго выкарыстаць. Раптам нешта атрымаецца. Нахабства, кажуць, другое шчасце. Дый што я губляю. Усё жыццё — гульня, дзе два бакі: пераможаныя і пераможцы.

— Добра ... — праз паўзу сказаў Грам. — Заходзьце праз пятнаццаць хвілін. Сакратарку я папярэджу.

— Дамовіліся, Аляксандр Васільевіч! — я акуратна паклаў трубку, баючыся спалохаць сваю ўдачу. — Вось бачыш, а ты казаў.

— Паглядзім. Пакуль курачка ў гняздзе, не кажы, што ў цябе ўжо ёсць яйка, — мудра сказаў Рыгор. — Будзем, канечне, спадзявацца на поспех.

Ісці ад нашай канторы да прадпрыемства Грама — хвілін пяць. Аднак я для аўтарытэту пад’ехаў на аўтамабілі. З важным выглядам, трымаючы пад пахаю скураную папку, пакрочыў праз праходную.

У мяне была няпростая задача: сустрэцца з гэтым чалавекам, пагаманіць з ім і вырашыць пытанне, ад якога, магчыма, будзе залежаць лёс нашага так званага прадпрыемства, усіх, хто пачаў у ім працаваць. Урэшце, я кіраўнік, на мяне глядзяць людзі, чакаюць. Я павінен угаварыць Грама. Не сварыцца з ім, а зрабіць сваім саюзнікам. Я спаслаўся на Фядзякіна. А што мне рабіць? Можна ўявіць, як сястра прасіла Грама выратаваць роднёнькага Міколку ад турмы. І ён, пэўна, рабіў усё, што мог. Мая мама казала: не заракайся ні торбы, ні турмы, усе ходзім пад Богам.

Ад гэтых думак мне стала непрыемна на душы, але я ўсё-ткі прымусіў сябе сканцэнтравацца, сабраць волю ў кулак. Наперадзе ў мяне была няпростая размова, якую прайграць я не мог.

У прыёмнай Грама сядзелі і стаялі чалавек пятнаццаць. Сярод іх я ўбачыў знаёмых. Няйнакш прыйшлі з такой жа нагоды, што і я. Усе праводзілі мяне зайздроснымі позіркамі, калі сакратарка, пачуўшы маё прозвішча, запрасіла ў кабінет галоўнага інжынера.

Грам быў не адзін: ля акна спінаю да мяне стаяў высокі сіваваты мужчына ў доўгім скураным паліто. Яны размаўлялі, але, калі я ўвайшоў, змоўклі.

Хваляванне, якое было раней, знікла, і я адчуў сябе так, быццам знаходжуся ў сваім кабінеце, а гэтыя людзі прыйшлі да мяне з просьбаю.

Я павітаўся з кожным за руку і, не чакаючы запрашэння, сеў да стала. Грам зірнуў на мяне спадылба, пагартаў паперы і, ветліва ўсміхаючыся, спытаў:

— Які клопат прывёў вас да мяне?

Я вычакаў хвіліну і, хітнуўшы галавою на скураную спіну, сказаў:

— Мне хацелася б пагаварыць сам-насам. Ёсць далікатнае пытанне.

— Гэта я ўжо зразумеў, — ласкава заўсміхаўся Грам. — Але ж ад Аляксея Часлававіча ў мяне няма ніякіх таямніц.

— Прабачце, Аляксандр Васільевіч, у мяне канфідэнцыяльная размова...

— Якая канфідэнцыяльная размова? — Грам узвысіў голас. — Думаю, у гэтым выпадку нам няма пра што гаварыць. Вы — супрацоўнік міліцыі, пракуратуры ці КДБ? Якая праблема? — Ён падняўся ва ўвесь рост. Твар у яго зрабіўся чырвоным, пальцы, у якіх была заціснута папка, пабялелі. Усё гэта я імгненна заўважыў. Падумаў, зараз вытурыць у шыю. І зробіць мяне шантажыстам. Вось будзе канцэрт і кіно разам. Пасля з’явяцца тыя органы, якія ён пералічыў. І нават Фядзякін не дапаможа, тым больш атрымаецца, што я фактычна яго падставіў.

### *Раздзел трынаццаты*

Я не закрычаў, не сказаў ніводнага слова супраць. Слухаў і маўчаў. Няхай выкажа ўсё, што хоча і чаго палохаецца. Няўжо ён нікога і нічога не баіцца? Зусім нядаўна і я гэтак думаў, пакуль не апынуўся ў невядомым цягніку ў вопратцы бамжа, босы і галодны. На кожны вінт ёсць і свая гайка. І для кожнага пярсцёнка недзе жыве палец адпаведнага памеру.

— У мяне праблемы няма, Аляксандр Васільевіч, і ў вас няма. Шчыра, мне трэба было з вамі спаткацца. Ваша сакратарка, ці, як кажа мой паплечнік Рыгор, цэрберша, нават не хацела нас злучаць па тэлефоне. А Фядзякін — мой стары знаёмец. І толькі...

— Дык што вы хочаце?.. — Грам прыкметна паспакайнеў, наліў сабе шклянку мінеральнай вады і выпіў. Потым зноў наліў. Мужчына ў скураным паліто падышоў да стала, сеў насупраць мяне. Твар шырокі, у глыбокіх зморшчынах, светлыя, кароткія, з ледзь прыкметнай сівізной валасы. Трохі скрыўлены ўправа даўгаваты нос. Рукі ў яго былі моцныя, з кароткімі тоўстымі пальцамі. Вочы светла-блакітныя і, здавалася, нерухомыя. Ён глядзеў на мяне, быццам змяя на ахвяру.

— Так, наконт вашага праекта... — сказаў Грам. — У прынцыпе, ён цікавы і варты, каб яго ажыццявіць. Але ж ведаеце, як зараз складана... Усе нашы магутнасці загружаны, усё спланавана на некалькі гадоў наперад. І пры ўсёй павазе да вашай арганізацыі я не магу некага адсунуць убок, а вас паставіць на іх месца. Будуць вялікія непрыемнасці, пойдуць пісьмы ва ўсе інстанцыі. Нас пачнуць ціснуць, спыніцца ўвесь творчы працэс.

— Аляксандр Васільевіч, я не разумею вас.

— Што не разумееце? — узняў на мяне вочы Грам.

— Не разумею тое, што вы гаворыце. На ўсе вашы словы я толькі скажу: колькі?

— Што?!.

— Колькі вы хочаце за тое, каб наш праект пайшоў у вытворчасць? Калі вы лічыце, што можна пытацца не канфідэнцыяльна. Колькі?

Я спадзяваўся і чакаў, што зараз пачнецца гвалт, мяне сілком і дэманстратыўна выкінуць з кабінета. Я вельмі і вельмі памыляўся. Усё атрымалася інакш.

— Аляксандр Васільевіч, пачакайце, — раптам сказаў мужчына ў скураным паліто. — Лічу, што вы абодва не маеце рацыі ў гэтай спрэчцы. У любым выпадку трэба знаходзіць кампрамісны варыянт. І я бачу яго. Мы можам дамовіцца.

— Мы? — Я хацеў ужо абурыцца, але стрымаўся. — Не разумею...

— Вось і Аляксандр Васільевіч таксама не разумее. Патлумачу. Я магу разам з вамі, паважаны, ажыццявіць гэты праект. Нам застаецца дамовіцца наконт працэнтаў.

— А што, слушная думка, — ажывіўся Грам. — Нават вельмі слушная... Я хачу вас пазнаёміць. Гэта... — Ён падняўся з крэсла і паказаў рукою: — Аляксей Часлававіч. Жыве ў Якуціі. У нас вельмі добрае супрацоўніцтва.

— У Якуціі няма друкарняў? — здзівіўся я. — Мне здаецца, яны ўсюды ёсць. Гэта ж дзе Якуція, а дзе Беларусь.

— У грошай няма межаў, — засмяяўся Аляксей Часлававіч,— дый у вас друкарні лепшыя і людзі разумнейшыя. Мы з Аляксандрам Васільевічам добрыя сябры. Усе праблемы вырашаем умомант. Лічу, што і вашу разрулім. Я, напрыклад, згодны ўкласці ў гэты праект паперу і іншыя матэрыялы. Вы аплаціце друкарню. Адпаведна падзелім і тыраж, улічыўшы інтарэс Аляксандра Васільевіча. Калі ўзнікнуць яшчэ якія пытанні, будзем вырашаць. Ну, што, згода? — Ён працягнуў мне руку, але я не пацісну́ў яе, нават схаваў свае рукі пад стол.

— Мне трэба падумаць, параіцца з калегамі, кіраўніцтвам, таму што прадпрыемства, якім кірую, не маё ўласнае. Я — толькі дырэктар. З вашага дазволу праз дзень-другі я дам адказ.

— Таксама разумна, — Аляксей Часлававіч падняўся з-за стала і накіраваўся да выхаду. Ужо ў дзвярах прыпыніўся. — Думайце, думайце. Такі шанец бывае адзін раз у жыцці. Пакуль я добры… Магу і перадумаць.

Некалькі хвілін мы сядзелі моўчкі. Стаяла напятая цішыня, і нават тэлефон не званіў. Праз акно было чуваць, як у двары рабочыя, што грузілі ў машыну прадукцыю, мацюкаюцца і смяюцца.

— Я думаю, што Аляксей Часлававіч прапанаваў аптымальны варыянт, — сказаў Грам. — Ён не парушае нашы планы. Вы атрымаеце сваё і кожны з нас не застанецца пакрыўджаным.

— Вы даўно з ім супрацоўнічаеце?

— Так, Аляксей Часлававіч за паўгода выдаў дзесяць тамоў.

— Тыраж вялікі?

— О, канечне! Кожная кніжка — сто пяцьдзясят тысяч экзэмпляраў.

— Доля ваша, відаць, неблагая, — пачасаў я патыліцу. — У нас не тыя маштабы.

— Якая доля, якая доля! — абурыўся Грам і па ягоным твары папаўзлі чырвоныя плямы. — Я з вамі па-чалавечы, а вы!.. Ведаеце, ведаеце... У такім выпадку...

— Аляксандр Васільевіч, прабачце, калі вам здалося нешта крыўднае ў маіх словах. Я нічога кепскага не меў на ўвазе. Хацеў толькі сказаць, што прадпрыемству выгадна мець такога кліента... З ім, як гаворыцца, ніякай бяды.

— Ну, канечне, канечне, — адразу супакоіўся пасля маіх слоў Грам. — Друкарні і калектыву выгадна мець салідных кліентаў. Вядома ж, вядома. Нам вельмі пашанцавала, што ён зрабіў заказы ў нас, а не, скажам, у Маскве альбо ў Смаленску.

— Так, так! — я радасна хітаў галавою, усім сэрцам зараз ненавідзячы гэтага прайдзісвета, але быў вымушаны ўсміхацца, як кітаец, гатовы абяцаць яму ўсё, што толькі захоча. І ён захацеў, адчуўшы маю слабіну і безвыходнасць. Няйнакш вырашыў дабіць, загнаць у кут, каб я падняў рукі ўгору. Паглядзім хто і што будзе падымаць…

— Хутка кастрычніцкае свята, — сказаў Грам загадкавым тонам, быццам адкрыў мне таямніцу. — На нашым прадпрыемстве існуе традыцыя: да гэтага дня кожнаму члену калектыву ўручаць падарунак. На гэты раз мы вырашылі, улічваючы пажаданні людзей, да свята прыдбаць ікры. І, вядома, шампанскае...

Так, жаданне цудоўнае, калі ведаць, што ў крамах на «ўра» ідзе тое ж яблычнае віно, якое мы з Рыгорам перапрадалі некалькі тыдняў назад. Шампанскага я даўно наогул не бачыў. Жонка яшчэ ўвесну па блаце прыдбала дзве бутэлькі шампанскага, якія мы берaглі да Новага года. Што да ікры, дык на рынку можна купіць любую яе колькасць, але ж —- цана кусалася. Не разумею логікі шаноўнага Аляксандра Васільевіча Грама.

— Вы бартарам займаецеся? — працягваў мой суразмоўца. — Самі ж расказвалі, як набываеце паперу. Сувязі ў вас, напэўна, ёсць. Ну, дык вось. Пажадана, каб праз два-тры дні мы атрымалі тону ікры і скрынак пяцьдзясят шампанскага. Гэта ж не бясплатна. Мы за ўсё заплацім. Цана, пажадана, каб была...

І ён назваў сваё пажаданне, ад якога ў мяне заняло мову. Яны хацелі прыдбаць шампанскае па цане, што была амаль удвая меншая за рыначную. Які дурань мне прадасць гэтае дабро за такія грошы?

— Ну, разумееце... — я не ведаў, што гаварыць, у мяне зніклі ўсе аргументы. Я разгубіўся. Я чакаў нахабнасці ад Грама, але ж не такой празмернай.

— Калі гэта ў вас атрымаецца, далейшае супрацоўніцтва ў нас будзе вельмі эфектыўным, — ласкава прамовіў галоўны інжынер і працягнуў мне руку. Я, быццам робат, разгублена паціснуў яе і выйшаў услед за ім з кабінета. Ён міма ахоўніка праз прахадную пакіраваў некуды ў цэх, а я — на вуліцу, якая жыла сваімі, далёкімі ад маіх, праблемамі.

Так, Грам аблажыў мяне з усіх бакоў, бы ваўка. Бач, аптымальны варыянт прапанаваў. Няўжо яны лічаць мяне за апошняга дурня, які не разумее сэнс усяго гэтага? Хоць, зрэшты, яны нічога і не хаваюць. Адкрыта і нахабна прапануюць частку прадукцыі аддаваць ім. І яшчэ ікра, шампанскае... Ладна, ладна...

Я задуменна ішоў па праспекце і стан у мяне быў такі, нібы толькі што разгрузіў вагон цэменту, як у студэцкія гады на станцыі Таварнай. Адно было жаданне: легчы ў ложак і паспаць. Кожны па-рознаму рэагуе на стрэс, а мой арганізм — менавіта так. І я ведаў, што адзіны спосаб ачуняць і пачаць зноў лагічна і ўпэўнена думаць — гэта кубак моцнай кавы і туды — грамаў дваццаць каньяку. Выпіваю, а праз хвілін дзесяць—пятнаццаць я гатовы да новага дзеяння.

Па дарозе было кафэ «На ростанях», і я там выпіў кавы, з’еў бутэрброд з сырам. Мне стала зусім добра. Я раптам успомніў пра Пятра Васілевіча і ягоную фірму. Мы з ім пазнаёміліся на вечарыне, на якой быў і міліцэйскі палкоўнік Фядзякін. Праз паўгадзіны, пасля бутэлькі каньяку, што мы адолелі, седзячы за велізарным сталом, пакляліся сябраваць да скону. Потым я Васілевіча не бачыў, але па тэлефоне размаўлялі, збіраліся зноў спаткацца і пажадана — у лазні. Ён вялікі аматар парыцца, дый я таксама не супраць гэтай працэдуры. Тыдні два назад наш сябра Хведар, дзякуючы якому і пазнаёміліся, мне сказаў, што Васілевіч арганізаваў вельмі выгадную камерцыйную аперацыю. Яго фірма, заснавальнікамі якой былі нейкія калгасы, магла недзе браць мінеральныя ўгнаенні збываць за мяжу. І Васілевіч некалькі дзясяткаў вагонаў угнаненняў пераправіў туды. Адтуль жа прыгнаў эшалон тавараў. Акрамя таго прывёз шмат чырвонай ікры і чырвонай рыбы.

Уся гэтая інфармацыя раптам узнікла ў маёй галаве, хоць Хведара я тады слухаў, як кажуць, на паўвуха. Мяне не цікавіла ікра, рыба, мне грамаў дзвесце хопіць з сям’ёй на месяц. І ўсё-такі я запомніў. Толькі б не спазніцца.

У мяне адразу ўзняўся настрой. Апатыі як і не было. Мне хацелася дзейнічаць, а гэта значыць, — дацiснуць Грама. Я не дурнейшы за іншых, а можа,

і разумнейшы. Хоць Анатоль Фіршбах, хітры і разумны чалавек, у сябрах у якога было нямала вядомых людзей, так і не здолеў знайсці падыход да Грама. Ён сам мне расказваў. Надта шмат запрасіў галоўны інжынер за іхняе супрацоўніцтва. Колькі канкрэтна, я не стаў дапытвацца ў Фіршбаха. Менш ведаеш, лепш спіш. Яго справа — гэта яго справа.

«Лепш я спалю, альбо прап'ю гэтыя грошы, чым аддам яму», — сказаў мне Фіршбах. Я не бачыў яго недзе амаль месяц. Потым сустрэў у «Вячэрнім кафэ» з прыгажуняй, артысткай опернага тэатра, моцна пахудзелага, але з вялікай упэўненасцю ў вачах, якія ззялі, нібыта ён стаў мільянерам. Я спытаў, куды ён знік і чаму такі задаволены. Фіршбах зарагатаў, прыціскаючы да сябе артыстку:

— Мамента ў моры. Ведаеш, што такое?..

— Крыўдзіш. Я на першым курсе ўжо гэта ведаў.

— Ну дык вось, прасядзеў тры тыдні па гэтым прынцыпе ў Смаленску і ўсё вырашыў. А гэты казёл Грам хай у вас есць траву. Ад мяне нават сухога лісця не атрымае. Так што ў Смаленску лепш, чым тут, а галоўнае — танней.

Дык, можа, не дурыць сабе галаву і пайсці шляхам Фіршбаха? Да Смаленска рукой падаць. Пэўна, не трэба там ні ікра, ні шампанскае... Я ж не хачу, каб рабілі маю прадукцыю бясплатна. Дый не для сябе ўся гэтая валтузня. Можа, кінуць гэтую дарэмную справу? Да чортавай матары!.. Але ж не, не, даражэнькі Грам! Ты хоць і Грам, толькі я цябе не баюся і яшчэ пабачым, хто мацней грымне. Помню, мама казала: ніколі, сынок, нікога не бойся, калі ведаеш, што за табою праўда. Падумай пра Бога, памаліся яму і ён табе дапаможа. Павер мне, сынок, павер!

Я маме заўсёды верыў і веру, таму што яны жыла з Богам у душы. І тата гэтак жыў…

З кабінета я набраў нумар фірмы. Трубку падняла, відаць, сакратарка, якая ў мяне пачала дапытвацца: навошта мне Васілевіч. Па справе? Па якой? Гэта датычыць толькі мяне і Васілевіча. Тым больш па тэлефоне я ніякіх тлумачэнняў не даю.

— Я — галоўны бухгалтар фірмы і ў дадатак жонка Васілевіча, — аспрэчыла маю незадаволенасць сваёй цікавасцю жанчына.

— Ну, канечне, калі вы жонка Пятра Іванавіча, дык зусім іншая размова. Я — сябра Пятра Іванавіча...

— Ён ніякі не Іванавіч, а Міхайлавіч. Які вы сябра, калі не ведаеце як яго па бацьку, — упікнула мяне жанчына і кінула трубку.

Бач ты, яна яшчэ і жонка Васілевіча. Здаецца, у мяне быў яго прамы нумар. Я перагартаў разоў дзесяць запісную кніжку, але ніяк не мог гэты нумар знайсці, пакуль не ўбачыў яго на календары. Я запісаў нумар алоўкам маленькімі літарамі, ледзь можна было прачытаць. Вось дзе маё шчасце. Я перапісаў нумар у запісную кніжку ручкай з чырвоным стрыжнем. Цяпер ніколі не забуду. Потым пазваніў і адразу пачуў голас Васілевіча.

— Як я рады цябе чуць, Пятро Міхайлавіч, — зусім па-падхалімску вітаў я бізнесмена. — Вось тут хлопцы сур'ёзныя перадавалі табе вялікае прывітанне...

— Ну і што? — незадаволена буркнуў Васілевіч. — Навошта маю жонку па тэлефоне крыўдзіш? Прыйшла і абураецца: што за хам гэта табе звоніць і яшчэ сябрам прыкідваецца. Ты гэта канчай! — узвысіў ён голас. — Не забывай, з кім размаўляеш ...

— Ды нічога... — Я шукаў сабе апраўданне, незразумела за што, але ў адказ у маё вуха пачуліся толькі кароткія гудкі.

Вось табе ікра і шампанскае… Фартуна была так блізка, так блізка… Толькі працягнуць руку і асцярожна ўзяць яе. Яна махнула крылом і паляцела далёка-далёка, каб не застацца са мною. Пакінуўшы з мітуснёю, з сумотай і зноў з мітуснёю…

### *Раздзел чатырнаццаты*

З раніцы я вырашыў наведаць Казіміра. Па-першае, паглядзець апартаменты ягонага ўпраўлення, а, па-другое, — мая апошняя надзея была звязана толькі з Цвіркевічам.

Было холадна. Вецер гнаў у спіну, прымушаў хаваць рукі ў кішэнях. І гэты холад быў нейкі раптоўны пасля доўгай і лянотнай, у павуцінні, залатым лісці, восені і таму раздражняў і ўсё вакол успрымалася нядобрым, сумным. Здавалася, я не адышоў ад тых прыгод, якія нядаўна перажыў. Мне ўяўлялася, што я яшчэ ў брудным рыззі, — і пачынала адразу смярдзець, і я азіраў сябе з ног да галавы перад чарговай вітрынай. Зразумела, што гэта быў шыз, ці як гаворыцца ў медыцынскай энцыклапедыі, звычайны псіхоз, які можа перарасці ў штосьці большае. Але не дай бог…

Я даехаў аўтобусам да Галоўпаштамта, а далей рушыў пешкі. Ісці было два прыпынкі, але тройчы даводзілася апускацца ў падземны пераход. І гэта мне не надта даспадобы, хоць рабіць няма чаго: ля тратуара ўзвышаўся вялізны міліцыянер, які пасвістваў, палохаючы недысцыплінаваных грамадзян, што спрабавалі пераскочыць вуліцу зверху.

Месца тут, канечне, небяспечнае. Аўтамабілі так і шоргалі ўзад-уперад, выпрабоўваючы характар людзей. Я, вычакаўшы момант, калі міліцыянер заняўся чарговым парушальнікам дарожнага руху, шыбануў праз вуліцу. Аперацыя прайшла ўдала, і я нетаропка рушыў да адміністрацыйнага будынка, у якім на трэцім паверсе меў гонар працаваць мой зямляк Казімір Цвіркевіч.

Я ўвайшоў у дом з параднага пад’езда, хоць ведаў, што ёсць уваход і збоку. Ля дзвярэй, як заўсёды, стаялі два міліцыянты. Збоку працаваў кіёск па продажы газет і кніжак. Усё было, як і месяц назад, калі я быў у Цвіркевіча, але ён цяпер сядзеў у новым кабінеце і меў сакратарку. Статус ягоны за гэты час вырас.

Пераступіўшы парог, я адчуў неспакой, штосьці мяне ўстрывожыла. Я замарудзіў сваю хаду, падышоў да кіёска. Паглядзеў газеты, часопісы. Пагартаў «Огонёк», але купляць яго не збіраўся. Гандлярка чакала, маўчала і, нарэшце, прамовіла:

— Можа, што прыдбаеце? У нас някепскі выбар. Ёсць дэтэктыў, мастацкая літаратура. Што вас цікавіць?

— Так, у вас ёсць што выбраць. Як-небудзь прыйду з грашыма і куплю кніжак. Цяпер, калі ласка, дайце мне вунь тую газету...

Я не адыходзіў ад кіёска, перачытваў назвы кніжак, часопісаў. Нешта мяне трымала тут. Я ніяк не мог рушыць на трэці паверх. Неспадзеўку пачуў ззаду рэзкія галасы. Мабыць, нехта з начальства толькі што ўвайшоў у будынак, бо нават кіяскёрка стала амаль «струнка». Я трошкі павярнуўся ўлева і ўбачыў некалькіх мужчын, сярод якіх быў і кіраўнік Казіміра. Я неяк з Казімірам былі з ім у адной кампаніі. Ён шмат жартаваў, абяцаў дапамагчы вырашыць усе нашы праблемы. Гэта было недзе год назад. Наўрад ці пазнаў ён мяне зараз, таму што быў моцна заклапочаны, дый ці мала людзей прайшло перад ягонымі вачыма пасля таго.

Кіяскёрка цяжка ўздыхнула і пачала перакладваць з месца на месца газеты на вітрыне.

— Нешта, мусіць, здарылася, — ціха сказаў я. — Мой знаёмы нават мяне не заўважыў...

Ніякай рэакцыі: жанчына як стаяла, нахіліўшыся над газетамі, так і не зварухнулася, толькі галавою хітнула ўлева, быццам ёй нешта перашкаджала.

— Што гэта яны шумлівыя сёння? — задуменна, быццам для сябе самога, мармытнуў я. І намаганні мае былі недарэмныя на гэты раз. Жанчына азірнула мяне, ацэньваючы вопратку, наогул знешні выгляд, і шапнула:

— А вы хто?

— Я — дырэктар, — і далей таксама ледзь чутна назваў сваю кантору. — Дый мяне чакаюць. У мяне сустрэча з Казімірам Яўгенавічам Цвіркевічам, ведаеце такога? Ён даўно працуе тут, — працягваў я, бачачы, што жанчына змянілася з твару.

— Ой, ой! — войкнула яна і заціснула сабе рот рукою. — Ой, ой! Божа ж мой, Божа!..

— Што я такога страшнага сказаў?

— Падыдзіце бліжэй, — прамовіла гандлярка, на візітоўцы якой я паспеў ужо прачытаць, што зваць яе Надзея Іванаўна. — Вы што, не ведаеце, не чулі?

— Што не чуў?

— Дык бяда ж здарылася з вашым Казімірам Яўгенавічам. Я яго добра ведала. Ён штораніцы купляў у мяне газеты. Часта мне гаварыў розныя кампліменты. Маўляў, часу нямашака, а інакш запрасіў бы на спатканне. Ён ведаў, што я без мужа, гадую дзвюх дачок. Усё жартаваў...

— Дык што здарылася? — я ледзь не страсянуў яе за плячо. Што магло такое адбыцца з памяркоўным, хітрым і меркантыльным Казімірам? Мая галава пакуль адмаўлялася мікіціць.

— Дык ён жа ж павесіўся! — нарэшце выдыхнула жанчына. — Ой, якая бяда, якая бяда! Які гэта злыдзень давёў яго да самагубства? Няйнакш жонка?.. А можа, і не?..

Каля нас стаялі пакупнікі, і я палічыў за лепшае адысці ад кіёска, бо яны пачалі ўжо прыслухоўвацца да нашай размовы. Гэтая інфармацыя, на мой розум, не для чужых вушэй.

Я падняўся на трэці паверх. Пастаяў ля кабінета Казіміра. Потым дайшоў да канца калідора, прыпыніўся, гледзячы ў акно, міма якога прашаргацеў сваімі рагамі тралейбус, паслухаў дыханне вуліцы і на млявых нагах з’ехаў на ліфце ўніз.

Стаяла насцярожаная цішыня, ад якой звінела ў вушах і хацелася хутчэй выскачыць з гэтага будынка. На выхадзе мяне спыніў міліцыянер:

— Мужчына, вам кепска?

— Не, нармальна. Проста штосьці забалела сэрца. Дыхну свежага паветра і стане лепш.

На вуліцы я прыхіліўся да сцяны, аддыхаўся пад халодным ветрам і памалу пацягнуўся прэч. Мне ўспомнілася нашая апошняя размова з Цвіркевічам. Чаму яна мне падалася нейкай дзіўнай? Мы не былі вялікімі сябрамі, у нас не было ніякіх агульных спраў. Рэдка сустракаліся, ад выпадку да выпадку. Але мне проста яго вельмі шкада. Шкада, што больш ніколі не ўбачу, не пачую ягоны голас па тэлефоне. Разам не зможам паехаць на радзіму, не спаткаемся. Наогул, няхай жыў бы, колькі даў Бог, колькі адведзена Усявышнім. Тое, што скончыў жыццё самагубствам, — гэта, як казаў мой бацька, ад сатаны. Не мог Казімір, які страшэнна любіў жыццё, браў ад яго ўсё, што можна і нельга, скончыць

жыццё самагубствам. Не мог! Не веру! Нейкія сілы прыклалі да ягонай смерці свае крывавыя рукі. Нечая нечалавечая воля прымусіла яго пакінуць раней часу гэты свет. Менавіта так, а не інакш. І няхай мне гавораць хто што хоча, але ніхто не пераканае! Я — упэўнены, што чалавек, які любіць сваіх дзяцей, бацькоў, сяброў, не скончыць жыццё самагубствам без прымусу.

Пры нашай апошняй сустрэчы ён мне штосьці казаў, прасіў... Што ён прасіў?.. Мне трэба абавязкова ўспомніць... Ён мяне аб нечым папярэджваў? Хата Тафілі, камень-валун пад ліпаю... Яго зусім нядаўна прызначылі на гэтую пасаду. Помню, апошні раз, калі быў у вёсцы, мой швагер пытаўся, ці праўда, што Казімір стаў міністрам. Я не стаў яго расчароўваць: няхай так і будзе. Усёткі свой хлопец. З вёскі. І ён скончыў жыццё самагубствам.

Значыць, Цвіркевіча больш няма. Дапамогі адсюль не будзе. Аднак людзі недарэмна прыдумалі: безвыходных становішчаў не існуе. Трэба шукаць іншыя варыянты. Трохі лепш папрацуем мазгаўнёй. Я ж пайшоў звычайным савецкім шляхам: знайсці блат, даць у кішэню. Хоць, зрэшты, хто з маіх знаёмых ішоў іншым шляхам? Амаль усе шукалі нейкую дзірку, каб ускочыць у прастору, у якой можна дасягнуць сваёй мэты. У кожнага была розная прастора, розная дзірка і асэнсаванне сваёй мэты. На Новы год я марыў здабыць бляшанку чырвонай ікры і кілаграм апельсінаў, а Грам хоча на святы тону ікры і пяцьдзясят ці колькі там яшчэ скрынак шампанскага. Цікава, колькі ён адразу сажрэ ікры і вып’е шампанскага? Відаць па яго пузе — шмат… І што цябе, браце Казімір, пагнала раней часу на той свет?

Я ўспомніў, як некалі быў у яго дома. Мяне сустрэла ветлівая сімпатычная кабета, радасна ўсміхалася і хуценька накрыла стол з дранікамі, квашанінай, гарачай бульбай і пальцам пханай кілбасой. Мы пілі, смачна елі, а яна ўсё завіхалася, падкладвала на талерку ежу. Прасіла не саромецца: я ж зямляк, амаль свой, родны. Мы доўга сядзелі, успаміналі сяброў, знаёмых, мясціны, па якіх гойсалі малымі. І было так добра, што не выказаць словамі. Па нашах каленях, а потым і пад сталом поўзалі два бялявыя вясёлыя хлопчыкі з блакітнымі вачыма. Цяпер ім няйнакш па гадоў дзесяць. Дзеці на дзіва хутка растуць, калі іх доўга не бачыш. Пасля думаеш, што і ты настолькі ж пастарэў. Значыць, карацейшая стала на зямлі твая дарога.

Дом, дзе жыў Казімір, стаяў на скрыжаванні Камунальнага завулка і вуліцы імя класіка савецкай літаратуры, выдзяляючыся сваімі чырвонымі цаглянымі сценамі. Вакол яго месціліся пяціпавярховыя «хрушчоўкі», аблезлыя і сумныя на фоне гэтага прыгажуна, доўгага і высокага. І хоць дом быў пабудаваны дзесяць гадоў таму, аднак меў дагледжаны выгляд, з усіх бакоў раслі дрэвы. Мяне прыемна ўразіла чысціня ў пад’ездзе, не было надпісаў на сценах, дзвярах кватэр. На другім паверсе нават стаяў стары з шырокім лісцем фікус у драўляным цэбрыку. Казімір тады пахваліўся, што цэбрык прывёз з вёскі, а фікус ад цешчы. Старая збіралася выкінуць з хаты, а тут расліна была якраз на месцы, радавала вока.

Казімір жыў у другім пад’едзе. І я знайшоў пад’езд умомант, сарыентаваўся па бярозе, якая расла трыма галінамі-ствалам: захавалася пры будаўніцтве дома.

Насупраць, на дзіцячай пляцоўцы, забаўляліся матулі з малымі дзецьмі. У двары стаяла некалькі машын. Мужчына калупаўся пад капотам сіняга «Масквіча». Усё было ціха і спакойна. Свет жыве па сваім вечным законе, які не могуць парушыць ні смерць людзей, ні іх нараджэнне. Як быў, так і няма. І нічога не змянілася. Гэтыя машыны як стаялі, так і будуць стаяць. Гэты мужчына, ці іншы, будзе калупацца ў рухавіку машыны, альбо піць піва на лаўцы,

падумаў я. І, сапраўды, убачыў, што на лаўцы сядзяць двое мужчын і п'юць піва. Альбо, можа, што і іншае, таму азіраюцца па баках. Адзін, сіваваты, у кароткай балоневай куртачцы, а другі — у капелюшы і паліто з плюшавым чорным каўнярom. Я павітаўся з імі, яны мне адказалі і схавалі бутэлькі за спінамі.

— Не бойцеся, не з міліцыі, — сказаў я мякка, спрабуючы надаць голасу адценне павагі. — Вось падышоў...

— І не прасі, бо не нальём, — перапыніў мяне сіваваты. — Самім засталося, што вераб'ю клюнуць.

— Ды не, дзядзькі, я не п'ю. Хачу спытаць, мо чулі...

— Мы ўсё тут чуем, — цвёрдым голасам прамовіў капялюш. — Паставіш «чарніла», усё і раскажам.

У краме, дзе не было аніякіх напояў, пераплаціўшы ўтрая, я купіў у прыбіральшчыцы бутэльку таннага віна. Мужчыны мяне чакалі, і на іх тварах была такая радасць, адчуванне свята, што ў мяне нават палепшыўся настрой. Яны прапанавалі далучыцца да іх, і я, каб не сапсаваць, як кажуць, надвор'е, з рыльца таксама пацягнуў пякучкі. Гэты напой быў з таго самага завода, з якога мы з Рыгорам бралі для сябе. Вось смех, дый годзе!

— Мужчынкі, у мяне ў гэтым пад'ездзе жыў сябра. Я вярнуўся з камандзіроўкі сёння, а мне кажуць, што ён памёр. І неяк няёмка заходзіць у кватэру і пытацца, ці жывы гаспадар.

Сіваваты дапіў віно, закурыў «Прыму» і паказаў рукою ўбок:

— Я жыву ў першым пад'ездзе, а Пятровіч — у трэцім. У нас тут нейтральная пляцоўка. Казіміра твайго не ведаем, але чуў я, што мужчына з гэтага пад'езда нібыта павесіўся. Дык тут яго і не выстаўлялі. Так, Пятровіч?

— Так, — пацвердзіў «Капялюш». — Яго знайшлі вунь там, за тымі дамамі ў кустах. Вісеў на вяроўцы на дрэве. І што чалавеку не хапала? Разумееш, Паўлавіч, калі я працаваў на заводзе, наш майстар…

Далейшыя развагі і ўспаміны двух п'яніц я ўжо не стаў слухаць. Значыць, усё было праўдай. Казіміра больш няма. І чаму ён павесіўся ў скверы? Канечне, дзіўная думка. Нібыта штосьці змянілася б, калі б павесіўся на гарышчы ці ў падвале. Я разумею, што ён не хацеў, каб бачылі дзеці, жонка, думаў пра іх. Што ж, прыйдзецца мне паехаць у родную вёску, хоць планаў такіх пакуль не было. Жыццё робіць свае карэктывы, кіруе намі. І ніхто не скажа, што заўтра чакае нас. А мы мітусімся, скачам, нешта шукаем, зноў мітусімся. І ўрэшце…

## *Раздзел пятнаццаты*

На маім рабочым стале ляжала запіска ад Рыгора, якая была прышпілена да каляровай паштоўкі: «Вельмі раю схадзіць на вечарыну. Гэта — запрашэнне. Еду тэрмінова ў Магілёў. Там нешта павінна атрымацца. Ты ведаеш, пра што я…»

Канечне, я ведаў. Адна фірма ў Магілёве здабыла партыю трубак-тэлефонаў вытворчасці Ганконг і хацела як хутчэй іх рэалізаваць. Даволі танна. Я выйшаў на гэтую фірму праз былога аднакурсніка. Мы ў сваю чаргу знайшлі пакупнікоў на тавар, каб памяняць яго на паперу. І тое, што Рыгор паехаў у Магілёў, не магло мяне не радаваць.

Запрашэнне было на вечарыну, якую праводзіла прадстаўніцтва адной германскай кампаніі. У нашым будынку яно арандавала невялічкі пакойчык і

шукала больш прыстойнае памяшканне. Я штодня вітаўся з кіраўніком прадстаўніцтва герам Ёганам, мажным, з вялікаю лысінаю дзядзькам. У яго былі таўставатыя чырвоныя вусны, якімі ён у час гаворкі прычмокваў, нібыта смактаў цукерку. Некалькі разоў Ёган мяне частаваў баварскім півам. Я запрашаў яго да сябе дамоў на беларускія прысмакі. Вітаючыся з ім, я па завядзёнцы гаварыў:

— Хэндэ хох!

Ёган у адказ мне, смеючыся ўсімі сваімі бялюткімі зубамі, гаварыў:

— Найн, найн!

Гэтая гульня паўтаралася з дня ў дзень і пакуль не надакучыла для нас абодвух. Хоць, прынамсі, я, мажа, так лічыў. Таму што мне часам і не хацелася прытрымлівацца гэтага звычаю, але я паўтараў сваю фразу пастаянна, і чуў адпаведны адказ ад Ёгана.

Ёган быў з аўстрыйцаў і нарадзіўся недалёка ад чэшскай мяжы. Бацькі яго жылі там, атрымлівалі пенсію і актыўна ўдзельнічалі ў розных грамадскіх суполках. Так ім было, па словах Ёгана, цікавей жыць. Ёган рагатаў, апавядаючы, як бацька выступае на мітынгах зялёных і агітуе за чысціню прыроды. Я адчуваў, што ён ганарыцца ім, таму што праз слова гучала: мой фатэр, мой фатэр.

— Ён выходзіць перад натоўпам, — гаварыў Ёган пра бацьку і яго другі падбародак, які зусім не псаваў, здаецца, знешні выгляд, ажно калыхаўся ад смеху, — узнімае рукі, нібы апостал, і прамаўляе.

— І што? — пытаюся я, разамлелы ад з’едзенага мяса і баварскага піва.

— Няўжо ты не разумееш! — абураецца Ёган. — Ягоны аўтарытэт у Брансбруку на ўзроўні ратушы.

— Я — згодны. Што вышэй ратушы ў Брансбруку?

— Толькі мячэць. Там зараз столькі курдаў і туркаў, што іхняя мячэць намнога вышэйшая за ратушу. Аднак мой фатэр так гаворыць, што ягоны голас ляціць вышэй за мячэць.

— Твой фатэр малайчына, — гавару я і ад маіх слоў Ёган робіцца зусім добрым і вясёлым.

Чаму мне не схадзіць на ягоную вечарыну? І я іду.

Наш будынак стаіць насупраць парку імя Талстога. Ля варот помнік яму. Я лічу яго геніем, таму што пасля рамана «Ганна Карэніна», які прачытаў, не падымаючыся з ложка, за трое сутак, мне больш нічога не хацелася чытаць. Я штодзень мінаю гэты дом ля розных пасольстваў, іду ў чаканні незвычайнага і радаснага для маёй будучыні. І свой вечар Ёган праводзіць у гэтым прыгожым, хоць і натапыраным, быццам спалоханым, збудаванні, якое мне здаецца жывою істотаю. Я іду на вечар, каб знайсці карысныя знаёмствы для сябе. Выпіць і паесці магу і дома, але ж не спаткаюся з тымі людзьмі, з якімі сябруе Ёган.

Наогул, не разумею, чаму ён так ставіцца да мяне, чым заслужыў ягоную павагу. Я нічым асабліва не вызначаюся на прасторы шэрасці, якая пануе ля мяне і побач са мною. Я гэткі ж незаўважны мужчына нароўні з дзясяткамі іншых, што крочаць па вуліцы. Аднак нечым спадабаўся Ёгану, і мы, здаецца, разумеем адзін аднаго. Калі я шукаў працу ў Мінску, мабыць, абышоў сотні арганізацый, перамовіўся з тысячай людзей і кожны з іх гаварыў, што я зараз непатрэбны, і мой твар лепш каб не ўпрыгожваў іхнія апартаменты. Я з усімі згадзіўся, што лайдак, без здольнасцей, не адукаваны. Амаль баран. Але ж у мяне ўсё-ткі была галава і я даказаў, што яна варыць. Мусіць, Ёган быў першы, хто адразу гэта зразумеў і захацеў са мною аб нечым гаварыць. І я

тады падумаў: пабачым яшчэ, чыя галава разумнейшая і мудрэйшая. А бараны і авечкі заўжды былі. Толькі я сябе не лічу ніякай жывёлінай. Ёган пацвердзіў гэта сваім запрашэннем на вечарыну.

Зала і вестыбюль былі ўпрыгожаны дзіўнымі цацкамі, перад уваходам узрываліся петарды. Шумеў вецер, гаманіў вялікі натоўп па-святочнаму апранутых людзей. Я не вялікі аматар розных вечарын, бясед, на якіх людзі часта заняты бессэнсоўнай гаворкай. Магу зразумець жанчын, што хочуць пакрасавацца ўборамі, строямі, карункамі, бранзалетамі. Мужчыны, нібы пеўні адзін перад адным, спрабуюць паказаць сваю дасціпнасць, розум і важкасць. Аднак усё гэта так смешна, таму што было яшчэ ў старажытных Грэцыі і Рыме.

Я бачу паўлысага і па-сялянску каржакаватага прафесара Сільвестра Сільвестравіча Мірчыка. Я з ім летась пазнаёміўся па тэлефоне. Выпадак быў такі, што хацеў бы прыдумаць, але не атрымалася б. Жыццё — большы фантазёр, чым чалавек. Яно з намі гуляе, быццам кот з мышшу. Часам адпусціць, а часам і з'есць.

Пасля знікнення Савецкага Саюза нам захацелася шмат таго, што раней было проста немагчыма. Пачынаючы ад элементарных рэчаў, накшталт, — як без чаргі купіць кавалак кілбасы ці мяса, і канчаючы ўдзелам у палітыцы. Гэта была тая пані, пра якую пісалася ў газетах, і мелі дачыненне да яе толькі людзі, што трапілі ў вышэйшую партыйную эліту. На маю думку, яны маглі займацца палітыкай, а астатнія моўчкі за імі назіраць. Я так думаю, але не значыць, што сцвярджаю. Мой бацька казаў, што ў кожнага чалавека дзве дарогі: адна — у рай, а другая — у пекла. І кожны ўрэшце выбірае сваю, тую, якая наканавана. Дык вось, агульны азарт, што панаваў вакол, падзейнічаў і на мяне.

Як ні дзіўна, маю ідэю стаць дэпутатам падтрымалі ў райкаме партыі, дзе я быў сваім чалавекам. Першы сакратар Мікалай Самсонавіч, высокі і чарнявы, як цыган, сімпатычны мужчына, паляпаўшы мяне па плячы, прамовіў сваім густым басам:

— Калі не ты, дык хто?!. Мы цябе падтрымліваем, — і грозна дадаў: — Ты наш актывіст, ці не? Наш!.. Дык уперад, таварыш!..

Пачалася перадвыбарная эйфарыя, у якой, не магу растлумачыць нават сабе, я не ўдзельнічаў. Толькі назіраў за ёю. Але такія-сякія крокі зрабіў. Як вынік гэтага, у газеце «Вячэрні горад» з'явілася інтэрв'ю са мной. З яго вынікала, што я магутны баец, незвычайны працаўнік і, наогул, ледзь не геній, якому толькі засталося трапіць у дэпутаты, і тады сонца для маіх выбаршчыкаў будзе свяціць дзень і ноч.

Дагэтуль не забыў журналіста, аўтара оды пра мяне, невялічкага ростам, лысаватага ( чамусьці са мной увесь час лысаватыя) і вельмі гаварлівага. Яго звалі, дай бог памяць, Алесь Нядайчык. Ён мне так спадабаўся, што я запрасіў яго быць маёй даверанай асобай.

У дваццаць тры з паловай гадзіны, калі з гэтай газетай, відаць, азнаёмілася большасць насельніцтва горада, мне патэлефанаваў Сільвестр Сільвестравіч Мірчык. Я быў упэўнены, што ён у захапленні ад інтэрв'ю са мной і хоча нагаварыць для мяне поўны кош кампліментаў, якіх я вельмі не люблю. Але ён не даў мне і слова прамовіць.

— Чаму ў артыкуле пра вас пішуць тое ж самае, што і пра мяне? — строга спытаў ён, — і гэтую строгасць я адчуў нават у тэлефонным дроце, — і назваў нейкую маскоўскую газету. — Мусіць, вы хочаце перашкодзіць мне быць дэпутатам? Скажыце шчыра, як перад ксяндзом…

Я так рагатаў, ніяк не мог спыніцца, ажно забалеў жывот. Потым смяяўся і Сільвестр Сільвестравіч, які нарэшце дапяў, што пра яго і мяне пісаў

адзін і той самы Алесь Нядайчык. Ён у тэксце інтэрв'ю толькі мяняў нашы прозвішчы.

Урэшце, Сільвестр Сільвестравіч стаў дэпутатам і зараз на вечары я яго бачу ў гэтай якасці, спакойнага, ураўнаважанага, які, канечне ж, не ведае пра свой далейшы лёс. Не ведаю я і ўсе, хто прысутнічае тут.

Недалёка ад Сільвестра Сільвестравіча блішчыць гладкім, нібы адпрасаваным, тварам Павел Хлебавец. Дакладней, Павел Арсеньевіч. Ён у чорным блішчастым касцюме, на шыі чырвоны гальштук-матылёк. Ідзе, ног не чуе пад сабою. Пад руку трымае маладую жанчыну, бялявую, з доўгай касою, у амаль празрыстай сукенцы, нібы са срэбра. Канечне, прыгожая пара. Год назад я бачыў Хлебаўца з жонкаю, вельмі стомленай жанчынай, валасы якой былі падфарбаваны, але ўсё роўна была відаць пад імі сівізна.

Апошнім часам у мяне, калі бачу знаёмага чалавека, пачынаюць узнікаць розныя асацыяцыі. Не ведаю чаму, раней такога не было. Вось і цяпер. Хоць і не хацеў, але ў маёй галаве — адразу ўспамін, як Павел Арсеньевіч у райкаме партыі вучыў мяне жыць, ляпаючы кулаком па стале. Так, так, ён амаль найгалоўнейшы ў горадзе дэмакрат і найсучасна думаючы чалавек, з якім усе вітаюцца і слухаюць ягоныя прамовы пра развіццё дэмакратыі ў краіне. А тады ў райкаме ў яго быў выраз: у партыі заўсёды праўда, яна — сама праўда! Гэта ж так трэба было верыць у гэты ідэал, альбо ашукваючы іншых, ашукваць і сябе. Ой, хай яму Бог даруе!

Я стаю і назіраю за натоўпам, сярод якога розныя асобы, і яны ўсе аднолькава актыўныя, гаварлівыя і чакаюць, калі афіцыянты накрыюць стол, на якім ужо шмат розных страў, напояў. Я многіх з прысутных ведаю. У мяне някепская памяць на твары. Я назіраю за імі. Іх так многа, што пачынаю здзіўляцца Ёгану, а навошта? Пасля да мяне даходзіць сэнс ягоных планаў. Чаму не, трэба адразу, каб сабралася так званая эліта горада і ўдосталь пачаставалася. Пройдзе час, але ўсе будуць помніць, што Ёган зрабіў такі шыкоўны прыём. Ён — гасцінны гаспадар, з ім можна весці любую гамонку. Мудра, вельмі мудра! Усё-ткі разумныя людзі немцы, хоць ён — аўстрыяк.

Пошум вялікі, усе рухаюцца да сталоў, якія і ў вестыбюлі, на другім і трэцім паверхах. Накрытыя багата, прысмакі, напоі толькі беларускія. Ніводнай стравы нямецкай.

Сталы стаялі ўпрытык адзін да аднаго. Я прыладкаваўся з краю ад дзвярэй у вестыбюлі, каб ямчэй было пры жаданні знікнуць, альбо выйсці ў двор падыхаць свежым паветрам.

Усе былі пасля працы і, безумоўна, прагаладаліся, а тут такое свята жывата, тым больш на дарэмшчыну. І госці, а разам з імі і я, пачалі актыўна есці і піць. Ад курэй толькі ляцелі косці, звінелі чаркі. Гуд галасоў, здавалася, сарве дах будынка. Салаты былі звычайныя, што ў мяне на Новы год альбо на іншае свята: аліўе, з капустаю, з кукурузаю, печанню траскі, з морквы. Потым паставілі гарачую бульбу з сялянскай кілбасою і катлетамі. Усё было смачнае, нібы само лезла ў рот.

Ля мяне з апетытам еў і піў хударлявы рудаваты мужчынка ў акулярах, ад якіх ланцужок быў, мабыць, залаты, бо блішчэў, як ягоныя валасы. А ці бачыў я сапраўднае золата? Хто яго ведае... Памятаю, як з мамаю капалі бульбу на агародзе і раптам бліснула, нібы сонца, з глебы, ад бульбін з-пад рыдлёўкі. Мама падняла грудку зямлі, у якой быў маленькі залаты пярсцёнак. Мама доўга трымала яго ў руках, нібыта грэла ці грэлася ад яго. Маленькі кавалачак золата, што перайшоў ад нейчай душы да нас…

Відаць, я шмат выпіў, хоць спрабаваў ужываць толькі сухое чырвонае віно. Але калі ў жываце літр віна і вакол столькі знаёмых, то ўсіх любіш і

паважаеш… Не заўважыш, як замест віна ў тваю чарку патрапіць нешта іншае з напояў.

— Будзь здароў! — сказаў я суседу, з якім я пачаў ужо сутыкацца талеркамі: надта блізка ўсе мы стаялі адзін ля аднаго. І я думаў, што ў чарцы балгарскае сухое віно, а там быў балгарскі каньяк. Нехта мне яго наліў, пакуль я разглядваў натоўп.

— І ты будзь таксама! — адказаў мне сусед. У яго голасе я пачуў моцны акцэнт. Хоць знешне мужчынка быў падобны на тыповага беларуса, нават больш, чым я. Улічваючы чорныя валасы, гарбаты нос, мяне можна прыняць за прадстаўніка ўсходніх народаў.

— За нашых дзяцей і вашых! — працягнуў я і адчуў, што мой сусед ужо не хоча больш ужываць напоі, ды і мне час спыніцца. Але ж з усіх бакоў цягнуцца рукі з прапановамі выпіць. І што рабіць? Атрымалася, як у песні: выпіў чарку, выпіў дзве — закружыла ў галаве.

— Як цябе зваць? — пытаюся ў рудаватага. Раптам ён мне дужа спадабаўся. Суседзі ўсё-ткі і — незнаёмыя. Лічу, што гэта парушэнне ўсіх нормаў прыліку. Дый наогул, як можна піць, не гаворачы тостаў. Гэта ўжо стопрацэнтная п’янка. А ў п’янцы ўдзельнічаць я не хачу. Я чалавек цвярозы, разумны. Пытаюся зноў:

— У цябе ёсць імя?

— Вольфганг, — кажа рудаваты, на вачах п’янее, лезе да мяне з абдымкамі і пацалункамі. Але ж я такое не люблю. Толькі прыроджаная тактоўнасць і ветлівасць спыняюць мяне ад таго, каб не заехаць яму па вуху. Якога д’ябла ён лезе да мяне і пачынае вучыць, што рабіць, каго любіць? Я добра разумею, калі на вялікім і магутным пачынаюць абмяркоўваць мой лёс. Гэта мяне бянтэжыць, і ў маёй галаве ўзнікаюць розныя пытанні, на якія хачу пачуць ясныя адказы.

— Ты даўно ў Мінску? — я спрабую рудаватага загіпнатызаваць, але мае спробы няўдалыя.

— О, я з восемдзесят трэцяга года тут. Займаюся бізнесам. Мая жонка зараз жыве ў Лейпцыгу. Там у мяне хлопчык і дзяўчынка. Мае дзеці… Я іх люблю. Яны займаюцца музыкай, вучацца ў гімназіі. Вельмі добра вучацца.

— Віншую цябе, Вольфганг. У мяне таксама хлопчык і дзяўчынка. Але, на жаль, музыкай не займаюцца. Гэта мне мінус. Я люблю, калі іграюць на гітары. Дык ты ў Мінску з восемдзесят трэцяга?.. — у маёй галаве запальваецца думка, якая пачынае мяне трывожыць. Я абавязкова павінен яе выказаць, хоць, магчыма, заўтра буду шкадаваць аб гэтым. — Слухай, Вольфганг? Тады ж яшчэ былі Савецкі Саюз і ГДР. У школе я вучыў, што Лейпцыг быў у ГДР. У вас, можа, і быў бізнес, але які бізнес мог быць у нас? Нешта не разумею. Зусім не разумею… — я плявузгаю, плявузгаю і толькі пасля наступнага тосту заўважаю ў вачах суседа нядобры агеньчык. Аднак мяне панесла ўжо на хвалях фантазіі. Я раблюся вельмі дасціпным і разумным, здаецца, ведаю адказы на ўсе пытанні на свеце. Язык ажно свярбіць, і я не вытрымліваю, словы вылятаюць з мяне:

— Дык ты, Вольфганг, няйнакш са штазі? Які мог быць бізнес у восемдзесят трэцім годзе ў Савецкім Саюзе? Вось скажы мне, скажы?

Вольфганг смяецца, дапівае каньяк і, пакуль я з відэльцам шукаю на стале, каб пакаштаваць якую-небудзь салату, — некуды знікае. Я падымаю галаву ад талеркі, азіраюся і нідзе яго не бачу. І што гэта ён так раптоўна збег? Ці ж я пакрыўдзіў яго? Толькі выказаў здагадку, а ён адразу прыняў мае словы ўсур’ёз. Навошта, ужо і пажартаваць нельга? «Усе нейкія крыўдлівыя», —

думаю я. Мне хочацца з некім абмеркаваць знікненне Вольфганга, але не знаходжу суразмоўцу, з якім можна было б пагаварыць на тэму штазі. Я мог бы ім расказаць, што гэтак называлася спецслужба ГДР, накшталт нашага КДБ.

Я адыходжу ўбок і амаль спатыкаюся аб нейчы чаравік, што перагарадзіў мне дарогу. Побач шмат чаго, за што можна ўхапіцца і не ўпасці. Дый наогул, мне не трэба нават за нешта чапляцца, стаю цвёрда на нагах. Але ж даў бы некаму ў рыла… Навошта выстаўляць ногі, калі вось ідзе чалавек…

— Куды спяшаешся? — чую зверху нібыта знаёмы голас, выпростваюся і бачу чырвоныя твары, якія ядуць і п’юць. Працэс ужывання ежы актыўна развіваецца. Толькі проста перада мною… стаіць Міхась Гедройц. У смокінгу, валасы, мабыць, абпырскаў лакам, бо надта блішчаць. Быццам гарачая смала. Ён глядзіць на мяне і ўсміхаецца.

— Куды бяжыш, навошта спяшаешся? — кажа Гедройц. — Ты мяне шукаў?

— Шукаў, шукаў і не знайшоў, — я ўздыхаю цяжка і доўга.

— Навошта я табе?

— Былі розныя пытанні… Хацеў пагаманіць… Думаў, дапаможаш…

— У чым?

— Мне казалі, што ты маеш банк… Хацеў узяць крэдыт…

— Я ж табе гаварыў — пачакай. Надта ты нецярплівы. Бізнес так не робіцца.

— Што так не робіцца? А як гэта робіцца? — я пляту, не разумеючы што, і бачу, як Гедройц пачынае злаваць.

— Няўжо не зразумела? Я сказаў табе пачакаць. Пачакаць! Вось куды ты лезеш, куды? — ужо амаль закіпае Гедройц.

Ля яго два грамілы з тупымі тварамі, на якіх амаль не відаць вачэй. Адзін з іх быццам мне знаёмы... Усмешка ў абодвух, быццам у даўнаў. Мне даводзілася і раней сустракацца з такімі асобамі. Ім што знішчыць муху, што — чалавека: усё адно.

— Міхась, няма праблемы, як скажаш. Аб чым гаворка? Лепш давай па сто грамаў і ўспомнім, як разам вучыліся. Да дзяўчат у госці хадзілі… Ты не забыў, Міхась, як мы да дзяўчат у госці хадзілі? Вось давай за гэта падымем чарку…

— Ну, давай. Давай! — ён узнімае свой келіх, але ён пусты. У ім ніводнай кроплі. У маёй чарцы таксама толькі лізнуць языком. Па целе бяжыць халадок. Мне, напэўна, гэта я адчуваю, лепш не стаяць з гэтым чалавекам, адысці і, прыкусіўшы язык, маўчаць. Мае рукі, твар, скура ўспрымаюць ад яго нешта нядобрае, жорсткае… А вакол гоман, звон посуду, вясёлы смех. У людзей свята, ніхто не мае зараз права перашкаджаць ім.

— Што ты рабіў у Прыгранічным? — у Гедройца ў кутках вуснаў, мне здаецца, сліна, непрыемна глядзець.

— Не разумею, пра што пытаеш? Ці мала, дзе я быў, ці мала, што рабіў. Я прасіў у цябе крэдыт і ты мне не даў. Вось гэты бык, — я паказваю на аднаго з граміл, ахоўніка Гедройца, які не пускаў мяне ў так званы банк, ён стаіць з расшпіленым пінжаком, з-пад якога відаць кабур з пісталетам. — Твой бык ці конь мяне пакрыўдзіў. І якая табе розніца: быў я ў Прыгранічным альбо не…

Я гляджу на рукі ахоўніка: на правай руцэ татуіроўка: якар са словам «Вася». У маёй галаве пачынае калыхацца туман. Ён рвецца на часткі, у ім узнікаюць дзіркі, праз якія блішчыць сонца. Яно ўсё мацней і мацней падпальвае неба, і туман, разарваны на насоўкі, паўзе ў бакі, паўзе. І я ўвачавідкі бачу, як мяне цягне за шыю, за каўнер і б’е па галаве гэтая рука, вялікім пальцам.

— Будзь здароў! — гавару я рэзка Гедройцу і іду прэч ад гэтага стала праз натоўп людзей, якія ўсё жуюць і п’юць. Ніяк не наядуцца. Ансамбль даўгавалосых хлопцаў і адна жанчына, апранутая пад мужчыну, стомлена іграюць штосьці з «Бітлаў». Відаць, музыкам моцна абрыдла гэтая кампанія, але ж, пэўна, ім Ёган няблага заплаціў і грошы трэба адрабіць. Мне ўжо таксама зусім нецікава, і я вырашыў пайсці дамоў. Ля дзвярэй спыніў Ёган:

— Чым гэта ты напалохаў Вольфганга?

— Нічым. Мы амаль з ім не размаўлялі.

— Не, нешта не так. Ён спытаў пра цябе і сказаў, што гэта за свінню я запрасіў на вечар. Хуценька апрануўся і пайшоў.

— Я магу папрасіць у яго прабачэння. Проста я спытаў, ці быў ён у штазі.

— А… Зразумела, — зарагатаў Ёган і чамусьці задаволена паляпаў мяне па плячы.

## *Раздзел шаснаццаты*

Дзень быў вельмі прыгожы, сонечны. Дрэвы ў чырвоным бліскучым лісці. У паветры плыве павуцінне і чапляецца за твар. Здаецца, ужо было бабіна лета, але нібыта яно зноў вярнулася і дорыць сваю ласку, пяшчоту. Неба амаль бясхмарнае, цёмна-сіняе. Ад яго робіцца светла на душы. Стаяў бы, глядзеў на прастору, якая быццам нават прымушае радавацца жыццю.

З раніцы мы з Рыгорам пасядзелі ў маім кабінеце, абмеркавалі нашы справы, якія былі не зусім добрыя. Ніякага пакуль зруху ў супрацоўніцтве з таварышам Грамам. Увесь наш вытворчы працэс стаяў на месцы. Ікры і шампанскага мы не знайшлі. Заставаўся яшчэ варыянт: ісці да Тарзана, але мне гэтага вельмі не хацелася. Я не мог уявіць, што не змагу знайсці падыходу да Грама. Зрэшты, ён — не гаспадар прадпрыемства і не галоўны на ім начальнік. Я загадаў Рыгору:

— Шукай, з кім ён сябруе. У яго дзеці дарослыя?

— Скуль я ведаю?

— Значыцца, трэба даведацца. І яшчэ. Шукай выйсце на генеральнага дырэктара Машкаўца. Можа, мы з гэтага боку раскруцім шпульку. Час ідзе, хутка за крэдыт давядзецца аддаваць працэнты. З чаго мы аддадзім, калі ніякага прыбытку? Пагарым, як Заблоцкі на мыле.

У адной расійскай газеце, якую я купіў па дарозе на працу, на трэцяй старонцы знайшоў інфармацыю пад назваю «Забойцу знойдуць». Кіраўнік следчай брыгады ў інтэрв’ю гаварыў, што следства па справе мэра горада Прыгранічны Каранца ідзе па правільным шляху і ёсць спадзяванне, што забойца хутка будзе за кратамі.

Я прачытаў газету моўчкі, нічога не кажучы Рыгору. Ён не ведаў пра здарэнне, якое адбылося са мной у Прыгранічным. Штосьці незразумелае рабілася вакол. І разгадваць яго мне не хацелася. Аднак нібыта мяне падштурхоўваюць, прымушаюць займацца тым, чым непатрэбна. Магчыма, я прыдумаў усё гэта, накруціў у галаве, а цяпер разблытваю, каб адчуваць сябе надта разумным і кемлівым. У сапраўднасці ўсё інакш. Ніякі я не разумны і не кемлівы, а звычайны, як тысячы людзей, што жывуць побач са мной…

Мінула ўжо больш за тыдзень, як пахавалі Казіміра Цвіркевіча. Ад швагра, якому я званіў у вёску, мне стала вядома версія землякоў ягонай смерці: забілі бандыты. Маўляў, пра гэта гавораць бацькі і родзічы Казіміра. Урэшце,

якая розніца: ён мёртвы… І цяпер я ўспомніў нашу апошнюю з ім размову. Пра тое, што павінен паехаць у вёску, пайсці да хаты старой Тафілі і пад каменем-валуном знайсці нешта, што схаваў Казімір. Я паабяцаў яму гэта зрабіць. Ён мяне прасіў і трэба ехаць. А што далей?.. Значыць, Казімір рыхтаваўся да свайго канца. Інакшага выйсця, пэўна, не бачыў. Наўрад ці быў ён знаёмы з Гедройцам. Але ж, хто ведае, хто ведае… І што, калі быў знаёмы? Гэта нічога не змяняе. Гедройц, Гедройц… Не дае мне спакою…

Ад смерці Казіміра бяда і гора родным, жонцы, дзецям. У свеце пасля гэтага нічога не адбылося, не змянілася. На дзвярах яго кабінета ўжо іншае прозвішча. Толькі дзевяць дзён пасля смерці Казіміра, а ў яго крэсле ўжо сядзіць нейкі Іван Сямёнавіч Канапацкі. Нібыта сціраюць нават след Цвіркевіча ў гэтым будынку, каб усе забылі недарэчнасць: начальнік упраўлення павесіўся. Такая думка ўжо неаднойчы наведвала мяне. Можа, яму дапамаглі гэта зрабіць? Няма чалавека і як не было…

— Табе ўсё зразумела? Дзейнічай. Праз колькі дзён, а, можа, і раней штонебудзь прыдумаем, — сказаў я Рыгору. Няхай трошкі паварушыцца і сам, без мяне.

Я ўспомніў, што яшчэ сёння не заходзіў да Ёгана. Нельга парушаць традыцыю. Варта паглядзець, як ён сябе адчувае пасля ўсіх сваіх святкаванняў.

Калі я зайшоў у кабінет да Ёгана, ён размаўляў па-нямецку. Я ў школе, мне здаецца, няблага ведаў нямецкую мову. Але ў ВНУ мяне прымусілі перайсці на французскую, бо ўступны экзамен здаў на чатыры. І ўрэшце забыў нямецкую і не вывучыў французскую. Як і многія з майго пакалення, не ведаю замежнай мовы. У даведніку пра сябе пішу, як было прынята ў савецкія часы, не зусім зразумелую з цвярозага розуму інфармацыю: чытаю па-нямецку і па-французску са слоўнікам. Вось такі я знаўца замежнай мовы. Таму з гаворкі Ёгана мне не трэба тлумачыць словы: «гут», «вайтэр», «рыхтык». «Гут» для усіх «гут».

Ёган, працягваючы гамонку па тэлефоне, паціскае мне руку. Пры гэтым усміхаецца. Паказвае на крэсла і адразу налівае ў кубак халоднай кавы. Ён заўсёды п’е толькі халодную каву без цукру. У кожнага свая прывычка. Я, напрыклад, люблю гарачы чай з мятаю, а маю жонку нават пах мяты раздражняе. У дзяцінстве я піў чай толькі з мяты. Мама мяне пасылала на Ясельду па мяту. Я збіраў яе на беразе ракі. Прыносіў цэлую торбу мяты. Мама сушыла траву на гарышчы. Там нават зімою стаяў густы пах мяты.

— Можа, каньяку? — спытаў Ёган. — Як вы гаворыце, па маленькай?

— Не, дзякуй. Абыдуся кавай.

— Ну, як наш вечар? Спадабаўся?

— Мне нармальна. Думаю, і ўсім астатнім. Што народу патрэбна? Мора гарэлкі і — закусь. Усё гэта было. Так што, лічы, атрымалася на вышэйшым узроўні. Пагулялі ад душы.

— Твой сусед па стале знік і не тэлефануе.

— Які сусед? — ці мала ў мяне на гэтай вечарыне было суседзяў.

— Вольфганг. Ты яго так напалохаў...

— Я нешта ляпнуў пра штазі. Ён адразу чамусьці расхваляваўся… Здаецца, нічога дрэннага я не казаў. Навошта яму хвалявацца, калі штазі ўжо даўно няма.

— Можа, няма, а можа, і ёсць. Такая арганізацыя, як штазі, адразу не памірае. Як у вас кажуць, былых чэкістаў не бывае.

— Але няма самой ГДР. Якая тут ужо штазі!

— Так, так, так, — прамармытаў нешта Ёган па-нямецку, адкрыў свой штотыднёвік і, пагартаўшы, выгукнуў: — Вось, знайшоў. Зусім забыў.

Я даўно заўважыў у Ёгана прывычку пачынаць пра нешта гаварыць і праз якую хвіліну забываць пра гэта. Магчыма, спецыяльна, каб зацікавіць суразмоўцу.

— Дык што ты хацеў сказаць? — вярнуў я Ёгана да рэчаіснасці.

— Што я хацеў сказаць? — усміхнуўся немец, шматзначна паляпаўшы рукою па тэлефоне — Іншым разам. Я яшчэ не ўсё ўспомніў. Іншым разам за куфлем піва, можа, і спрацуе мая памяць. — Ён зірнуў на гадзіннік і заспяшаўся: — О, я спазняюся. Мне трэба на важную сустрэчу. Бывай, убачымся.

Штосьці мне не спадабалася ў яго інтанацыі і як зірнуў на мяне, як спыніў раптоўна размову. Ёган няйнакш ведаў пра нейкую непрыемнасць, якая датычылася толькі мяне ці нашай канторы. Зараз ён не захацеў пра яе гаварыць. Лепш, каб сказаў. У мяне даўні прынцып: непрыемнасці трэба апярэджваць, а не чакаць іх. Але ж з якога яны боку? Спадзяюся, што заўтра альбо паслязаўтра ён мне раскажа.

Зрэшты, што ён мне можа расказаць? Што мне трэба? Як і усім. Карміць сям’ю. Мець машыну і дачу. Пабудаваць кватэры сыну і дачцэ. У гэтым мы ўсе аднолькавыя. Кожны выжывае, як можа, ці як атрымліваецца… І ў кожнага свая мітусня, якой няма супынку. Мітусня, мітусня і мітусня…

Я выйшаў на вуліцу і падзівіўся: за паўдня большасць дрэў стала паўголымі. Вакол ляжаў дыван з жоўта-чырвонага лісця. Яно шаргацела пад нагамі. Вецер, нібы забаўляючыся, гуляў з ім, перакідваючы з месца на месца. На душы было сумна, паныла.

### *Раздзел сямнаццаты*

Ззаду мяне нехта штурхае. Я паварочваюся: перада мной Марына, якая жыве ў суседнім доме. Некалькі разоў ехалі з ёй разам у тралейбусе. Мне яна падабаецца. Пры кожнай сустрэчы абменьваемся з ёй жартамі.

— Каго чакаеш?

— Выйшаў падыхаць свежым паветрам. Калі можна яго так назваць.

— Падыхаем разам.

— Я — не супраць.

Марына ў кароткай спадніцы, у скураным чырвоным пінжаку. На нагах высокія чырвоныя боты. Чорныя валасы блішчаць, нібы намазаныя алеем. Гэта я так думаю, але зараз столькі розных крэмаў, геляў для жанчын, што чым апрацавала валасы Марына — яе тайна. У левай руцэ маленькі бліскучы рыдыкюльчык. У дзяцінстве я бачыў фільм, у якім, чамусьці засталося ў памяці, вельмі прыгожая графіня ішла менавіта з такім рыдыкюлем.

Хвілін пяць мы стаялі моўчкі. У мяне не было жадання аб нечым гаварыць, і Марына, мусіць, гэта заўважыла.

— Паслухай, у мяне ёсць прапанова. Думаю, яна табе спадабаецца. Што ты надзьмуўся, нібы жук перад ботам? Ва ўсіх праблемы: і ў цябе, і ў мяне. Не гані сумоту на народ, а то завянеш.

— Чаму ты вырашыла, што ў мяне сумота? Выйшаў, вось дыхаю…

— А я атрымала паўгадзіны назад прэмію. У цябе, пэўна, грошай, як заўсёды, няма. І што вы, мужчыны, такія слабыя? Альбо прыдумляеце? Грошай у вас няма, кахаць вы не можаце. Што вы здольны як трэба зрабіць? Па-чалавечы? Што без нас, жанчын, вы рабілі б? Вы здохлі б праз гадзіну.

— Я, Марына, з табой поўнасцю згодны.

— Каго ты чакаеш?

— Нікога.

— Хлусіш. Я бачу, як на цябе жанчыны азіраюцца. Вочы ў цябе хітрыя, бы ў ката, — засмяялася Марына.

— Што ты кажаш. Я люблю сваю жонку і дзяцей. Мне сям'я вельмі дарагая.

— Тое, што любіш — гэта адно. Другое — ты бабнік. Дарэчы, я еду дамоў. Не хочаш мяне правесці? За таксі плачу я. Я ж табе ўжо сказала: атрымала прэмію…

— Мусіць, ты трохі выпіла?..

— Канечне. З Вераю і Зінаю — бутэльку каньяку і бутэльку шампузіка. Дык ты едзеш ці не? Я двойчы не запрашаю…

— Еду…

Як быў, у касцюме, пакінуўшы плашч і партфель у кабінеце, сеў з Марынай у таксі, і мы паехалі. У гэты дзень я адчуваў сябе кепска. А Марына падышла, пагаварыла са мной, і я раптам убачыў у ёй прыгожую жанчыну, якую раней не заўважаў. Хоць і не люблю, калі жанчыны на падпітку.

— Ты не бойся. Дома нікога няма і сёння не будзе. Муж у камандзіроўцы, а дзеці ў свякрухі. Усё на вышэйшым узроўні, — Марына доўга не магла патрапіць ключом у замок, нарэшце адчыніла дзверы. — Прашу, спадар, заходзьце!

Хоць яна і папярэдзіла, што дома нікога няма, але халадок непакою, не страху, а менавіта непакою прабег па скуры. Я агледзеў кватэру. Гэта была сціплая двухпакаёвая «хрушчоўка»: маленькая кухня, туалет і ванная разам. І без балкона.

— Я сваю кватэру ненавіджу, — сказала Марына. — Яна такая жабрацкая, што ў мяне часам узнікае жаданне завыць ваўчыцай. Галоўнае, ніякай перспектывы, каб палепшыць жытло.

— Муж заробіць грошай і памяняеце.

— Мой муж заробіць!.. Ага, двойчы і тройчы. Ён толькі жэрці можа і піць, піць і жэрці! — закрычала Марына. — Ён не мужчына, нават сваю жонку не здольны задаволіць хоць адзін раз у тыдзень. Ты не ведаеш, калі мы з ім спалі апошні раз? Не ведаеш? А я табе скажу: тры месяцы назад. Яго вялікасць захацеў парадаваць сваю прынцэсу.

Марына выйшла з ваннай у ружовым пеньюары. Крутанулася на назе, валасы хвалямі ахінулі плечы, закрылі твар. Я не стрымаўся, ухапіў яе за руку, пацягнуў да сябе, прыціснуў. Яна пахла віном і апельсінамі. Я адгарнуў валасы з яе твару.

— Пачакай, не спяшайся, — ціха сказала Марына. — Вып'ем віна.

Час набліжаўся да вечара. Мне трэба было папярэдзіць жонку, што затрымаюся, але я забыў. Мы сядзелі на кухні, пілі віно, і Марына скардзілася на жыццё, быццам я мог яго зрабіць лепшым. Паціху знікаў узвышаны настрой, з якім прыехаў у гэту кватэру, ад, здаецца, бясконцай скаргі жанчыны, што так мне падабалася яшчэ гадзіну назад. У сына халодная куртка, грошай мала, у яе боты просяць кашы. Вось у Кацярыны з вытворчага аддзела з'явіўся пярсцёнак з дыяментам, а ўчора яна прыйшла з новым залатым і вельмі тоўстым ланцужком. Хоць твар у яе… Увечары ўбачыш у цёмным завулку — спалохаешся… Праўда, фігура, як у мадэлі… Але ж у яе каханак! Малады, высокі, ездзіць на новай «Аўдзі». Вось чаму так? Яна, Марына, і прыгожая, і абаяльная, і разумная, а нават няма нармальнага мужчыны. Гэта — несправядліва!

— Ты згодны?

— Канечне. Ты заслугоўваеш значна большага.

Яна дапіла віно, я схаваў свой твар у яе густых пахуткіх валасах, абняў і зразумеў, што зараз адсюль не змагу пайсці. Мне стала горача. Я забыў, што ў чужой кватэры, і муж раптам з’явіцца, хоць Марына сказала, быццам ён у камандзіроўцы. Але ж анекдоты прыдумваюць не толькі, каб напалохаць …

Я ачуўся ад кароткага і рэзкага званка ў дзверы. Марына спала, нават не было чуваць яе дыхання.

Званок не сціхаў. Ён проста, здавалася, роў. Я крануў Марыну, ніякай рэакцыі. Тады патрос за плячо.

— Ну, што ты, дай мне паспаць, — прамармытала яна.

— Звоняць, і — даўно, — прашаптаў я. Вопратка была ўжо на мне. Шчасце, што кватэра Марыны на першым паверсе.

Нарэшце яна пачула званок, накінула на сябе халат.

— Ціха… Я пагляджу, хто там…

Яна вярнулася белая, бы першы снег. Вусны ледзь прамовілі:

— Муж… Добра, што я ў яго ключы забрала. Давай хуценька праз акно. Скажу, што моцна спала пасля гасцей. — Яна пацягнула шампанскага з бутэлькі. — Не перажывай. Глядзі, нагу не зламай, — Марыя хіхікнула: — Усё, о’кэй! Давай, давай…

Я адчыніў акно, асцярожна выглянуў. Унізе раслі апошнія восеньскія кветкі, кусты і нікога быццам не было відаць. Прызямліўся ўдала і ледзь не на карачках — у гушчар кустоў.

На кухні ў Марынінай кватэры ўжо гарэла святло. Яна абдымалася з высокім барадатым мужчынам, у руках яны трымалі па келіху шампанскага.

Жыццё ў кожнага з нас працягвалася. Я патупаў да свайго дома. Мне не прыйдзецца нічога тлумачыць жонцы. Я затрымаўся на працы, але ж начаваць прыйшоў. І ўжо амаль цвярозы…

## *Раздзел васямнаццаты*

Хоць былі праблемы з бензінам на запраўках, але вырашыў ехаць у вёску на «Масквічы». Балазе, дарога на Брэст добрая, машын няшмат. Калі падлічыць кошт білета на цягнік туды і назад, атрымлівалася такая ж сума грошай, якую аддам і на запраўку. Дык у машыне сам сабе гаспадар, дзе захацеў, спыніўся, куды трэба — паехаў, нікога не просіш, нікому не абавязаны і не кланяешся. Лепш аддаваць, чым прасіць. Мусіць, так гавораць мудрыя старыя людзі, а яны, дай Бог, ведаюць ісціну жыцця.

Раніцай жонка мне нічога не сказала, яна першай пайшла з дому. Толькі ўжо на парозе іранічна спыталася:

— Якімі ты духамі ўчора карыстаўся?

— Я нават адэкалонам рэдка карыстаюся…

— Адчуваю. З шафы пахне так, быццам толькі што бутэльку выліў.

— Можа, гэта я, калі стаяў ля Ганны… Ведаеш, сакратарка… Я стаяў ля яе, а яна новыя духі выпрабоўвала. Дык і мне перапала.

— Ну-ну… — сказала жонка. — Глядзі, асцярожней будзь у дарозе.

— Я ж не малы. Канечне, буду. З дарогай нельга жартаваць.

Я правёў дзяцей у школу, зайшоў у краму і купіў тое, што звычайна бяру, калі еду ў вёску: хлеб, абаранкі, селядзец, кілбасу і яшчэ рознай дробязі. Вось і поўная торба, ледзь рукі цягнуць.

Нібыта нічога такога асаблівага не купіў, але ж гэта таксама і падарункі. Значыць, радасць для тых, каму прывязу, і — мне прыемна. Сам рады ад таго,

што іншым зрабіў нешта добрае. Сала ў вёсцы сваё ёсць, а мінскі хлеб ядуць, як заморскі прысмак.

Мне трэба перачакаць, бо хоць і не надта шмат ужываў спіртнога, але ж пах ад учарашняга гасцявання, пэўна, адчуваецца. Я паснедаў, выпіў кавы, пачысціў зубы, прыняў душ. У даішнікаў нюх на пахі востры, быццам у сабак. З'ядуць умомант, не паспееш і ачухацца.

Я ўпарадкаваў свой «Масквіч», склаў немудрагелістыя рэчы і рушыў на Захад. Дарога туды роўная, будавалася да Алімпіяды ў Маскве. Адзін кіламетр яе, казалі, абышоўся быццам у мільён рублёў.

Ехаў я пад восемдзесят кіламетраў у гадзіну, што для «Масквіча» было дастаткова. Дый вадзіцель я так сабе. Умею толькі руль круціць, а каб што адрамантаваць — не ведаю, за якую гайку ўзяцца. Я, па-сённяшнім выразе, проста «чайнік». Хоць гэта таксама ўсё мітусня… Умею вадзіць лепш за Рыгора ці Паўла машыну, якая розніца… Мітусня… Вечная чалавечая мітусня… У мітусні я страціў палову свайго жыцця. Што набыў, прыдбаў?.. Нічога, адна мітусня.

Я еду на радзіму і думаю, як буду рады ўбачыць свайго сябра дзяцінства Міколу. Мы з ім бегалі босыя па расе, купаліся ў Ясельдзе. Таямнічая, найпрыгажэйшая, зялёная і блакітная, чырвоная і чорная — усіх колераў была наша рака. У ёй вада цякла, нібы кроў у нашых жылах. Калі плакала яна, плакалі і мы. І гэта была не мітусня, а нашае жыццё…

Машына бяжыць, а ў маёй галаве думкі, думкі… Калі я быў зусім малы, са мною ў першы клас хадзіў сын сляпой Юлі Васіль. Яны жылі ў зямлянцы, якой даўно і след прастыў. І Юля, мабыць, памерла. І дзе Васіль, ці жывы?.. Я помню гэты след на зямлі, як дарагі і блізкі мне…

Я прыехаў у вёску, калі амаль зусім сцямнела. Заганяю машыну ў двор хаты маёй сястры, якой, на жаль, даўно няма, і я ўжо цяпер не плачу, калі ўспамінаю яе. Час лечыць, супакойвае. Рыпіць калодзеж, гаўкаюць сабакі, ціхая вуліца…

Пераначаваўшы, я акуратна, каб не пабудзіць нікога ў хаце, выходжу ў двор. Чую, як у суседскім хляве жуе жвачку карова. Заляскаў ланцугом сабака. Недзе на вуліцы з калодзежа падымаюць ваду, моцна скрыпіць калаўрот.

Я стаю, слухаю гэтую незвычайную цішыню, якую памятаю са свайго дзяцінства. Прагна глытаю паветра і адчуваю, як з другога канца вёскі цягне дымам і пахне гарэлым торфам. Гэты спецыфічны пах ні з чым не пераблытаеш. Я ў маленстве за лесам на балоце з татам і мамай капаў торф для паліва. Нас там было шмат: нібы руднік пад адкрытым небам. Сотні людзей капалі рыдлёўкамі густы тлусты торф і кавалкамі, быццам боханы хлеба, раскладвалі на сонцы і сушылі. Мы з татам і мамаю насілкамі насілі да сваёй пляцоўкі порцыю за порцыяй. Калі б чалавек з іншага свету паглядзеў на нас, мабыць, вырашыў бы, што мы — рабы, якія будуюць штосьці накшталт егіпетскіх пірамід. А, можа, і нічога не падумаў бы…

Дробныя кроплі дажджу пачынаюць падаць на маю гладка паголеную галаву. Пад тонкую куртку падбіраецца слізкі бессаромны холад.

Неба з усходу пасвятлела. Міма прашаргацеў з райцэнтра аўтобус. Ля царквы ён развернецца, забярэ з прыпынку людзей і пойдзе назад. Больш мне чакаць нельга. Трэба варушыцца. Я не хачу, каб хтось бачыў, што калупаюся пад каменем.

Іншага месца Казімір не знайшоў. Ну, нібы кіно… Пад валуном ля хаты Тафілі… А калі ўжо каменя няма? Можа, хату зруйнавалі? Ці згарэла? Ніякай фантазіі… Ладна, паглядзім. Казіміра няма, пахавалі. Ніхто мне не падкажа, не дапаможа…

Я пайшоў па вуліцы, спаткаў некалькіх аднавяскоўцаў, якія спяшаліся на працу. Павіталіся і разышліся кожны сваёй дарогай. У нас розныя думкі і планы. Я не хацеў, каб хтось ведаў пра мае…

Хвілін за дзесяць я дапяў да патрэбнага для мяне месца. Яно было напрыканцы апошняй ад лесу вулачкі. Яе некалі называлі Свіной, а потым упрыгожылі імем рускага паэта Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна. Вулачка ўжо ў асфальце, бы ў новым касцюме, не відаць лужын, у якіх купаліся свінні.

Хата старой Тафілі стаяла маўклівая і пакінутая, з вокнамі, крыж-накрыж забітымі дошкамі. Вакол яе пагніў і абсеў плот, уздоўж якога кустоўем рассыпалася сліўка, падбіраючыся да старых яблынь. Ад франтона хаты адарвалася некалькі дошак. Яны гайдаліся ад ветру, стукаючыся аб парослы мохом шыфер.

Панылы двор, на якім спынілася жыццё, а некалі па ім бегалі дзеці, гучаў смех. Бразгалі вёдры. З коміна ішоў дым, і зыркае вясёлае полымя ў печы рабіла ружовымі вокны, за якімі быў свет сям'і, гэтай хаты.

Камень-валун ляжаў ад левага вугла ля самай вуліцы. Ён быў па шырыні амаль метр, дый з паўметра вышынёй. Частка яго ўрасла ў зямлю.

Школьнікамі мы для калгаса збіралі каменне на падмурак для кароўніка. Нехта быў прапанаваў забраць і валун, але не хапіла сілы яго разбіць, а тым больш перавезці цэлым. Потым, мусіць, пра камень забылі. Гэта ж не мяса, якога хочацца штодзень. Камень не ўкусіш. Хай ляжыць, трасца яго бяры.

Я агледзеўся па баках: на вуліцы ні душы. Толькі ў суседнім двары забрахаў сабака. У мяне не было ні нажа, ні рыдлёўкі. Я паспрабаваў пальцамі калупнуць зямлю, але няўдала: зверху ўжо была скарынка, парослая густой травой. Як мага цішэй я адламаў ад плота балясіну. Яна была хоць і паўгнілая, але завостраная з аднаго канца. Балясінай і пачаў калупаць ля каменя. Казімір гаварыў, куды паклаў сваю пасылку. Толькі я штосьці не помніў. У галаве засталося: камень-валун, Тафіліна хата…

Зараз нехта спытае, чаму я тут калупаюся, і што тады адкажу?.. А вось спецыяльна прыехаў з Мінска, каб тут пакалупаць…

Мне зрабілася ўжо горача, узмакрэла спіна. Я ліхаманкава тыркаў дошкаю ў халодную цвёрдую зямлю, праклінаючы сябе за дурную галаву і тое глупства, якім займаюся гэтым ранкам ля Тафілінай хаты. І ўжо, калі сабраўся кінуць у цёмны двор паламаную дошку, адчуў, як лёгка яна пайшла ў глыбіню, нібы прарвала нейкую засланку. Я засунуў руку ў яму і намацаў там штосьці цвёрдае. Пацягнуў наверх. Я падняўся з калень і разгледзеў тое, што трымаў у руках. У цэлафанавым пакеце быў нейкі скрутак.

— І што вы тутачкі робіце? — да мяне незаўважна падышла старая, у ватоўцы, з кошыкам. — Шукаеце нешта? Ці я вас ведаю?

Я адвярнуўся ад яе і, не прамовіўшы ніводнага слова, спакойна пакрочыў у кірунку да хаты сястры. Я не помніў гэтую бабулю і не хацеў распальваць яе цікавасць. Хай застанецца з неўтаймаваным інтарэсам, будзе над чым паразважаць і суседкам параспавядаць. Я ні ў кога нічога не ўкраў, чужога не забраў, а толькі тое, што мне пакінуў Казімір. І гэта нашая з ім таямніца, якую ён даверыў мне. Што далей з ёй рабіць, — пабачым. Я не ведаю, які сакрэт у гэтым цэлафанавым пакеце. Можа, і мне не варта яго адкрываць.

Прайшоўшы з паўсотні крокаў, я азірнуўся: вулачка зноў была пустая. Толькі больш актыўна ў дварах рыпелі дзверы і вароты, звінелі ланцугі ў калодзежах. Мая вёска спакваля пачынала жыць новым днём.

Калі я зайшоў у хату, швагер ужо быў на добрым падпітку і смаліў «Прыму». На стале стаялі брудныя талеркі з рэшткамі кілбасы і селядца, што

я прывёз на пачастунак. Насупраць швагра драмаў ягоны госць па мянушцы Квач. Ён хроп, паклаўшы галаву ў талерку з капустай. З аброслага сівой шчэццю крывога рота цякла сліна. Я ўхапіў яго за каўнер і выцягнуў з хаты. Ён не супраціўляўся, толькі прамармытаў:

— Дзякуй за снеданне…

На двор я яго не выкінуў, пашкадаваў. Палажыў на канапку ў верандзе. Ад прахалоды хутчэй ачуняе і не замерзне.

Швагер паглядзеў на мяне ачмурэлымі вачыма і апусціў галаву на стол.

— Не мог мяне пачакаць? — спытаўся я, быццам еў бы разам з імі з гэтых абслюненых талерак. Сабака, мусіць, адмовіўся б ад іхняга сняданку, аблітага смярдзючым пітвом.

— Няма Марыі, няма… — прастагнаў швагер. Гэта ён аб маёй сястры, сваёй жонцы, якая, можа, і па ягонай віне дачасу пайшла на той свет. Аднак Бог яму суддзя. І швагра мне шкада: недагледжаны, паўгалодны. Цяжка без жонкі, без самай блізкай душы.

Сцяўшы зубы, я моўчкі пастаяў ля яго, паляпаў па плячы, гэтак супакойваючы сябе і яго. Чым я зараз мог яму дапамагчы, паспрыяць? Ён сваё жыццё ўжо не зменіць. Я дастаў з кішэні колькі грошай. Хоць разумеў, што дарэмна гэта раблю. Яны пойдуць не на хлеб і малако. Аднак я палажыў перад шваграм грошы. Больш я не хацеў тут заставацца.

Ад’ехаўшы ад вёскі мо кіламетраў сто, я спыніўся ля прыдарожнага кафэ. Над ім вісела шыльда «Ластаўка». Час быў снедаць. Узнялося сонца, прыціх вецер.

Акрамя мяне ў кафэ нікога не было. Я папрасіў сасісак з капустаю, кавы. Пакуль афіцыянтка завіхалася на кухні, я разгарнуў знойдзены пакет. У ім быў яшчэ адзін, дзе ляжалі дзве запісныя кніжкі. Дакладней, кніжка і штотыднёвік у сініх вокладках з надпісам «Берлінцайтунг». Запіска ад Казіміра, у якой зусім мала слоў: «Дарагі Іван! Пакідаю табе гэтыя запісы, у якіх ты знойдзеш адказ на некаторыя пытанні. Нікога не абвінавачваю. Вінаваты сам. Зрэшты, ва ўсім вінавата мітусня, якая зацягнула мяне ў свае кола. Мітусня… Беражыся яе…»

Я не стаў чытаць штотыднёвік. Я нічога не хачу шукаць, таму што гэта мітусня… Я аддаў жыццё мітусні, а вынік?.. Ён — адзін аднолькавы ва ўсіх…

Я імчуся ў мітусні і не ведаю, дзе мой прыпынак, дзе знайду свой спакой. Мітусня, мітусня…

...Недзе праз паўгода, стомлены і паўгалодны, седзячы ў скверы пасля доўгага блукання па розных арганізацыях і канторах у пошуках работы, я гартаў газету, дзе было надрукавана інтэрв’ю з генеральным дырэктарам аднаго расійскага нафтавага холдзінга Міхаілам Іванавічам Гедройцам. На другой старонцы газеты была кароткая інфармацыя: следства па справе Каранца працягваецца...





Ганад ЧАРКАЗЯН

# ЧАРГАВІ

* * *

Што згублена — згубілася навечна.
Мінулы дзень развеецца, як дым.
Дзень новы, хоць пляцецца недарэчна,
А шлях працягваць трэба толькі з ім.

* * *

Пра горы і пра звабы мора —
За кавай сумныя размовы.
А самі сумна, непрабудна
Жывём, зацугленыя ў будні.

* * *

На неба лаяцца не трэба —
Карысці ад таго ніякай:
Усё даўно пад гэтым небам
Да нас аблаялі сабакі.

* * *

Калі б розуму дурню дадаць,
У разумнага лішак адняўшы,

---

*__Чарказян Ганад Бадрыевіч__ нарадзіўся 18 кастрычніка 1946 года ў Арменіі. Пасля заканчэння сярэдняй школы вучыўся ў тэхнічным вучылішчы № 1 горада Ерэвана, у прафесійна-тэхнічным вучылішчы № 27 горада Эчміадзін, працаваў на суднарамонтным заводзе імя Ф. Дзяржынскага ў горадзе Туапсе Краснадарскага краю, служыў у Савецкай Арміі. Скончыў Ерэванскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум (1976) і будаўніча-педагагічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1982). Працаваў у будаўнічых арганізацыях Мінска, у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Цяпер — дырэктар фірмы ТСТ.*

*Піша на курдскай, армянскай і рускай мовах. Выдаў у перакладзе на беларускую і рускую мовы зборнікі вершаў «Прочность» (1980), «Цвет доброты» (1986), «Пространство и время» (1990), «Плач» (1994), «Караваны гор» (1996), «Чаргаві» (2001),«Дом дождя» (2001), «Тоска по дому» (2003), «Зорная глыбіня» (2005), «Мелодия разлуки» (2006), кнігі прозы «Шамдзін» (1998), «Камни печали» (1999), «Белая вежа» (2010), раман «Опередить смерть» (2005) і інш; кнігі для дзяцей «Казкі дзеда Ганада» (1996), «Пумпур у калясцы» (2004), «Талисман» (2013).*

Абсмяяла б жыццё, відаць,
Дарагія патугі нашы.

* * *

Бяда прыходзіць, пакідае,
Апамятацца не дае.
Тады прыходзіць госця тая,
Калі не клічам мы яе.

* * *

Слабакі прад зіркам чына
Гнуць і галаву, і спіну.
Ды і той, хто сілу мае,
Гнецца так яшчэ, бывае.

* * *

Слёз людскіх я мора бачыў
І сваіх дабавіў неяк.
А твайго баюся плачу —
Са слязьмі краса змарнее.

* * *

Я вуснамі збіраю ля вачэй
Тваіх слязінак чыстых дыяменты.
Твая пяшчота вусны мне пячэ
І спапяляе даўні сум дашчэнту.

* * *

Не шкадуй, ні аб чым не шкадуй,
Не марнуй у самоце душы.
Калі нават бяда — не бядуй,
Вер, як некалі, — вер і пішы!

* * *

Мы расстаёмся, і тваёй рукі
Мая рука кранецца неўпрыкмет.
Мы разбяжымся ў розныя бакі,
Але бліжэй, як мы, не бачыў свет.

* * *

Гэта не з нябёсаў зыкі-гукі,
А зусім мелодыя зямная.
Бачу: вас хвалююць мае думкі,
А мае пачуцці не кранаюць.

* * *

Салдацік першай арміі ратоўнай
Прабіўся праз самоту і азябласць.
І тут жа сонца хлынула раптоўна
І ўсю душу сцямнелую аззяла.

* * *

Шалёны свет нас ганьбіць і карае.
І што рабіць, як ратавацца нам?
Ды хто каго — ці мы яго ствараем,
Ці творыць нас ён, як жадае сам?

* * *

Зноў пакрыўдзіў. Сам жа вінаваты.
Свет зрабіўся сумным і пустым.
Ты пайшла, як здань, халаднавата,
Непахісна, так, як можаш ты.

* * *

Гэтак мы і жывём —
Мякіну нудоты жуём.
У вірлівым жыцці круцімся лена,
Гадуем дзетак — сабе на замену.

* * *

Дзе нарадзіўся — не так ужо й важна.
Ёсць дом, каханне і  грошай крыху.
Вось і кідаемся ў свет мы адважна,
Каб тут жа  ўцячы пад сваю страху.

* * *

Усё цяжэй гадоў свінцовы груз,
А медзь хвалы лягчэе ўсё з гадамі.
Жыве ў нас кожным слаўны той Саюз,
Ён і памрэ, напэўна, толькі з намі.

* * *

Няхай пусты мой кашалёк,
Ды так развесяліў імгненне
Дубовы бронзавы лісток,
Што лёг мне  на кішэню.

* * *

Алень імклівы. Колькі хараства!
Як чалавека ён зачараваў!
І тыгр сваёй красой усцешыць змог.
Наш свет такі, якім задумаў Бог.

* * *

Не заўсёды жнём, што сеем,
Толькі потым зразумеем.
Так нагрузяць раптам воз —
Слон і той бы не павёз.

* * *

Дзе гаспадарыць крыважэр і хлус,
Заўсёды месца досыць для спакус.
На рэчы ты цвяроза паглядзі,
Пра шлях свой помні, іншы абыдзі.

* * *

Бачу: роспач душу спавіла.
Сумаваць табе не пасуе.
Вось і дружба ў тупік зайшла,
Як машына ў гразі буксуе.

* * *

Адзін пад ношай горбіцца, пыхціць,
А іншы ўлегцы, ўсмешлівы заўсёды.
Камусьці лёгка йдзецца  па жыцці,
Камусьці шлях — завалы, перашкоды.

* * *

Сябрам — любоў, а ворагам — пракляцце.
Патрэбна жыць на свеце тым і тым.
Жыццё бяжыць, нібы па цыферблаце,
Правераным гасцінцам кругавым.

* * *

Заўтра не зменіцца ў свеце нічога,
Іншыя прыйдуць старою дарогай,
Будуць, як гэтыя, шчасця шукаць,
Будуць пясок усё той жа капаць.

* * *

Вярблюд павінен перайсці пустыню
І вытрымаць напор гарачых дзён.
Такі ўжо лёс. І ён у ім застыне,
Яму і верны аж да скону ён.

* * *

Пяшчотны вечар зноў мне дакляруе
Салодкую загадкавую ноч.
А родны дом расстання не даруе,
І даўні сум мяне карае зноў.

* * *

О, як прагрэс раскручвае педалі!
Шумеў мой лес. Яго як не было.
Абцасамі шалёна растапталі.
Жывому зноў — чырвонае святло.

* * *

Папрадуха стамілася. Спынена ніць,
Пакаціўся кудысьці клубок.
Толькі сэрцу наіўнаму хочацца жыць,
Покуль нітка прадзецца ды мчыць за табой.

* * *

Чужая фарба дзе яшчэ й калі
Спявала пэндзлю роднае, сваё?
І боль чужы не кожнаму баліць,
А некаму і смешны нават ён.

* * *

Не прыніжай сябе без меры —
Што хоча, тое творыць век.
Сягоння вера ўся паперы,
А ты ўсяго ёсць чалавек.

* * *

Адзін пляцецца, і не чуе ног,
І марыць толькі пра глыток вады.
Другі, жыццём аблашчаны даўно,
Зрывае шчасця лёгкія плады.

* * *

Цярплівы лес, ён выслухае ўсё —
Крык  варання і цёхкат салаўя.
Шчаслівы лес, мудрэйшы ён, чым я,
Крыўдлівы і самотлівы асёл.

* * *

Ноч разрывае брэх сабачы,
А я адзін у той начы.
Сівы, як лунь, з душой юначай,
Хто дзён пражытых не лічыў.

* * *

Будзь сэрцам чысты, калі з праўдай крочыш,
Хоць чысціня не кожнаму відаць.
На Божы свет глядзяць наіўна вочы —
Калі б яго загадкі разгадаць!

* * *

Мастачкай восень у любой выяве —
Агнём і сонцам, золатам зіхціць.
Нібыта суцяшае: неўзабаве
Нам разам з ёй у шэры змрок ісці.

* * *

На нас падобны дрэвы ўсё-ткі.
Лістотай слоў жыве мой верш.
Я веру ім, як нашым продкам, —
Прырода вечнасцю жыве.

* * *

Проста так, не трэба мне адплаты,
Я аддам усё, чым сам багаты.
Жыў бы як? Ды вельмі проста б жыў —
Птушкай вольнай над зямлёй кружыў.

* * *

Плакаць па страчаным — клопат дарэмны.
Зніклі, расталі былога сляды.
Там тваё шчасце, дзе  ты патрэбны,
Дзе твае дні выраслі ў гады.

* * *

Я на сябра злосці не нашу.
Клопаты ў яго — забыў мяне.
Сыдземся — і адвяду душу,
Раскалышам памяць, як даўней.

* * *

Як раней, жыццё бяжыць няспынна.
Пастарэеш — нават не прыкмеціш.
Рухнула вялікая краіна.
Мы ўсе — яе згубленыя дзеці.

* * *

Вёрсты, самалёты, цягнікі
Разлучаюць нас, а ты са мною.
З успамінаў самых трапяткіх
Шчасце наша складзена зямное.

* * *

Вольны чалавек ад нараджэння.
Пасткі ўсе прыдумваюць пасля.
Сам спыніў бы вечнасць і імгненне,
Толькі б не спыняўся гэты шлях.

* * *

Памыліўся ўчора. Што мне свеціць?
Цісне зноў у горле даўкі ком…
Самае найлепшае на свеце —
Жыць, не быць нікому даўжніком.

* * *

Хто падсобіць працаўніцы-жонцы?
Вагі захацеў прыдумаць я
З той, паўнюткай, шаляй для шчыроўцы
І пустой зусім — для гультая.

* * *

Што мне казаць? Усім даўно вядома:
Што маеш — памнажай  і беражы.
Вунь мурашок саломкі нейкі зломак
Праз вечнасць цягне. Значыць, хоча жыць!..

* * *

Таго люстэрка не пакажа сёння,
Хоць бачыла, як мы жылі з табой.
Калі далонь сагрэецца ў далоні,
Дык, значыць, холад нам не страшны больш.

* * *

Спяваюць птушкі, ад спякоты смагнуць,
Усім спакою на зямлі няма.
А вечарам усе прытулку прагнуць —
У гнёздах, норах, стайнях і дамах.

* * *

Ён творцам быў на гэтае зямлі,
Агні запальваў, але слеплі людзі.
Агнёў ты колькі хочаш запалі —
Святла усё адно хапаць не будзе.

* * *

Мару і жыву так, як умею,
Сею семя, як і кожны з нас.
Адчуваю, як душа старэе.
Але ў чым жа тут мая віна?

* * *

З раніцы да вечара не ўлегцы
Трэба па зямлі мне вандраваць.
Думаю, як некалі, пра хлеб свой,
А яшчэ — каб дзень не змарнаваць.

* * *

Праўды не пазнаў? Пазнаеш потым —
У яе прыкмет адметных шмат.
Тое, што завецца паваротам,
Часта — лёсу лінія сама.

* * *

Плача хлопец, слёз сваіх не тоіць:
Замуж выйшла любая яго.
Ах, наіўны… Лёс — зусім не тое.
Тое ён, што мчыцца наўздагон.

* * *

З думкаю вось гэтай і жывеш
(О душа наіўная, святая),
Нешта назаўсёды аддаеш
І ўзамен нічога не вяртаеш.

* * *

Вось новы дзень ідзе сваёй вярстой,
З трывогай новаю, цяплом ды ветрам свежым.
А як ён пражывецца, новы той,
Ад чалавека мала што залежыць.

* * *

Дождж пройдзе — і зямлю пераіначыць,
На сонцы ззяюць луг і амшарок.
А ступіш крок — і рух пачаўся, значыць,
І ты ў адказе за свой кожны крок.

* * *

Пацалункі, насалоды хвалі,
Толькі падабенства нейкіх слёз…
Кожны момант свой кладзі на шалі —
Справядліва ўсё ўзважыць лёс.

* * *

Сніў я Музу. О шчаслівы знак!..
А прачнуўся: анідзе нікога.
Пэўна, заблудзілася яна
І шчабеча зараз у другога.

* * *

Кожная галінка зноў імкнецца
Па вясне свой плод узгадаваць.
А перад зімою азірнецца —
І вялікай працы не відаць.

* * *

Цішыня. Чуваць, як сэрца б’ецца,
І не столькі б’ецца — а баліць.
Ну а ўсё ж калі яно мінецца —
Зла нашэсце на маёй Зямлі?

* * *

Плёскат рэк, блакіт азёр нядрэмны,
Спеўны край за далечы смугой…
Беражом мы душы узаемна:
Ён — маю, я — светлую — яго.

* * *

Недзе праз туман бяжыць дарога.
Салаўіны пошчак… Ранне… Май…
Быццам бы і дзіўнага нічога, —
Але як падсвечаны туман!..

* * *

Яхты, самалёты і палацы…
Стануць тленам некалі яны.
Фараонам сны пра вечнасць сняцца.
Любяць пасмяяцца нашы сны!..

* * *

Кожны ўсемагутны — сам смяротны.
Дзе ён з тым пагодзіцца калі…
А бядак пры працы і зямлі
Ведае пра ўсё… і не самотны.

* * *

Іншы на свой чын і посуд купіць,
Ды пакіне свет і ён, купец.
Чэрпаюць адны з раскошы кубкам,
Іншым добра — і з кары карэц!..

***Пераклад з курдскай Казіміра Камейшы.***



Яўген ГАРАДНІЦКІ

# АПОВЕСЦЬ ІВАНА ШАМЯКІНА «ГАНДЛЯРКА І ПАЭТ»: ЖАНР, КАМПАЗІЦЫЯ, ГАЛАСЫ АЎТАРА І ГЕРОЯЎ

Аповесць народнага пісьменніка Беларусі Івана Пятровіча Шамякіна «Гандлярка і паэт» (1975) — адзін з самых яскравых і значных твораў беларускай літаратуры другой паловы XX стагоддзя. Твор гэты ў многім наватарскі для свайго часу. У ім надзвычай своеасабліва, на высокім пачуццёвым уздыме, з уласцівай І. Шамякіну грунтоўнай аналітычнасцю і падрабязнасцю, глыбокім пранікненнем ва ўнутраны свет герояў распавядаецца пра адну з драматычных і адначасова гераічных старонак гісторыі Вялікай Айчыннай вайны — пра змаганне мінскіх падпольшчыкаў.

Характэрнай асаблівасцю твора з’яўляецца тое, што ў ім на першы план выступаюць не баявыя дзеянні падпольшчыкаў, а іх асабовыя адносіны, унутраны душэўны стан, адчуванні і перажыванні. Не пазбягае аўтар і абмалёўкі побытавай абстаноўкі, у якой жывуць і змагаюцца з ворагам яго героі. Больш таго, бытавы бок іх жыцця ў пэўным сэнсе служыць кантрапунктам праявам іх духоўнага жыцця, выяўленню высокіх пачуццяў далучанасці да агульнай справы барацьбы з захопнікамі.

Пісьменнік падкрэслівае спецыфіку падпольнай барацьбы, выключнасць умоў, у якіх даводзілася змагацца савецкім патрыётам. У гэтых умовах быт сапраўды быў неаддзельны ад тых спраў, якія сталі для іх самымі важнымі, дзеля якіх яны клалі на алтар змагання свае жыцці. Адметнасць была ў тым, што немагчыма было наогул правесці выразна акрэсленую мяжу паміж звычайнымі праявамі жыцця, што і ў ваенны час усё ж застаецца жыццём, і момантамі рашучага супрацьстаяння ворагу, які прыйшоў на нашу зямлю і парушыў ад веку заведзены лад чалавечага існавання.

Лінія фронту тут праходзіла якраз праз так-сяк наладжаны побыт людзей, праз іх паўсядзённае жыццё, поўнае нялёгкіх выпрабаванняў, праз іх лёсы і сэрцы. Лінія гэта часцей за ўсё была непрыкметнай, аднак жа яна востра адчувалася, асабліва тымі, хто не мог змірыцца з існаваўшым станам рэчаў. Часам гэта азначала, што барацьба разгортвалася ў свядомасці чалавека з самім сабой, паколькі патрабавалася немалая мужнасць, каб пераступіць гэту нябачную мяжу, знайсці ў сабе дастаткова сіл для актыўнага супрацьдзеяння няпрошаным прышэльцам, навязанаму імі «новаму парадку».

Аб тым, наколькі непрымальным было для нашых людзей усё, што прыйшло ў іх жыццё разам з нашэсцем акупантаў, сведчыць тое, што праявы гераізму паказвалі нават тыя, ад каго немагчыма было чакаць якіх-небудзь рашучых учынкаў, хто ў мірныя гады не выяўляў колькі-небудзь актыўнай грамадзянскай пазіцыі. Да ліку такіх адносіцца і гераіня аповесці І. Шамякіна гандлярка Камароўскага рынку Вольга Ляновіч.

Лёс сутыкае гэтую патомную гандлярку, дачку славутай на ўсю Камароўку Ляновічыхі, з былым вайскоўцам, якому яна дапамагае вызваліцца з нямецкага палону. Гэта чалавек зусім з іншага свету, захоплены іншымі думкамі і памкненнямі. Адно ўжо тое, што ён паэт, кантрасна вылучае яго з таго асяроддзя, якое з’яўляецца звыклым для маладой Ляновічыхі, жанчыны, як і яе маці, учэпістай, дзелавой, бойкай.

Звядзенне разам такіх непадобных адзін на аднаго сваімі характарамі, светапоглядам герояў паўстае з'явай сімвалічнай, уяўляецца свядомым аўтарскім прыёмам, які мае канцэптуальнае значэнне. Ужо ў самой назве твора падкрэслена выступае гэтая палярнасць, антанімічнасць, заснаваная на суаднясенні рознахарактарнага, аддаленага, процілежнага.

Варта адзначыць, што антанімічнасць і разам з тым узаемадзеянне і ўзаемадапаўняльнасць супрацьлеглых па сваім значэнні з'яў і прыкмет з'яўляецца характэрнай адметнасцю ўсёй мастацкай сістэмы гэтага твора. У ім адзначаная вышэй увага да побытавай дэталі, да паўсядзённага жыцця сумяшчаецца з тонкім псіхалагічным аналізам, выяўленнем гераічнай самаадданасці герояў, раскрыццём іх духоўнай сілы і трываласці. З гэтай шматстайнасцю падыходаў звязана таксама і жанравая адметнасць твора, у якім побытавая заземленасць неаддзельна ад высокай гераічнай патэтыкі.

Складаная структурная арганізаванасць шамякінскай аповесці, суаднесенасць у маўленні апавядальніка галасоў аўтара і герояў, пісьменніцкае майстэрства выяўлення ўнутранага стану чалавека, псіхалагічных матывацый яго паводзін і ўчынкаў з'яўляюцца пытаннямі, якія разглядаюцца ў нашым даследаванні. Распрацоўка дадзеных пытанняў, як нам уяўляецца, надзвычай істотная для вызначэння мастацкай адметнасці гэтага твора, яго месца ў кантэксце ўсёй творчасці народнага пісьменніка Беларусі.

Пачынаецца аповесць «Гандлярка і паэт» з кароткай перадгісторыі экспазіцыйнага характару, у якой расказваецца пра сям'ю Ляновічаў, бацьку і маці Вольгі, лад іх жыцця. Адразу пры гэтым выразна акрэсліваецца асноўнае месца дзеяння — мінская Камароўка, якая на той час, забудаваная драўлянымі дамкамі, была адным з гарадскіх прадмесцяў. Натуральным цэнтрам камароўскага жыцця быў рынак, на якім жыхары навакольных вуліц і завулкаў гандлявалі вырашчаным на ўласных гародах.

У аповесці І. Шамякіна наогул вялікая ўвага надаецца гарадской тапаніміцы, дзеянне ў ёй разгортваецца ў рэальна пазнавальных каардынатах, згадваюцца многія сапраўдныя назвы мінскіх вуліц, раёнаў, ваколіц. Такое выразнае выяўленне топасу горада ў яго канкрэтных прыкметах сустракаецца ў беларускай літаратуры нячаста. Аўтар выкарыстоўвае гэты прыём, несумненна, у мастацкіх мэтах, дзеля ўзмацнення рэальнага плана выяўлення, акцэнтацыі сувязі апавядаемага з тым, што адбывалася ў сапраўднасці.

За падзеямі, што разгортваюцца ў мастацкім свеце аповесці, выразна праступае рэальнасць — сапраўдная гісторыя падпольнага змагання ў акупаваным фашыстамі горадзе, тая гісторыя, якая ўвекавечана, у прыватнасці, і ў мемарыяльнай дошцы, што знаходзіцца цяпер на адным з дамоў па вуліцы В. Харужай на сучаснай Камароўцы. Як і ў іншых сваіх творах, класік беларускай прозы І. Шамякін глядзіць на падзеі мінулага з пункту гледжання сучаснасці, імкнучыся перш за ўсё выявіць гуманістычны падтэкст настрояў, адчуванняў і ўчынкаў герояў у іх суаднесенасці з рэальнымі сітуацыямі і абставінамі.

Пры ўвасабленні ў творах ваеннай тэмы пісьменнік зыходзіў са свайго жыццёвага і вайсковага вопыту, абапіраўся на дакументальныя крыніцы і сведчанні відавочцаў. Да сюжэта пра мінскае падполле ён таксама падыходзіў з усёй сур'ёзнасцю, доўга выношваючы задуму.

Ва ўспамінах аб творчай працы, якія наогул уяўляюць вялікую каштоўнасць для даследчыкаў, як гісторыкаў, так і тэарэтыкаў літаратуры, І. Шамякін згадвае пра тое, што ў яго памяці «можа, трыццаць гадоў жыў вобраз жанчыны», якую яму даводзілася бачыць гандлюючай на рынку і пра якую казалі, што яна была ў вайну падпольшчыцай.

Гэты вобраз звярнуў на сябе ўвагу пісьменніка, безумоўна, сваёй неардынарнасцю, паяднаннем у адной асобе, здавалася б, такіх на першы погляд неспалучальных, процілеглых якасцей, як мужнасць, гераізм і занятак гандлярствам,

самай абыдзеннай, празаічнай справай, што ў грамадскай свядомасці, да таго ж, трывала асацыіравалася са светам мяшчанства, вузкага прагматызму.

Канчаткова сюжэт склаўся ва ўяўленні аўтара тады, калі яшчэ больш кантрасна абазначыліся палярныя моманты мастацкага свету будучага твора, калі выношваемы вобраз атрымаў сваё далейшае развіццё ў суаднесенасці з канкрэтызаванай сітуацыяй, у сутыкненні з прынцыпова іншым характарам і лёсам. І. Шамякін расказвае пра сапраўдны выпадак, калі аднойчы да яго прыйшла жанчына і прынесла вершы паэта, былога ваеннапалоннага. Гэты факт стаўся завяршальным акцэнтам у выбудоўванні агульнай канцэпцыі твора. «Адразу, уміг, як бліскавіцай, высвеціўся сюжэт з Вольгай: во што яна робіць — выкупляе палоннага, паэта. Яго пакахала, з ім уключылася ў барацьбу» [2, с. 467].

Такім чынам, ужо на стадыі выспявання аўтарскай задумы адбывалася афармленне асноўнага прынцыпу структурнай арганізацыі твора, заснаванага на дыялектычным паяднанні супрацьлегласцей. У адпаведнасці з такім мастацкім рашэннем і разгортвалася лінія сюжэтнага развіцця, вызначаўся характар узаемаадносін паміж галоўнымі героямі.

Збліжэнне гандляркі і паэта, вобразы якіх з’яўляюцца (асабліва на першым часе) як бы ўвасабленнямі свету прагматыкі і рамантычнага свету, можна лічыць адной з праяў выпадковага збегу акалічнасцей. У ваенны час, ва ўмовах акупаванага захопнікамі горада, калі наогул абрушыўся ўвесь звыклы лад існавання, многае адбывалася менавіта такім чынам. Пісьменнік, дапаўняючы сапраўдныя факты мастацкім уяўленнем, выяўляў у сваім творы якраз гэтую незвычайнасць, выключнасць абставін таго часу.

Такімі ж складанымі, неадназначнымі, як і абставіны ваеннага часу, паўстаюць у аповесці І. Шамякіна характары галоўных герояў. Асабліва падрабязна распрацаваны аўтарам і пададзены ў развіцці вобраз Вольгі. На фарміраванне яе характару, поглядаў на жыццё аказала, безумоўна, уздзеянне тое асяроддзе, у якім яна вырасла. Адчуваецца таксама і ўплыў спадчыннасці.

Сярод іншых мясцовых гандлярак на рынку вылучалася сваёй увішнасцю, гандлярскай хваткай, норавам і паводзінамі Вользіна маці, старая Ляновічыха. Дачка многае пераняла з характару маці, з яе стаўлення да працы, сям’і, людзей. Гэтае падабенства спецыяльна падкрэсліваецца аўтарам. Але яно не толькі ў апантанасці працай, празе абагачэння, усталявання трывалага дабрабыту. Яно таксама выяўляецца і ў шырыні іх натуры, здольнасці на адчайныя, непрадказальныя выхадкі і ўчынкі.

Менавіта апошнія рысы характару, разам з іншымі фактарамі, перш за ўсё тымі, якія абумоўлены надзвычайнасцю становішча і сустрэчай з сапраўднымі патрыётамі, далі магчымасць гераіні І. Шамякіна ўзняцца ад асабістых клопатаў мяшчанскага побыту да адчування агульнанароднага болю як свайго ўласнага, арганічнага непрыняцця бесчалавечнасці нацыстаў і іх памагатых. У канцы твора Вольга рашаецца на надзвычайны ўчынак, яна безаглядна кідаецца з гранатай на ворагаў, таму што дайшла ўжо да мяжы трывання. У гэтай жанчыны, якая ў ранейшым жыцці сваім не вызначалася асаблівай чуллівасцю і, здавалася, была заклапочана толькі сваімі празаічнымі, будзённымі, прыватнымі клопатамі, аказаўся на самай справе нізкім болевы парог.

Учынак яе безразважны, ды яна і не можа спакойна раздумваць у гэтую хвіліну гранічнага напружання ўсіх душэўных сіл, імгненнага ўразумення таго, што ўяўляе сабой нялюдская пачвара фашызму. Толькі нелюдзі могуць смяяцца са смерці дзяцей. Апавядальнік заўважае, што ў гэты момант Вольга згадвае сваю дачку, ставіць яе на месца замучаных, знішчаных фашыстамі дзяцей. Гэта супастаўленне, сваім раптоўна высвечаным сэнсам, запаланяе свядомасць гераіні, уздзейнічае непасрэдна і ашаламляльна на ўсе яе пачуцці.

Прамаўляемы ёю ўнутраны маналог («З чаго яны смяюцца? Са смерці дзяцей? Яны смяюцца са смерці дзяцей?») [3, с. 335] неаддзельны ад уяўляемага ў

гэты ж час вобраза дзіцячых валёначак — сярод нарабаваных паліцаем Друцькам рэчаў яна заўважае такія ж валёначкі, якія былі і на яе дачцэ Свеце. Усю яе перапаўняе «дзіцячы плач, енк» [3, с. 336], у якім ёй чуецца і голас дачкі.

Помста Вольгі, такім чынам, з'яўляецца ў пэўным сэнсе вынікам псіхалагічнага афекту, душэўнага парыву. Але разам з тым гэта таксама і ўсвядомленае дзеянне, да ажыццяўлення якога ў той або іншай форме яна ўжо была, па сутнасці, маральна падрыхтаваная. Чытач можа аб гэтым меркаваць, зыходзячы з таго, што ён ужо ведае пра душэўнае жыццё Вольгі. Складаны і супярэчлівы ўнутраны свет гераіні прадстае ў творы ў дынаміцы развіцця, пераўтварэння.

Складаны характар увасабляецца аўтарам з дапамогай шматстайных сродкаў вобразнага выяўлення. Вялікае значэнне ў сюжэце твора, а значыць, і ў раскрыцці цэнтральнага вобраза, мае суаднесенасць у агульнай апавядальнай структуры пунктаў гледжання аўтара і гераіні. Аповед вядзецца ў традыцыйнай для беларускай прозы аб'ектывізаванай манеры, пры якой аўтар у пэўнай ступені дыстанцыруецца ад персанажа.

Вольга Ляновіч, як і іншыя персанажы твора, прадстаўлена ў аповедзе ў трэцяй асобе, яе ўнутраны свет, думкі і адчуванні выяўляюцца пераважна праз няўласна простую мову апавядальніка. Неабходна, дарэчы, заўважыць, што ў творах І. Шамякіна вобраз аўтара і вобраз апавядальніка звычайна амаль супадаюць. Аднак пры гэтым трэба ўлічваць, што вобраз аўтара, які з'яўляецца арганізуючым цэнтрам твора, стваральнікам мастацкага свету, у якім жывуць і дзейнічаюць героі, усё ж такі ніколі не супадае цалкам з аўтарам як рэальнай асобай, з аўтарам біяграфічным.

Вобраз аўтара, па вызначэнні акадэміка В. Вінаградава, аднаго з пачынальнікаў распрацоўкі праблемы аўтара ў мастацкай літаратуры, з'яўляецца «канцэнтраваным увасабленнем сутнасці твора, аб'ядноўваючым усю сістэму маўленчых структур персанажаў у іх суаднесенасці з апавядальнікам» [1, с. 118]. Вобраз аўтара ў такім разуменні паўстае надзвычай істотным фактарам арганізацыі апавядальнай структуры ў творах І. Шамякіна. Адпаведна гэтаму значную ролю адыгрывае ў яго творах і апавядальнік — як наратыўная інстанцыя, якая спалучае пазіцыю аўтара з кругаглядам героя.

Такім чынам, усе душэўныя рухі і парыванні гераіні ў аповесці «Гандлярка і паэт» перадаюцца праз пасрэдніцтва апавядальніка, увасобленыя ў яго мастацкім слове. Узноўленыя ў вербальнай форме, яны становяцца тым самым фактамі мастацкай рэальнасці, з'яўляюцца аб'ектамі ўспрымання чытача, выклікаючы яго суперажыванне.

Апавядальнік праяўляе сваю ўніклівасць, уважліва даследуючы ўнутраны стан гераіні, падыходзячы да ацэнкі тых або іншых момантаў у развіцці яе ўзаемаадносін з Алесем і іншымі персанажамі з аналітызмам даследчыка. Пры раскрыцці праяў як унутранага, так і знешняга плана прыкметна выяўляецца аўтарскае канцэптуальнае бачанне, адчуваецца аўтарская прысутнасць у мастацкім цэлым твора. Аповед утрымлівае не толькі каментар апавядальніка, але і ацэнку з боку аўтара.

Разам з тым неабходна падкрэсліць, што як і ў кожным сапраўдным творы рэалістычнага мастацтва, у І. Шамякіна героі валодаюць адпаведнай свабодай у выяўленні сваёй чалавечай сутнасці, у сваіх паводзінах і ўчынках. У гэтым сэнсе можна гаварыць пра пэўную незалежнасць персанажаў ад аўтарскай волі, паколькі такім чынам праяўляецца іх жыццёвая паўната і вобразная завершанасць.

Адметнасць мастацкага свету аповесці, яе структурна-кампазіцыйная своеасаблівасць вызначаюцца спалучанасцю розных наратыўных падыходаў. Пазіцыя аўтара і функцыі апавядальніка скіраваныя ў ёй на як мага больш падрабязнае, дакладнае раскрыццё ўнутранага свету гераіні. З гэтага пункту погляду мастацкае цэлае твора прадстае як *расказ*, у якім увага канцэнтруецца на галоўныя **аб'екце** мастацкага выяўлення. Аднак, з другога боку, ёсць падставы разглядаць гераіню і як **суб'ект** мастацкага свету, паколькі яна і сама «расказвае» пра сябе — самарас-

крываючыся адпаведна логіцы свайго характару, выяўляючыся ва ўсёй паўнаце сваёй натуры.

Спалучэнне аб’ектыўнага і суб’ектыўнага спосабаў выражэння асабовасці, паяднанне ў адной наратыўнай плыні галасоў аўтара і героя садзейнічаюць рэалістычнаму, праўдзіваму выяўленню таго, што давялося перажыць чалавеку ў выключных абставінах, узнавіць не толькі падзейны бок народнага змагання з акупантамі, але і глыбока пранікнуць у душу чалавека, адшукаць у ёй тое, што дазваляе чалавеку называцца чалавекам нават тады, калі перад ім адкрываецца бездань сусветнага зла. Гэтаму злу актыўна супрацьстаяць героі аповесці І. Шамякіна, розныя сваім характарам і лёсам, але адзіныя сваёй духоўнай узвышанасцю, тым, што знаходзяцца на баку дабра.

* * *

У аповесці Івана Шамякіна «Гандлярка і паэт» жанравыя традыцыі знаходзяць своеасаблівае, індывідуальнае праламленне. Гэта абумоўлена адметнасцю мастацкага свету твора, структурнай суаднесенасцю антанімічных з’яў, якая адпавядае кантраснай і драматычнай рэчаіснасці, увасабляемай аўтарам. Глыбокаму раскрыццю характараў садзейнічае ўзаемапранікненне галасоў аўтара і героя, выяўленне ў аўтарскім аповедзе душэўнага жыцця персанажа, яго настрояў і адчуванняў.

## Спіс літаратуры

1. Виноградов, В. О теории художественной речи / В. Виноградов. — М., 1971.
2. Шамякін, Іван. Збор твораў: у 8 т. — Т. 8 / Іван Шамякін. — Мінск : Маст. літ., 2007.
3. Шамякін, Іван. Збор твораў: у 23 т. — Т. 4 / Іван Шамякін. — Мінск : Маст. літ., 2011.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 4 сакавіка 2013 года.

**Яўген Гарадніцкі**
**Аповесць Івана Шамякіна «Гандлярка і паэт»: жанр, кампазіцыя, галасы аўтара і герояў**

### Рэзюмэ

Даследуюцца структурныя асаблівасці мастацкага свету аповесці Івана Шамякіна «Гандлярка і паэт». Аналізуецца прырода аўтарскага наратыву, спалучанасць галасоў аўтара і героя.

**Yauhen Haradnicki**
**Ivan Shamiakin’s story «Tradeswoman and Poet»: genre, composition, author and heroes’voices**

### Summary

The structural characteristics of the artistic world of Ivan Shamiakin’s story «Tradeswoman and Poet» are analyred in the article. The nature of the author’s narrative and correlation of author and hero’s voices are dissected.

**Іван САВЕРЧАНКА**

# АМЕРЫКАНСКАЯ КЛАСІКА Ў БЕЛАРУСІ

*Беларуская нацыянальная літаратура Новага часу развівалася ў шчыльных узаемасувязях з літаратурамі свету. Майстры слова смела звярталіся да творчага досведу і мастацкіх здабыткаў замежных пісьменнікаў, узбагачаліся арсеналам новых прыёмаў і сродкаў. Важную ролю ў працэсе ўзаемаўзбагачэння адыгрывала амерыканская класіка. Яна засвойвалася айчыннымі творцамі пераважна праз пераклады на рускую мову.*

*Значнае месца ў нацыянальным літаратурным працэсе занялі пераклады твораў амерыканскіх пісьменнікаў на беларускую мову, сярод якіх: апавяданні Рэя Брэдберы «Забойцы» (1965), «Ціхай летняй парой» (1968), апавяданні Эрскіна Колдуэла «Мужчына і жанчына» (1964), «Рэйчал» (1966), «Дачка» (1971), «Канакрад» (1974), «Смерць Крысці Такера» (1974), вершы Генры Лангфела «Песня аб Гаяваце» (1968), творы Джэка Лондана «Белы клык» (1939) і «Сіла дужых» (1927), Карсана Маккалерса «Балада пра сумнае кафэ» (1988), Эптана Сінклера «Яны не пройдуць» (1938), Джона Стэйнбека «Гронкі гневу» (1993), Марка Твэна «Прынц і жабрак» (1940) «Прыгоды Гекльберы Фіна» (1938), асобныя вершы Уолта Уітмана і Роберта Фроста, творы Эрнэста Хемінгуэя «І ўзыходзіць сонца» (1976), «Па кім звоніць звон» (1991), творы Эдгара По і раман Курта Вонегута «Бойня № 5».*

*Цалкам справядліва і заслужана творчасць лепшых амерыканскіх пісьменнікаў, такіх як Эдгар По, Уільям Фолкнер, Эрнэст Хэмінгуэй, стала прадметам вывучэння ў вышэшых навучальных установах, сярэдніх школах і гімназіях краіны.*

Амерыканская літаратура належыць да ліку новых літаратур, якія пачалі фарміравацца ў XIX ст. За два стагоддзі актыўнага развіцця яна ператварылася ў буйнейшую літаратуру свету. Выдатныя майстры слова стварылі яркія мастацкія творы, якія перадаюць адметны дух Амерыкі, адлюстроўваюць разнастайныя аспекты жыцця амерыканскага народа.

Буйнейшым пісьменнікам перыяду ранняга Рамантызму несумненна з’яўляецца *Эдгар По* (1809—1849). Нарадзіўся ён ў Бостане (штат Масачусетс), рана страціў бацькоў, выхоўваўся ў доме бізнесмена Джона Алана. Юнак навучаўся спачатку ў прыватнай школе, а затым — у Віргінскім універсітэце.

Пры жыцці Э. По апублікаваў паэтычны зборнік «Тамерлан і іншыя паэмы» (1827), а таксама дзве яркія кнігі апавяданняў — «Гратэскі і арабескі» (1840) і «Апавяданні» (1845). Большасць ягоных навел друкавалася ў перыёдыцы і штотыднёвіках. Надзвычай багатая, арыгінальная літаратурная спадчына Э. По мае значныя мастацкія вартасці, асаблівую інтэлектуальную прыцягальнасць і эстэтычную прывабнасць.

Шэсць першых апавяданняў Э. По апублікаваў на працягу 1832 г. У іх пісьменнік настойліва шукае ўласны стыль, манеру герояў, асвойвае пабудову займальнага сюжэта і выпрацоўвае агульную архітэктоніку навелы. Ужо ў ранніх творах выявілася цікавасць пісьменніка да таямнічага, неспазнанага, загадкавага. Так, у апавяданні «Метцэнгерштэйн» (1832) ён звяртаецца да легендарнага і паўфальклорнага матэрыялу. Дзеянне адбываецца ў Венгрыі — краіне з містычнай

гісторыяй. Галоўны герой барон Фрэдэрык фон Метцэнгерштэйн становіцца ўладальнікам незлічоных багаццяў пасля смерці бацькі. Малады барон надзвычай жорстка і крывава абыходзіцца з падданымі. Ён пазбягае людзей, вядзе адасоблены лад жыцця, не адклікаецца на запрашэнні знатных князёў і магнатаў. Увесь час барон праводзіць з наравістым канём, мае нейкую невытлумачальную прывязанасць да яго, што спараджае шмат падазрэнняў і дзіўных чутак. Герой шалёным галопам носіцца па сваіх уладаннях, наводзіць сполах і жах на ўсіх жыхароў. Урэшце, калі загараецца яго замак, раз'юшаны конь нясе гаспадара ў вогнішча і там барон знікае назаўжды.

Містыцызмам, жудаснымі сцэнамі, жахамі і прадчуваннем блізкай смерці напоўнена навела «Падзенне дома Ашэраў» (1839). Дзеянне адбываецца ў недагледжаным, закінутым палацы. Галоўныя героі — брат і сястра Ашэры — знаходзяцца ў напружаным, экзальтаваным стане, жывуць прадчуваннем непазбежнай трагедыі, якая сапраўды неўзабаве здараецца.

Э. По асабліва цікавіў унутраны свет чалавека, які апынуўся ў экстраардынарнай сітуацыі. Так, у навеле «Калодзеж і маятнік» (1842) перадаецца невыносны душэўны стан і жахлівыя фізічныя пакуты чалавека, які трапіў у інквізітарскія абцугі. Дзеянне адбываецца ў Іспаніі ў правінцыі Таледа. Герой цярпіць невыносныя здзекі і катаванні ў адмысловай вязніцы, але ўрэшце яго вызваляе французская армія.

На старонках твораў Э. По вельмі часта ўздымаў блізкія ўсім містыкам тэмы — рэінкарнацыі, летаргічнага сну, пераўвасаблення, замагільнага жыцця і ўваскрашэння. У апавяданні «Без дыхання» (1632) галоўны герой трапляе ў незвычайныя абставіны, назірае ўласную смерць, ускрыццё хірургам цела, наведвае царства мёртвых. Навела «Пахаванне раней часу» (1844) утрымлівае некалькі мікраапавяданняў пра пахаванні жывых, што знаходзіліся ў стане летаргічнага сну. Пададзены іх нечуваныя пакуты і страх, які яны зведваюць, прачнуўшыся ў магіле. Неверагодныя выпадкі і дзівосныя здарэннні несумненна прыцягвалі ўвагу чытача, абуджалі яго фантазію і пачуцці.

Аналізуе Э. По і праблему маральнага падзення чалавека, дэградацыі асобы, авалодання душой «злымі д'ябламі». У апавяданні «Чорны кот» (1843), заснаваным на народных павер'ях пра ўвасабленні ў абліччы чорных катоў вядзьмарак, галоўны герой трапляе ў моцную залежнасць ад алкаголю, становіцца чэрствым і бяздушным. Аднойчы ён, перапоўнены нянавісцю, выколвае вока свайму чорнаму кату Платону, а затым і наогул падвешвае яго на дрэве. Але тае ж начы загараецца яго дом і ўвесь скарб нішчыцца агнём. Герой бачыць у гэтым пакаранне за свой учынак, таму неўзабаве знаходзіць у адным з пабаў бяздомнага чорнага ката і прыводзіць да сябе. Але ён зноў перастае сябе кантраляваць і ў парыве гневу забівае жонку, а затым замуроўвае цела ў сцяне. Містычным чынам чорны кот аказваецца таксама замураваным у сцяне і падчас вобыску паліцыі немым крыкам дазваляе выкрыць злачынцу. Такім чынам, пісьменнік у мастацка-алегарычнай форме раскрывае прычынна-выніковыя сувязі паміж учынкамі і падзеямі. Выснова вельмі красамоўная: кожны злы ўчынак непазбежна вернецца пакараннем. На думку Э. По, неапраўданая жорсткасць, бяздушнасць, крыважэрнасць акумулююць разбуральную энергію. Зло спараджае толькі зло, нянавісць — нянавісць.

У прозе Э. По вельмі моцны рамантычны струмень, з уласцівай яму эстэтыкай. Так, навела з характэрнай назвай «Востраў Феі» (1841) напоўнена цудоўнымі пейзажнымі замалёўкамі ў рамантычным стылі. Над адзінокім вострававам плавае чароўная фея, якая паступова знікае ў «эбенавай плыні».

У Э. По шырокае адлюстраванне знайшла тэма падарожжаў, вандровак, знаёмства з дзівосным светам, раскрыццё загадак і таямніц прыроды. У апавяданні «Рукапіс, знойдзены ў бутэльцы» (1833) пісьменнік перадае адметныя геалагічныя ўяўленні пра велізарныя дзіркі на зямных полюсах, праз якія вада нібыта траплялa ў зямныя глыбіні, утвараючы гіганцкія водавароты. Аўтар стварыў фан-

тасмагарычную сцэну прадвызначанага руху аграмаднага карабля, якога цячэнне нясе насустрач непазбежнай гібелі. Э. По ўмела малюе здранцвенне і абыякавасць каманды і капітана, якія не ў стане змяніць ходу падзей. Яны змірыліся з наканаваннем, сціхлі, адасобіліся і, нібы ў сне, чакаюць непазбежнага паглынання воднай стыхіяй.

Э. По выяўляў цікавасць да смешных і камічных гісторый. Адметны лад жыцця галандцаў, іх побытавыя звычкі і забаўныя паводзіны пісьменнік яскрава паказаў у апавяданні «Чорт на званіцы» (1839). Гумарыстычныя і жартаўліва-маскарадныя матывы выявіліся ў навеле «Акуляры» (1844). Твор пабудаваны на кантрастах, сур'ёзнае ў ім суседнічае з кур'ёзным, прыгожае з агідным. Герой перажывае неверагодны ўздым і горкае расчараванне. Найбольш прывабныя ў творы — разважанні Э. По пра каханне з першага погляду: «Самымі натуральнымі, а значыць, самымі шчырымі і моцнымі з чалавечых пачуццяў з'яўляюцца тыя, якія ўзнікаюць у сэрцы, нібы электрычная іскра. Адным словам, найлепшыя і найбольш трывалыя з душэўных ланцугоў куюцца з аднаго погляду».

Тэма кахання і смерці з неверагоднай псіхалагічнай дакладнасцю і эмацыянальнасцю асветлена ў апавяданні «Лігейя» (1838) — творы, які ён лічыў найбольш удалым, сама дарагім і блізкім яго сэрцу. У цэнтры ўвагі пісьменніка — свет пачуццяў, сум і замаркочанасць героя пасля расстання з каханай, светлыя ўспаміны аб ёй, разважанні пра сапраўдныя і ўяўныя каштоўнасці зямнога жыцця.

Вяршыннай праявай творчага генія Э. По з'яўляецца лаканічная, але надзвычай кранальная навела «Авальны партрэт» (1844). У ёй з незвычайнай глыбінёй раскрываецца трагедыя мастака-дэміурга, які цалкам прысвяціў сябе творчасці. Захоплены стварэннем партрэта жонкі-прыгажуні, майстар аддае ўсю духоўную моц, уменне і талент напісанню карціны. Ён, аднак, не заўважае, як яго каханая дзень за днём траціць жыццёвыя сілы. У выніку працяглай працы створаны цудоўны партрэт, але мастак губляе самае каштоўнае — сваё каханне. Аповед напоўнены незвычайнай пачуццёвасцю і настальгічным сумам. У ім выразна праглядаюцца асабістыя жыццёвыя страты і душэўныя перажыванні пісьменніка. На думку Э. По, сапраўднае мастацтва не абыходзіцца без ахвяр, кожны геній плаціць надта высокую цану за створаны ім шэдэўр. Твор гучыць як засцярога, далікатнае папярэджанне і настаўленне наступнікам.

Э. По даў моцны штуршок развіццю дэтэктыўнага жанру ў літаратуры. Класічным дэтэктывам з'яўляецца навела «Забойства на вуліцы Морг» (1841). Дзеянне адбываецца ў Парыжы. Газеты паведамляюць пра жорсткае забойства дзвюх жанчын. Інспектары паліцыі губляюцца ў здагадках, факты не ўкладваюцца ў вядомыя ім схемы. Галоўны герой Агюст Дзюпэн, які валодае ўнікальнымі здольнасцямі лагічнага мыслення, крок за крокам збірае факты, аналізуе паказанні сведкаў і ўрэшце разблытвае злачынства. Ім аказаўся арангутанг, які збег ад свайго гаспадара з вострым лязом, якім і было ўчынена крывавае забойства. Такім чынам, Э. По яскрава паказвае — прафесійнае следства патрабуе асаблівых ведаў, інтэлекту, назіральнасці, выключнай карэктнасці, строгасці і дакладнасці. Важная для пісьменніка сентэнцыя выказана ім непасрэдна ў творы: «Празмерная глыбіня толькі заблытвае і затуманьвае думку». Э. По лічыць, што магістральны шлях да поспеху — наяўнасць аналітычных здольнасцей і развітога ўяўлення. «Чалавек з сапраўды багатым уяўленнем, як правіла, найбольш схільны да аналізу», — робіць недвухсэнсоўную выснову пісьменнік.

Поспех у дэтэктыўным жанры Э. По замацоўвае ў навеле «Таямніца Мары Ражэ» (1842—1843), дзе той жа галоўны герой — Агюст Дзюпэн — выяўляе выключныя здольнасці следчага. Аўтар красамоўна паказвае, як важна падчас следства быць гранічна сабраным і ўважлівым да кожнай драбніцы, бо нават нязначны недагляд можа прывесці да памылкі, і тады будуць зроблены неаб'ектыўныя высновы і, як вынік, — вынесены несправядлівы прысуд.

Новы твор з выразнымі дэтэктыўна-прыгодніцкімі элементамі з'явіўся ў 1843 г. і меў назву «Залаты жук». Сюжэт навелы базіруецца на расшыфроўцы

галоўным героем Вільямам Легранам крыптаграмы, у якой зашыфравана месца захавання скарбу піратаў. Пісьменнік пры гэтым стварае цудоўныя пейзажныя малюнкі, выказвае сапраўднае захапленне прыгажосцю велічнага цюльпанавага дрэва, якое мела «каралеўскі выгляд». Вельмі яскрава, з мноствам дэталей і падрабязнасцей, Э. По апісвае знойдзены героем скарб. Пры гэтым для пісьменніка пошукі схаваных каштоўнасцей і разнастайныя прыгоды з’яўляліся толькі фонам, жыццёвым матэрыялам. Творчая місія Э. По палягала на тым, каб давесці, што шлях чалавека да скарбу — шчаслівага жыцця — ляжыць праз развязванне складаных галаваломак і пераадоленне шматлікіх бар’ераў.

Узор вытанчанай гульні інтэлекту прадстаўлены ў дэтэктыўнай навеле «Скрадзены ліст» (1844). У мастацкай форме Э. По настойліва даводзіць: для раскрыцця злачынства неабходна зразумець логіку злачынцы і яго матывацыю, што дазволіць адшукаць неабходныя доказы і сведчанні.

Выявіў сябе Э. По ў прозе і як выдатны філосаф-інтэлектуал. Своеасаблівым філасофскім трактатам успрымаецца навела «Месмерычная споведзь» (1844). Узяўшы форму дыялога з героем — містарам Вэнкеркам, які знаходзіцца ў стане гіпнатычнага трансу, аўтар разважае пра сутнасць матэрыяльнага і духоўнага, суіснаванне душы і цела, прыроду пакут і радасці. Ён імкнецца вытлумачыць першапрычыны ўсясветнага руху, аснову ўсіх рэчаў, механізмы гіпнатычнага ўздзеяння на волю і фізіялогію чалавека.

Узмацненне філасофскага пачатку яшчэ больш ярка праявілася ў публіцыстычным творы «Д’ябал супярэчнасці» (1845). Аўтар выказвае важныя філасофскія сентэнцыі пра характар чалавечага мыслення, з’яўленне розных інтэлектуальных сістэм: «Выдумваць схемы, дыктаваць Богу мэты ўзяўся не чалавек здольны разумець і назіраць, а, хутчэй, чалавек інтэлекту і логікі. Авалодаўшы задумамі Іеговы, ён, адчуваючы асалоду, выбудаваў на падставе гэтых задум бясконцыя сістэмы мыслення». Э. По імкнецца высветліць першапрычыну схільнасцей і здольнасцей чалавека, матывы яго ўчынкаў і памкненняў. На думку пісьменніка, асаблівую ролю ў паводзінах адыгрывае дух супярэчнасці. Так, менавіта «д’ябал супярэчнасці» цалкам кіруе злачынцам падчас падрыхтоўкі і ўчынення забойства. Менавіта ён змушае яго прызнацца, распавесці пра ўчынены грэх.

Выкарастоўваючы алегорыю і гратэск, Э. По паказваў адмоўныя праявы капіталізму «Куцель» (1840), выкрываў сацыяльны эгаізм арыстакратыі «Маска Чырвонай Смерці» (1842), асуджаў жульніцтва «Падман, як дакладная навука» (1843), крытыкаваў слабыя месцы амерыканскай дэмакратыі.

У апошні перыяд творчасці Э. По выявіў асаблівую цікавасць да псіхалогіі помсты. У яркіх навелах «Бочка Амантылада» (1846) і «Прыг-скок» (1849) ён паказаў розныя віды помсты за ўчыненыя здзекі. Кароль-тыран разам з яго міністрамі і пыхлівы Фартуната пазбаўляюцца жыцця за абразы і знявагі іншых. Аўтар выступае на баку слабых і пакрыўджаных, лічыць расплату за здзекі над чалавечай годнасцю справядлівай і апраўданай.

Як бачна, амаль кожная навела Э. По — вобразнае ўвасабленне важнай філасофскай сентэнцыі, мастацкае разгортванне значнай этычнай або сацыяльнай формулы. Пісьменнік вольна вандруе ў часе і прасторы, адмыслова выбірае неабходныя сюжэты і персанажаў для адэкватнай рэалізацыі творчай задумы.

Мастацкая літаратура для Э. По — найбольш прыдатная форма асэнсавання рэчаіснасці, пазнання шматлікіх праяў жыцця, выяўлення яго законаў і канстант. Пры гэтым ён умела задавальняе прагу чытача да незвычайнага, невядомага, дзівоснага. Шырока выкарыстоўваючы разгорнутыя алегорыі і іншасказанні, авантурныя і прыгодніцкія гісторыі, дыялогі аўтара з героямі.

Інтэлектуальная выверанасць, сардэчная шчырасць, дасканалы эстэтычны густ і віртуознае валоданне словам дазволілі Э. По стварыць бездакорна адшліфаваныя літаратурныя творы, неацэнныя мастацкія шэдэўры.

Да ліку выдатных амерыканскіх майстроў слова належыць *Уільям Фолкнер* (1897—1962) — аўтар многіх раманаў, сапраўдных мастацкіх шэдэўраў, якія

заслужана атрымалі сусветнае прызнанне. Нарадзіўся У. Фолкнер у горадзе Нью Элбані (штат Місісіпі). Навучаўся і выхоўваўся блізу Оксфарда. Нейкі час вучыўся ва ўніверсітэце, а затым працаваў у банку. У час Першай сусветнай вайны быў прызваны ў Паветраныя сілы, але ў баявых дзеяннях удзелу не браў.

У сваіх эпічных творах У. Фолкнер таленавіта раскрыў глыбінныя сацыяльныя працэсы, што адбываліся цягам XIX—XX стагоддзяў на поўдні Злучаных Штатаў Амерыкі. Праз яркія вобразы і характары ён панарамна паказаў найбольш значныя гістарычны падзеі, па-майстэрску асвятліў складаныя адносіны паміж прадстаўнікамі розных этнасаў і культурных традыцый — індзейцаў, афраамерыканцаў і амерыканцаў еўрапейскага паходжання.

Першы ягоны раман «Салдацкая ўзнагарода» (1926) — вельмі эмацыянальны твор, у цэнтры якога — лёс ветэрана вайны. Наступныя раманы «Шум і гнеў» (1929) і «Свяцілішча» (1931) — эксперыментальныя, мадэрнісцкія. Аўтар шукае ўласны, непаўторны спосаб наратыўнасці, эксперыментуе з living рознымі пунктамі гледжання, імкнецца знайсці ўніверсальны прынцып адлюстравання рэчаіснасці. Празмернае захапленне формай не стварыла, аднак, літаратурнай сенсацыі і не прынесла чаканага поспеху. Чытачы папросту не ўспрынялі голага эстэцтва пісьменніка, не змаглі зразумець аўтарскай логікі і ў выніку засталіся глухімі да яго літаратурных эксперыментаў.

Невыпадкова, новы раман «Святло ў жніўні» (1932) напісаны ўжо ў рэалістычнай манеры. Аснова твора — эмацыянальны аповед пра каханне белай жанчыны і негра. Пісьменнік ярка і па-майстэрску асвятляе шматстайны свет пачуццяў, паказвае невядомыя раней грані амерыканскай рэчаіснасці.

У сярэдзіне 30-х гадоў у эстэтыцы У. Фолкнера назіраецца істотны зрух. Ён пачынае грунтоўна цікавіцца сацыяльнай праблематыкай, спрабуе асэнсаваць значныя грамадскія працэсы і паказаць іх у мастацкай форме. Раман «Абсалом, Абсалом!» (1936) якраз асвятляе ўзвышэнне і заняпад плантатара Сатпена, прычынай чаго паслужылі яго расавыя забабоны і няздольнасць на сапраўднае каханне.

Вяршыннае мастацкае дасягненне У. Фолкнера — трылогія: «Вёсачка» (1940), «Горад» (1957), «Катэдж» (1959). Хроніка ахоплівае падзеі ад 90-х гадоў XIX ст. да другой паловы 1940-х гадоў XX ст. Дзеянне адбываецца ў выдуманай аўтарам Ёкнапатафскай акрузе. У аснове трылогіі — узвышэнне сямейства Сноўпсаў, жыццё амерыканскага Поўдня.

Адна з цэнтральных фігур трылогіі — Флем Сноўпс. Ён яскравае ўвасабленне капіталістычнай агрэсіі. Прага ўзбагачэння — сэнс і мэта яго жыцця. Ён пачынае свой шлях у маленькай вёсцы — Французавай Балцы, дзе скупляе ўсё, што можна купіць. Затым пераязджае ў Джэферсан, дзе праз нейкі час займае пасаду прэзідэнта Гандлёва-Земляробчага банка і прэсвітара баптысцкай царквы. Флем Сноўпс перамагае ўсіх сваіх ворагаў, становіцца сапраўдным гаспадаром жыцця. У містычнай сцэне сустрэчы героя з Князем Цемры спрактыкаваны капіталіст бярэ верх нават над ім, займае яго царскі трон. Флем Сноўпс заўжды дамагаецца свайго, ён становіцца ўладальнікам шыкоўнага катэджа, валодае значнымі капіталамі. Але канец героя трагічны: гіне ва ўласным доме ад кулі далёкага родзіча Мінка Сноўпса.

У трылогіі У. Фолкнер стварыў галерэю яркіх жаночых вобразаў. Адзін з іх — Юла Уорнэр — жанчына незвычайнай прыгажосці, увасабленне гармоніі і прыроднага хараства. Усе мужчыны ёй захапляюцца, лічаць эталонам жаноцкасці, але яна нечакана выходзіць замуж за імпатэнта Флема Сноўпса. Неўзабаве ў Юлы нараджаецца дачка Лінда, натуральна ад іншага мужчыны. На працягу многіх гадоў Юла сустракаецца з Дэ Спэйнам — уладальнікам банка. Пра гэта ведае ўвесь горад, але яе муж не зважае на здраду, бо ён прагне новых капіталаў і пасады прэзідэнта банка. Жыццёвы шлях Юлы завяршаецца трагічна. Яна канчае жыццё самагубствам. Гераіня, паводле слоў аднаго з персанажаў, заслугоўвала не проста помніка, а сапраўднага маўзалея.

Найбольш рэалістычны ў трылогіі вобраз Лінды Сноўпс. Гераіня — самаахвярная натура. Яна — ідэалістка, гатовая ахвяраваць уласным жыццём дзеля

шчасця ўсіх людзей. Лінда шукае прыгод, пакідае правінцыйны Джэферсан, пераязджае ў Нью-Ёрк, дзе выходзіць замуж за камуніста Коля — чалавека, блізкага ёй паводле палітычных поглядаў. Калі пачалася грамадзянская вайна ў Іспаніі, Лінда з мужам едуць у Еўропу і змагаюцца на баку рэспубліканцаў. На фронце гіне яе муж, а яна пасля выбуху бомбы траціць слых.

Затым Лінда зноў вяртаецца ў Джэферсан і спрабуе пашыраць камуністычныя погляды сярод насельнікаў горада. Лінда робіць рашучыя крокі, каб радыкальна рэфармаваць адукацыйную сістэму: белых настаўнікаў — накіраваць у школы для чорных і наадварот. Гераіня імкнецца такім шляхам дасягнуць уяўнай роўнасці паміж людзьмі, аднак яна сустракае поўнае неразуменне з боку адукацыйных улад і рэзкае абурэнне жыхароў горада, якія пішуць абразлівыя лозунгі на тратуары каля яе дома. Лінда не дасягае поспеху. У час Другой сусветнай вайны яна ўладкоўваецца працаваць на вайсковую верф, каб «будаваць транспарты для рускіх».

Аўтар паказвае Лінду ў розных псіхалагічных сітуацыях, шмат увагі надае яе партрэту. Спачатку адзначае, што знешне яна нагадвала «маладую паляўнічую суку». А калі скалечаная вяртаецца ў дом Флема Сноўпса, яна ўжо набывае велічную манументальнасць: «Лінда стаяла недатыкальная, замураваная ў маўчанні, спакойная».

Публіцыстычны пафас У. Фолкнера найбольш выявіўся ў «Катэджы», дзе ён наўпрост крытыкуе Гітлера і яго хаўруснікаў: Мусаліні — у Італіі і Франка — у Іспаніі. Пісьменнік асуджае разбойніцкую і антыгуманную палітыку фашыстаў у Еўропе. Ён літаральна зазначаў: «Ішоў 1940 год. Маньяк-нібелунг разбурыў Польшчу і пайшоў на Захад, дзе яму прадалі Парыж, гэтую асляпляльную сусветную куртызанку, нібы танную патаскушку. І толькі дзякуючы трываласці англійскага характару, ён павярнуў на Усход». У. Фолкнер імкнецца раскрыць глыбінныя прычыны вайсковых канфліктаў, акрэсліць эканамічныя, палітычныя і псіхалагічныя матывы людзей падчас развязвання кровапралітных войнаў. «У цывілізаваным свеце вайна, — піша ён, — адзіны стан, які дае выйсце нізменным інстынктам, уласцівым чалавеку. Прычым гэта і заахвочваецца, і падтрымліваецца».

У сваіх творах У. Фолкнер паказаў складанасці разгортвання камуністычнага руху ў ЗША. На яго думку, у свабоднай краіне не існавала сацыяльнай асновы для камунізму, бо амерыканскі сярэдні клас не атаясамліваў сябе з пралетарыятам і ўласны жыццёвы поспех не звязваў з рэвалюцыяй. Па словах У. Фолкнера, «адзіным матэрыялам для гэтага былі негры».

Аднак У. Фолкнер не ўнікае сацыяльнай праблематыкі. Ён праўдзіва адлюстроўвае глыбокі антаганізм паміж багатымі і беднымі, які часам выліваецца ў крайнія формы. Праз вобраз Мінка пісьменнік рэалістычна паказаў незайздроснае становішча працоўных ЗША, трагічную наканаванасць іх жыцця. Мінк у рамане забівае багацея Х’юстана. Ён пры гэтым у спавядальным маналогу кажа: «Забіў я цябе за той лішні долар, за штрафны».

У надзвычай каларытнай сцэне пошуку схаванага скарбу пісьменнік раскрыў спрадвечнае жаданне амерыканскіх фермераў разбагацець. Легенда пра золата, закапанае ў зямлі, пазбаўляе іх спакою. Яны кожную ноч пераварочваюць цэнтнеры грунту, але ўсё марна. Аказалася, што прадпрымальны Флем Сноўпс, каб прадаць няўдобіцу па высокім кошце, стварыў міф пра закапанае на яго ўладаннях золата.

У раманах У. Фолкнера вельмі моцны сатырычны струмень. Пісьменнік перадусім крытыкуе святароў і розных сумнеўных прапаведнікаў, выкрывае іх двурушніцтва і хлуслівасць. Амерыканская Феміда, паводле аўтара, — гэта пародыя на правасуддзе. У. Фолкнер выкрыў прававую неабароненасць бедных фермераў. Суды абслугоўваюць багатых, клапоцяцца пра іх маёмасныя інтарэсы, з’яўляюцца інструментам у руках прадстаўнікоў заможных сацыяльных станаў.

У. Фолкнер прадэманстраваў глыбокае веданне душы чалавека, паказаў трываласць законаў маралі. Асаблівую небяспеку, на думку пісьменніка, нясе свядомае пазбаўленне жыцця іншага. Так, Мінк Сноўпс пасля забойства непрыяцеля,

раптам высвятляе: «Я думаў, — заб'еш чалавека, і на гэтым кропка. Але ўсё наадварот. Толькі цяпер усё і пачынаецца». Герой прыходзіць да цвёрдай высновы: «Калі чалавек заб'е чалавека, супроць яго ўсё паўстане».

З'яўляючыся найвялікшым гуманістам XX ст., У. Фолкнер бачыў і адмоўныя рысы людзей, прыземленасць іх памкненняў. Невыпадкова адзін з яго герояў кажа: «Людзі хочуць аднаго — хлеба і забаваў. Да таго ж, — задарма. Чалавек — гной».

Мастацкая антрапалогія У. Фолкнера палягае на тым, што кожны здатны прыстасавацца да любых абставін, выжыць у звышскладаных умовах. Аўтар паказвае неверагодную трываласць чалавека, здольнасць вынесці невераемныя пакуты, прайсці жахлівыя выпрабаванні і пераадолець усе цяжкасці.

У творах У. Фолкнера выразна гучыць тэма Божага наканавання. Філасофія прадвызначанасці для кожнай жывой істоты аказвае значнае ўздзеянне на мастацкую логіку паводзін персанажу. Лёс і Фатум непадзельна пануюць, не дазваляюць выйсці за акрэсленыя межы, пераступіць нябачную лінію. «Богу пісаць лістоў не трэба, — даводзіць пісьменнік вуснамі Мінка Сноўпса. — Ён даўно бачыць нас наскрозь. Яму і не трэба чытаць тое, што вы напішаце».

У. Фолкнер — цудоўны майстар пейзажу. Поўдзень Амерыкі ў ягоных раманах — райскае масца, непаўторны асяродак, дзе чалавек знаходзіць фізічнае і душэўнае суцяшэнне, атрымлівае невымоўную радасць ад жыцця. Усходы і заходы сонца, зорнае неба, рэкі і ранішнія туманы, раўніны і лугі — усё створана для карысці і спажывання чалавека, для суцяшэння яго неўтаймаванай душы.

Стыль У. Фолкнера — барокава квяцісты, шчодра ўпрыгожаны адступленнямі, паралелямі, вобразнымі апісаннямі. У творах мноства разнастайных мікранавел, самастойных сюжэтных адгалінаванняў, метафар і параўнанняў, якія сведчаць пра непаўторнае пісьменніцкае майстэрства, яркі і самабытны талент.

Найбольш яркі амерыканскі пісьменнік XX ст. — *Эрнэст Хемінгуэй* (1899 — 1961). Нарадзіўся ён у горадзе Оўк Парк (штат ЗША). Працяглы час жыў у паўночным Мічыгане. Юнаком адправіўся ў Ілінойс на італа-аўстрыйскі фронт, быў цяжка паранены. Пасля вайны з 1921 г. жыў у Парыжы, працаваў еўрапейскім карэспандэнтам канадскай газеты. Пазней удзельнічаў у змаганні за Іспанскую Рэспубліку. Падчас Другой сусветнай вайны зноў узяў у рукі зброю. Са згоды амерыканскага ваенна-марскога камандавання разам з іншымі добраахвотнікамі паляваў за нямецкімі падводнымі лодкамі каля Кубы на ўласным кацеры «Пілар».

Э. Хемінгуэй аказаў велізарны ўплыў на грамадскую думку і развіццё рэалістычнага напрамку ў мастацкай літаратуры. Багаты жыццёвы досвед, асабісты ўдзел у войнах і шматлікіх палітычных канферэнцыях спрыялі фарміраванню адметнай сацыяльнай філасофіі, адлюстраваліся ў яго літаратурнай творчасці, паўплывалі на эстэтычныя густы майстра слова.

Набыты жыццёвы досвед і назіранні за рэаліямі тагачаснай Амерыкі і Еўропы адбіліся ў яго першым зборніку «Тры навелы і дзесяць вершаў» (1923). Навела «У нас у Мічыгане» сведчыла пра яркі талент апавядальніка і адметныя літаратурныя здольнасці Э. Хемінгуэя.

Другі зборнік пад назвай «У наш час» (1525) уключаў мініяцюры і замалёўкі — «Індзейскі пасёлак», «Лекар і яго жонка», «Штосьці здарылася» і іншыя, аб'яднаныя агульным аповедам ад першай асобы. Галоўны герой — юнак Нік Адамс — шукае маральнага апірышча ў жыцці, перажывае шматлікія стрэсы, і, урэшце, знаходзіць супакаенне ў сузіранні вечнай прыгажосці прыроды.

У 1926 г. Э. Хемінгуэй піша раман «Фіеста» («І ўзыходзіць сонца)» (апублікаваны толькі ў 1964 г.). У творы паказаны трагічны лёс чалавека, які вярнуўся з вайны. Галоўны герой Джэйк Барнс быў пакалечаны на вайне, ён не можа фізічна быць з жанчынай, што сталася прычынай яго цяжкіх пакут. Але герой знаходзіць у сабе духоўныя сілы і мужнасць, каб супрацьстаяць выклікам і нягодам. Ён застаецца мэтанакіраваным, крыніцай жыццёвай сілы і суцяшэннем для яго з'яўляецца самаадданая праца ў рэдакцыі.

Значную ролю ў творчым сталенні пісьменніка адыграла праца над зборнікам апавяданняў «Мужчыны без жанчын» (1927). Літаратурнае майстэрства Э. Хемінгуэя найбольш ярка вывілася ў навелах «У чужой краіне» і «Кілеры». У іх аўтар зноў вяртаецца да вобраза Ніка Адамса, які балюча рэагуе на несправядлівасць, грамадскія заганы, жорсткасць і абыякавасць.

Шырокую вядомасць Э. Хемінгуэю прынёс раман «Бывай, зброя!», апублікаваны ў 1929 г. Твор узнаўляе трагічныя падзеі і каласальныя разбурэнні, якія прынесла Еўропе Першая сусветная вайна. Аўтар успрымае і паказвае вайну як жахлівую, антычалавечую з'яву, якая не вырашае праблем, а толькі павялічвае зло, трушчыць лёсы, пашырае колькасць абяздоленых і няшчасных, прыносіць незваротныя страты і цяжкія пакуты.

Намаляваны рэалістычныя сцэны франтавога жыцця, пададзена, якая вялікая шкода наносіцца асяроддзю і прыродзе, як нішчацца цудоўныя ландшафты, а прыгожыя пейзажы ператвараюцца ў агідныя груды ламачча і брудныя яміны. Вельмі сімвалічнае апісанне велічнай дубовай рошчы, ад якой пасля баявых дзеянняў засталіся толькі раструшчаныя ствалы і вывернутыя пні. Вайна, паводле справядлівай высновы пісьменніка, — найбольш агідная з'ява ў гісторыі чалавецтва, адваротны бок культуры і самая непрыдатная форма дачыненняў паміж народамі і дзяржавамі.

Вынікам роздуму Э. Хемінгуэя пра місію творцы ў грамадстве стала выдатнае апавяданне «Снягі Кіліманджара» (1936). Галоўны герой — пісьменнік Гары — надзелены бліскучым талентам апавядальніка. Рыхтуючыся да спаткання са смерцю, ён балюча перажывае аб растрачаных дарэмна гадах, шкадуе аб нерэалізаваных задумах. Герой прыходзіць да высновы, што пісьменнік перастае тварыць, пазбаўляецца таленту, калі ён губляе маральны стрыжань, здраджвае свайму прызванню, замест прадуктыўнай, штодзённай і крапатлівай працы шукае асалод і ўцех.

У апавяданні праявілася творчае эксперыментаванне і пошукі новых мастацкіх форм, аб чым яскрава сведчыць уключэнне ў асноўную кампазіцыю невялікіх мініяцюр і мікранавел, якія падаюцца як успаміны галоўнага персанажа.

Найбольш значным эпічным творам Э. Хемінгуэя з'яўляецца раман «Па кім звоніць звон» (1939), прысвечаны падзеям грамадзянскай вайны ў Іспаніі, трагедыі Іспанскай Рэспублікі. Дзеянне адбываецца ў 1937 г. Пісьменнік падае лакальную сітуацыю, выкананне героем канкрэтнага баявога задання па знішчэнні моста. Э. Хемінгуэя не цікавіць стратэгія і штабныя камбінацыі военачальнікаў, ён прасочвае лёс радавога чалавека на вайне.

Галоўны герой амерыканец Роберт Джордан, які добраахвотна прыехаў дапамагчы іспанскаму народу ў змаганні з франкістамі. Ён ваюе на баку тых, хто адстойвае ідэалы Іспанскай Рэспублікі — свабоду і дэмакратыю. Герой выконвае дадзенае яму баявое заданне, але ў выніку гіне.

У рамане Э. Хемінгуэй ярка выявіўся як выдатны майстар літаратурнага партрэта. З асаблівай сімпатыяй аўтар малюе партрэт Марыі, апісвае яе прыгожыя смуглыя рукі, каштанавыя валасы, падобныя на спелую пшаніцу, вясёлыя і залацістыя вочы, прывабны твар і вусны.

Найважнейшую мастацкую функцыю ў творы выконваюць дыялогі. Праз іх раскрываецца логіка паводзін персанажаў, адлюстраваны глыбінныя матывы іх учынкаў, светаразуменне і маральныя арыенціры. Героі абмяркоўваюць шырокі дыяпазон праблем — прыватных, палітычных, агульнацывілізацыйных. Вельмі яркі дыялог Роберта Джордана з іспанцам Ансельма, у якім яны разважаюць пра адказнасць асобы на вайне, права на забойства ворагаў, адказнасць за ўчынены грэх. Выключным драматызмам напоўнены развітальны дыялог Марыі з Робертам Джорданам, у якім найбольш яскрава гучыць асуджэнне вайны, якая пазбаўляе людзей права на шчасце і каханне.

Галоўныя дамінанты рамана — высокая інтэлектуальнасць, рэфлексіўнасць, самааналіз, якія дасягаюцца праз выкарыстанне шматлікіх маналогаў. У іх адлюстраваны напружаныя ўнутраныя пошукі і разважанні аўтара пра чалавека,

грамадства і свет. Асобныя маналогі вельмі эмацыянальныя, як напрыклад, маналог-малітва Марыі, у якім яна пранікнёна просіць дзеву Марыю выратаваць яе каханага, дараваць яму жыццё.

Апагейным з'яўляецца перадсмяротны маналог Роберта Джордана ў канцы твора, дзе гучыць споведзь і роздум яго аб пражытым жыцці, місіі чалавека на зямлі. Роберт прыходзіць да важнай высновы: чалавек павінен імкнуцца прыносіць як мага больш карысці, ніколі не страчваць веры ў справу, якую робіць, да апошняга адстойваць уласную годнасць. Вуснамі героя аўтар прамаўляе: «Свет — утульнае месца, і за яго варта змагацца».

У 1952 г. Э. Хемінгуэй друкуе аповесць «Стары і мора» — найбольш дасканалы ў літаратурна-мастацкіх адносінах твор, напоўнены значным філасофскім сэнсам, што вынікаў з каласальнага жыццёвага і інтэлектуальнага досведу аўтара.

Галоўны герой аповесці рыбак Санцьяга — звычайны чалавек працы, які жыве на ўзбярэжжы акіяна і з вялікай цяжкасцю здабывае сродкі на жыццё. Аднак, не зважаючы на амаль жабрацкае становішча, ён не губляе сацыяльнага аптымізму, высока трымае сцяг чалавечай годнасці і ўнутранай народнай культуры, уласцівай сумленнаму, працавітаму чалавеку.

Пісьменнік з замілаванасцю і павагай малюе партрэт старога рыбака. Аблічча Санцьяга выразна сведчыць пра яго рыбацкія заняткі, ён надта худы, патыліца скрозь парэзана глыбокімі зморшчынамі, твар моцна загарэлы, на руках мноства зарубцаваных шрамаў. Але вочы — вясёлыя, іскрыстыя, падобныя на чароўнае мора. Менавіта вочы — люстра душы Санцьяга — красамоўна пацвярджаюць яго трывучасць, настойлівасць, здаровую ўпартасць. Сапраўднае суцяшэнне і нязменную радасць адзінокаму рыбаку прыносіць велічнае мора, пра якое ён думае ўвесь час, нібы пра жанчыну, якая вабіць і прыцягвае, чаруе і палоніць.

Кульмінацыйная сцэна аповесці — змаганне Санцьяга з агромністай рыбай, якая нарэшце, пасля многіх тыдняў няўдачы, трапіла яму на кручок. Добра спрактыкаваны ў сваёй справе і маючы велізарны досвед лоўлі, стары праз трое сутак выходзіць пераможцам. Санцьяга прымацоўвае улоў да лодкі, бо ён важыў блізу паўтоны і не мог змесціцца ў лодцы, і накіроўваецца дадому. Але, на зваротным шляху, напалі акулы і, нягледзячы на ўсе старанні і неверагодныя высілкі старога, пакінулі толькі аголены шкілет.

Выдатна намаляваная сцэна працяглага змагання старога і рыбы, — відавочна глыбока сімвалічная і несумненна мае філасофскі падтэкст. Э. Хемінгуэй праз мастацкія формы, выказаў у ёй уласнае разуменне сэнсу існавання, місіі чалавека на зямлі, логіку і глыбінныя матывы яго паводзін. Сцэна змагання сімвалізуе барацьбу чалавека за жыццё, яго незвычайнае напружанне дзеля дасягнення пастаўленай мэты. На думку пісьменніка, трэба ісці да канца, не збочваць з абранага шляху, і тым больш не здавацца ні пры якіх абставінах. У час змагання належыць быць гатовым да раптоўных паваротаў падзей і розных нечаканасцей, мужна сустракаць складаныя выклікі і энергічна пераадольваць перашкоды.

Асноўны лейтматыў твора — вера ў чалавека, прызнанне яго асаблівай місіі на зямлі. Аўтар апявае духоўную веліч і маральнае высакародства сумленных і шчырых людзей. Санцьяга адзін са сваіх філасофскіх маналогаў завяршае вельмі яркай сентэнцыяй: «Чалавек не для таго створаны, каб цярпець паразы. Чалавека можна знішчыць, але яго нельга перамагчы». Кожны, пераконвае Э. Хемінгуэй, павінен верыць у свае сілы, быць валявым і трывалым. Доказам гэтай аўтарскай сентэнцыі служыць у аповесці своеасаблівая мікранавела — успамін Санцьяга пра яго дужанне на руках і перамога над сілачом, неграм з С'енфуэгаса, які лічыўся ў порце непераможным.

Пісьменнік, магчыма, завастраў сітуацыю, калі сцвярджаў, што чалавек у сваім змаганні заўсёды застаецца адзін, без падтрымкі, і мусіць разлічваць толькі на сябе. Цяжка пагадзіцца і з песімістычнай высновай, сутнасць якой у тым, што чалавек, у рэшце рэшт, прайшоўшы пакуты і змаганне, пераадолеўшы шматлікія перашкоды і бар'еры, пасля неверагоднага фізічнага напружання, перамогі над

унутранымі страхамі і сумненнямі, застаецца ні з чым, яго набыткам і вынікамі працы карыстаюцца драпежнікі, а ён ціха засынае.

Э. Хемінгуэй, бясспрэчна, выступае як высокі інтэлектуал і філосаф, калі ў вобразнай форме ўздымае і адметна развязвае фундаментальную праблему дачыненняў чалавека і прыроды. Вуснамі героя выказана ўласнае стаўленне да жывых істот: «Чалавек — гэта не бог ведама што побач з выдатнымі жывёламі і птушкамі». Такім чынам, аўтар аспрэчвае і адкідвае традыцыйную хрысціянскую антрапалагічную ідэю аб абсалютнай перавазе чалавека над усім жывым, не пагаджаецца з думкай пра выключнае права яго панаваць над прыродай, бязмежна карыстацца яе дарункамі, спажываць зямныя скарбы дзеля ўласнай карысці і непамернага ўзбагачэння.

Прырода і космас для пісьменніка — вечная і нязменная прыгажосць, крыніца эстэтычнага задавальнення. Э. Хемінгуэй захоплена перадае непаўторную прыгажосць марской рыбіны, яе велічныя памеры, моц, гарманічны целасклад і прывабныя колеры. Герой твора прыкладае ўсе намаганні, каб перамагчы рыбіну, але ён пры гэтым жыве ў суладдзі з прыродай, акіянам і космасам. Назіраючы прыгажосць начнога неба, ён, моцна трымаючы леску, прамаўляе: «Рыба — яна таксама мне сябар. Я ніколі не бачыў такой рыбы і не чуў, што такія існуюць. Але я мушу яе забіць. Добра, што нам не даводзіцца забіваць зоркі!» Такім чынам, паводле справядлівай высновы аўтара, чалавек з мэтай выжывання вымушаны забіваць прыгожых жывых істот, але і тут неабходна мера, нельга пераходзіць межы разумнага і дапушчальнага, каб не вярнуцца ў варварскі стан.

Высокі гуманізм Э. Хемінгуэй знаходзіць не ў багатых офісах і шыкоўных палацах, а ў рыбацкім асяроддзі, дзе паміж людзьмі ўсталяваліся натуральныя і надзейныя дачыненні, існуе ўзаемавыручка, спагадлівасць і дабрыня. У адносінах паміж рыбаком Санцьяга і хлопчыкам Маналінам бачыцца праява сапраўднай чалавечнасці, непадробнай сяброўскасці, узаемапавагі, спрадвечнай народнай культуры, што выступае зарукай непазбежнай перамогі дабра над злом, пераемнасці пакаленняў і працягу жыцця.

Талент Э. Хемінгуэя як майстра слова, бліскучага апавядальніка і пісьменніка-марыніста выдатна выявіўся ў сцэнах, дзе ён паказвае прыгажосць акіяна, распавядае пра штодзённыя клопаты рыбакоў, раскрывае тонкасці іхняга промыслу, гаворыць пра складанасці і спецыфіку марской рыбалкі, дэталёва распавядае пра розных рыб і марскіх жывёл, з біялагічнай дакладнасцю паказвае барацьбу шматстайных відаў за месца пад сонцам і ўласнае існаванне.

Доўгі час пісьменнік працаваў над раманам «Астравы ў акіяне», у якім стварыў вобраз мастака Томаса Хадсана. Герой удзельнічае ў Другой сусветнай вайне, змагаецца супраць фашызму.

Апошні твор Э. Хемінгуэя — мемуары, выдадзеныя пасля яго смерці, у 1964 г., пад назвай «Свята, якое заўсёды з табой». У іх ён стварыў яркі і надзвычай каларытны вобраз пісьменніка, свайго сучасніка — Скота Фіцджэральда.

Характэрныя рысы творчага почырку і стылю Э. Хемінгуэя — захопленасць і апантанасць, удумлівасць і пранікнёнасць, публіцыстычная страснасць і філасофская завостранасць. Мова — простая, выразная і надзвычай дакладная. Ён, як правіла, піша максімальна даступна, не ўжывае складаных сінтаксічных канструкцый, пазбягае семантычнай шматзначнасці, цураецца штучнай квяцістасці і стылёвых нагрувашчванняў.

Яркім мастацкім словам і выверанай думкай Эрнэст Хемінгуэй імкнуўся выканаць высакародную і гуманную місію — удасканаліць свет і грамадства, зменшыць колькасць зла на зямлі, абараніць канкрэтнага чалавека і яго законнае права на годнае жыццё, дапамагчы нацыям у змаганні за гістарычную перспектыву.

Як бачна, амерыканскія майстры слова стварылі сапраўдныя мастацкія шэдэўры, што папоўнілі скарбонку сусветнай класікі. Яны і сёння прываблівають пісьменнікаў і інтэлектуалаў іншых краін.

# АЛЕСЬ САВІЦКІ: «ТОЛЬКІ МУЖНЫ ДАСЯГАЕ МЭТЫ»

Алесь Савіцкі ў беларускай нацыянальнай культуры постаць адметная. Такіх, як ён, у нашай літаратуры няшмат. Пра яго з пашанай кажуць — Працаўнік. Менавіта так: Працаўнік з вялікай літары.

Пісьменніцкі хлеб нялёгкі. Пакуты слова вымагаюць напружання ўсіх сіл — разумовых, душэўных, маральных, фізічных. Гэта цяпер некаторыя аўтары кляпаюць так званыя тэксты за дзень-другі, у лепшым выпадку — за месяц. А раней пісаліся творы на працягу некалькіх гадоў.

Дык вось створанае Алесем Савіцкім уражвае: 10 раманаў і 13 аповесцей, у тым ліку 5 дзіцячых. 23 арыгінальныя кніжкі!



*Алесь Савіцкі.*

Але справа нават не ў колькасці створанага. Як адзначыў народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін, «у пасляваеннай беларускай прозе творы Алеся Савіцкага займаюць сваё асобнае адметнае месца. Са старонак яго кніг перад чытачамі паўстаюць людзі, якія вызначаюцца гуманна-актыўным стаўленнем да жыцця, моцныя духам, загартаваныя, бескампрамісныя і адданыя сваёй справе».

Былы партызан-падрыўнік, баец Савецкай Арміі, які з баямі дайшоў да Берліна і пераможна распісаўся на сцяне рэйхстага, чалавек, які быў тройчы паранены, не аднойчы глядзеў смерці ў вочы, Алесь Савіцкі ў сваіх творах не перастае сцвярджаць адну з самых галоўных, на яго думку, чалавечых якасцей — мужнасць. «Чалавек павінен быць мужным. Мужным у горы. Гора тады робіцца меншым. Мужным у бядзе. Тады бяда ніколі не возьме верх над чалавекам. Мужным у радасці. Тады чалавек не забудзе падзяліцца радасцю са сваім сябрам.

Толькі мужны дасягае мэты. Толькі яму адкрыта вялікая асалода змагання і перамогі».

Вось чаму, лічыць пісьменнік, у нашым будзённым жыцці, у нашай паўсядзённай працы заўжды трэба быць шчырым і мужным. Інакш нельга. Калі ты быў шчыры і мужны ў дробязі сёння — заўтра ты будзеш шчыры і мужны ў вялікім. Сёння ты не збаяўся, смела выступіў супраць няпраўды і бруду — заўтра за гэта ўдвая больш будзеш паважаць сябе і ўтрая больш будуць паважаць цябе людзі. Сёння ты дапамог сябру ці зусім незнаёмаму чалавеку — заўтра адчуеш, што гатовы на высокі і мужны подзвіг. Сёння ты скінуў з дарогі камень, што замінаў людзям ісці, заўтра табе захочацца будаваць новую трасу.

Уласнае шчасце чалавек павінен бачыць не ў тым, каб шмат чым валодаць, а ў тым, каб шмат чым быць. Укараненне такой жыццёвай мудрасці праз мастацкую літаратуру заўсёды лічыў сваёй галоўнай місіяй пісьменнік-патрыёт Алесь Савіцкі.

І ён такі не толькі ў літаратуры, але і ў сваім уласным жыцці. Алесю Ануфрыевічу неўзабаве споўніцца 90 гадоў. Але як і ў маладыя гады ён па-ранейшаму заўсёды бескампрамісны ў барацьбе са злом, з няпраўдаю, заўсёды неабыякавы да ўсяго, што адбываецца навокал.Умее парадавацца поспеху калегі і бурна адрэагаваць на несправядлівасць. А яшчэ ўсе, хто ведае Алеся Савіцкага, не перастаюць здзіўляцца яго жыццёваму аптымізму, яго маладой, напорыстай энергіі.

Мінулым летам мы ўтрох — Алесь Савіцкі, Навум Гальпяровіч і я — выбраліся на Полаччыну. Пахадзіць яе прасторамі, падыхаць водарам гісторыі. Была для таго і больш значная нагода — юбілей старажытнага Полацка. Мясцовыя ўлады сустрэлі Алеся Ануфрыевіча, ганаровага грамадзяніна горада, як дарагога госця. Ён тут у гады ваеннага ліхалецця партызаніў, пасля вайны — працаваў у абласной газеце. А калі стаў вядомым пісьменнікам, часта прыязджаў на сустрэчы з землякамі.

Юбілейныя ўрачыстасці доўжыліся амаль цэлы дзень. Былі сустрэчы ў гарвыканкаме, было традыцыйнае шэсце ветэранаў вайны і працы. Завяршылася свята яркім канцэртам мастацкай самадзейнасці.

Мы, праўда, з самай раніцы, яшчэ да пачатку ўрачыстасцей, паспелі крыху пахадзіць па Полацку. Алесь Ануфрыевіч, акрамя гістарычных помнікаў, паказаў мне мясціны свайго дзяцінства. Дзіва, але да гэтага часу захаваўся дом, у якім ён нарадзіўся. Дому ўжо болей за сто гадоў, тым не менш ён і сёння мае яшчэ дастаткова прыстойны выгляд. Стаіць, як ні ў чым не бывала, на высокім беразе Палаты, люляе ўжо чужыя сны і мары пад пошум векавых таполяў і клёнаў. Заходзіць у хату Алесь Ануфрыевіч не рашыўся: не вядома што за людзі там жывуць. Дый, відаць, не хацелася парушаць тыя малюнкі-ўспаміны, якія да гэтага часу жывуць у душы.

Вядома ж, наведалі галоўную полацкую святыню — Сафійскі сабор, пагладзілі шурпатыя бакі Барысавага каменя, які гэтулькі ўсяго пабачыў на сваім вяку, паслухалі ціхі, лагодны плёскат хваляў Палаты, якая ў гэтых мясцінах упадае ў шырокую, паўнаводную Дзвіну. Алесь Ануфрыевіч увесь час расказваў розныя гісторыі са свайго дзяцінства, юнацтва, якое прайшло-прамільгнула на гэтых берагах. І ў журботным голасе яго чуліся цёплыя, настальгічныя ноткі.

А позна вечарам з Полацка мы паехалі на хутар да Гальпяровіча. Гэта кіламетраў за 30 ад горада. У глухім, амаль бязлюдным месцы прытулілася вёсачка хат на дзесяць, і кожная стаіць асобна, хутарам.

Нас гасцінна сустрэў Навумаў швагер Васіль. Павячэраўшы (елі юшку з толькі што злоўленых карасёў, ліңькоў), пайшлі паглядзець наваколле. Васіль падахвоціўся паказаць тутэйшыя азёры — іх тут два, адно большае, другое меншае. Рашылі паглядзець большае, хоць да яго было і далекавата — кіламетры са два. Ішлі туды і назад зарослым (трава ў пояс) лугам, лясной гразкай сцяжынай. Па праўдзе кажучы, дарога запатрабавала ад нас нямала сіл. Аднак, вярнуўшыся на хутар, Алесь Ануфрыевіч пажадаў яшчэ агледзець саму вёсачку. Пасля пад чарку і скварку гаманілі да глыбокай ночы.

Назаўтра паехалі ва Ушачы — легендарную партызанскую сталіцу. Наведалі знакаміты мемарыял «Прарыў». Летам 1944 года ў гэтых мясцінах прарываўся з фашыскай блакады і Алесь Савіцкі са сваім атрадам. Падняліся на Курган Бессмяроцця, насыпаны ў гонар герояў-партызан. У Музеі партызанскай славы Алесь Ануфрыевіч пакінуў расчулены запіс з падзякаю за тое, што землякі клапатліва і годна ўшаноўваюць памяць пра народных мсціўцаў.

І вось сёння, узгадваючы гэту двухдзённую, неверагодна насычаную паездку, я не магу не выказаць свайго захаплення ад Алеся Савіцкага. У сваім шаноўным

узросце, ён ні на хвіліну нідзе не спыніўся, каб перадыхнуць, ні разу не паскардзіўся на стому. А калі на афіцыйным прыёме нечакана далі слова, не разгубіўся — сказаў бліскучы тост, чым заслужыў дружныя, шчырыя воплескі.

Не стамляўся сам і нам не даваў думаць пра стому. Усю дарогу чытаў на памяць вершы — беларускую і рускую класіку. Спяваў шматлікія народныя песні, у тым ліку і так званы шансон, чым нямала ўразіў нас з Гальпяровічам. А калі канчаліся вершы і песні, расказваў такія дасціпныя анекдоты, што мы проста браліся за жываты ад рогату.

Усё гэта, як мне здаецца, красамоўныя штрыхі да партрэта Алеся Савіцкага — пісьменніка і чалавека. Застаецца толькі сказаць, што за свае баявыя і працоўныя заслугі Алесь Ануфрыевіч узнагароджаны ордэнамі Чырвонай Зоркі, Айчыннай вайны II ступені, Славы III ступені, Знакам пашаны, Францыска Скарыны і шматлікімі медалямі. Ён — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прэміі Ленінскага камсамола рэспублікі, прэміі Саюза пісьменнікаў СССР і ВЦСПС, а таксама літаратурнай прэміі Расіі «Прохараўскае поле».

А цяпер паслухаем самога пісьменніка.

## Ішла вайна народная

**— Алесь Ануфрыевіч, мы сустракаемся напярэдадні чарговай гадавіны Вялікай Перамогі, таму лагічным будзе пачаць нашу гаворку з ваеннай тэмы. Скажыце, калі ласка, дзе і як пачалася для вас вайна?**

— Вайна для мяне, як і для большасці нашых людзей, пачалася на досвітку 22 чэрвеня 1941 года. У горадзе Гродна. У гэтым абласным цэнтры тады дыслацыраваўся штаб 3-й арміі. А бацька мой працаваў у штабе, начфінам.

У Гродна мы пераехалі ў канцы трыццаць дзявятага з Полацка, дзе жылі ў роднай бацькоўскай хаце. Тут, у гэтай хаце, я і нарадзіўся і правёў свае дзіцячыя гады. Але паколькі бацька быў вайскоўцам, ён вымушаны быў падпарадкавацца дысцыпліне і пераехаць у Гродна, забраўшы і ўсю сваю сям'ю — жонку, трох сыноў і дачку.

Перад самай вайной я скончыў восьмы клас і ўжо жыў радасцямі летніх канікул. Справа ў тым, што з суботы на нядзелю мы рыхтаваліся ў падарожжа на байдарках па Нёмане. Мы — гэта вучні старэйшых класаў. Маці сабрала нам з Генам, маім старэйшым братам, тэрмас з чаем, бутэрброды, запасную вопратку. І мы, шчаслівыя, леглі спаць. А на досвітку прачнуліся ад жахлівага выцця бомбаў, страшэнных выбухаў і грымотных залпаў гармат процітанкавай абароны. Памятаю як зараз: у пакоі шэры такі паўзмрок, усё дрыжыць, калоціцца, і бацька ў белай бялізне мітусіцца па хаце, нервова-хапатліва апранаецца. Першае, што ён сказаў, калі мы ўсе падхапіліся: «Гэта — вайна». Зашпільваючы партупею, яшчэ раз узрушана паўтарыў: «Гэта — вайна». А калі выходзіў з хаты, кінуў кароткае: «Чакайце. За вамі прыедуць…»

А нам жа, падлеткам, уга як цікава паглядзець, чым скончылася бамбёжка. І мы з Генкам пабеглі на Нёман. Убачылі, што на беразе шмат варонак ад выбухаў. Відаць, немцы хацелі разбамбіць мост, але нашыя зеніткі адагналі фашысцкія самалёты, і бомбы мост не зачапілі. Мы залазілі ў гэтыя варонкі і збіралі там бомбавыя асколкі — фіялетавыя такія, з вострымі зазубрынамі. Мы напіхалі гэтых асколкаў цэлыя кішэні і пабеглі дамоў. А мама ўжо месца сабе не знаходзіць: куды падзяваліся яе вісуганы? І калі мы паказалі ёй свае знаходкі, яна ажно збялела: «Што ж вы мне, дзеткі, прынеслі. Гэта ж — смерць…»

Вось так вайна ўвайшла ў маё жыццё.

**— І што было далей?**

— Недзе пасля абеду пад'ехала да нашага дома палутарка і нас усіх чацвярых, з рознымі клункамі пагрузілі ў кузаў і завезлі на вакзал. Што там рабілася! Горад



*Алесь Савіцкі з Аляксандрам Сысуевым, камандзірам партызанскага атрада «Бальшавік».*

гарыць, вагоны штурмуюць тысячы людзей. Мама неяк убілася ў тамбур, а нас, дзяцей, салдаты, якія суправаджалі, запіхнулі ў вагон праз акно.

У Мінск мы дабраліся глыбокай ноччу. Па дарозе нас двойчы бамбілі. На шчасце, бомбы ў эшалон не трапілі. У родны горад дабіраліся на пракладных. Бабуля сустрэла нас абрадаваная, са слязьмі на вачах.

Тым часам фронт падышоў ужо да Полацка. Пачалася эвакуацыя партыйна-савецкага актыву і сем'яў вайскоўцаў. Да нас таксама прыйшоў вайсковец з ваенкамата са спісам, але калі мама ўбачыла, што ў гэтым спісе няма нашай бабулі, то ехаць адмовілася.

І мы засталіся.

А потым, калі ўжо немцы падышлі зусім блізка, мама ўстрывожылася: што ж рабіць? І тут мы бачым, як сусед садзіць сваю сям'ю на аўтамашыну, і мама кінулася да яго, стала напрамілы Бог прасіць, каб ён узяў і нас. Мы сяк-так прыладкаваліся, але ад'ехалі ад горада, можа, кіламетраў дваццаць, як машына забуксавала ў пяску. Шафёр загадаў нам злазіць і падштурхнуць машыну. Нас прымусілі скінуць усе нашы хатулі, мы памаглі выпхнуць машыну з пяску, а яна ўспаўзла на пагорак, мігнула чырвонымі стоп-сігналамі — і знікла. А мы засталіся ў лесе адны.

І вось ад вёскі да вёскі, дзе на возе, дзе на машыне, а болей за ўсё пешкі, мы сталі кіравацца ў бок Ленінграда. Там жыў наш дзядзька Павел і нам здавалася, што там мы знойдзем самы надзейны прытулак. Але не дайшлі нават да Невеля — да яго заставалася яшчэ кіламетраў з дзесяць, — спыніліся нанач у нейкай вёсцы, а на світанні пачулася страляніна і мы ўбачылі, як па вуліцы ўжо едуць немцы.

Пачаўся горкі шлях назад. Калі мы вярнуліся ў Полацк, горад ужо быў у руках немцаў. Пачалося жыццё на акупаванай тэрыторыі. Тое, што пасля лічылася плямай на біяграфіі кожнага жыхара.

**— А якім чынам вы трапілі ў партызаны?**

— Па праўдзе кажучы, напачатку ніякай думкі пра гэта ў мяне не было. Па-першае, таму што не было і саміх партызан. Па-другое, я ж быў яшчэ падлетак — які з мяне партызан? І па-трэцяе, усе мы спадзяваліся, што нямецкая акупацыя — гэта часова. Што вось адступім да граніцы 1939 года, а там акупантам наладзім поўны разгром.

**— Але якая была пераконанасць у моладзі!**

— Так. Сёння, можа, той-сёй не паверыць, але ў душы майго пакалення ад першага дня вайны жыла цвёрдая вера ў блізкую перамогу. Мы лічылі, што адступленне нашых войскаў — гэта стратэгічная задума ваеннага камандавання, своеасаблівы сувораўскі манёўр. Думкі, што гэта параза, нават не ўзнікала. Карцела толькі прыкласці да гэтай перамогі і свае рукі. Таму калі сталі хадзіць чуткі, што ў Полацкім бары з'явіліся партызаны, мы трызнілі жаданнем далучыцца да іх.

І мая мара збылася 6 лістапада 1942 года. Але гэта была ўжо другая спроба. А ў першы раз было так. Мы, трое хлопцаў, дамовіліся ісці ў партызаны. У нас ужо была зброя — вінтоўкі, пісталеты, гранаты.

**— А дзе вы ўсё гэта ўзялі?**

— Назбіралі на месцы баёў. Дык вось, захапіўшы ўсю гэту зброю, мы на чаўне па Палаце паплылі да Дзвіны. А за Дзвіною нас павінны былі чакаць яшчэ чацвёра хлопцаў, з якімі ўжо і пайшлі б у Полацкі бор.

І што адбылося? Мы не ведалі, што праз Палату, блізка да вусця, немцы паклалі металічныя трубы і зрабілі дашчаты насціл, каб можна было напрамкі хадзіць на аэрадром. У начной цемені нічога гэтага мы не заўважылі, і наш човен з усяго разгону (а перад гэтым прайшлі моцныя дажджы і ўзровень вады ў Палаце моцна падняўся) дугнуўся ў гэты мост. Човен перакуліўся і яго плынню прыціснула да труб. І як мы ні спрабавалі выдраць яго — нічога не атрымалася. Свой паход у партызаны вымушаны былі адкласці. Зброю схавалі ў прырэчных лазняках і вярнуліся дадому.

І вось дзіўны лёс! Калі б мы (аб гэтым дазналіся ўжо потым), калі б мы перабраліся тады на той бераг Дзвіны, то трапілі б проста ў лапы паліцаяў. Бо ў той чацвёрцы, што нас чакала, было двое правакатараў. Нібыта само неба нас уратавала.

Давялося лета праседзець дома. А ў ноч з 5 на 6 лістапада мы з Сяргеем Зімніцкім, маім школьным таварышам, пераправіліся праз Дзвіну і пайшлі ўглыб Полацкага бору. Недзе там чулася страляніна, і мы пайшлі на гукі гэтага бою. Ідзём, а бой разгараецца ўсё мацней, мацней. І раптам на лясной дарозе сустракаецца нам тачанка з кулямётам «максім», а за ёю трое верхавых партызан. Канешне, спынілі нас:

— Хто такія? Куды кіруеце?

Так мы і трапілі ў размяшчэнне партызанскага атрада «Смерць фашызму».

**— І вас адразу прынялі — падлеткаў, непадрыхтаваных?**

— Наконт узросту мы схлусілі — прыбавілі па годзе. А што тычыцца падрыхтоўкі, то да вайны я ўжо здаў нормы ГПА — гатоў да працы і абароны. У мяне быў нагрудны значок Асавіяхіма, я ўжо выдатна страляў. Больш за тое, я ўжо ведаў назвы ўсіх атрутных рэчываў — фазгена, іпрыту, люізіту… Ведаў, як перавязаць рану. Усё гэта мы ведалі. Хоць цяпер кажуць, што мы не рыхтаваліся да вайны. Рыхтаваліся. І не толькі фізічна, але і маральна, духоўна. Мы былі перакананыя, што наша краіна непрыступная для ворага.

**— І ўсё ж, напэўна, перш чым прыняць у атрад, вас праверылі…**

— Натуральна. Камандзір атрада Жараў (сапраўднае прозвішча яго Кісялёў Пятро Васільевіч) стаў распытваць нас пра Полацк, пра нашы сем'і. А пасля папрасіў дзвюх настаўніц-сувязных пераправерыць усё, што мы расказалі. Я нават праз іх паслаў маме запіску, каб яна не хвалявалася, бо я ж не сказаў, куды іду. Яна б ніколі мяне не пусціла. У нейкім плане мой учынак быў хлапечай авантурай. Цяпер ужо, з вышыні гадоў, я разумею, што гэта было ніякае не геройства — я ставіў пад жахлівы ўдар усю сям'ю. Але так мы, тадышнія камсамольцы, былі выхаваны. А калі я даў знаць, што я ў партызанах, мама з дзядзькам Васілём прыдумалі версію, нібыта я паплыў на чоўне, перакуліўся на Дзвіне і патануў. І добра, што ніхто з жыхароў нашага Трэцяга Стралецкага завулка нічога нікому не сказаў, хаця суседзі, напэўна, пра ўсё здагадваліся.

## Памерці заўсёды паспееш

**— І з чаго пачалося ваша партызанскае жыццё?**

— Тыдні са два мы з Сяргеем абжываліся, прывыкалі да ляснога побыту. Жылі ў зямлянках. Вывучалі падрыўную справу. Але на аперацыі нас пакуль яшчэ не бралі. А пасля Жараў, баючыся, што немцы наладзяць аблогу, вывеў атрад з лесу ў вёску Завалынка. Гэта была глухая, маленечкая вёсачка, якую абміналі нават паліцаі. І ўсю зіму мы правялі ў гэтай вёсцы. Зрэшты, не толькі ў гэтай, але

і ў дзвюх суседніх — Пятроўцы і Венцавое. Бо нас ужо было 67 чалавек.

**— І хто былі гэтыя людзі?**

— Касцяк, камандны састаў складалі вайскоўцы, якія трапілі ў акружэнне. Кадравым вайскоўцам быў і Жараў. Ён родам не з Беларусі, аднекуль з-пад Урала. Астатнія партызаны — мясцовыя жыхары.

**— Пераважна моладзь?**

— Не толькі. Хаця моладзі было многа — чалавек дваццаць.

**— І што даручалі маладым?**

— Рознае. Мы з Сяргеем, напрыклад, трапілі ў групу падрыўнікоў, якую ўзначальваў Мікалай Няфёдаў. Нас было сем чалавек. На аперацыі выходзілі ўсе, хаця каля міны звычайна заставаліся двое, астатнія забяспечвалі прыкрыццё.

**— І што гэта былі за аперацыі?**

— Галоўным чынам падрыў чыгункі, мастоў, засады на дарогах.

**— А дзе вы бралі ўзрыўчатку?**

— Тут дапамог выпадак. Калі мы былі яшчэ ў Полацкім бары, на ўскрайку лесу наткнуліся на вялізны склад артылерыйскіх гаўбічных снарадаў. Мы перавезлі гэтыя снарады ў Пятроўцы і ў тамтэйшай кузні налаўчыліся выплаўляць з гэтых снарадаў тол. Часам, праўда, гэта прыводзіла да трагічных выпадкаў, снарады рваліся і людзі гінулі. Нам з Сяргеем шанцавала. Мы выплавілі больш за сотню снарадаў.

**— Якая з аперацый вам помніцца найярчэй?**

— Напэўна, самая першая. Тым больш, што тады я атрымаў сур’ёзнае раненне. Было гэта зімою сорак другога. Мы вырашылі падарваць нямецкі эшалон непадалёку ад чыгуначнай станцыі Фарынава. Мы з Сяргеем паспяхова ўзбраліся на насып, паставілі міну, але далёка адбегчы не паспелі — з цемені раптам выскачыў цягнік. Грымнуў выбух. Я не адчуў аніякага болю, толькі перад вачыма ўспыхнула агромністае чырвонае сонца і жахлівая гарачыня абхапіла мяне ўсяго. А ў вушах пачуўся пранізлівы звон, які ўсё аддаляўся, аддаляўся, і я страціў прытомнасць.

Няфёдаў з астатнімі членамі групы знайшлі нас, паклалі на сані і вывезлі з небяспечнай зоны. Больш за два тыдні мы праляжалі ў так званым шпіталі, пад які была прыстасавана звычайная вясковая хата і гаспадыняй у якой была медсястра Каця Канцыял.

І вось калі да гэтага выпадку я вайну ўспрымаў як элемент гульні, то пасля ранення я адчуў ужо зусім іншае стаўленне да ўсяго, што адбывалася навокал. Ружовы налёт хлапечай рамантыкі асыпаўся, як труха. І прыйшло адчуванне жахлівай бяды, смяртэльнай небяспекі.

**— Вы сказалі, што ў групе падрыўнікоў было сем чалавек. А чым займаліся астатнія партызаны?**

— У нас была свая разведка. Узначальваў яе Міхаіл Слаўскі, вельмі вопытны чалавек. Дарэчы, ніводная наша аперацыя не праводзілася без грунтоўнай, карпатлівай разведкі.

**— Якія яшчэ структурныя падраздзяленні былі ў складзе атрада?**

— Група аховы, якая кругласутачна несла дазор вакол партызанскай зоны. Быў гаспадарчы ўзвод. Ён меў свае майстэрні — пашывачную, валюшную. Рабілі шыкоўныя валёнкі. Дарэчы, гэтыя валёнкі аднойчы ўратавалі мне жыццё. Расказаць?

**— Канешне.**

— Здарылася гэта зімой сорак трэцяга. Я ўжо быў у партызанскім атрадзе «Бальшавік», які арганізаваўся на базе атрада «Смерць фашызму», і ўзначальваў у ім групу падрыўнікоў. Дык вось напярэдадні мы схадзілі на чарговую аперацыю, узарвалі мост, паспяхова вярнуліся ў атрад. Але была такая адліга, што мае валёнкі прамоклі наскрозь, і калі сталі падсыхаць, то насы загнуліся, як у тых турэцкіх пантоплях. І камандзір гаспадарчага ўзвода, убачыўшы мае валёнкі,

загадаў іх тут жа скінуць і забраў у рамонт. Паабяцаў падшыць на падэшвы кавалкі гумы ад аўмабільнай пакрышкі і тады ім будзе не страшная ніякая адліга. І я застаўся ў гэтую ноч у атрадзе. А мае хлопцы пайшлі на чыгунку пад станцыю Загацце. Іх павёў Коля Паўлаў.

Лёс гэтага чалавека цікавы і драматычны. Ён — масквіч, на год старэйшы за мяне. Да вайны скончыў 9 класаў. Разам з бацькам у сорак першым пайшоў у народнае апалчэнне, удзельнічаў у баях пад Масквой. Быў трохі кантужаны, а бацька паранены. Яны трапілі ў палон і іх вывезлі сюды, у Беларусь. Каля станцыі Баравуха быў вялізны лагер для нашых ваеннапалонных. Там Колін бацька загінуў, а самому яму пашанцавала — удалося ўцячы. Ён перабраўся цераз Дзвіну і пасля доўгіх блуканняў знайшоў атрад Жарава і трапіў у падрыўную групу Няфёдава. Але калі атрад раздзяліўся, бо ў ім было ўжо больш за 200 чалавек, мы з Колем апынуліся ў новым атрадзе, а Сяргей застаўся ў ранейшым.

Дык вось. Пакуль падшываліся мае валёнкі, групу на заданне павёў менавіта Коля Паўлаў. На бяду, група нарвалася на засаду, быў цяжкі бой, у якім Колю смяротэльна параніла. Яго не давезлі да атрада, памёр па дарозе. І калі я дачуўся, што Колю забіла, я басанож кінуўся ў штаб атрада і, укленчыўшы каля яго цела, горка-горка плакаў. І толькі пазней да мяне дайшло ўсведамленне, што смяротная куля ў тую ноч чакала мяне. Так што сваім жыццём я абавязаны і Колю Паўлаву таксама.

**— Гэта была першая страта сярод партызан?**

— Не, яшчэ ў сорак другім у баях за Банонь загінула дзевяць чалавек. Гэта быў вельмі жорсткі бой. Дзве групы паліцэйскіх і немцаў выйшлі з Ветрына і Фарынава і кіраваліся на Банонь. Гарадскі пасёлак стаяў на рацэ Уша і меў вялікі млын. Немцы яго вырашылі ўзарваць, мяркуючы, што ён забяспечвае мукою не толькі жыхороў пасёлка, але і партызан. Жараўцы гэты млын адстаялі. Праўда, дарагою цаной.

**— А ці варта было ўступаць у бой з узброенымі да зубоў фашыстамі?**

— Дык жа партызаны таксама не з голымі рукамі іх сустрэлі. Жараўцы, акрамя вінтовак, мелі ўжо дзве гарматы-саракапяткі, кулямёт «максім» і шмат боепрыпасаў. Ты запытаешся, адкуль усё гэта ўзялося? Справа ў тым, што праз тутэйшыя мясціны (Ветрына, Заскаркі, Варонічы, Баравуху) праходзіла лінія ўмацаванняў трыццаць дзявятага года, так званая лінія Сталіна. А непадалёку, на станцыі Фарынава, быў тупік, куды па спецыяльна пракладзенай чыгуначнай ветцы заганяліся вагоны, загружаныя боепрыпасамі, каб забяспечыць агнявыя кропкі ўкрэпраёна. Немцы, калі сюды прыйшлі, паўзрывалі ўсе доты, але мы, партызаны, пад покрывам ночы залазілі туды і з-пад бетонных абломкаў выцягвалі і зброю, і пакарабачаныя бляшанкі з патронамі. Адтуль жа прыцягнулі і ацалелыя гарматы. Таму атрад Жарава, пакуль наладзілася рэгулярнае забеспячэнне з Вялікай зямлі, быў цалкам укамплектаваны і зброяй, і боепрыпасамі.

Дарэчы, дарэчы… Вось цяпер часам даводзіцца чуць: маўляў, лінія Сталіна — гэта міф, ніякай ролі ў мінулай вайне яна не адыграла. А я асабіста бачыў, як перад гэтымі дотамі ўсё поле, як глянуць, да самага лесу было ў крыжах і нямецкіх касках. Значыць, нашы салдаты, перад тым, як адступіць, здорава пашкуматалі фашыстаў.

**— Алесь Ануфрыевіч, а як забяспечвалі сябе партызаны харчам і вопраткай, асабліва зімою?**

— Паколькі ў нашым атрадзе пераважная колькасць партызан была з мясцовых жыхароў, то праблема вырашалася проста — сваякі іх забяспечвалі ўсім, чым трэба. Што тычыцца вайскоўцаў, то іх забеспячэннем займаўся гаспадарчы ўзвод.

А наконт таго, як мы забяспечвалі сябе харчам, я от пакажу зараз табе адзін дакумент — пастанову Ветрынскага падпольнага райкама партыі (*знаходзіць у папцы аркуш паперы і зачытвае*): «1 апреля 1943 года. О проведении весенне-

го сева… Землю распределить среди крестьян… Разрешить рабочим совхоза «Банонь» производить сев единолично…» І слухай, слухай — самае галоўнае: «Оказать помощь крестьянам в проведении сева… Организовать переброску людей и колес из одной деревни в другую… Секретарь подпольного РК КПБ Д. В. Тябут». Дапамога заключалася яшчэ і ў тым, што ўсіх сваіх коней партызаны таксама падключалі да сяўбы. Вось табе самае яскравае абвяржэнне тых хлуслівых чутак, быццам партызаны толькі рабавалі насельніцтва.

А вось яшчэ дакумент (*дастае з папкі новы аркуш*). Чытаю: «Об оказании помощи местному населению, пострадавшему от немецких оккупантов… Выдано ржи — 215 коп, молотой ржи — 120 пудов, гороху — 10 возов… Дано во временное пользование 88 коров, безвозвратно — 12 лошадей…» Усяго дапамогу атрымалі 155 гаспадарак.

**— Коні — зразумела. А адкуль у партызан аказалася гэтулькі кароў?**

— З тых, што мы адбівалі ў немцаў… Гэта ўсё да праблемы забеспячэння і поўнага ўзаемаразумення з мясцовым насельніцтвам. Такі яскравы факт. За ўсе гады акупацыі ніхто з жыхароў тых вёсак, у якіх зімавалі партызаны, ні разу не данёс немцам. І мы спакойна займаліся сваёй справай.

Падкрэслю: каб не было гэтай усенароднай падтрымкі, гэтай еднасці чалавека са зброяй і чалавека, у якога быў плуг у руках, ніякай гаворкі пра шырокі партызанскі рух не было б.

**— Алесь Ануфрыевіч, а чым займаліся партызаны ў вольны час?**

— Асабліва вольнага часу ў партызан не было. Як прыходзіла ноч, мы ішлі на заданне — на чыгунку, да мастоў, пад нямецкія гарнізоны. Альбо туды, дзе можна было раздабыць кароў, коней. Ноч для партызан была абсалютна рабочым часам. Здаралася, што за ноч мы праходзілі па 15—20 кіламетраў. Так што днём дай бог адаспацца як след, набрацца сілы, каб вечарам зноў ісці на баявое заданне.

А з другога боку, партызаны і на вёсках рабілі многа рознай работы. Мужчынскага насельніцтва фактычна не было, дык мы і аралі, і сеялі, і касілі.

Пазней, улетку сорак чацвёртага, калі стварылася пагроза нямецкай аблогі, мы па перыметры партызанскай зоны рабілі сур’ёзныя ўмацаванні — капалі акопы поўнага профілю, рыхтавалі дзоты. Так што і вайсковай, і гаспадарчай работы хапала больш чым трэба.

І ўсё ж, безумоўна, надараліся і вольныя вечары, калі не трэба было ісці на аперацыю. Тады кожны займаўся хто чым мог. Памятаю, калі мы яшчэ жылі ў лесе, у адзін з такіх вечароў у нашу зямлянку сабралася чалавек з дваццаць і я стаў ім чытаць на памяць купалаўскі «Курган» — усю паэму ад пачатку да канца. Чытаў, пэўна, з гадзіну, але ніхто за гэты час не павярушыўся, не кашлянуў. Слухалі, як зачараваныя. І пасля гэтага, як толькі выпадала вольная хвіліна, прасілі чытаць яшчэ і яшчэ. І не толькі «Курган».

Спачатку я не разумеў: чым іх прывабіла купалаўская паэма? І толькі пазней, розумам ужо дарослага чалавека, я зразумеў чым — Купала паказаў мужнасць чалавека ва ўвесь свой аб’ёмны рост. Калі магнат паклікаў гусляра, каб ён пацешыў яго гасцей і насыпле за гэта поўныя гуслі дукатаў, перад ім паўстаў выбар: прадацца альбо сказаць праўду. І ён выбраў праўду. І свядома пайшоў на смерць.

Тое ж самае стаяла і перад партызанамі. На родную зямлю прыйшоў чужынец, прыйшоў захопнік. І трэба было выбіраць: альбо браць у рукі зброю, ведаючы, што за гэта будзе, альбо скарыцца і працаваць на акупанта. Мужнасць гусляра надавала партызанам упэўненасці ў правільнасці свайго выбару, што іншага выйсця ў іх няма, як толькі бараніць свой дом, сваю зямлю, змагацца за праўду. Мужнасць нараджалася з неадкуль, а з любові да роднага краю і жывілася мастацкім словам.

**— Алесь Ануфрыевіч, не магу не задаць вам адно балючае пытанне, якое апошнім часам даволі актыўна мусіруецца. Маўляў, навошта было право-**



*З дачкой Наталляй, жонкай Людмілай Барысаўнай, унукам Жэнем і швагеркай Тацянай.*

**дзіць гэтыя аперацыі, калі немцы за кожную з іх жорстка помсцілі — спальвалі цэлыя вёскі разам з жыхарамі? Ці варта было дзеля аднаго паліцая ахвяраваць цэлай вёскай?**

— Разумееш, у чым справа… Калі ў сорак трэцім, сорак чацвёртым утварыліся партызанскія зоны, куды немцы баяліся нават совацца, то па сутнасці яны былі прыціснуты да чыгункі. Амаль усе пуці былі ўстаўлены назіральнымі вышкамі, бункерамі. Немцы кантралявалі чыгунку, як лінію фронту. І таму на кожную партызанскую дыверсію яны нічым не маглі адказаць. Асабліва падчас «рэйкавай вайны», калі за адну ноч на чыгунку ад Полацка да Маладзечна выйшла некалькі брыгад і сотні кіламетраў рэек узляцелі ў паветра.

Гэта, па-першае. А па-другое, лёс многіх беларускіх вёсак ужо быў распісаны ў планах фашысцкіх акупантаў. Пытанне было толькі ў часе. Фашыстам не трэба было столькі рабочай сілы, лішак яе планавалася знішчыць. Так што спакойна сядзець і чакаць, калі немцы ажыццёвяць свае людаедскія планы, было б злачынствам.

**— Ваша партызанская эпапея скончылася летам сорак чацвёртага.**

— Так, напрыканцы чэрвеня наша партызанская брыгада імя Варашылава, якой камандаваў легендарны камбрыг Дзмітрый Васільевіч Цябут, злучылася з рэгулярнымі часцямі Савецкай Арміі. Але перад гэтым трэба было яшчэ прайсці праз пякельнае, трагічнае выпрабаванне…

**— Прарыў блакады?**

— Прарыў… Разумееш, гэта было жыццёва важным не толькі для партызан, але і для наступаючых савецкіх войскаў. Чаму? Зараз растлумачу. Немцы ж тут, на полацкай зямлі, на гэтых вышынях, рыхтавалі чацвёртую лінію абароны. Але да лета сорак чацвёртага яны паспелі толькі правесці земляныя работы — адрылі траншэі, акопы, развезлі браніраваныя каўпакі на дзоты, аднак паставіць усё гэта не паспелі. Патрацілі час на аблогу партызанскай зоны і вычышчэння яе ад народных мсціўцаў. Каб быў бяспечны тыл. А каб гэтага не было? Калі б яны паспелі ўмацавацца — колькі савецкіх воінаў палегла б пры штурме гэтых вышыняў! І тыя партызаны, што загінулі пры прарыве, магчыма, ураталі тысячы жыццяў савецкіх салдат.

**— Колькі брыгад трапіла ў аблогу?**

— Чатырнаццаць партызанскіх брыгад. Колькі гэта чалавек? Можна палічыць. Скажам, у брыгадзе Цябута было 1 600 партызан. Памножым на чатырнаццаць і атрымаем прыкладную лічбу. Вялізная грамада! А прарвалася крыху больш як палавіна. Прарыў пачаўся ноччу і працягваўся яшчэ раніцою…

**— А вы са сваім атрадам калі выйшлі?**

— Ужо світала. І гэта было асабліва небяспечна, бо фашысты касілі нас, можна сказаць, прамой наводкай. Многа, многа нас тады палегла. Помню, наперадзе мяне бег Фёдар Кулеш, харошы, малады хлопец з вёскі Літвінава. Яму мінай адарвала абедзве нагі. Калі мы схіліся над ім, ён толькі папрасіў: «Пакіньце мне пару гранат, пакіньце…Я вас прыкрыю…» Гэта было жахлівае месіва.

Мяне там параніла ў другі раз. Калі я бег, справа ад мяне ўпала граната. Бакавым зрокам я ўбачыў яе, упаў на зямлю — і ў гэты момант грымнуў выбух. Мяне ўратаваў камень, за які я паспеў схавацца, ды яшчэ, можа, тое, што прыкрыўся зверху аўтаматам. Асколкамі параніла мне руку і пашчапала прыклад аўтамата.

Мы выйшлі з акружэння і на новай тэрыторыі працягвалі дзейнічаць, не даваць спакою акупантам. Аж покуль не прыйшло поўнае вызваленне. Тады ж у Ветрына адбыўся парад нашай партызанскай брыгады. Нас было не вельмі многа на тым парадзе. Быў сонечны летні дзень. Мы ішлі па ветрынскіх вуліцах — абадраныя, многія перабінтаваныя, з вінтоўкамі ці аўтаматамі за плячыма і бясконца шчаслівыя. Нам не кідалі кветак — у спаленым Ветрыне людзей амаль не было, і адзінай музыкай, апрача той, што гучала ў нашых сэрцах, быў грукат танкавых матораў. Танкі ішлі на Захад. Нашыя танкі, з чырвонымі зоркамі на брані…

Праз дзень я прыехаў у родны горад. Хата над Палатой уцалела, але сустрэла мяне нямой цішынёй. Суседка мне расказала, што маці, братоў і сястру фашысты некуды вывезлі. Я пасядзеў пад бярозаю, якую яшчэ калісь пасадзіў бацька, паслухаў яе самотны пошум і падаўся ў Ветрына. Тыдні два мы былі яшчэ там, лавілі ў лясах рэшткі недабітых гітлераўцаў, а потым наша брыгада, апрача тых, хто быў пакінуты на рабоце па аднаўленні гаспадаркі, папоўніла Трэці Сталінградскі танкавы корпус. Я трапіў у Дзявятую гвардзейскую брыгаду. Разам са мною з нашага атрада былі расіянін Уладзімір Сальнікаў, украінец Іван Піліпенка і яшчэ некалькі чалавек.

Пачаліся мае франтавыя будні. Восенню сорак чацвёртага пад Шаўляем я трапіў у першы сур'ёзны бой. Ноччу мы незаўважна ўклініліся ў глыбокую нямецкую абарону, а калі раніцай узышло сонца ўбачылі, што зайшлі занадта далёка. Нам пагражала акружэнне. Бой быў цяжкі, кровапралітны. Наш танк быў падбіты, загарэўся. Пад шквальным агнём мы адыходзілі назад.

Як зараз помню, я дабег да вялікага каменя, абышоў яго збоку і ўжо хацеў выскачыць на гравійку, як справа ўзарваўся снарад. І некалькі асколкаў балюча ўпіліся мне ў шыю і ў нагу. На маё шчасце, па гравійцы ў гэты час ехала запрэжка са скрынкаю ад саракапяткі. Вазніца спыніў каня, паклаў мяне на гэту скрыню і пагнаў. Мы ўскочылі ў лес, дзе стаялі студэбекеры, і спыніліся. Вазніца некаму крыкнуў: «Вазьміце параненага!» Яму, чую, адказваюць: «А што я з ім буду рабіць?»

І ўсё ж мяне ўзялі, паклалі ў кузаў. І я пралежаў там усю ноч. Без аніякай дапамогі. Траціў прытомнасць, ачуньваў. І тады бачыў цёмнае зорнае неба, чуў, як вакол грыміць бой. І зноў упадаў у забыццё.

На досвітку сталі заводзіць маторы. А тут якраз міма едзе санітарная машына. Яе спыняюць: «Забярыце параненага!» У адказ раздражнёнае: «А куды я яго забяру? Поўная машына!»

Нейкім чынам усё ж угаварылі медыкаў. Мяне вывалаклі з кузава і ўціснулі сяк-так у санітарную машыну. Прывезлі ў армейскі франтавы шпіталь, што быў разгорнуты ў густым алешніку. Зрабілі аперацыю. Здзівіў хірург, які назаўтра ў мяне пытаецца: «Какие вы языки знаете?» Аказваецца, калі мяне рэзалі, я адчайна лаяўся — па-беларуску, па-руску, па-нямецку.

Пасля мяне перавезлі ў прыфрантавы шпіталь, і там я праляжаў каля тыдня. Раны не загойваліся, і мяне эвакуіравалі ў далёкі тыл, пад Арэнбург, на станцыю Сарочынская. Там зрабілі аперацыю паўторна — і мае раны сталі зажываць. І ўжо к зімоваму наступу на Варшаву я быў у страі. Як я рваўся ў сваю Дзявятую гвардзейскую, марыў трапіць да сваіх аднапалчан, з якімі прыняў баявое хрышчэнне, але хто там у цябе пытаўся. Адправілі ў запасны полк, а там па разнарадцы — куды трэба было фронту.

Я чаму на гэтым акцэнтую ўвагу? Справа ў тым, што за той бой пад Шаўляем, як я дазнаўся значна пазней, мяне прадставілі да ордэна Славы III ступені. І калі б я трапіў да сваіх, ордэн атрымаў бы своечасова. А так ён знайшоў мяне толькі праз 55 гадоў.

Але самай вялікай узнагародай мне сталася тое, што я жывы і здаровы дайшоў да Берліна, распісаўся на сцяне рэйхстага. Хаця баі былі страшныя, жорсткія, і я нават не ведаю, як я ўцалеў у гэтай вогненнай віхуры. Часам нават думаю пра тое, што, можа, там, наверсе, той, хто распараджаецца людскімі жыццямі, паглядзеў на ўсё і вырашыў: няхай вось і гэты застаецца жыць, хай стане пісьменнікам і раскажа пра ўсё наступным пакаленням, каб ведалі, што такое вайна.

**— Сумнавядомы Суворау напісаў кнігу, у якой спрабуе пераканаць, што вайну справакаваў Сталін, што Савецкі Саюз збіраўся зрабіць марш-кідок на Захад і прыдушыць фашызм у яго логаве.**

— А мне здаецца, што Сталін выдатна разумеў усе наступствы такога кроку. Разведка ў нас была пастаўлена ого як! І Сталін добра ведаў настроі кіраўнікоў заходніх краін. Калі б мы першыя пачалі вайну, то ўвесь свет закляйміў бы Савецкі Саюз як агрэсара, як захопніка. І тады ніякай кааліцыі не было б. І яшчэ невядома, чым бы ўсё скончылася.

Канешне, мы паклалі на алтар Перамогі неверагодна цяжкія ахвяры, але ў рэшце рэшт ўратавалі чалавецтва ад карычневай чумы. І калі Вялікая Перамога будзе свяціць пуцяводнай зоркай для новых пакаленняў — гэтыя пакаленні будуць жыць шчасліва.

## Напісанае — застаецца

**— Алесь Ануфрыевіч, вы маглі стаць шафёрам (вадзіцельскае пасведчанне атрымалі перад дэмабілізацыяй з арміі), маглі стаць тэхнікам-тэлеграфістам (вам абяцаў гэту пасаду ваш лепшы сябра Сяргей Зімніцкі), у рэшце рэшт, маглі застацца журналістам (сем гадоў адпрацавалі ў абласной газеце і мелі папулярнасць сярод чытачоў), а сталі пісьменнікам. Калі вы адчулі, што літаратура — ваша адзіная і самая галоўная справа жыцця?**

— Цяжка дакладна сказаць, калі… Мне ўвесь час, колькі сябе помню, хацелася пісаць. У школе, у партызанах, на фронце. Крэмзаў розныя допісы, нешта змяшчалі ў насценным друку, нешта нават друкавалі ў газетах. А першы літаратурны твор я скляпаў восенню сорак другога. Гэта быў верш пра маці. Я ляжаў паранены і сумаваў. У хаце было халаднавата, але мяне саграваў світар, які перадала маці. Сэрца маё агортвала туга і пяшчота. Захацелася выказаць свае пачуцці словам. Я ўзяў аловак і самі сабой склаліся зарыфмаваныя радкі. Мне цяжка цяпер меркаваць пра іх вартасць, бо верш не захаваўся. Але добра памятаю шчаслівы стан творчага гарэння, які валодаў мною ў той вечар.

Аднак свой пісьменніцкі стаж я адлічваю з крыху пазнейшай даты. 7 лістапада сорак трэцяга года ў газеце падпольнага Ветрынскага райкама партыі быў змешчаны мой невялікі артыкул за подпісам Саша С., камандзір падрыўной групы. Так што сёлетняй восенню будзе роўна 70 гадоў, як я звязаў свой лёс з друкаваным словам.



*На легендарным «Прарыве»: з камандзірам брыгады Д. В. Цябутам і камісарам атрада «Бальшавік» І. І. Стыкелем.*

Але пісаць, друкавацца і адчуваць сябе пісьменнікам — гэта розныя рэчы. Першае маё апавяданне «Рыбацкае шчасце» было апублікавана ў 1948 годзе. У тым жа годзе выйшла з друку і мая першая кніжка — дакументальная аповесць пра Героя Сацыялістычнай Працы, звеннявую з калгаса «Партызан» Полацкага раёна Раісу Пятроўскую. Мастацкія нарысы друкаваліся ў рэспубліканскіх часопісах «Работніца і сялянка», «Беларусь». Маё імя, відаць, было ўжо заўважана ў літаратурным асяроддзі, таму што я быў запрошаны ў Мінск на нараду маладых пісьменнікаў.

Паваротным момантам у маім лёсе лічу той дзень, калі мне прыйшло пісьмо з Саюза пісьменнікаў Беларусі, у якім Ілья Гурскі паведамляў мне: «Літаратурны інстытут імя Горкага ў Маскве аб'яўляе набор студэнтаў. Калі вы жадаеце атрымаць вышэйшую літаратурную адукацыю, то павінны…» І далей указвалася, якія дакументы, акрамя твораў, мне трэба паслаць.

Канешне ж, я неадкладна ўсё неабходнае зрабіў і стаў рыхавацца да экзаменаў. І якая ж была мая радасць, калі нарэшце гэтыя экзамены здаў і прыйшло паведамленне, што я залічаны студэнтам літінстытута. Гэту радасць не змяншала нават тое, што залічаны я быў умоўна: без інтэрната, без стыпендыі, з абавязковым прадстаўленнем атэстата сталасці да першага студзеня. Галоўнае: збывалася мая запаветная мара — вучыцца. І яшчэ: цешыла, грэла душу ўсведамленне, што гэта было першае афіцыйнае прызнанне маіх пэўных літаратурных здольнасцей.

Першы год вучобы даўся мне надзвычай цяжка. Акрамя заняткаў у інстытуце я кожны вечар хадзіў яшчэ ў школу рабочай моладзі, здаваў экстэрнам экзамены за сярэднюю школу, і к канцу навучальнага года меў ужо атэстат сталасці, між іншым, з адзнакамі «добра» і «выдатна».

Пасля гэтага пайшлі справы на лад і ў інстытуце. Я на выдатна здаў сесію, атрымаў інтэрнат, а таксама персанальную стыпендыю імя Бялінскага — 580 рублёў, на той час немалыя грошы. Гэтую стыпендыю, дарэчы, я атрымоўваў усе гады, што вучыўся. Для мяне тое было сур'ёзнай матэрыяльнай падтрымкай, бо я мог разлічваць толькі на самога сябе.

І я табе скажу шчыра: каб не было ў мяне гэтай жыццёвай павароткі, каб мне не ўсміхнуўся шчаслівы лёс з Літаратурным інстытутам, невядома, ці стаў бы я пісьменнікам наогул. А так я трапіў у асяроддзе, жывучы ў якім, нельга было не пісаць. А з якой радасцю я выбіраўся ў камандзіроўкі, што давалі мне часопісы

«Огонёк», «Знамя», газеты «Известия», «Литературная газета», «Труд». Дзякуючы гэтаму аб'ездзіў паўкраіны, быў, што называецца, на самым пярэднім краі жыцця. Не прыгадаць усе месцы, дзе пабываў, не пералічыць імёны ўсіх цікавых людзей, з якімі сустракаўся! Краснаярск і Іркуцк, Ангара і Брацк, востраў Альхон на Байкале і Амур, пыльныя стэпы Хакасіі і Мінусінск. Я быў уражаны, ашаломлены тымі цудамі, што тварыў на зямлі савецкі чалавек.

Мне пашанцавала, напрыклад, трапіць на будаўніцтва Брацкай ГЭС. Бачыў, як падалі на зямлю стогадовыя кедры, працаваў на адной машыне разам з вясёлым хлопцам з Беларусі, стаяў на базальтавых плітах, на якіх чырвонай фарбай было напісана, што тут будзе пабудавана магутнейшая ў краіне электрастанцыя. Пліты гэтыя даўно ўжо на дне рукатворнага мора, якое разлілося ля плаціны Брацкай ГЭС, але ўспаміны пра тыя дні ўсё яшчэ жывуць у маёй душы. А самыя яркія ўражанні, самыя значныя падзеі ўвасоблены ў маёй студэнцкай аповесці «Кедры глядзяць на мора». Аповесці, якая была залічана ў якасці дыпломнай работы.

**— І якая, дарэчы, надзвычай прыхільна была сустрэта як чытачамі, так і крытыкай. Я налічыў: на кнігу было змешчана восем станоўчых рэцэнзій — у беларускім і саюзным друку. Няўжо і пасля гэтага вы не адчулі сябе пісьменнікам?**

— Не. Не адчуў нават тады, калі ў 1961 годзе прынялі ў Саюз пісьменнікаў, калі ў1972 годзе за аповесць «Самы высокі паверх» атрымаў прэмію Ленінскага камсамола Беларусі. Разумееш, літаратура — настолькі сур'ёзная справа, што яна патрабуе ад таго, хто ўзяўся за гэты занятак, усяго сябе, з найвышэйшым напружаннем думак, пачуццяў, душы, сэрца. Я ж свае першыя творы пісаў прыхваткамі, між іншых клопатаў. І мне здавалася, што я ўклаў у іх не ўсё, што меў, што хацеў, што мог, і таму пахвалу ўспрымаў як аванс.

Сапраўдны смак пісьменніцкага хлеба я адчуў, калі ў 1973 годзе пайшоў на вольны хлеб. Калі ўпершыню прыступіў да сваёй галоўнай тэмы — тэмы вайны. Некалькі гадоў напружанай працы аддаў я на асэнсаванне гэтага складанага, трагічнага перыяду ў нашай гісторыі. Былі напісаны раманы «Верай і праўдай», «Літасці не чакай» і «Памерці заўсёды паспееш», якія склалі своеасаблівую трылогію. Атрымалася шырокае, панарамнае палатно, у якім узноўлена барацьба з фашысцкімі акупантамі на беларускай зямлі ад першых дзён вайны да вызвалення.

**— Вы сказалі, што ўзяліся за ваенную тэму толькі ў 1973 годзе. Амаль трыццаць гадоў пасля Перамогі. Чаму так доўга маўчалі, маючы багаты вопыт і партызанскай барацьбы, і франтавых баёў?**

— Чаму маўчаў?.. Пісаць, седзячы далёка ад тых мясцін, дзе ляжаць партызанскія сцежкі, цяжка. Але, убачыўшы іх, зірнуўшы на тыя лясы, на тую зямлю, дзе кожная выспачка паліта крывёю тваіх паплечнікаў, дзе ў кожным бары вечным сном спяць народныя мсціўцы, я не мог заставацца спакойным, вочы засціла смуга, і даўняя туга сціскала сэрца. Спрабаваў сесці і пісаць. Мроіліся, стаялі перад вачыма, як жывыя, і тыя людзі, і тыя трывожныя дні, і стукала ў скронях кроў, а словы не клаліся на паперу… Спатрэбіўся час, каб усё адстаялася, выспела ў душы і адлілося ў мастацкае слова.

**— Алесь Ануфрыевіч, лёс практычна ўсіх вашых твораў складваўся даволі шчасліва. Яны выходзілі асобнымі кнігамі, даволі вялікімі тыражамі. Скажам, раман «Жанчына» меў фантастычны нават па тым часе тыраж — сто тысяч экзэмпляраў. Кнігі чыталіся не толькі тут, на Беларусі, але і за яе межамі. І толькі аднаму твору не пашанцавала. Я маю на ўвазе раман «Тры непражытыя дні». Што гэта было: аб'ектыўная крытыка ці нейкія літаратурныя інтрыгі?**

— Інтрыгі, братка, ды яшчэ й якія! І не толькі літаратурныя, а і палітычныя. Ты ж ведаеш, я ў той час працаваў у ЦК КПБ, загадчыкам сектара мастацкай літаратуры. Пасада мая вымагала аб'ектыўнасці і прынцыповасці ў ацэнцы як асобных мастацкіх твораў, так і літаратурнага працэсу ў цэлым. На жаль, мая думка

не заўсёды супадала з пазіцыяй тадышняга кіраўніцтва Інстытута літаратуры. І я адчуваў, што недзе мне гэта адгукнецца. Так яно і здарылася. Мае нядобразычліўцы скарысталіся раманам «Тры непражытыя дні», які друкаваўся ў двух нумарах «Полымя» і зачытваўся ў бібліятэках да дзірак. Раман, у якім я дазволіў сабе сказаць пра каханне крыху больш, чым гаварылася тады ў нашай літаратуры. Вось за гэта мае крытыкі і ўчапіліся. Вакол рамана закруцілася Бог ведае што. Пачалося самае сапраўднае ганенне. Уяўляеш, твор яшчэ не быў нават перакладзены на рускую мову, а маскоўскі часопіс «Литературное обозрение» ўжо выступіў з разгромным артыкулам, не пакідаючы ад рамана каменя на камені.

**— І хто ж быў аўтар?**

— Дзеля гэтага я павінен зрабіць невялічкае адступленне. Усе гады свайго студэнцкага жыцця я быў членам парткама інстытута. І вось пад канец маёй вучобы заканчваецца будаўніцтва першага ў гісторыі нашай навучальнай установы інтэрната. Да гэтага пад інтэрнат выкарыстоўвалі прыстасаваныя старыя пісьменніцкія дачы ў Перадзелкіна. І справа ў тым, што адзін пад’езд у гэтым вялікім сяміпавярховым доме аддалі пад жыллё для выкладчыцка-прафесарскага складу. Ідзе размеркаванне кватэр. І тут раптам сярод прэтэндэнтаў з’яўляецца новая фігура — Міхаіл Пархоменка, узяты на пагадзінную аплату літаральна месяц таму. Да гэтага ён працаваў у Львоўскім універсітэце, загадчыкам кафедры, якая была ліквідавана пастановаю ЦК КПСС. Пархоменку запрасіў у Літінстытут рэктар Леў Озераў, яго добры сябра. І гэтаму нававбранцу, які не паспеў, як кажуць, абагрэць нагу, з ходу выдзяляюць трохпакаёвую кватэру.

Напярэдадні сумеснага пасяджэння парткама, прафбюро і адміністрацыі інстытута, на якім павінны былі зацвярджацца спісы размеркавання кватэр, я дачуўся, што тут робіцца вялікая несправядлівасць. Загадчыку кафедры літаратурнай творчасці, які працуе ў інстытуце з самага пачатку, даюць аднапакаёўку, а Пархоменку — тры пакоі.

Я пайшоў да сакратара парткама, Міхаіла Заарбабава, і кажу: «Гэта — несправядліва!» Той развёў рукамі: «Ты ж ведаеш, яны — сябры». — «І вы змаўчыцё?» — «Нават калі я скажу, хто мяне падтрымае?» — «Я падтрымаю. І скажу ўсё, што думаю». — «А гэта ўжо справа твайго сумлення…»

І вось ідзе пасяджэнне. Я ўстаў і сказаў пра недапушчальную несправядлівасць, запатрабаваў перагледзець спісы. Трэба было бачыць, як пасвятлелі твары прысутных. Усе чакалі гэтага, але ніхто не адважваўся сказаць праўду першым. А за мною пачалі выступаць і іншыя.

Я святкаваў перамогу. Пархоменку замест трохпакаёвай далі аднапакаёвую кватэру, і то пры ўмове, што ён здасць жыллё ў Львове. Канешне ж, ён гэтага дараваць мне не мог. І калі паўстала пытанне, каму б заказаць разгромную рэцэнзію на мой раман, кандыдатуру доўга падбіраць не давялося. На такую прапанову Міхаіл Пархоменка ажно пацёр рукі: «З задавальненнем!»

Наколькі гэтая крытыка была «аб’ектыўнай» сведчыць хоць бы такі факт. Напярэдадні ў газеце «Літаратура і мастацтва» ў аглядным артыкуле сучаснай прозы раман «Тры непражытыя дні» быў названы лепшым творам года.

**— Скажыце, калі ласка, а калі б вы працавалі не ў ЦК, а дзе-небудзь у іншым месцы, было б такое ганенне?**

— Магчыма, і не было б. Таму што заказ на разгромную рэцэнзію быў санкцыянаваны адным цэкоўскім работнікам, прозвішча якога я не хачу тут называць. Бог яму суддзя!

На жаль, у гэтую непрыстойную валтузню былі ўцягнуты і некаторыя сумленныя, паважаныя мною пісьменнікі. На чарговым пленуме СП выступіў Іван Мележ і сказаў літаральна наступнае: «Вы паглядзіце, што робіцца… Голыя жанчыны пачалі скакаць па старонках нашай цнатлівай беларускай літаратуры».

Праўда, пасля, калі я з Дома літаратара ішоў дахаты і спыніўся на мастку праз Свіслач, паглядзець, як гуляе рыба, Мележ мяне дагнаў, паклаў мне руку на плячо

і кажа: «Даруй, калі ласка, не хацеў я гаварыць гэтага. Вырвалася. Хлопцы мяне падкруцілі…» — «Іван Паўлавіч, — адказаў я яму, — аб чым гаворка? Твор напісаны, твор жыве сваім жыццём. Мы ж ужо ўлады над ім не маем. Ён ужо ў руках часу…»

І цяпер, калі ўжо прайшло дастаткова часу, добра бачна, што ніякіх рэальных падстаў для такой знішчальнай крытыкі не было. Перачытваючы тыя старонкі, дзе нібыта скачуць голыя жанчыны, робіцца смешна і сумна. Там не толькі ніякай парнаграфіі, але нават і эротыкі ў сучасным разуменні гэтага слова няма. Значыць, не ў рамане была справа, а ў тым, што некаму патрэбна была мая пасада.

І я зразумеў, што мне трэба сыходзіць. Я напісаў заяву на імя Машэрава і папрасіўся на вольны пісьменніцкі хлеб. Заяву паказаў загадчыку аддзела культуры, а той параіў: «Пакуль не аддавай — Пётр Міронавіч чытае твой раман. Ён будзе з табой гаварыць».

Прайшло некалькі тydняў. Маўчанне. Я ўжо стаў нервавацца. І раптам званок з прыёмнай Машэрава: «Заўтра к канцу рабочага дня нікуды не адлучайцеся. Пётр Міронавіч запросіць вас на гутарку».

І вось тая гаворка адбылася. Пачалася яна недзе а шостай гадзіне і скончылася амаль у адзінаццаць вечара. Гаворка была шчырая, нязмушаная. Пётр Міронавіч мала гаварыў пра раман, больш — пра ролю мастацкага слова ў жыцці грамадства. І ў гэтым сэнсе, сказаў ён, мы можам ганарыцца сваёй літаратурай, тымі традыцыямі, якія закладзены лепшымі майстрамі мастацкага слова. «Ты пайшоў на пэўную рызыку. Гэта смела. Але ў мяне ёсць наконт гэтага свая думка. Можна, я табе не буду яе гаварыць?» — «Хай будзе так,» — пагадзіўся я і падаў заяву. Пётр Міронавіч прачытаў яе і пільна паглядзеў на мяне: «Гэта сур’ёзна?» — «Абсалютна. Усё абдумана і ўзважана». Тады Машэраў выклікае сакратара па ідэалогіі і кажа: «Трэба знайсці яму прыстойную працу, якая б давала магчымасць нармальна жыць і пісаць. ЦК што, ЦК вытрымае, а ён можа зламацца…» — «Пётр Міронавіч, — адказаў я на гэта, — няўжо вы думаеце, што ў былога камандзіра падрыўной партызанскай групы з Полаччыны мужнасці меней, чым у партызанскага камісара Машэрава з Асвейшчыны?»

Пётр Міронавіч узяўся за жывот і смяяўся ад душы. Мы развіталіся цёпла, па-сяброўску.

І трэба сказаць, што дзякуючы Машэраву я змог многія гады спакойна працаваць. Калі некаторыя «дабрадзеі» яшчэ працягвалі па інерцыі назвоньваць у ЦК з рознымі даносамі, загадчык аддзела культуры заўсёды адказваў: у нас да пісьменніка Савіцкага пытанняў няма. Хаця ў тыя гады — канец 70-х—пачатак 80-х — ужо набірала сілу плынь, якая актыўна тачыла падмурак савецкай дзяржавы, разбурала інтэлектуальны пласт, рушыла сілавое поле духоўнасці.

Я пайшоў з ЦК з перакананнем, што раблю правільна. Хаця, прызнаюся, на першым этапе было цяжка. Перш за ўсё — маральна. Таму што мне дудзелі ў спіну адкрыта: ну што, дaслужыўся, цэкоўскі ваяка? Я ўсё гэта мужна перанёс. І, у нейкім сэнсе нават удзячны лёсу за гэту жыццёвую паваротку. Бо сапраўдная пісьменніцкая праца ў мяне пачалася менавіта з 1973 года, калі сышоў з партыйнай пасады. За годам год пачалі выходзіць кнігі. Я нарэшце сур’ёзна заняўся ваеннай тэмай.

Лёс пісьменніка такі: сёння цябе могуць крытыкаваць, заўтра могуць забыць, а праз нейкі час нашчадкі раптам праявяць цікавасць. Пра гэта добра сказана ў адным вершы:

І, можа, я таксама толькі кніга
З лістамі, не даступнымі дажджу.
Няхай маё імя забудуць звыкла,
Я застануся ў тым, што запішу…

***Гутарку вёў***
***Зіновій ПРЫГОДЗІЧ.***

***Працяг будзе.***

Казімір КАМЕЙША

# ЗЯЛЁНАЕ ШКЕЛЬЦА ПАМЯЦІ



*Уладзімір Карызна.*

Паэты любяць гэта слова — Памяць. І сапраўды, як багата сэнсу закладзена і спрасавана ў шасці нейкіх літарах! У якіх самых нечаканых дапасаваннях сцвердзіла сябе гэта слова!.. Тут — і «доўг памяці», і «вечная», і «народная» памяць і нават — «біяграфія памяці». Ды і паэзія сапраўдная часцей за ўсё вынікае з самой памяці. Кожны прыходзіць у яе свет са сваім галоўным вобразам, са сваім «зялёным шкельцам», як гэта здарылася з паэтам Уладзімірам Карызнам. Хто з нас у дзяцінстве не глядзеў праз тую зялёную шкліну на сонца, неба, зямлю, ваду, на само дзяцінства?! Зялёны колер жыцця, як ніякі іншы, пасуе зямлі і жыццю. Нездарма, яны неразлучныя ў сваёй повязі. А для чалавека повязь з усім, што акаляе яго, — бадай галоўная дамінанта яго існавання. Без повязі няма жыцця, а значыць, і няма нічога жывога.

Зусім не фетышызуючы знаёмых нам з дзяцінства рэчаў, паэты заўсёды шукаюць тыя дэталі, якія б мацавалі іх думку, надавалі значнасці таму, з чым яны задумалі дайсці да чытача, прыемна захапіць ды здзівіць яго. Вядомая рэч, што паэзія не там, дзе мы шукаем яе, а там дзе знаходзім. Я і падказваю вам гэты адрас. Ён вельмі просты і гучны. Гэта — дзяцінства. Дзе, як ні ў дзяцінстве, часцей за ўсё і знаходзім мы ўсе тыя самыя «дробязі», схаваныя ад звычайнага вока шклінкі, каменьчыкі, ракавінкі, каб потым з «дробязей» выраслі самі падрабязнасці далёкага і незабыўнага.

А былі ж у нашага пакалення, акрамя ўсяго гэтага, прыроднага і зямнога, зусім іншыя цацкі: гільзы ад патронаў, вінтовачныя і гарматныя ствалы, міны, гранаты, снарады… Пакалечыўшы нашых бацькоў і дзядоў, тыя цацкі ўзяліся і за нас, паваенных. Студэнцкі таварыш расказваў, зусім не ўзважваючы таго, як яны яшчэ ў дашкольныя гады зрабілі засаду, засеўшы пры лясістай дарозе, а калі на ёй з’явіўся выпадковы чалавек на ровары, разанулі па ім чэргамі з сапраўдных аўтаматаў. Той кінуў ровар — ды ў лес, а яны — сабе наўцёкі, пакідаўшы тыя аўтаматы, са слязьмі ды крыкам…

Нават згадваць такое вусцішна. Але яно было.

«Зялёнае шкельца» памяці Уладзіміра Карызны паказвала нам, бліскавіцаю выхоплівала здалёку вось які дыямент:

Пасля вайны
усёй сям’ёй
Мы ехалі
з лесу дамоў
на возе.

Рыпелі колы —
на мове сваёй
Радаваліся перамозе.

Лета ў голыя спіны пякло.
Чорныя коміны
сэрца калолі.
Мы ведалі,
наша згарэла сяло,

Ды ехалі:
Нам было міла яно і такое.

Ехалі —
раптам
прамень з зямлі,
І з воза я шуснуў,
Аж маці рванула за лейцы…
Дзіцячыя рукі ўзнялі
Зялёнае шкельца…

Яшчэ раз паўтару тое, што паўтаралі многія творцы і да мяне, але крыху сваім ладам: «Паэт піша свае творы пяром і чарнілам дзяцінства». Вось тут мне могуць запярэчыць мае ж аднагодкі: «А калі ў мяне не было таго дзяцінства? Я што, пісаць тады не магу?» Мушу запярэчыць: «Як жа гэта не было?» Не дадзена чалавеку пераскочыць праз нейкую сваю ўзроставую пару. Дзяцінства ў яго мусіць абавязкова быць. Іншая справа, што па волі лёсу ды часу выдалася яно нялёгкім, босым, галодным, бесхацінным, не такім, як суджана самой прыродай.

«У нас не было дзяцінства» — гэта сцвярджэнне суадносіцца да майго пакалення, да якога належыць і Уладзімір Карызна. Гэта нам, падшыванцам, даводзілася пілаваць ды калоць дровы, пасвіць кароў, вадзіць на начлег коней, а яшчэ разам з матулямі запрагацца ў плуг ці барану. Гэта было жыццё, а яно ніколі не пазбаўляе чалавека памяці. Тым не менш у сваім дзяцінстве «без дзяцінства» мы ўсё ж шукалі сваё запаветнае «зялёнае шкельца».

Згадваю К. Паўстоўскага. Вось што ён піша ў сваёй вядомай «Залатой ружы»: «Паэтычнае ўспрыняцце жыцця, усяго, што акаляе нас,— найвялікшы дар, што дастаецца нам ад пары дзяцінства.

Калі чалавек не растраціць гэты дар на працягу доўгіх цвярозых гадоў, то ён — паэт ці пісьменнік. Урэшце розніца паміж абодвума невялікая.

Адчуванне жыцця як непарыўнай навізны — вось тая ўрадлівая глеба, на якой квітнее і выспявае мастацтва». Вельмі слушныя і справядлівыя словы. На вялікі жаль, часта мы хаатычна топчамся на той «урадлівай глебе», не ведаючы сапраўднай цаны ёй. Ёсць толькі падсвядомае адчуванне гэтага, а свядомае разуменне самой каштоўнасці прыходзіць надта запозна, ды і то, калі чалавек бярэцца за прозу. За прозу паэт Уладзімір Карызна, здаецца, ніколі не браўся, а ўражлівага матэрыялу, поўнага сапраўднага жыццёвага трагізму, вельмі шмат у ягоных вершах ды паэмах. Думаецца, яго хопіць і на будучыя новыя творы.

Летам, едучы са свайго рудзенскага лецішча ў мае пушчанскія Малыя Навікі, ніяк не абмінеш і Крупіцы, здаўна славутай сваімі музыкамі. На сучасны лад забудаваная вёсачка-гарадок мне яшчэ заўсёды нагадае і яго, Уладзіміра Карызну. Ён нарадзіўся тут побач, у суседняй прылеснай вёсцы Закружка ў 1938 годзе. Праз тры гады пачнецца вайна, і бацька будучага паэта Іван Ціханавіч возьме ў рукі зброю, падасца ў партызаны. А сям'я апынецца пад пагрозай расправы — фашысты не цырымоніліся з сем'ямі партызан. Гэта навакольныя жыхары добра ведалі. І тады маці разам з дзецьмі вымушана была ратавацца ў партызанскім лагеры. Лес стаўся для сям'і і ратоўцам, і кармільцам адначасова:

Лесе, больш чым каму
Табе абавязаны я,
Бо прыняў у вайну,
Ты дзяцінства маё ў сваё голле.

Як лісток
Аб шышку маленькую,
Сосен сям'я
Гадавала мяне,
Не шкадуючы ласкі ніколі.

Мне свяцілі суніцы,
Як зоры,
Якія закрыла вайна,
Мне былі, нібы хата,

Зялёныя шаты.
А што голадам пахла
Дзяцінства маё ў лахманах,
Дык хіба ж ты,
мой лесе, у тым вінаваты!

Малюнкі таго ваеннага маленства, як жывыя, паўстаюць перад намі ў паэме «Бацька». Зялёнае шкельца паэта робіць сваю справу. Праз яго, як праз магічны акуляр, вяртаем мы свежымі, з усімі дэталямі і дробязямі далёкія ваенныя падзеі. Відаць, усё ж у памяці нічога дробязнага не бывае. Усё, што ёй засведчана, мае сваю вагу, сваю меру перажывання, сваё месца на паліцы ўспамінаў. У тым жа сумным знойдзецца заўсёды месца і вясёламу. Магчыма, сама дзіцячая душа ды памяць выбіраюць для сябе тое, чаго ёй не хапае ў паўзмрочных абставінах ляснога бытавання.

Бацька паэта Іван Ціханавіч слыў не толькі добрым цесляром ды аратым, але і музыкам. Звыклая балалайка была вельмі паслухмянай у яго руках, не згадвае паэт, што яна плакала, хутчэй за ўсё смяялася, цешыла і клікала:

І ў зямлянках
Пагулянка
На свята ў кожнага была,
І балалайка,
балалайка
Душу маланкай
Апякла!

Яна у бацькавых руках,
Нібы ручай
Пад сонцам веснім,
Свяцілася, звінела песняй
І сэрца клікала у шлях!

Пакалечаная вайной зямля вярталася да жыцця, пачалі адбудоўвацца спаленыя вёскі. У 1946 годзе малы Уладзік упершыню пераступіць парог школы. Вучыцца ён будзе ў Крупіцкай школе. Пра сваіх настаўнікаў, здаецца, паэт нідзе не згадвае. Трэба зазначыць, што ролю настаўніка вельмі пераканаўча выконвала і сама вайна. Урокі ў яе былі свае. Ужо ў раннім дзяцінства яна не саромелася паказаць хлапчуку не толькі твар працаўніка, героя, але і здрадніка, чужынца. Спазнаць такі чалавекападзел ужо ў маленстве каштуе шмат. Тое, што давала жыццё, часта не маглі даць самі падручнікі.

Крытык Уладзімір Гніламёдаў так бачыць самае характэрнае ў творчасці Уладзіміра Карызны: «Я хацеў бы адзначыць дзве грані таленту паэта і яго светаўспрымання. Адна — здольнасць адчуваць і бачыць супярэчнасці свету, негатыўныя, балючыя з'явы, другая — імкненне да гармоніі, прыгажосці, да ідэальнага боку жыцця». Цалкам пагаджаюся з гэтай думкай. Але, мяркую, ніхто не возьмец-

ца аспрэчваць і трэцюю грань творчага таленту паэта — песенную і музычную скіраванасць. Відаць, тая ж бацькава балалайка ды яшчэ шчырая ўвага юнака да народнай песеннай спадчыны таксама рабілі сваю справу. Яны змушалі шукаць ва ўсім убачаным саму музыку. Трэба згаджацца і з другім крытыкам Іванам Навуменкам, які зазначае: «Дык вось гэтая бацькава балалайка ды яшчэ народная песня былі першымі настаўнікамі Уладзіміра Карызны». Гэтая сувязь мастацкага слова з музыкай азначылася ўжо на самым пачатку творчага шляху. Музычныя гены бацькі не драмалі і ў сыне. З марай пра акардэон скончыў ён некалі школу, а студэнтам, трапіўшы на цаліну і зарабіўшы там нейкія грошы, падаўся купляць не касцюм, а набыў сабе акардэон. Толькі аднойчы, здаецца, у застоллі на кватэры Міколы Маляўкі, я быў сведкам, на што здольны сам музыка і яго акардэон.

Да чытача Уладзімір Карызна прыйшоў адначасова і вершамі, і песнямі. У свае студэнцкія гады малады паэт не траціў марна часу, пастаянна наведваў семінар пры Саюзе кампазітараў Беларусі, які вялі тады вядомыя творцы Рыгор Пукст і Генрых Вагнер. Потым і сам пачаў пісаць музыку. Хто сёння ў Беларусі не ведае песень «Беларусь мая сінявокая», «Люблю цябе, Белая Русь», «Пацалунак», «Зорачка мая», хто не спявае іх?!

Яго песні прываблiваюць сваёй народнай, з добрафальклорнай падфарбоўкай, асновай тэкстаў, а яшчэ сваёй мяккай меладычнасцю. Бо калі няма мелодыі, няма і песні. Тады яе падмяняюць тамтамна-какафанічныя надрывы, канвульсіўная агонія неспарадкаваных рытмаў, якія мы часта чуем з перунова агучаных дынамікаў. Уладзімр Карызна трымаецца традыцыйнага, народнага і гэтым выйграе. Колькі разоў і сама паэзія наша ўцякала ад фальклору, бурліла ў чужых закутках эксперымента, а потым, спахапіўшыся, зноў вярталася да яго. Ва ўсялякім аблудзе самым разумным бывае пакаяльнае вяртанне да першакрыніц. Сёння нам так не хапае сапраўднай музыкі, але хапае музычнага шалу. А таму, слухаючы песні У. Карызны, заўсёды лагаднееш і адтаеш душой. А сам паэт у адным з вершаў наконт вартасці песні выказваецца вось як:

Ёсць песні —
Як подых вясны,
Нібы салавейка спявае:
Крануцца
Слыху яны —
Душа ажывае.

А ёсць і такія — што страх,
Бы чэрці ў смале гуляюць…

Любіць Уладзімір Іванавіч паўтараць словы славутага Рыгора Шырмы: «Песня — гэта душа народа». Вельмі трапнае вызначэнне годнасці самога народа! Нездарма гаворачы пра чысціню народнай душы, яе нескаронасць, паэт зазначае: «Ды песню адбярыце вы ў народа — // І можна пакарыць тады народ».

І рос, і гадаваўся Уладзімір Карызна сярод маляўнічай беларускай прыроды, з дрымучымі грыбнымі сасоннікамі, дзе сам «бор красой жывою у раку глядзіцца». Яго рака з птушынаю назваю «Пціч» выцякае з самога маленства. А таму да прыроды ён асабліва ўважлівы і чуйны. І славячы яе, і шукаючы ў ёй музыку, ён імкнецца, каб усё было суадпаведна і душы, і настрою, і задуме. Усё ў радку, як і ў жыцці, павінна стаяць на сваім месцы, мець свой лад:

Усё на сваім месцы
Быць павінна:
Лілеі — ў рэчцы,
На імшары — журавіны.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Рабінка родная —
Каля паркана,
А салавейка —
Побач закаханых…

Гэта нібыта ўласнае творчае і жыццёвае правіла. Усё ўрэшце павінна быць простым і зразумелым. Бо паэзія не навука, тут не патрэбна ўскладняць тое, што па сутнасці сваёй ёсць простае.

Некалі працуючы на Беларускім радыё (ён — у музычнай рэдакцыі, а я ў літаратурнай) мы сустракаліся з ім ледзь не кожны дзень. Праз яго бліжэй пазнаёміўся я з многімі нашымі музыкантамі, спевакамі, кампазітарамі. Тады радыё рабіла добрую справу, гуртуючы вакол эфіра самага рознага кшталту творцаў. Мы гэткім чынам сустракаліся і намагнічваліся адзін ад аднаго, узаемаўзбагачаліся.

Памятаю, не даваў мне спакою наш галоўны Анатоль Залеўскі: «Давай наладзім музычна-паэтычную сустрэчу на тваёй Стаўбцоўшчыне!»

«Давай, — кажу. — Але толькі калі Карызна дапаможа…» Уладзімір адразу адгукнуўся на маю прапанову. Начальства не пашкадавала нам тады сваёй новай «Волгі», і мы з Юрасём Сіркам махнулі ў Стаўбцоўскі райкам партыі да сакратара Антона Юнцэвіча, якога я добра ведаў па сумеснай працы ў раённай газеце «Прамень». Сакратара доўга ўгаворваць не было патрэбы, ён сам абедзвюма рукамі ўхапіўся за нашу ідэю. Адразу прызначылі дату вечарыны і пачалі збіраць творчую брыгаду. Летнім днём дзверы свае расчыніў вялізны гастрольны аўтобус. Левым бокам Уладзімір Карызна рассаджваў музычную частку брыгады, праваруч займалі месцы літаратары. Адгукнуліся на наш кліч Рыгор Барадулін і Генадзь Кляўко. Зала раённага Дома культуры была запоўнена да адказу. Моладзь гуртам валіла, каб паслухаць вядомых спевакоў Тамару Раеўскую і Юрыя Смірнова, салістаў ансамбля Леаніда Смялкоўскага. Вечар зацягнуўся, былі на ім, вядома ж, і мясцовыя выступоўцы. Тэхнічная група запісвала вечар на магнітную стужку.

Арганізатар з мяне быў неважнецкі. Добра прадумаўшы ўсе дэталі самой вечарыны, я не ўлічыў аднаго — не падумаў пра вячэру. А маім землякам, з кім я ладзіў той вечар, гэтага, відаць, і трэба было. Як толькі скончылася ўсё — іх і след прастыў у зале. Бачу: сумнавата паглядаюць на мяне мае брыгадаўцы. Адыходзім убок рэдакцыяй і пачынаем шукаць выйсця. Пашанцавала нам у адным — у той дзень на радыё давалі ганарар, я ды яшчэ нехта з нашых паспеў атрымаць яго. Доўга не раздумваючы, селі ў аўтобус, ды паімчаліся ў гастраном на цэнтральную плошчу. Яго ўжо збіраліся зачыняць. Усё, што мелася ў кішэні, пакінулі ў касе. Выбар хоць быў і не надта вялікі, аднак выпіць і закусіць хапала. А вячэралі мы ў начным лесе пры вогнішчы, недзе бліз Коласава. Пасля некалькіх чарак гурт завесялеў, загучалі песні, пасыпаліся жарты, каламбуры.

— Лепей стаяць пад адкрытым небам, чым сядзець пад афіцыйным дахам, — пажартаваў нехта.

Ах, у якую вясёлую сябрыну вылілася тая лясная вячэра!

Вечар той у запісе потым прагучаў у эфіры, былі добрыя водгукі. Спадабалася нават нашаму начальству. Крыўды на сваіх землякоў я ніякай не меў. Але ўрок на далейшае атрымаў добры.

Мне здаецца, тая паездка яшчэ больш зблізіла нас з Уладзімірам Карызнам. І здарылася так, што мы неўзабаве пачалі працаваць разам у часопісе «Полымя». Праўда, надоўга на новым месцы не затрымаліся. У тыя гады, як мне здалося, нам лёгка пісалася. Яго вершаваныя падборкі часта з'яўляліся ў «Полымі» і «Маладосці», у газетах, якія тады любілі і падтрымлівалі паэзію. Зусім шэра сёння выглядае без паэтычных радкоў наш друк. Без іх нават вёрстка сама здаецца куды бяднейшай.

У 1981 годзе Уладзімір Карызна выдаў новую кнігу вершаў і паэм «Цішыня баразны». Хоць амаль усе назвы ягоных кніг ціхія і прыземленыя, голас паэта ў новым выданні прагучаў надзвычай мужна і пераканаўча:

Мне мужнасці трэба нямала.
Мне трэба,
Каб крэпла рука.
І кожнае слова страляла,
Стаяла ў страфе,
Як чака.

Я знаю:
стрываю,
стрымаю,
Згасіўшы вулканы агню,
Бо толькі тады
Утрымаю
святую
сваю
Вышыню!

Зусім зразумела, пра якую вышыню ідзе тут гаворка. Гэта ж тая самая цвёрдая грамадзянская пазіцыя, якую паэт займае ў жыцці, пазіцыя прымання ўсяго чалавечнага і справядлівага і жорсткага непрымання ўсяго варожага чалавеку, непрыхаванага раўнадушша, абыякавасці, пазёрства ды самалюбавання, якіх ва ўсе часы хапае вакол нас.

Вышыня гэта пачыналася з маленечкіх, можа, нават незаўважных звычайных узгорачкаў чалавечай дабрыні і чуласці, адшукных яшчэ раней на зусім непрыкметных скрыжаваннях ваеннага і паваенннага дзяцінства. Хіба і тады добрае не перакрыжоўвалася з дрэнным, хцівае са спагадным? Гэтак і фармаваліся характар, сам лёс ды і паэтычны аўтарытэт таксама.

Некалі ўразіў мяне ягоны верш «Дзіўныя чаравікі». Прызнацца, не люблю, калі вершы пераказваюць. Аднак жа тут без гэтага не абысціся, бо само жыццё падаравала такі незвычайны павучальны абразок. Неяк на рынку паэт заўважыў бабулю, што прадавала журавіны. Яны яшчэ былі зеленаватыя, сабраныя не ў пару, ім яшчэ сядзець на купіне ды даспяваць, але ж бізнес… І згадалася раптам сваё, далёкае, як хлапчуком ( вёска паэта Закружка не так і далёка ад Мінска ) прывёз ён на сталічны рынак шчаўе, «каб на ногі што купіць», прадаўшы яго. І тут «падыходзіць цётачка ў берэце: — Дай бясплатна хвораму, сынок». Расчуліўся, даў хвораму, потым па жменьцы нейкім бабулі і дзеду накінуў. Прадаў тое шчаўе: папіў напітку, з’еў эскімо. І пайшоў глядзець чаравікі. Выбраў, пачаў расплачвацца — не хапае каля сямі рублёў. І вось канцоўка:

Я панік душою і плячыма.
Крылы свае нізка апусціў.
Але раптам падышоў мужчына
І рублі ёй тыя
Заплаціў…

Я гатовы быў
Яму пець песні!

І сягоння,
З далечы гадоў,
Бачу,
Як тады хлапчыну неслі
Чаравікі дзіўныя дамоў.

Вось, аказваецца, чым дзіўныя былі тыя чаравікі. То ж не яны, а сама чалавечая дабрыня несла тады на крылах хлапчыну дамоў. Гэта і ёсць адзін з тых узгорачкаў, з якіх складаецца вышыня чалавечай высакароднасці.

Усё, як вядома, пазнаецца ў параўнанні. У паэме «Родны дом» згадае аўтар і іншага кшталту ўрок, які вынес ён з пасляваеннага свайго дзяцінства. Тут ён убачыў зусім іншага чалавека:

Сам жа, сам
у аглоблі ён
Запрагаў аднасельцаў,
Падганяў пугаўём,
У развалках возячы немцаў…

А я помню кулі і кроў,
Як цяпер —
немцы дзядзьку б’юць —
бачу.
Тры гады мне было, але роў,
Як малыя цяпер не плачуць.

А блакада душыла сяло,
І мы лезлі ў балота,
Разразаючы ногі аб лёд,
І страчалі з нябёс самалёты…

Паэтам майго пакалення, якія «выраслі пад гарматнымі ствaламі» (С. Гаўрусёў), хацелася аднолькава спяваць і пра гераічны подзвіг свайго народа, і захапляцца харaством роднай прыроды, і славіць самае дарагое, заваяванае нашымі бацькамі, — мір на зямлі. Гаварыць хацелася так, каб чулі ва ўсім свеце.

Прырода — гэта тое, што заўсёды сілкуе душу паэта. А тут час запатрабаваў крыху іншага. Аднаго толькі любавання прыродным харaством было ўжо недастаткова. Прыроду ўсё больш і больш крыўдзілі (і сёння крыўдзяць!) самі яе дзеці. Мы пачалі забываць сапраўднае аблічча сваіх рэк, бароў, вёсак і хат. Як тут было маўчаць паэту?

Зямля ад хіміі злюцела,
Не пахне мёдам у вуллі.
І дзе ж ты моладзь, вёска, дзела?
Кругі,
кругі,
кругі пайшлі…

Там і ажаніўся, і з нейкага часу яго прытулкам сталася хата бацькоў жонкі Алы Іванаўны ў вёсцы Бяльмонты на самым беразе непаўторнага возера Дрывяты. Былі і ў мяне цёплыя сустрэчы ва ўтульнай прыазёрнай хаце. Адна запомнілася асабліва.

У тую паездку, дзе нас чакаў паэт, мы адправіліся ўтрох: Уладзімір Шахавец, Хведар Чэрня ды аўтар гэтых радкоў. Да Браслава ляцелі самалётам, славутым «кукурузнікам». Незабыўны Мікіта Сяргеевіч разам з «каралевай палёў» падараваў нам у дадатак і сваю недарагую авіяпадтрымку да яе. У нядужа патрабавальнага аэраплана была дужа свойская конская звычка — любіў ён канюшыну: узлятаў і садзіўся толькі на канюшынішчы. Але затое — хуткі метад зносін! Сённяшнім шыкоўным іншамаркам такое будзе толькі хіба сніцца. У самалёце нас было трох на трох — колькі пісакаў, столькі ж і экіпажаўцаў. Паўгадзіны лёту прамільгнулі як адно імгненне. Пакуль самалёт набіраў вышыню, пакуляўся па нейкіх там паветраных ямах, ясным кветкавым жарам дыхнула канюшынішча. Лётчыкам не хацелася развітвацца — нутром адчулі сваіх аднадумцаў. Дамовіліся, што праз некалькі дзён яны павязуць нас у зваротны шлях. Раённыя журналісты наладзілі нам кароткую экскурсію па райцэнтры, а потым былі Бяльмонты. Гарачыя, сонечныя, паэтычныя. І сёння згадваю белы пясчаны беражок пры маладзенькім сасняку, дзе мы купаліся і закідвалі вуды, і забывалі пра іх. Многа харошых і светлых людзей, неабсяжная блакітная далеч возера, куды скіраваны вочы і думкі. Усё гэта падарожжа мела рыбалоўны інтарэс, але рыба лавілася слаба. Толькі назаўтра раніцой

селі ў лодку, кінулі ў яе рыбалоўнае начынне і паплылі пад вёсламі на самую сярэдзіну возера. Яно ўжо мала чым адрознівалася ад неба — аднолькавая роўная свінцова-блакітная далячынь. Мы раз за разам закідвалі донкі, але рыбацкае шчасце не любіць усялякіх прыблудаў. Пашанцавала толькі маладзейшаму Карызну — ён выцягнуў вужышчаватага вугра. Усім гуртам не маглі яго ўгаманіць, ледзьве пласкагубцамі сашчамілі з кручка, і хутка ён ужо быў у драўляным лодачным палоне.

Недзе побач пагойдваліся чужыя чаўны, шчыравалі арцельшчыкі. На іх і была ўся надзея. Пастукаліся борт аб борт нашы чаўны, сама сабой завязалася зацікаўленая размова. Спачатку не паверылі ў тое, што мы паэты. Давялося даказваць адразу вершамі. Старэйшы Шахавец падышоў наогул здалёк, прабаяў нейкую гісторыю, што тычылася гэтых мясцін. І ў атмасферы, адчулася, адразу пацяплела. З суседняга борта паляцелі ў наш шчупакі, ліні, сераднякі-судакі…

Апоўдні ў гаспадаровым дварышчы Шахавец салодка зацягваўся сінім дымком «Беламору», а мы, маладзейшыя, на нейкіх дошках чысцілі-скрэблі наш улоў, засяваючы луской і двор, і сябе. Тут жа мяне чакаў і двубой з тутэйшым разбойнікам-катом. У адзін момант ён здзічэў, зыркім зялёным агнём запаліў свае вочы і проста з кіпцюрамі кінуўся пад мае рукі. Я не вытрымаў такога напору, і лёгка аддаў яму ўважыстага акуня. І ката… мы толькі бачылі. Было і крыўдна, і нават сорамна. Скажу шчыра, ніколі і нідзе я не сустракаў больш ваяўнічых катоў, чым гэты. Не напісаўся дасюль верш пра яго, а пра возера радкі з’явіліся, і тады, і пазней.

Нецікава такім пагодлівым часам сядзець у сценах хаты, хай сабе і стол гнецца ад шчодрага пітва і азёрнай закусі. Душа прасілася ў лясок, да берага. Мы так і рабілі: сабраўшы важкаватую торбу, кіраваліся да берага. І за жыццё чалавек не выгаварыцца так, як можа яму дазволіць толькі адзін вечар пры вясёлым агні ды кампаніі на ціхім азёрным беразе. Сам бераг, напэўна, і быў найбольш уважлівым нашым слухачом ды суразмоўцам. Надта ж не хацелася потым з ім развітвацца.

Я даўнавата не быў у тутэйшых мясцінах. Шмат што там, напэўна, змянілася. Калі часам сустракаемся з Уладзімірам Іванавічам, заўсёды цікаўлюся, як пачувае сябе хата ля возера Дрывяты. Мы згадваем тады разам і людзей, многія з якіх пацiху адышлі з гэтага жыцця. Не ганарыстыя, вясёлыя, працавітыя, простыя, як скрозь на нашай зямлі, людзі… Змяняецца ўсё ў гэтым жыцці, нават вада ў возеры. Ну а самі Дрывяты застаюцца ў маёй памяці такімі, якімі яны ёсць у вершы У. Карызны:

Мусіць, колюцца акуні,
Калі хвалі ўсхліпваюць,
Сыплюць пырскі сцюдзёныя,
З жоўтых становяцца —
сінімі
Ці,
як вугор перавернуты, —
Зверху белымі,
А знізу —
цёмнымі-цёмнымі…

Гэта засведчана ягонымі вачыма. Што я магу тут дадаць? Кожны бачыць так, як бачыць.

Я згадаў тут адну з бліжніх і, магчыма, самых найдаражэйшых дарог паэта. Але былі ў яго жыцці і намнога даўжэйшыя, што вялі за акіян. З далёкіх дарог паэт таксама вяртаўся са сваімі ўражаннямі, вершамі. Далёкая в’етнамская зямля, напрыклад, якая на вачах беларускага аўтара залечвала свае раны пасля нядаў-

няй вайны, шмат у чым нагадвала яму тое, што ён бачыў на сваёй роднай зямлі ў пасляваенным дзяцінстве. Тыя ж раны, страты, жуда і бесхацінства. Боль чужым не бывае. Але пасля пабачанага ва В'етнаме, яго ў сэрцы паэта пабольшала, адно як памножылася на другое, перакрыжавалася…

Вачыма свайго маленькага героя Кыонга паэт глядзіць на гора, якое прынесла вайна далёкай краіне, а бачыць гора сваё. Я чытаю радкі, якія напісаў студэнт БДУ Нгуен Туан Фонг, прачытаўшы кнігу пра маленькага Кыонга: «І вось на маім стале гэта кніжка… Гартаю старонкі і бачу вачыма беларускага паэта свайго маленькага земляка Кыонга і маіх суграмадзян, занятых нялёгкай працай па аднаўленні жыцця на зямлі, з якой прагналі крывавых агрэсараў. Цяжка яшчэ жывецца. Яшчэ не залечаны страшныя раны вайны, што пакінулі напалмавыя бомбы і снарады. Яшчэ сям'я Кыонга, асірацелая пасля гібелі бацькі, туліцца, як і тысячы іншых сем'яў, у прыстасаванай пад жытво лодцы…»

У нас былі зямлянкі, у іх — лодкі… Пасля вайны, дзе заўсёды бывае чыясьці перамога, усталёўваецца не толькі мір. Пасля вайны людзі думаюць яшчэ пра тое, як адвесці пагрозу новых войнаў. Дзясяткі гарачых «кропак» успыхваюць пастаянна на шматколернай мапе свету. І з кожнай з іх можа ўзгарэцца сапраўдны вулкан. Нават калі і вайна называецца «апошняй», кропку апошнюю пасля гэтага ставіць заўсёды праблематычна. Пішучы гэтыя нататкі, я яшчэ раз перачытаў паэму Уладзіміра Карызны «Размова наросцеж». Памятаю, у захапленні ад гэтага твора быў Анатоль Вялюгін, які благаславіў у друк многія вершы паэта. Паэма і рытмам сваім сугучная вялюгінаўскай строгай і вобразнай танальнасці. Своеасаблівы паэтычны мост — Беларусь — Амерыка — В'етнам — паэт выбудоўвае так, каб па ім можна было прайсці крокамі згоды і сённяшняму, і наступным пакаленням. У гэтай няпростай размове аўтар зноў згадвае тое самае зялёнае шкельца. Яно вяртае нас зноў у далёкі пасляваенны год, калі ў вёску ля Пцічы заяўляецца добры заморскі госць з «юнраўскімі трантамі»:

Ці помніце,
　　　　як мы,
Пазбаўленыя школы,
Каменне,
　　　бы грамы,
На звонкіх
　　　　везлі
　　　　　　колах
Пад новыя вуглы,
Пад новы асновы,
Дзе зыркалі вуглі,
Нібы вачамі совы.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

І песню заспяваць
Была тады прычына,
Як абступілі вас,
Ці помніце,
　　　　жанчыны?

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ці помніце вы іх?
Кляліся ж
　　　　сынам,
　　　　　　хлебам
Змагацца
　　　　з жыл усіх
За мір
　　　пад родным небам…

У адрозненне ад Калумба паэтычнае адкрыццё Амерыкі, пачынаючы ад самога У. Маякоўскага, часта нагадвала яе наіўнае «закрыццё». Зусім не зважаючы на ўсё адметнае ў чужой краіне, на традыцыі, звычаі і лёс людзей, паэты шукалі тут толькі адмоўнае. А таму часта выглядалі перад сваімі чытачамі смешнымі пазёрамі ды наіўнымі сузіральнікамі. Уладзімір Карызна, як мне здаецца, усведамляў, што ў Амерыку ён едзе з місіяй міру і паразумення, таму і шукаў тут хутчэй не тое, што раз’ядноўвае людзей, а што іх лучыць на адзінай планеце. Урэшце, дзе гэта вы бачылі, каб чалавек, пагасцяваўшы ў нейкага чужога гаспадара, потым пачынаў яго бэсціць. Вось і чытаюцца амерыканскія паэтычныя цыклы тых далекаватых ужо часоў сёння з прыўсмехам. Не ўсе, вядома.

Праз зялёнае шкельца памяці можна пабачыць увесь той шлях, які прайшоў паэт Уладзімір Карызна за дзясяткі гадоў сваіх творчых пошукаў. Ніякімі вёрстамі, вядома ж, гэты шлях не вымераеш. Хай і не хуткай была хада, але была яна роўнай і немітуслівай. Ён сапраўды ішоў па жыцці з песняй. Яна і сама сцвярджае, што была запатрабаванай, а галоўнае — пачутай. Спявае яе ўжо не адно пакаленне нашага люду. Музыка колішняй бацькавай балалайкі сёння перагукваецца з цёплымі акордамі сына, з мелодыямі ўнукаў і праўнукаў. А гэта ўжо — не толькі працяг, але і вялікая повязь.

Сёння ён адзін з найбольш вядомых нашых творцаў. А хіба мала гаворыць тое, што паэт з’яўляецца адным з аўтараў Дзяржаўнага гімна Беларусі! Засынаць і прачынацца пад знаёмыя ўрачыстыя гукі і свае словы — думаецца, таксама зусім незвычайнае адчуванне, да якога трэба прывыкнуць.

У кайстры паэтычных набыткаў Уладзіміра Карызны дзясяткі зборнікаў, кнігі для дзяцей, зборнікі песень і пераклады. Больш за сотню вершаў паэта пакладзены на музыку.

Гады бяруць сваё. Сёння «зялёнага шкельца», магчыма, і малавата будзе, каб ахапіць усё пройдзенае і здзейсненае. Тут патрэбна магутнае павелічальнае шкло, якому падуладны вялікія адлегласці і далечы. Але калі створанае ведае ўся краіна, можа, і не варта нічога павялічваць. Яно ўсё навідавоку ды яшчэ мае сваю вагу.



**Віктар ГАРДЗЕЙ**

# ЗА ЛЯСАМІ, ТАМ — ВЯСНА...

У вершы «Зварот да вёскі Гутава», размаўляючы «на мове, небу зразумелай», ён не хоча вяртацца «ў гмах над соннымі бярозамі», бо нарэшце тут знайшоў і сінь вясны і барвы восені. Паэтычная зорка Міколы Федзюковіча цяпер ярка і непагасна гарыць на літаратурным небасхіле Беларусі. Дарэмна, ужо на значным адрэзку творчага шляху, ён шкадаваў, што «песні сваёй, запаветнай, не прапеў яшчэ народу свайму». Але гэтая песня ёсць, гэтая песня прапета, яна і сягоння гучыць далёка і высока, бо хапае ў ёй і шчырага болю, «і шчымлівай сялянскай любві да суровага, душнага поля, да крамянога лета з прыполам, поўным яблык, грыбоў, журавін». Яшчэ ў яго маладым узросце паэзію Міколы Федзюковіча высока ацанілі класікі беларускай літаратуры Іван Мележ, Янка Брыль, Уладзімір Караткевіч, Пімен Панчанка, Міхась Стральцоў.

Радзіма слыннага паэта — глыбінка Пінскага Палесся, дзе ў вёсцы Гутава Драгічынскага раёна 22 мая 1943 года ён нарадзіўся ў небагатай сялянскай сям'і. Бацька, Мікалай Іванавіч, загінуў у вайну, маці, Ксенія Пракопаўна, была калгасніцай. Мікола Федзюковіч скончыў Гутаўскую сярэднюю школу і працаваў лабарантам у гэтай жа школе, фотакарэспандэнтам лунінецкай раённай газеты «Ленінскі шлях». Пасля службы ў Савецкай Арміі вучыўся на аддзяленні паэзіі Літаратурнага інстытута ў Маскве. З 1970 года — рэдактар выдавецтва «Народная асвета», загадчык аддзела літаратуры і мастацтва газеты «Чырвоная змена», рэдактар бюлетэня «Служба быту Беларусі». З 1993 года — літкансультант газеты «Белорусская нива» і адначасова кіраўнік літаб'яднання «Крыніцы» пры «Чырвонай змене». Дарэчы, маладым творцам паэт дапамагаў усё сваё свядомае жыццё. Пра колішнія першыя сустрэчы з ім цёпла згадваюць Мікола Мятліцкі, Віктар Шніп, Леанід Галубовіч, Мікола Трафімчук, Анатоль Кудласевіч, ды мала хто ўзахлёб не піў з ягонай чыстай крыніцы!

Упершыню падборка вершаў самога Міколы Федзюковіча апублікавана ў лунінецкай раённай газеце, дзе іх заўважыў і благаславіў у свет таленавіты журналіст і празаік, вельмі зычлівы чалавек Аляксей Трафімавіч Каўко. У рэспубліканскім друку выступаў з 1964 года. Друкаваўся ў калектыўных зборніках «Слава Арміі Савецкай», «Сэрцам загадана», «Песні любві», «Дзень паэзіі». Аўтар кніг «Зямля — магніт», «Мілавіца», «Птушыны грай», «Макаў цвет». У іх роздум над жыццём сучасніка, трывога за сваю краіну, вера ў перамогу дабра і любові. Чысцінёй пачуццяў, навізной успрыняцця навакольнага свету, свежасцю думкі і вобразнасцю хвалюе паэзія ягонай кнігі «Красадзён», рукапіс якой паэт рыхтаваў сам, але пры жыцці не паспеў выдаць. Вершы Міколы Федзюковіча перакладаліся на літоўскую, рускую, украінскую і іншыя мовы. У 1976 годзе ў перакладах Івана Бурсава ў Маскве выйшла Міколава кніга паэзіі «Птичье дерево».

Паэзія Міколы Федзюковіча з яго адметным талентам, што, здаецца, ажно іскрыцца свежасцю юнацкіх пачуццяў, рэдкай назіральнасцю, суладнасцю думкі і мастацкіх вобразаў запомнілася мне ці не з першых публікацый на літаратурнай старонцы «Гарызонт» у газеце «Чырвоная змена». То быў пачатак шасцідзясятых гадоў — час так званай хрушчоўскай адлігі, увогуле благаславёны час, калі рушыліся цэнзурныя аковы, і нестандартнае паэтычнае слова з цёмных рэдакцыйных калідораў смела і вольна ступіла на вуліцы і стадыёны, як, скажам, у Маскве, ды

галоўнае — адчула павагу і прыхільнасць у сэрцах простых людзей. Акурат тады мой зямляк з-пад Піны і Ясельды праходзіў тэрміновую вайсковую службу, і яго салдацкія вершы стары добры «Гарызонт» друкаваў ледзь не ў кожным сваім выпуску. Сярод тых «армейскіх» падборак непадробнай шчырасцю, душэўным болем і трывогай за чужы лёс, безумоўна, вызначаецца верш з першапачатковай, калі не памыляюся, назвай — «На пасту»:

Неба зоркамі вышыта густа,
неба мне нагадвае хустку,
хустку ў крапінку,
хустку матчыну…
Кожнай знічкай чыйсь лёс адзначаны.
Пад хусцінкай той фіялетавай
ахоўваю планету я.
Выплыў месяц,
вісіць над хвояй.
Відна так —
хоць пішы пісьмо.
Знічка ўпала…
Няўжо,
няўжо я
кагосьці зберагчы не змог?

Калі я чытаў гэты і многія іншыя творы Міколы, надрукаваныя ў газетах і часопісах, то з прычыны свайго хлапечага ўзросту яшчэ не ведаў, што ў крытыцы існуе дужа стандартны, казённы выраз — «творчая лабараторыя пісьменніка». Зразумела, свае асаблівасці былі і ў манеры пісьма майго сябра — ужо тады вядомага, папулярнага паэта. Да прыкладу, ён прынцыпова ігнараваў шарыкавую ручку — усе свае вершы і прозу, газетныя матэрыялы і нават лісты да сяброў пісаў чарнілам, звычайна чорным, ці зрэдку фіялетавым або сінім. Аднойчы, ужо на пачатку сямідзясятых, па службовай камандзіроўцы газеты «Чырвоная змена» прыязджаў у Ганцавічы, і па дарозе з вакзала, напаткаўшы газетны шапік, доўга і прыдзірліва выбіраў сабе чарнільную ручку, балазе, навідавоку ў акенцы «вечных пёраў» было багата, і, упадабаўшы адну з іх, быў вельмі задаволены і шчаслівы, што ўдалося набыць такую цудоўную прыладу працы. Трэба сказаць, гэта была мая другая сустрэча з Міколам Федзюковічам, а пазнаёміліся мы і пасябравалі гадоў пяць таму, на радзіме Адама Міцкевіча, у легендарных мясцінах, дзе геніяльны беларуска-польскі паэт напісаў свае славутыя балады «Свіцязь» і «Свіцязянка».

* * *

Возера Свіцязь, шмат разоў апетае ў прыгожых легендах і баладах не толькі Адама Міцкевіча, напэўна, хвалявалася не менш за нас, пачаткоўцаў, бо менавіта на яго маляўнічых берагах тады, у апошняй дэкадзе мая 1968 года, праходзіў другі рэспубліканскі семінар творчай моладзі. Колькі дзён запар неба хмурылася, з азёрнай роўнядзі цягнула сырасцю і холадам, часта накрапваў дождж, але калі распагодзілася, «семінарысты» з утульных пакояў мясцовага пансіяната дружна высыпалі на зялёнае ўлонне. Не ведаю, як там было ў мастакоў, кампазітараў, кінематаграфістаў, а паэты, і зусім юныя, і трохі старэйшыя ўзростам, пастаянна групаваліся вакол Міколы Федзюковіча — студэнта Літаратурнага інстытута імя М. Горкага, у якога па шчаслівым супадзенні якраз напярэдадні семінара выйшла першая тоненькая кніга паэзіі «Зямля-магніт». Аднаго разу, калі сонца свяціла асабліва пяшчотна і ласкава, хлапечым гуртам мы ляжалі на травяністым беразе неспакойнага возера, паўнашчокі і не шчуплы ў плячах, дужа ўшанаваны намі паэт трымаў у руцэ свой сапраўды як намагнічаны зборнік і, бачна, незадаволены сабой, нібы апраўдваўся:

— Гэта выдавецкія рэдактары далі не зусім прыгожую, «жалезную» назву. А я хацеў назваць першую кнігу вершаў проста — «Заручыны». Ну, у сэнсе заручыны з жыццём, з маладосцю, з каханнем. У кнізе нават і верш ёсць з такой назвай…

На легендарнай Свіцязі ўсё так і адбылося, пра што нам тлумачыў паэт: «Без бацькоў, без сватоў заручыны мы адзначылі майскай раніцай». Дакладней, не заручыны, а Міколавы імяніны. На вялікай паэтычнай вечарыне, што адбылася неўзабаве, мы шчыра віншавалі сябра з творчым поспехам ды, зноў жа, з ягоным юбілеем — 22 мая хоць і маладому, але ўжо вядомаму паэту споўнілася роўна чвэрць веку, і, мабыць, натхнёны такой усеагульнай увагай, Мікола Федзюковіч, як артыст, узнёсла і апантана чытаў са сцэны вершы пра сваё цяжкае сіроцкае дзяцінства:

Хату будаваць збіраўся тата,
Каб не знацца болей з буданамі.
А вайна для бацькі майго хату
Без дзвярэй, без вокан збудавала.

Мы тады намёрзліся удосталь —
Навісала неба коўдрай белай.
Я ішоў з маленства у даросласць
Па снягах, між соснаў карабельных.

Помніцца, на той паэтычнай вечарыне, якая праходзіла ў актавай зале пансіяната, выступіў Янка Брыль, працытаваў па памяці радкі Міколы Федзюковіча «Сэрца — вышыня, заваяваная пахаванымі на вышыні сябрамі»; з уласцівай славутаму празаіку мудрасцю і празорлівасцю зрабіў выснову: бачыце, перад намі сапраўды таленавіты паэт. Яшчэ праз нейкія два-тры дні кнігу «Зямля-магніт» абмяркоўвалі сябры літаратурнай секцыі, дарэчы, самай людная на семінары, дзе цёплыя словы пра маладога творцу гаварылі Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін, Васіль Зуёнак, Анатоль Кудравец, Васіль Жуковіч. Трохі, вядома, журылі, але найбольш раздавалі шчодрыя авансы, прадказвалі яму вялікі шлях у паэзіі. Здаецца, усё гэта было нядаўна: і шумлівае возера Свіцязь, і натоўпы апантаных хлопцаў і дзяўчат на яго берагах, а між тым прайшлі ўжо доўгія дзесяцігоддзі. Многіх удзельнікаў семінара, на жаль, даўно няма ў жывых. Няма і Міколы Федзюковіча. Засталіся яго таленавітыя вершы, светлыя ўспаміны і згадкі аб ім.

* * *

Ён быў на дзіва сучасным паэтам. Нават і сягоння, калі мінула столькі зім і вёсен пасля яго заўчаснага сыходу, паэзія Міколы Федзюковіча не старэе, з кожным новым прачытаннем набывае ўсё большую прыцягальнасць і мастацкую каштоўнасць. Каго, напрыклад, не расхвалюе хоць бы такі геніяльны радок: «Зямля ўсіх памірыць» — думкі, выказанай у ім, хопіць, бадай, на мноства будучых сонцаваротаў. Яму казалі: «Міколка, каб ты напісаў толькі адзін гэты радок — і то быў бы ў нашай паэтычнай гісторыі…» Цікава, што сам творца пакінуў нямала слушных запісаў пра сучасную паэзію, якою жыў і пакутаваў, якой давяраў больш за ўсё на свеце. Наўрад ці знойдуцца важкія аргументы і факты, каб абвергнуць гарачы і змястоўны маналог творцы пра паэтычную і літаратурную працу ўвогуле.

«У наш складаны час, поўны захапляючых і небывалых здзяйсненняў, і разам з тым трывожны і неспакойны, нельга быць абыякавым да ўсяго, што дзеецца на свеце. Карацей, калі не жыць сучаснасцю,— нельга пісаць… На маю думку, паэт менавіта таму і паэт, што ён валодае зрокам арла, слыхам салаўя. Ён, прынамсі, абавязаны бачыць на небе больш зорак, чым гэта даступна — нават і вельмі відушчаму — чалавечаму воку. У зімовую сцюжу ён павінен адчуваць дыханне вясны… Акрамя таго, сэрца паэта, як і сэрца кожнага сучаснага чалавека, заўжды адгукнецца на радасць і боль сваіх суайчыннікаў, усіх прагрэсіўных людзей, на якім кантыненце яны б ні жылі. Тады нараджаюцца новыя радкі, новыя творы. Менавіта гэтая думка непакоіла мяне, жыла са мной, калі я складаў свой новы паэтычны зборнік «Красадзён».

Кароценькая нататка з жывым роздумам пра тое, якою павінна быць, кажучы словамі Петруся Броўкі, «паэзія сучасных дзён», яшчэ напрыканцы 1984 года

Мікола Федзюковіч надрукаваў у драгічынскай раённай газеце, куды ён па даўняй звычцы, а то і проста па-зямляцкаму абавязку дасылаў новыя вершы. Тут слыннага земляка добра ведалі, шчыра радаваліся кожнай сустрэчы з ім. Дарэчы, паэт, што называецца, маскоўскай школы і прафесійнай вывучкі, умеў выдатна трымацца на сцэне, адразу, без лішняй мітусні ўваходзіў у мастацкі вобраз і сваім гучным, артыстычным голасам мог узрушыць і заваражыць нават самую патрабавальную залу. Цяжка нешта істотнае сказаць пра арліны зрок, а вось паэтычны слых творца меў бездакорны. Ён не хлусіў у вершах, быў шчырым з людзьмі, і за гэта землякі яго любілі і паважалі. На радзіму, у вёску Гутава, пакуль там жылі маці і брат, паэт, асабліва ў маладыя гады, наведваўся часта, бо менавіта тут, на родных гонях і разлогах, ён, «дзедаў унук у расхрыстанай сарочцы», шчасліва пачуваўся аратым, ганарыўся чынам хлебароба: «Вось і ворыва! Луста за лустай над нарогам паблісквае тлуста наш палескі духмян чарназём». Суседу Міхалу, вясёламу дзядзьку Хведару, «каралеве» застолляў цётцы Клаве, а ўвогуле ўсім сваім аднавяскоўцам, працавітым патомкам славутых дрыгавічоў, паэт прысвяціў самыя натхнёныя, самыя прачулыя радкі:

Вёску Гутава ў снег захуталі
давідна свежакі-вятры.
Сустракае нас вёска Гутава
крыкам пеўняў, сталёвым грукатам…
Вёска Гутава — тры вярсты!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А ўгары, цішынёй ахутаны,
цьмяны месяц ледзь-ледзь ліпіць…
Блаславёная вёска Гутава,
мне з табою спяваць і гутарыць,
і заўсёды цябе любіць.

* * *

Ёсць нейкая заканамернасць у тым, што на характар і паводзіны чалавека накладвае пэўны адбітак мясцовасць, дзе ён нарадзіўся і жыў, дзе, у рэшце рэшт, з сахой і лядачым конікам векавалі яго далёкія продкі. Ціхія, заваложаныя смугой і ў чымсьці мудрыя пейзажы ўсходняга Палесся, безумоўна, зрабілі відавочны ўплыў на шчымлівую, запальчыва-выбуховую лірыку Міколы Федзюковіча, ды ў не меншай ступені і на яго ўласны лёс. Быў ён спакойны, ураўнаважаны, безабаронны, як дзіця, перад згрызотамі і нечаканымі жыццёвымі наваламі. Калі з кім сябраваў, то сябраваў да канца, тоячы крыўду на розных нядобразычліўцаў дзесьці ў закутках душы, а яны, зайздроснікі, былі, хоць, працуючы доўгі час літкансультантам «Звязды», «Беларускай нівы», «Чырвонай змены», вельмі многім няўмекам Мікола дапамагаў надрукаваць іхнія першыя спробы ці ў прозе, ці ў паэзіі. Удзячныя ягоныя сябры жылі ў Ганцавічах і Лунінцы, у Століне і Ляхавічах, у Пінску і Драгічыне, а што да Іванава, то тут у асобе рэдактара раённай газеты «Чырвоная звязда» Аляксея Каўко змардаваны нелітасцівымі абставінамі паэт знаходзіў поўнае ўзаемаразуменне, маральную падтрымку і, падоўгу жывучы ў гасцінным доме свайго старэйшага настаўніка і парадцы, мог адпачываць душой, спакойна пісаць вершы на ўлонні маляўнічай ясельдзянскай прыроды. Маючы прыхільнасць да маладых творцаў, Аляксей Каўко, дарэчы, сам даволі знаны празаік, бо, калі памятаеце, менавіта яго апавяданне пра піянера Геню калісьці мае равеснікі вывучалі ў школьнай чытанцы за трэці клас, дзесьці праз год пасля заўчаснай смерці таленавітага земляка надрукаваў у раённай газеце свае ўспаміны пад назвай «Ён не любіў ляноты», цікавыя і каштоўныя ўжо тым, што ў іх апавядаецца пра малавядомыя старонкі з біяграфіі менавіта маладога Міколы Федзюковіча, калі яго працоўны і творчы шлях толькі пачынаўся. Няхай чытачы прабачаць за надта доўгую цытату, але без яе вобраз паэта атрымаўся б не такі поўны і каларытны.

«Наша знаёмства адбылося ў Лунінцы, у 1962 годзе,— пісаў з журбой і смуткам шаноўны ветэран друку Аляксей Трафімавіч.— Аднаго дня парог рэдакцыі міжраённай газеты «Ленінскі шлях», дзе я тады працаваў, пераступіў новы супрацоўнік — рослы юнак у паношаным светла-шэрым пінжаку і чорных штанах, якія, не маючы знаёмства з прасам, пузырыліся на каленях. Моцны поціск яго рукі пераканаўча сведчыў, што хлопец звыклы да цяжкай сялянскай працы. Прыехаў ён да нас са сваёй роднай вёскі Гутава, што ў Драгічынскім раёне. І хаця толькі скончыў дзесяцігодку, аднак ужо меў пэўныя навыкі ў журналісцкай рабоце — школьнікам друкаваў заметкі ў раённай газеце.

З першых дзён Мікола ўразіў нас выключнай працаздольнасцю. Ён ахвотна ездзіў у самыя аддаленыя вёскі, знаходзіў цікавых людзей, без затрымкі рыхтаваў матэрыялы да друку.

Са шкадаваннем мы праводзілі яго на службу ў армію. Будучы на службе, ён не парываў сувязі з рэдакцыяй — дасылаў лісты, першыя вершы. Пазней пісаў нам з Масквы, дзе вучыўся ў Літаратурным інстытуце. А ўжо ў 1968 годзе я трымаў у руках падараваны Міколам першы зборнік яго вершаў «Зямля-магніт».

Маленькая кніжачка ў зялёнай вокладцы — усяго трыццаць вершаў. Але ж хіба ў колькасці справа? Для вызначэння паэзіі існуе зусім іншы крытэрый — яе хвалюючае ўздзеянне на чалавека. Дык вось, тыя вершы маладога паэта і сёння хвалююць чытача сваёй жыццёвай праўдай, вобразнасцю, тонкім лірызмам. Ён — дзіця вайны, якая адабрала ў яго бацьку, прынесла людзям неймаверна шмат гора, — перш за ўсё звярнуўся да гэтай балючай тэмы. «Балада пра буслоў», «Балада пра хату» — жудасны ўспамін аб сваім «трохгадовым пякельным дзяцінстве» — і сёння працінае сэрца чытача. Факты біяграфіі паэт суадносіць з жыццём грамадства. Гэта характэрна і для вершаў першага зборніка, а яшчэ больш для пазнейшых — «Мілавіца», «Птушыны грай», «Макаў цвет».

Некалькімі штрыхамі, як бачна, аўтару ўспамінаў удалося акрэсліць сімпатычны слоўны партрэт таленавітага паэта, і таму вельмі балюча ўспрымаецца выказанае ў артыкуле шкадаванне, што творчасць Міколы Федзюковіча па-сапраўднаму яшчэ не ацэнена. Калі ж па шчырасці, то з самага пачатку паэтычнага шляху палескі самародак не быў абмінуты ўвагай крытыкі. Кожная яго новая кніга ці значная публікацыя ў друку выклікалі належны розгалас у літаратурных колах. «Чыстай, светлай і абаяльнай падалася мне кніга М. Федзюковіча «Зямля-магніт»,— пісаў Ніл Гілевіч у часопісе «Дружба народаў»; «Вяслу ўзлятаць высока» — прарочыў паэту ўдачу заўсёды зычлівы Сцяпан Гаўрусёў; «Позірк за гарызонт» — трапна назваў сваю рэцэнзію на кнігу «Макаў цвет» Мікола Калінковіч. У розны час і ў розных перыядычных выданнях цёплыя водгукі пра кнігі слыннага паэта надрукавалі Мікола Хведаровіч, Алесь Марціновіч, Уладзімір Паўлаў, Юрась Свірка, Казімір Камейша, Мікола Панасюк, Мікола Трафімчук, Аляксей Сяргей, Уладзімір Сітуха, Васіль Жушма і многія іншыя. Зрэшты, гаварыць ім было аб чым, таму што абсяг інтарэсаў творцы незвычайна шырокі. Мікола Федзюковіч належыць да таго пакалення паэтаў, якое нарадзілася ў ваенныя і пасляваенныя гады. Ён піша пра гора, што прынесла вайна, пра сваё галоднае і халоднае дзяцінства. Ад верша да верша расло майстэрства маладога аўтара, пашыраўся тэматычны дыяпазон творчасці, але заставаўся нязменным «зямны» пачатак яго паэзіі. Зноў жа веліч космасу дала штуршок да роздуму аб месцы чалавека ў свеце, лірычны герой усё часцей засяроджваецца на «залежнасці асабістых лёсаў ад лёсу нашай любае Зямлі». Паэт умеў стварыць каларытныя карціны прыроды, шмат вершаў прысвяціў каханню, жанчыне, асабліва замілавана пісаў пра маці, а сярод шматлікіх твораў пра адзіную і родную сустракаюцца і такія шэдэўры:

Незабыўнае слова Маці —  
як гаючы глыток жыцця  
ўпершыню — на губах дзіцяці,  
назаўжды — на губах байца.

* * *

Шчырая, праўдзівая і адкрытая паэзія для сапраўдных талентаў гэта і ёсць «гаючы глыток жыцця». Пра асаблівую болева-зямную «намагнічанасць» вершаў паэта ў свой час гаварылі вельмі многія даследчыкі і крытыкі. Здаецца, іменна там, на легендарным возеры Свіцязь, Мікола Федзюковіч і пазнаёміўся з пастаянна маўклівым і задумлівым Міхасём Стральцовым, а тая іх «свіцязянская» сустрэча перарасла ў трывалую і шматгадовую дружбу. Пазней, калі ў палескага хлопца выйшаў другі паэтычны зборнік «Мілавіца», Міхась Стральцоў адгукнуўся на яго сваёй вядомай «Рэцэнзіяй на чатырохрадкоўе», якая 14 студзеня 1972 года была надрукавана ў газеце «Літаратура і мастацтва». Чатырохрадкоўе ўзята з верша «Калісьці тут, на хутары, буяў гарод»:

Я, мусіць, ад чужых турбот адвык —
Вунь каня па-над выганам канае;
Але мяне чамусьці не кранае
Жалобнай кані неўтаймоўны крык.

«Прыгаданыя радкі з кнігі М. Федзюковіча,— піша Міхась Стральцоў, вызначаючы творчае крэда паэта, — звяртаюць на сябе ўвагу нейкім нечаканым міжвольным, як бы неўсвядомленым аўтарскім прызнаннем: ён — чалавек, які вырас у вёсцы, у нейкае імгненне здаўся сабе чужым ёй і яна здалася яму чужой. І нам, чытачам, робіцца ад гэтага трохі вусцішна. Але, як і аўтару, толькі, мусіць, на імгненне, бо мы разумеем, што тое, перад чым схіляў калені продак (гаворыцца пра забытае, закінутае селішча), адышло ці адыходзіць у нябыт, і як бы мы ні шкадавалі яго, яно ўжо не будзе для нас тым, чым было для продка. Верш трохі супярэчлівы (і гэта па-свойму добра), але ён гучыць як адыходная традыцыйнай вясковай ідыліі». Жалобны кані крык сам паэт растлумачыў так:

Напэўна, я пераступіў парог —
Святы парог, акрэслены прыродай,
Перад якой мой ваяўнічы продак
Схіляў калені. Шанаваў, бярог…

Сягоння глыбокі, унутраны падтэкст паэзіі Міколы Федзюковіча не трэба тлумачыць надта доўга, бо і так усё зразумела, калі бачны апусцелыя, закінутыя вёскі, аднак ёсць нейкая фатальная, горкая праўда ў тым, што даравітым паэтам час ад часу сняцца іх ненапісаныя вершы ці нават асобныя радкі «гаркотай на губах», пасля якіх адно і застаецца — расчараванне, боль, пакута. Адразу мушу папярэдзіць: гэта цытата не з Міколы Федзюковіча, чый светлы вобраз пастаянна стаіць у вачах; гэта цытата з Міхася Стральцова, нашага агульнага сябра, якому аднойчы сапраўды «Прысніўся верш — не верш, а два радкі». Далей там пра абломак лодкі, «што ўсплыў са дна ракі», пра вір, што кружыць счарнелую траву. Два радкі — і дзве збалелыя, спакутаваныя душы. Верагодна, яны сёння няўцямна блукаюць дзесьці паміж зорак, а хутчэй за ўсё ярка і векавечна гараць у сузор'і самых таленавітых беларускіх паэтаў. Свайму незабыўнаму сябру Мікола Федзюковіч прысвяціў некалькі вершаў, і сярод іх нейкай асаблівай трагічнасцю і сугучнасцю лёсаў вылучаецца верш «Памяці Міхася Стральцова», напісаны, як бачна, пасля таго, калі на яго шэрай надмагільнай пліце паэту па-новаму прачыталіся дзве даты — нараджэння і смерці:

Між датаў тых кароткай рысай
жыццё пазначана цяпер.
Біёграф бы ў архіў зарыўся:
«А што за рысай?..
Я адкажу: за тою рысай —
таварыша трагічны лёс,
якому ён не пакарыўся:
ні змрочнай роспачы, ні слёз!

У памяці і ў снах маіх
яго жыццё — маланкі міг.
І ніякой, паверце, смерці
яго не выкрасліць — не сцерці.

* * *

Нават і не верыцца: ужо шмат гадоў, як няма побач з намі Міколы Федзюковіча, і пайшоў ён ад нас, як і прадчуваў, сярод зімы, якраз на Каляды, у халодны і ветраны дзень. Мала хто і ведаў, бо памёр Мікола нечакана, раптоўна, на 54-м годзе жыцця. Кажуць, у яго быў спіс вялікіх і знакамітых людзей, якіх не стала менавіта ў гэтым узросце. Кажуць, у тым спісе ён паставіў і сваё прозвішча. Валодаючы несумненным Божым дарам, паэт, здаецца, ніколі не памыляўся і, на бяду, не памыліўся і тут. Разважлівы і шчыры паляшук з фальклорна-песеннай вёскі Гутава, Мікола Федзюковіч хораша апяваў у вершах свае мілыя краявіды, задуменныя палескія бары і гаі, сваю родную, паэтычную Ясельду. Заўсёды спакойны, таварыскі з выгляду, паэт меў шырокую натуру, балючую душу, ранімае, безабароннае сэрца. У журліва ўсхаляваным «Развітальным слове», надрукаваным у «Чырвонай змене», іменна гэтыя душэўныя якасці творцы адзначыў Уладзімір Паўлаў, і я дазволю сабе працытаваць тут некаторыя яго выказванні, таму што пра нашага добрага і даўняга таварыша, здаецца, лепш ужо і не скажаш.

«…Стаўшы харошым паэтам, ён спрыяў маладым талентам, нямала якіх амаль за руку ўвёў у чароўны свет паэзіі. Многа, многа часу аддаў ён маладзейшым калегам, ахвяруючы сабой, не напісаўшы не адзін дзесятак сваіх вершаў. Доўгі час ён быў загадчыкам аддзела літаратуры і мастацтва, а пасля — літаратурным кансультантам «Чырвонай змены» і «Белорусской нивы». Часта мы чулі яго голас па Беларускім радыё — Мікола Федзюковіч вёў там перадачу «Шчырага сэрца парывы». Міколава сэрца было адкрыта насцеж усім людзям, нярэдка нават тым, каму адкрывацца і няварта было. Але сам паэт не ўзважваў такое на шалях, гэта бачылася збоку».

«...Мікола быў адкрыты, як рана, кожны неасцярожны дотык да якой, нядобрае слова прычынялі боль. Здаецца, само жыццё наўмысна і скрозь рабіла яму балюча. Не помніў бацькі, доўга хварэла паралізаваная маці, Ксенія Пракопаўна, якая і памерла ў яго на руках, загінуў дарослы сын... Як і ўсякі добры чалавек, Паэт не мае шчаслівага лёсу. Гэта яскрава бачылася на асобе Міколы Федзюковіча, аўтара зборнікаў паэзіі «Зямля — магніт», «Мілавіца», «Птушыны грай», «Макаў цвет», у якіх ён славіў жыццё і чалавека, прыгажосць і дабрыню. Ён шмат выступаў з рэцэнзіямі, з іншымі матэрыяламі, пісаў сумленную публіцыстыку».

Апошні раз, як цяпер добра помніцца, Міколу Федзюковіча я пабачыў у рэдакцыі часопіса «Маладосць», куды ён завітаў разам з Пятром Прыходзькам напрыканцы 1996 года, за нейкія два тыдні да сваёй заўчаснай смерці. Усе нядаўнія стрэсы, што апанавалі з розных бакоў, у яго, здавалася, прайшлі, бо выглядаў паэт свежа, спакойна, упэўнена, і размова ў нас па завядзёнцы пачалася пра літаратуру, а тут ён быў вялікім эрудытам, нездарма, яшчэ калі вучыўся ў Літаратурным інстытуце, і выкладчыкі, і самі студэнты паэтычны талент Міколы Федзюковіча, асабліва пасля кнігі «Птичье дерево» ў перакладзе Івана Бурсава, цанілі вельмі высока, прынамсі, калі не вышэй, то на ўзроўні знакамітых у той час Мікалая Рубцова і Юрыя Кузняцова.

* * *

Зрэшты, пра сябе, пра сваю творчасць Мікола мала з кім гаварыў, а ў той шэры снежаньскі дзень раптам абмовіўся, што пасля зацяжнога душэўнага крызісу, закончыў, нарэшце, новую і даўно абяцаную кнігу паэзіі, а назваў яе дужа хораша — «Красадзён». Тым не менш, у ягоным ціхім і разважлівым голасе прагучала і непрытоеная крыўда, бо ў некаторых рэдакцыях, куды ён перадаваў свае вершы для друку, назву не разумелі і дзялілі яе на два словы — «Краса дзён»,

хаця на самой справе красадзён — гэта прыгожая травяністая расліна, звычайная для палескіх, балоцістых мясцін. Канечне ж, не кожны рэдактар дасканала ведае прыроду. Між тым, красадзён, інакш яшчэ і лілейнік, шырока распаўсюджаны ў Беларусі, дасягае аднаго метра ў вышыню, лісце доўгае і завостранае, цвіце ў чэрвені-ліпені, кветка буравата-аранжавая. Да сямейства лілейных, шматгадовых травяністых раслін адносяцца добра вядомыя нам купена, майскі ландыш. Красадзён яшчэ разводзяць як дэкаратыўную і лекавую расліну, так што Мікола Федзюковіч, тонкі знаўца беларускай прыроды, радаваўся назве, якую даў сваёй новай паэтычнай кнізе, і, калі сказаць па-шчырасці, то гэтую кнігу ўжо тады зачакаліся шматлікія чытачы і проста апантаныя прыхільнікі шчодрага таленту знакамітага паэта.

Іншымі словамі, шлях «Красадзёна» ў кнігарні і бібліятэкі быў такі ж цяжкі і шматпакутны, як і лёс яе аўтара — чалавека дужа сумленнага і сціплага, які не дужа назаляў выдавецтвам сваімі рукапісамі. Крыўдна ўсведамляць, але ажно трыццаць гадоў творы паэта не бачыў друкарскі станок, хоць лепшыя з іх даўно варты ўвагі школьных праграм. Уважлівы і чулы да чужога болю, Мікола сабраў і выдаў кнігу вершаў яшчэ аднаго свайго сябра Яўгена Крупенькі, а пра ўласныя літаратурныя справы, дапамагаючы іншым, як правіла, забываў. Аднак мудра казалі продкі: напісанае застаецца. Дзякуючы таму, што апошнім часам назіраецца заўважны паварот да беларускай думкі, спадчыну Міколы Федзюковіча ўдалося ў асноўным упарадкаваць і захаваць для нашчадкаў. Яго шматпакутны «Красадзён», выдадзены «Мастацкай літаратурай» у знакамітай серыі — «Беларуская паэзія XX стагоддзя», расцвіў яркімі і прыгожымі кветкамі, паўстаў перад чытачамі ў арыгінальнай свежасці, душэўнай узрушанасці і мастацкай дасканаласці.

За выданне амаль ці не поўнай паэтычнай спадчыны Міколы Федзюковіча ў адным зграбным і важкім томе ў першую чаргу варта падзякаваць дырэктару выдавецтва «Мастацкая літаратура» Уладзіславу Мачульскаму, тагачаснаму галоўнаму рэдактару Віктару Праўдзіну і яго намесніку Віктару Шніпу, якія не адмахнуліся ад аб'ёмістага рукапісу, сабранага і ўзноўленага ўдавой паэта Аленай Аляксандраўнай, адразу без ніякай затрымкі, уключылі ў выдавецкі план, знайшлі фінансаванне, паклапаціліся пра тыраж і такім чынам ёмістая кніга выдатнай паэзіі ў 2009 годзе пабачыла свет. Паколькі на гэты конт і сёння яшчэ не спыняюцца розныя плёткі і выдумкі я павінен дасведчана патлумачыць: сам Мікола Федзюковіч рукапіс «Красадзёна» ў выдавецтва ніколі не здаваў. Праўда, хадзіла пагудка, што кнігу паэт забыў у таксі, і, магчыма, раззлаваны таксіст, убачыўшы ў пакеце не пачкі «зялёных», а нейкія незразумелыя друкаваныя аркушы паперы, проста выкінуў іх за фортачку. У час нашай апошняй сустрэчы ў часопісе «Маладосць» пасля доўгіх гадоў маўчання Мікола Федзюковіч зноў нагадаў пра кнігу «Красадзён», але, відавочна, гаворка ішла пра яго другую спробу ўзнавіць рукапіс. Зразумела, што за нейкія два тыдні, якія паэту засталося пажыць на белым свеце, аўтар не змог давесці справу да канца. І галоўнае: а ці быў той рукапіс увогуле? Удава Міколы Алена Аляксандраўна ўпэўнена сцвярджае, што «Красадзён» разам з некаторымі каштоўнымі кнігамі прапалі з кватэры ў дні пахавання мужа. Цяпер трэба нізка пакланіцца самой Алене Аляксандраўне. Гэта яна, з дня ў дзень крукам сагнуўшыся над сталом гадоў колькі перапісвала вершы Міколы і порцыямі перадавала мне ў часопіс «Маладосць», дзе я тады працаваў. Ведала: я не адмоўлю ў дапамозе, да таго ж у Саюзе пісьменнікаў мяне выбралі старшынёй камісіі па спадчыне Міколы Федзюковіча. Алена Аляксандраўна скрупулёзна перапісала ўсё, што знайшла дома, часта адзін і той жа верш па некалькі разоў, іншыя — з двума ці трыма варыянтамі, аднак, як бы там ні было, рукапіс твораў цудоўнага паэта быў падрыхтаваны. Потым, калі справа з выданнем зборніка была абумоўлена, мне цэлае лета, ажно тры месяцы, давялося разбіраць велізарную кіпу рукапісных папер, каб давесці пасмяротную кнігу сябра да таго прыстойнага стану, у якім яна была выдадзена. Хачу з радасцю заўважыць, што «Красадзён» не затрымаўся на паліцах кнігарань і быў уключаны ў школьную праграму па беларускай літаратуры.

* * *

Жыццёвыя абставіны, асабліва ў сталыя гады, складваліся для прызнанага майстра слова неяк не па-людску, няўдзячна і жорстка, не спрыяючы імкліваму ўзлёту шчодрага паэтычнага таленту, і сягоння нават страшна падумаць: ён жа ведаў усё пра свой трагічны лёс, ён жа адчуваў свой кароткі век! Менавіта яму належаць гэтыя шчымлівыя, пякучыя радкі:

Павінен кожны
вычарпаць да дна,—
што лёс паслаў…
Загадкавая тайна —
у смерці,
што прыйшла на схіле дня,
у вечнасці —
часінаю світальнай.

Вось яшчэ, быццам пацвярджэнне, гаркотна-самотныя, фатальныя два радкі: «Няхай ляцяць імгненні, як часіны! // Учора — ты, назаўтра я памру...» На гэтых вершах, якія наш сябар рыхтаваў спецыяльна для «Чырвонай змены», стаіць дата: 31.12.1996 г., а роўна праз тыдзень, і якраз на Калядныя святы, сэрца Міколы Федзюковіча перастала біцца. Выдатны паэт і таленавіты перакладчык знайшоў свой апошні прытулак на Паўночных могілках у Мінску. У той самы дзень, калі хавалі слыннага беларускага творцу, надвор’е стаяла халоднае, сырое, пахмурнае. І, на здзіўленне, згадваліся ягоныя жыццясцвярджальныя, поўныя аптымізму строфы:

Мяне паклікаў жураўліны вырай —
у вёску,
на радзіму..
Там — вясна!
Там навальніцай хмара прарасла,
Каб красавалі нівы яравыя.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Іду з людзьмі туды, дзе на прыволлі
маім зярнятам суджана узрасці…
Жыццё пражыць — не поле перайсці?
Пражыць жыццё — не разлучыцца з полем?

Вясну Мікола Федзюковіч дужа любіў. Любіў майскія навальніцы, калі «і вербы, і зялёныя бярозы схілялі ветла вецце перад ветрам». Нездарма паэт і нарадзіўся ў маі, калі пачынае зацвітаць чаромха, а над вясёлым прыволлем ціха пагрымлівае маладзіковы гром. Нарадзіўся ў дзень святога Міколы, таму і дадзена яму гэта імя. На жаль, той жураўліны вырай, які, заўчасна паклікаўшы творцу за сабой, ужо не вяртаецца «ў край буслоў, калін і медуніц». За даўнасцю часу цяжка сказаць, ці грымелі майскія навальніцы ў тыя дні, калі на Свіцязі праходзіў знакаміты рэспубліканскі семінар творчай моладзі, аднак добра помніцца апошні развітальны вечар. Каля пансіяната на баравым узлеску зноў тоўпіліся ўзрушаныя творцы ўсіх масцей і прызванняў, пад соснамі шугала велізарнае вечаровае вогнішча, і нехта, вядома ж, непапраўны гарэза і рамантык першым падаў моду скакаць праз высокія, трапяткія языкі полымя. Паддаўшыся агульнаму настрою і азарту, басаногі, у расхрыстанай кашулі Мікола Федзюковіч раз-пораз, як метэор, пралятаў над вогнішчам, і не дзіўна, што вясковы хлопец скакаў вышэй і далей за ўсіх, чым выклікаў у прысутных шквал заслужаных апладысментаў і, канечне ж, паветраныя пацалункі ад зусім юных паэтэс. Ніхто тады і падумаць не мог, што гэтай увогуле безразважлівай зухаватасцю Паэт з боскай ласкі правакуе свой кароткі жыццёвы лёс, які і праўда быў падобны на імклівы росчырк вогненнага метэора на гарызонце.

# ЭПАС ПРА ПЧОЛ І МЁД

*Кніга У. С. Гуркова і С. Ф. Цярохіна «Спрадвеку высакародны занятак»[1] выйшла 25 гадоў таму ў рэспубліканскім выдавецтве «Полымя». Накладам, як на сённяшняе ўспрыняцце, можна сказаць неверагодным — пяцьдзясят тысяч асобнікаў. І сталася рарытэтам. Поспеху ў чытача паспрыяла вялізарная падрыхтоўчая праца па зборы надзвычай цікавага і багатага матэрыялу, які сягае ў прадонні тысячагоддзяў. Бо, як выяўляецца, пчалярства і развіццё чалавечай цывілізацыі развіваліся адначасна і раўналежна.*

*Аўтараў падсцерагала небяспека ў гэтым матэрыяле завязнуць, але яны яе ўдала пазбеглі і здолелі выбудаваць стройны сюжэт, аддзяліць істотнае ад другаснага, стварыць займальна-пазнавальны гістарычны твор, цікавы не толькі тым чытачам, якія займаюцца пчалярствам як аматары ці прафесіяналы, але і ўсім дапытлівым людзям, што хочуць ведаць гісторыю ўвогуле і сваёй Бацькаўшчыны ў прыватнасці.*

*На Беларусі пчалярства развівалася спачатку як бортніцтва. Яно патрабавала незвычайнай вынаходлівасці, кемнасці, спрыту і адвагі. Проста дзіву даешся, як нашы продкі на такое былі здатны! На месца борцяў з часам прыходзяць рамковыя вуллі. Ці не найбольш важкі ўклад у гэтае рамяство зрабіў граф Іаахім Літавор Храптовіч. Займаючы самыя высокія пасады ў дзяржаве (апошні канцлер Вялікага Княства Літоўскага і апошні міністр замежных спраў Рэчы Паспалітай), ён, апрача гэтага, быў выдатным гаспадарнікам і асветнікам, уладальнікам перадавога, на агульнаеўрапейскім узроўні, родавага маёнтка ў Шчорсах (цяперашні Навагрудскі раён), дзе для вясковых дзетак зладзіў так званую «ланкастэрскую школу», сам даглядаў пасеку і зрабіў важныя для свайго часу новаўвядзенні ў выкарыстанні рамковых вулляў. Свой досвед падсумаваў у выдадзенай польскімі словамі, але па стылі і духу шчыра беларускай, замешанай на традыцыйных стылі і духу (беларуская была пад дзяржаўнай забаронай) у 1785 годзе ў Варшаве кнізе «Апісанне гаспадаркі пчалярскай, у Шчорсах зладжанай», якая сталася з'явай сусветнага значэння. Да гонару аўтараў трэба сказаць, што яны цалкам аб'ектыўна і слушна адзначылі ролю і сэнс адкрыццяў графа Іаахіма Храптовіча ў пчалярстве, пра што, дарэчы, нават і словам не згадваецца ў 7-м томе Энцыклапедыі гісторыі Беларусі, дзе змешчаны салідны даведачна-пазнавальны манаграфічны артыкул (аўтар Міхаіл Спірыдонаў) пра І. Л. Храптовіча. А дапамагла ім гэта зрабіць сама кніга вялікага патрыёта-ліцвіна, шчырага беларуса, якую ім ласкава на час працы адзычыла легенда беларушчыны, улюбёніца ў родны край і яго слаўных людзей Зоська Верас.*

[1] Перакладчык прапаноўвае назву «Радавод сонечнага племені».

*Гуркову з Цярохіным проста пашанцавала, бо неўзабаве пасля вяртання каштоўнага асобніка ў Зосьчын кнігазбор якіясьці нядобразычліўцы-пачвары падпалілі яе лясную хатку, збудаваную непадалёк ад нашай колішняй сталіцы Вільні, што прыйшла наўзамен з Першасталіцы — старажытнага Новагародка...*

*Што ж датычыць кнігі Храптовіча, то ў віхурах часу ацалеў толькі адзін яе асобнік, які захоўваецца ў польскім Кракаве. Дык хіба не заслугоўвае шчырай удзячнасці слаўная беларуская жанчына Ніна Мікалаеўна Мазай, якая і на самых высокіх пасадах, і ў самых складаных варунках не страціла сваёй першароднай чалавечнасці і зычлівасці. Менавіта яна ахвотна адгукнулася на маю просьбу, ды выйшла з ініцыятывай да Паўнамоцнага і Надзвычайнага Пасла Беларусі ў Польшчы, шаноўнага спадара Гайсёнка. І вось ужо я (дайце, людцы, веры!) пераклаў гэтую незвычайную з'яву ў гісторыі айчыннага кнігадрукавання на сучасную літаратурную мову...*

*Аўтары, гаворачы пра наш час, звяртаюць увагу не толькі на непасрэдную карысць пчол для здабыцця такога высакаякаснага і гаючага прадукту, як мёд і іншыя, вытворныя з яго спажыткі і лекі, але і наколькі праца пчол павышае эфектыўнасць сельскай гаспадаркі і ўплывае на ўраджайнасць палеткаў.*

*Дарэчы тут будзе ў пацвярджэнне значнасці і цікавасці кнігі працытаваць змешчаны ў інтэрнэце матэрыял аднаго забайкальскага беларуса: «Менавіта са знаёмства з гэтай кнігай у 1987 годзе, — піша ён, — пачалося захапленне пчоламі. Мяне, тады яшчэ сямікласніка, захапіў сам стыль падачы інфармацыі. Мне заўсёды падабаліся гістарычныя кнігі, а аўтары абазначылі незвычайны пункт погляду — паглядзець на гісторыю Смаленшчыны і Беларусі праз развіццё пчалярства. Ужо потым, як мінула шмат гадоў, я спрабаваў знайсці гэтую кнігу ў лічбавым варыянце. Шукаў — і не знаходзіў. Былі прапановы прадаць кнігу пры асабістай сустрэчы, пасля папярэдняга тэлефоннага кантактавання з прадаўцом. Ды ўсё ж няпроста нават дзеля такога выдання прыязджаць з Забайкалля (дзе воляю лёсу я атабарыўся) у Маскву. Нарэшце трапіў на адпачынак у родную маёй душы і сэрцу Беларусь. І вось — ЯНА! Тая самая кніга, што захапіла дзіцячую ўвагу, зацікавіла, прывіла цікаўнасць да пчалярства, Гуркова і Цярохіна «Занятак спрадвеку высакародны». Тое, чаго ў «электронцы» да гэтай пары было не знайсці...»*

*Мяркую, што з такім сама пачуццём радасці спазнання невядомага і цікава-значнага, змястоўнага дакумента будуць чытаць кнігу і беларускамоўныя чытачы. Менавіта вяртання яе ў сваю моўную стыхію жадалі аўтары, шчырыя патрыёты роднага краю. З адным з іх, Уладзімірам Сяргеевічам Гурковым, я быў знаёмы на працягу некалькіх, не вельмі вясёлых для яго гадоў: у дадатак да перанесенага інсульту ён спатыкнуўся на прыступках лякарні і зламаў шыйку бядра, пасля чаго ўжо з ложка не ўставаў. Але з пчоламі не развітваўся да апошніх дзён свайго жыцця, даючы каштоўныя парады вернай і дбайнай сяброўцы жыцця, Кацярыне, ды свайму наймалодшаму сыну Алесю.*

*Пчолкі і дасюль віюцца і рояцца ў бацькоўскім садзе ў вёсцы Азярышчы Пухавіцкага раёна, радуючы шчодрым узяткам сваю гаспадыню-пчалярку, шаноўную Кацярыну Хведараўну. Дык няхай гэтая кніга стане настольнай і для ўсёй шматлікай беларускай пчалярскай радзіны!*

**Яўген ЛЕЦКА**

# ДЫК ВЫ Ж НЕ ДЛЯ СЯБЕ ЗБІРАЕЦЕ МЁД, ПЧОЛЫ!

## Вяргілій. Георгікі.

Немагчыма даведацца, калі на зямлі з’явіліся пчолы. Іх скамянелыя рэшткі выяўлены яшчэ ў пластах крэйдавага перыяду, узрост якога налічвае некалькі мільёнаў гадоў.

Пры якіх абставінах адбылося знаёмства чалавека з мёдам, цяпер можна толькі меркаваць. Ён мог патрапіць на паваленае бураном дрэва з напоўненым мёдам дуплом. Мог, прабіраючыся сярод нагрувашчаных камянёў, выпадкова абмакнуць пальцы рук у мёд, што сачыўся, разагрэты сонцам, са шчыліны. Магчыма, мёд прывабіў увагу адмысловым водарам і зіхоткім сонечным бурштынова-залацістым колерам. Але ўсе нашы развагі толькі здагадкі. Бясспрэчна адно — тое знаёмства было выпадковым, як, зрэшты, усё новае, што спасцігаў чалавек, узбіраючыся з прыступкі на прыступку ўгару па лесвіцы эвалюцыі. Гэтае знаёмства было не мімалётным, а вызначальным. Менавіта адсюль бярэ адлік шматвяковая гісторыя пчалярства. Прайшоўшы ў сваім развіцці некалькі працяглых перыядаў, што адлюстроўвалі агульны ўзровень матэрыяльнай культуры, пчалярства спакваля развілося ў буйны абсяг гаспадарання.

Значэнне мёду далёка перасягае чыста спажывецкія мэты. Бо ён паспрыяў не толькі фізічнаму, але і разумоваму станаўленню людства. Кажучы пра «Хімічныя перадумовы ачалавечвання», Энгельс меў на ўвазе ўплыў пэўных рэчаў у ежы на агульнае развіццё арганізма.

Спажыванне мёду, які ўтрымлівае так патрэбную для нармальнай працы мозга глюкозу, не магло не паўплываць на павелічэнне памераў шэрага рэчыва, якое, як цяпер дакладна выяўлена, вельмі адчувальна да складу стравы.

Дабратворны ўплыў мёду на арганізм чалавека вытлумачваецца істотным адрозненнем яго хімічнага складніку ад усіх іншых прадуктаў харчавання. Мікраэлементы, ферменты, вітаміны, бялкі, амінакіслоты і іншыя рэчывы ўтрымліваюцца ў мёдзе ў найбольш прыдатнай для засваення клеткамі форме. Па сваім складзе гэты раслінна-жывёльны прадукт вельмі блізкі да крывяной плазмы, хутка і лёгка засвойваецца пры спажыванні. Біялагічная роля мёду заключаецца ў станоўчым уплыве яго разнастайных складнікаў на нервовую сістэму, тканкавае дыханне, працэсы якаснага кровазвароту. Вучонымі выяўлена наяўнасць у мёдзе адмысловых чыннікаў росту і біягенных стымулятараў, якія павышаюць жыццядзейнасць арганізма і рост клетак.

Шматлікімі назіраннямі, праведзенымі даследчыкамі розных краін, даказана, што жывёлы, якія спажываюць мёд, развіваюцца нашмат спарней, чым іх супольнікі па кантрольнай групе. Такое самае спрыяльнае ўздзеянне мае мёд і на расліны. Галінкі розных парод дрэў пасля пабыцця ў растворы мёду выяўляюць хутчэйшы рост.

Мёд валодае высокімі антыбактэрыяльнымі ўласцівасцямі, вядомымі і шырока скарыстанымі яшчэ ў глыбокай даўніне. Балгарскі даследчык С. Младзенаў правёў некалькі серый адмысловых доследаў, якія цалкам падцвердзілі гістарычныя звесткі пра незвычайныя ўласцівасці мёду. Так, рачная рыба і курыныя яйкі пасля чатырохгадовага захоўвання ў мёдзе поўнасцю захавалі сваю першародную свежасць, у той час як кантрольныя ўзоры пачалі псавацца літаральна праз некалькі дзён.

Цудадзейныя ўласцівасці мёду выкарыстоўваюцца і ў наш час. Жыхары Цэйлона, напрыклад, захоўваюць шчыльна абмазаныя мёдам кавалкі мяса ў дуплах дрэў, дзе яно больш як год не страчвае свайго натуральнага выгляду, смаку і паху.

Эвалюцыйны чалавек, які ўжо авалодаў прыладамі жыццядзейнасці і прыдумаў шмат хітрыкаў пры паляванні на дзікіх звяроў, нават такіх вялізарных, як

дзінатэрый[1] і мамант, бясспрэчна ведаў пчол і здабываны імі мёд. Ён досыць часта спажываў мёд як страву, здабываючы яго з адшуканых гнёздаў дзікіх пчол. Гэта падцвярджаецца шматлікімі гістарычнымі сведчаннямі, напрыклад, часцінкамі воску на чарапках керамічнага посуду. Найбольш пераканаўчыя ў гэтым сэнсе наскальныя выявы старажытных мёдаздабытчыкаў. Самыя даўнейшыя з іх намалёваны больш як 10 тысяч гадоў таму. Упершыню фрэскі на пчалярскую тэматыку выяўлены ў першай чвэрці XX стагоддзя ў Валенсіі і ў Альбесэце, аддаленых адна ад адной правінцыях Іспаніі. У абодвух выпадках першабытны мастак, карыстаючыся фарбай з жоўтай вохры, бура-чырвонага жалезняку, чорнага марганцу, белай вапны, расцёртых з аліўкавым алеем[2], намаляваў на шэрых пячорных сценах здабытчыкаў мёду, якія адважна ўзбіраюцца па ліянах да прыладжаных на стромкіх скалах пчаліных гнёздаў.

Але больш за ўсё цікава тое, што яшчэ ў 1921 годзе, калі была знойдзена фрэска ў Павучынай пячоры, сяляне Валенсіі здабывалі мёд такім самым чынам, як іх далёкія прашчуры, што пасяліліся ў тых самых мясцінах 10 тысяч гадоў пазней. Пераемнасць многіх старажытных традыцый, часцей за ўсё зыначаных часам, прасочваецца ў шматлікіх чынніках і прыёмах сучаснага пчалярства.

Выявы здабытчыкаў мёду з плоймай вакол іх растрывожаных пчол адшуканы ў Егіпце, Індыі, Італіі, Нямеччыне. Праз тоўшчу стагоддзяў дайшлі да нас і пісьмовыя сведчанні пра занятак чалавека пчалярствам. У найстаражытным помніку індыйскай літаратуры «Веды»[3], дзе распавядаецца пра падзеі 5—7 тысячагадовай даўніны, пра мёд паведамляецца як пра добра вядомы прадукт спажывання. Ён скарыстоўваўся ў ежы шматлікіх плямён яшчэ ў каменным веку і здабываўся ўсюды, дзе жылі людзі.

Як ні дзіўна, але ў наш касмічны час ёсць яшчэ людзі, якія нібы застылі ў каменным веку і займаюцца дзікім пчалярствам. Пігмеі племені анжы жывуць на затоеных ва ўсходняй частцы Бенгальскай затокі Андаманаўскіх выспах. Ежу яны здабываюць збіральніцтвам, паляваннем, у тым ліку і на мёд дзікіх пчол. Пры тым дакладна таксама, як гэта рабілі шмат тысячагоддзяў назад у Еўропе.

Прайшлі стагоддзі, назапасіўся досвед і чалавек прыручыў пчалу, перайшоў да культурнай формы пчалярства, якое пастунова распаўсюджвалася ў Егіпце, Асірыі, Індыі, Грэцыі, Рыме.

Менавіта ў гэты час дасягнуты ўзровень пісьмовасці і культуры дазволіў тэарэтычна асэнсаваць і абагуліць назапашаны досвед. Узнікае пчалярская літаратура. Найвялікі мысляр старажытнасці Арыстоцель (384—322 гады да н. э.) быў не менш славутым даследчыкам прыроды. У сваёй 10-томнай працы «Гісторыя жывёл» ён адным з першых падрабязна апісаў пчол, іх захворванні, ворагаў і гэтак далей. Наколькі скрупулёзным у лепшым значэнні гэтага слова даследчыкам быў Арыстоцель, можна меркаваць па яго апісанні прапаліса — пчалінага клею. У залежнасці ад колеру, водару, вязкасці і прызначэння, ён падзяляў гэты прадукт жыццядзейнасці пчол на тры віды: канізіс, які пчолы выкарыстоўвалі для звужэння ляткоў, міціс — для змазкі «вулею з сярэдзіны перад уваходам» і пісакерас — для пакрыцця ўнутраных сценак[4]. За распрацоўку тэарэтычных і практычных пытанняў пчалярства ўдзячныя спадкаемцы заслужана ўшанавалі Арыстоцеля ганаровым тытулам «Сонца старажытнага пчалярства».

Пра жыццё гэтых працавітых істот і лекавыя якасці прадуктаў пчалярства пісаў выбітны вучоны і рэфарматар медыцыны Гіпакрат (460—377 да н. э.). Рымскі пісьменнік і навуковец Марк Тэрэнцый Варон (116—27 да н. э.) у сваім абсяжным трактаце «Пра вясковую гаспадарку» даследаваў спосабы развядзення пчол, пабудовы вулляў, спажыванне мёду. Яго калега па пяры і навуцы Пліній Старэйшы (79—23 да н. э.) у сваёй працы «Натуральная гісторыя ў XXXVII кнігах» выступаў за актыўнае развіццё пчалярства ў Рымскай імперыі, а Вергілій (70—19 да н. э.) быў не толькі вялікім паэтам, але і заўзятым аматарам пчол. Чацвёртую кнігу сваіх славутых «Георгік» ён цалкам прысвяціў пчалярству. Дасканала зведаўшы жыццё

пчол і пераканаўшыся ў наяўнасці ў пчалінай сям'і грамадскага пачатку, ён са здзіўленнем усклікнуў: «Дык вы ж не для сябе збіраеце мёд, пчолы!»

Пчолы і цяпер працягваюць здзіўляць чалавека высокаразвітым пачуццём калектывізму, дакладнай арганізацыяй жыцця рою, падзелам абавязкаў і ўзгодненасцю працы, чуллівым клопатам пра выхаванне нашчадкаў, узаемавыручкай і незвычайнай самаахвярнасцю. Ахоўваючы сваіх суродзічаў, пчала ў сілу біялагічнага інстынкту гіне, але ахвяраю свайго жыцця абараняе агульнае для ўсяго роду жытло.

Усё гэта абуджала ў людзей імпэтнае жаданне спасцігнуць дзівосную, яшчэ і да сёння шмат у чым загадкавую прыроду гэтай малюпасенькай істоткі. Пчаляр імкнуўся зразумець, што аб'ядноўвае няздольных да існавання паасобку насякомых у супольны маналітны рой.

Як толькі чалавек пачаў задумвацца пра сваё прызначэнне на зямлі, і пра сэнс існавання, ён імкнуўся знайсці адказ на многія вечныя пытанні. У прыродзе спадзяваўся выявіць і спосабы ўдасканалення чалавечага грамадства. Найбольш прыдатным для гэтых мэт многім здаваўся пчаліны рой, дзе ўсё ўзгоднена настолькі гарманічна і рацыянальна, што чалавека апаноўвала роспач. Ён не мог сабе ўявіць, якім чынам істота вагой усяго толькі ў адну дзясятую грама здолела стварыць такую форму супольнага жыцця, пры якой няма супярэчнасцей, а жаданні адной пчалы спалучаюцца з патрэбамі ўсяго рою.

Часта захапленне перарастала ў гіпербалізацыю здольнасцей пчалы. Ідэалізацыя рою даходзіла да таго, што пчолам прыпісвалі ўласцівую чалавеку матываванасць дзеянняў, іх надзялялі людскімі рысамі і ўласцівасцямі. Старажытнагрэчаскі заканадаўца Лікур, распрацоўваючы асновы дзяржаўнага ладу Спарты, кіраваўся існуючым у пчалінай сям'і ўзорным парадкам. Многія не разумелі, што чалавек у адрозненне ад пчалы ёсць не толькі біялагічнай, але і сацыяльнай істотай. Імкненне рэфармаваць чалавечае грамадства па ўзоры і кшталце пчалінага рою не абыходзілася і без блізкіх да абсурду кур'ёзаў.

Пчалярства спрадвеку было добра вядома і старажытным славянам. Асобныя даследчыкі выяўляюць узнікненне ў іх пачаткаў пчалярства як самастойнай галіны гаспадаркі да V—VI стагоддзяў[5].

Першыя пісьмовыя згадкі пра заняткі ўсходніх славян пчалярствам ёсць у шматлікіх крыніцах, датычных падзей X стагоддзя. У іх часта і ў рознай сувязі згадваецца мёд і воск. Летам 945 года ў Кіеў для перамоў пра заключэнне дамовы прыбыла грэчаская дэлегацыя. Перад ад'ездам паслоў князь Ігар па колішнім звычаі багата абдарыў іх «скорою и челедью и воском». У тым самым годзе пры спробе ўзяць з драўлян паўторную даніну, абавязковай часткай якой былі прадукты пчалярства, князь Ігар загінуў. Абураныя адкрытым рабаўніцтвам і нахабніцтвам князя, драўляне на чале са сваім правадыром Малам выйшлі з Карасценя і перабілі ўсю яго дружыну, а самога Ігара прывязалі да дзвюх вяршынь сагнутых дрэў, потым адпусцілі іх, у выніку чаго, натуральна, князь быў разарваны на часткі.

У 946 годзе княгіня Вольга накіравалася ў драўлянскую зямлю, каб адпомсціць за смерць мужа. Драўляне, як паведамляе летапісец Нестар, спыталі ў яе: «Чьто хощеши у нас? Ради даем медом и скорою». Вольга адказала: «Ныне у вас несть меду, ни скоры, но Мала у вас прошю»[6]. Спалены да тла Карасцень і амаль пяць тысяч забітых драўлян — такі вынік учыненых Вольгай па мужу крывавых хаўтур.

У 969 годзе вялікі князь Святаслаў Ігаравіч, імкнучыся вызваліцца ад гнятлівай паўсядзённай апекі ўладалюбнай маці, наважваў перанесці сваю рэзідэнцыю ў Пераяславец на Дунаі. Сваё жаданне ў размове з княгіняй Вольгай ён матываваў у асноўным экалагічнымі меркаваннямі: «Не любо ми есть жити Киеве, хощу жити Переяславьци во Дунаи, яко то есть среда земли моей, яко ту вься благая соходяться: от Греко поволоки, злато, вино и овощеве разноличьнии, из Чехо и из Угоро — сьеребро и комони, из Руси же скора и воск и мед и челядь»[7].

Доўгі час гандаль мёдам з Візантыяй і грэчаскімі чарнаморскімі калоніямі здзяйсняўся праз пасрэдніцтва Хазарскага каганата, якому плацілі даніну асобныя

ўсходнеславянскія княствы, у тым ліку і радзімічы. У 965 годзе Святаслаў Ігаравіч разграміў магутную хазарскую дзяржаву і яна назаўсёды знікла з гістарычных абсягаў. Славяне ўсталявалі з Візантыяй непасрэдныя сувязі.

Шматлікія гістарычныя матэрыялы сведчаць пра абсяжны распаўсюд пчалярства ва ўсіх землях усходніх славян. Пчаліны мёд у XIII—XVI стагоддзях паранейшаму заставаўся адным з асноўных прадметаў абмену, каштоўным таварам экспарту і абавязковым чыннікам выплатнай даніны. Жыхары Берасця ў 1289 годзе плацілі Мсціславу Данілавічу, князю Уладзімірскаму, агулам даніны два лукна мёду з кожных ста чалавек[8]. Гэтая ж адзінка вымярэння служыць мерай мёду і ў XVI стагоддзі: «Давали с села Бабичи …два лукна меда красного …в лукно укладывали по десяти пудов»[9]. У супліку Жыгімонту І Старому насельнікі Бчыцкай воласці пісалі ў 1509 годзе, што яны спрадвеку намесніку Мазырскаму «сычевали носатку меда»[10].

У якасці попытнага на знешнім рынку тавара выступаў і другі прадукт жыццядзейнасці пчол — адліты ў круглякі пэўных памераў воск. Пры чытанні летапісаў і пазнейшых актавых матэрыялаў міжволі ўзнікае думка, што ў часы Кіеўскай Русі воск, як і цяпер, каштаваў больш за мёд. Ім абдорвалі паслоў і прадстаўнікоў царскіх дынастый. На адной з 617 каляровых мініяцюр Радзівілаўскага летапісу, які адлюстроўвае прыём Ігарам у 945 годзе грэчаскіх паслоў, старажытны мастак намаляваў на стале некалькі круглякоў воску[11]. «Княгіня Вольга падчас свайго побыту ў Канстанцінопалі, куды яна ездзіла ў 957 годзе для ўмацавання палітычных і гандлёвых сувязей з Візантыяй, падаравала самому імператару Канстанціну ў якасці зваротнага прэзенту «челядь и воск и скору»[12].

Устойлівы попыт і высокія кошты на воск, а галоўнае, дастаткова надзейная сыравінная база абумовілі ўзнікненне самастойнай галіны перапрацоўчай вытворчасці, якая ў XV — XVII стагоддзях на абшарах сучаснай Беларусі атрымала назоў «васкоўніцтва»: пан Верашака, «маючы у себе в аренде восковництво Виленское …на две лете в аренду тое восковництво Виленское в певным контракте …листом …завартым пустил»[13].

Апрацоўка, адліўка ў круглякі («забіванне»), маркіроўка воску («пробіянне») здзяйснялася ў адмысловых васкабойнях, якія меліся ва ўсіх вялікіх гарадах: «даровал пр947 быть пререченому месту ...воскобойню на забиванье воску»[14]. За права валодання васкабойняй браўся падатак — васкабойнае: «Воскобойное …на уряд замковый Суражский давано быти мает»[15]. Кантроль за вывазам воску за межы дзяржавы здзяйсняўся адмысловымі чыноўнікамі — васкаўнічымі: «Восковничие Берестейские …личбу выдали доходу з восковое коморы 346 коп»[16].

Звесткі пра гаспадаранне ўсходніх славян увогуле і пра пчалярства ў прыватнасці ўтрымліваюцца ў шэрагу арабскіх крыніц IX—X стагоддзяў. Шырокае развіццё пчалярства ўражвала ўсходніх падарожнікаў, амаль кожны з іх лічыў сваім абавязкам згадаць пра развядзенне пчол на землях Кіеўскай Русі.

Але гістарычныя крыніцы нічога не паведамляюць пра час узнікнення пчалярства ва ўсходніх славян. Яны толькі канстатуюць факт шырокага развіцця галіны на ўсходнеславянскіх землях у IX—X стагоддзях. Больш канкрэтны адказ на гэтае пытанне нам дае лінгвістыка. Параўнальны аналіз пчалярскай тэрміналогіі паказвае, што асноўны яе запас сваімі этымалагічнымі каранямі сягае да агульнаславянскай супольнасці.

Сапраўды, ва ўсіх усходніх, заходніх і паўднёвых славян найбольш даўні пласт пчалярскай лексікі (пчала, мёд, матка, труцень, воск) аднолькавыя. Возьмем, напрыклад, слова воск: беларускае і рускае — воск, украінскае — віск, польскае wosk, чэшскае і славацкае vosk, верхняе і ніжнялужыцкае wosk, кашубскае woesk, балгарскае — восък, палабскае — wask, македонскае — восок, сербскахарвацкае — вȍсак, славенскае — vosek і гэтак далей[17]. А гэта сведчыць, што пчалярства ўзнікла ў славян у глыбокай даўніне, прынамсці раней V—VI стагоддзяў, калі, як вядома, адбыўся распад агульнаславянскага моўнага адзінства»[18].

Багаты матэрыял пра пчалярства ёсць у творах вуснай народнай творчасці беларусаў. Слова «борціць», напрыклад, у значэнні майстраваць борць дайшло да нас у народнай песні палешукоў.

Пчалярская культура ўсходніх славян была такой высокай, што яе даследчык, нямецкі навуковец О. Шрадзер назваў Усходнюю Еўропу «абетаванай зямлёй пчольніцтва»[19].

Паводле класіфікацыі вядомага нямецкага гісторыка пчалярства З. Амбрустэра, беларусаў варта аднесці да лясной пчалаводчай групы, то бок да народаў, якія займаюцца бортніцтвам[20].

## Узнікненне і развіццё бортніцтва

***Бортнікі нашы на стаўках — соснах разлапістых…***
***Выдзеўбуць долатам борці і прыладзяць лётвы…***
***Вось і стаяк-каранёк для залётнага рою.***
***Так прыручаем пчалу і частуемся мёдам.***

М. Гусоўскі. Песня пра зубра

Бортніцтва — старажытны промысел і першасная форма культурнага пчалярства — заснавана на ўтрыманні і развядзенні пчол у борцях, прыстасавных для гэтай мэты натуральных ці знарок выдзеўбаных штучных дуплах у дрэвах, такіх, як хвоя, ліпа, дуб, асіна. Гэты промысел развіўся з так званага дзікага пчалярства, пры якім з кубла, выпадкова знойдзенага ў дупле дрэва, а то і проста на зямлі[21], забіралі часцяком увесь мёд, папярэдне знішчыўшы агнём і дымам сям'ю крылатых працаўніц.

У час пошуку салодкай здабычы наш далёкі продак арыентаваўся па шэрагу вядомых яму прыкмет. Адной з іх былі дрывесныя грыбы, наросты якіх часцей за ўсё сустракаліся на кары дуплістых дрэў. Верагодна, да таго далёкага часу і стасуецца прымаўка: «Не пагнётшы пчалы, мёду не з'ясі»[22].

Пазней пошук баровак (лясных пчол) стаў больш мэтаскіраваным і ўсвядомленым актам дзейнасці чалавека. Калі раней ён задавальняўся незнарок знойдзеным мёдам, дык цяпер ішоў па іх у лес, як на паляванне. Ён ужо не блукаў усляпую сярод магутных дрэў, выглядваючы ці не кружацца дзесьці ў іх кронах пчолы. Цяпер дастаткова было ўбачыць пералётных з кветкі на кветку пчалін, каб вызначыць накірунак пошуку. Кавалачак мёду ў сотах у невялікай берасцянай скарыначцы клалі на зямлю. Пчолы, як зазвычай, неўзабаве выяўлялі прынаду і, пераносячы мёд у сваё жытло, прыводзілі да яго здабытчыка. Як бачым, тут прысутнічаюць самыя сапраўдныя чыннікі паляўніцтва — выкарыстанне прынады і высочванне.

Гнёзды лясных пчол адшуквалі і ў больш познія часы. Складальнік двухтомнага «Ботонического словаря», выдадзенага ў 1781—1783 гадах, Андрэй Меер, пісаў: «В Забычанском[23] войтовстве водятся во множестве дикие пчелы…около деревни Либудь в дупле старой сосны нашли более пяти пудов меда. В других местах находят в старых дубах такого меда по пятисот фунтов»[24]. У 1842 годзе тое самае адзначыў і М. Вітвіцкі: «...люди часто открывают в деревнях дупла, полностью наполненные медом, не находя в них ни одной пчелы»[25]. Адсутнасць пчол тлумачыцца тым, што для нармальнай жыццядзейнасці сям'і патрэбны пэўны абсяг вольнае прасторы, пры змяншэнні якой да крытычнага ўзроўню за кошт сотавага мёду пчолы перасяляюцца ў іншае жытло.

Такія знаходкі часам сустракаюцца і ў наш час. Некалькі гадоў таму ў Пастаўскім раёне Віцебскай вобласці спілавалі хваіну, дупло ў якой было запоўнена сцукраваным мёдам на вышыню ў тры метры. У снежні 1982 года падчас нарыхтоўкі дроў для калгаса жыхар вёскі Мнюта Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці выразаў з паваленай дрывасекамі тоўстай хвоі дупло з пчалінай сям'ёй. Ён прывёз калоду і перагнаў рой у рамковы вулей[26].

Своеасаблівым спосабам палявання з'яўляецца лоўля баровак ці вылецеўшых з прысядзібных пасек раёў, з той толькі розніцай, што пры гэтым замест жалезных пастак выкарыстоўваюць лавушкі з яловай ці ліпавай кары. Прымацаваўшы да крыжавіны распячатаны кавалачак сотавага мёду, найлепей свежага, а пры яго адсутнасці — цукрова-лімонна-мятную прывабу, пасткі ў пачатку чэрвеня расстаўляюць на высокіх дрэвах на ўзлесках, высечках, каля невялікіх вадаёмаў. Некаторыя пчаляры такім чынам павялічваюць свае пасекі на 10 і болей сем'яў[27]. У Беларусі гэты метад паўсюль шырока выкарыстоўваецца галоўным чынам для лоўлі зляцелых раёў.

Дзікае пчалярства хутчэй за ўсё было спадарожным заняткам качавых плямён, якія доўга не затрымліваліся на адным месцы. Спажыўшы паляўнічыя і кармавыя выгоды аднаго раёна, яны перабіраліся ў іншы. Вядома, такі лад жыцця не спрыяў ні ўзнікненню бортніцтва як усталяванай формы ляснога промыслу, ні правядзенню сістэмных назіранняў, без пэўнай сумы якіх немагчыма ніякае абагульненне. Тым не менш назапашваўся нейкі досвед, і аднойчы чалавек зразумеў, што, калі не нішчыць пчол, да таго ж і не забіраць у іх увесь мёд, ён здолее з нашмат меншымі затратамі часу і працы атрымліваць мёд з аднаго дупла на працягу некалькіх гадоў. Гэтае адкрыццё і стала кропкай адліку гісторыі бортніцтва і пачаткам ператварэння ласага на мёд паляўнічага ў свядомага пчаляра — бортніка (бартнік, барцялаз).

Пільна сочачы за звычкамі пчол, людзі ўлавілі пэўныя біялагічныя заканамернасці ў іх жыцці. Так, адкрыццё раення — вылету адасобленага ад мацярынскай сям'і рою — падштурхнула чалавека да думкі заваблівацъ раі спачатку ў недалёкія ад яго жытла натуральныя, а потым і ў выдзеўбаныя ў жывых дрэвах дуплы.

Такі пераход здзяйсняўся не адразу. Яму папярэднічаў працяглы перыяд, на працягу якога паляванне на мёд спалучалася з першымі спробамі захавання пчол у натуральных дуплах. Станаўленне бортніцтва мела эвалюцыйны характар і расцягнулася на некалькі стагоддзяў.

Афармленне бортніцтва ў самастойны лад гаспадарчай дзейнасці чалавека завяршылася яшчэ да пераходу да земляробства ці непасрэдна папярэднічала яму. Так было ў многіх народаў, якія асвоілі земляробства параўнальна позна. Як сведчыць «Книга Большому чертежу», башкіры ў 1627 годзе яшчэ не апрацоўвалі зямлі, але паспяхова займаліся борцевым пчалярствам: «а кормит их мед, зверь, рыба, а паши не имеют»[28].

На тэрыторыі сучаснай Беларусі насельніцтва займалася земляробствам ужо ў I стагоддзі нашай эры. Менавіта тым часам датуецца знойдзенае ў прыбярэжным тарфяніку ракі Лань дубовае рала[29]. У сярэдзіне першага тысячагоддзя нашай эры людзі перайшлі ўжо да двухпольнай сістэмы апрацоўкі глебы і папарнаму (ад слова папар — удакладненне перакладчыка) земляробству. Падчас раскопак селішча ля вёскі Хатомель Столінскага раёна Брэсцскай вобласці выяўлена чарэсла (плугавы нож-разак) і металічныя сашнікі[30].

Паводле археалагічных звестак, плямёны зарубянецкай культуры займаліся земляробствам яшчэ ў III стагоддзі да н. э.[31].

Як самастойны лад пчалярскага промыслу бортніцтва прайшло ў сваім развіцці тры асноўныя этапы: 1. Ахова і догляд дзікіх пчол, якія самі пасяляліся ў натуральных дуплах. 2. Утрыманне асаджаных чалавекам раёў у загадзя падрыхтаваных прыродных дуплах. 3. Развядзенне і ўтрыманне пчол у знарок выдзеўбаных дуплах, то бок у борцях.

Канчатковы пераход да класічнага бортніцтва, якім яно стала ў перыяд росквіту (X—XII стагоддзі), здзейсніўся ў раннім жалезным веку (7—6 стагоддзі да н. э.). Без жалезнага прыладдзя наўрад ці можна было выдзеўбаць борць у ствале хвоі, а тым больш дубу. Каменная сякера і цясло прыдатныя былі толькі для прыстасавання натуральных дуплаў, іх ачышчэння найперш ад дрывеснай трухляціны. Меркаванне Н. Вітвіцкага, што «вынаходніцтва борці» папярэднічала сасе

(ад слова саха, драўляная папярэдніца плуга — заўвага перакладчыка), гучыць пераканаўча.

З часам выпрацавалася больш дасканалая тэхніка вырабу борцяў, спосабы заваблівання пчол і прыёмы іх догляду, узніклі адмысловыя прылады працы і прыстасаванні. Вядомае ў X стагоддзі бортнае начынне дайшло да нашых дзён без істотных канструктыўных змен. Знойдзеныя ў пахаваннях жалезныя нажымёдарэзы па знешнім выглядзе мала чым адрозніваюцца ад падобных пчалярскіх інструментаў першай паловы XX стагоддзя[32].

Шматвяковая практыка ўтрымання пчол дазволіла славянам нашмат раней за заходнееўрапейцаў раскрыць асобныя загадкі пчалінага рою і выпрацаваць шэраг рацыянальных прыёмаў пчалярства. Штучнае вывядзенне матак было вядома славянам, калі нават меркаваць толькі па пісьмовых крыніцах, у першай палове XV стагоддзя. Аднак да сённяшняга часу першаадкрывальнікам гэтага спосабу лічыцца нямецкі пчаляр Шырах, які абнародаваў яго толькі ў канцы XVIII стагоддзя[33].

Развіццю бортніцтва ў Беларусі спрыялі вялікія масівы дрымучых лясоў і пушчаў, густа зарослых верасам, чарнічнікам, маліннікам і іншымі меданоснымі раслінамі. Па берагах рэк, азёр, балот непралазнай сцяною раслі лаза, вербы, на ўзлесках — арэшнік. Нават у XV—XVI стагоддзях вялізныя абшары былі яшчэ не абжытыя, а шмат дзе ўвогуле не ступала нага чалавека. Піянерамі абжывання неасвоеных земляў былі бортнікі. У пошуках прыдатных мясцін для пчалярства яны заўсёды ішлі наперадзе земляробаў. Гісторыя зберагла імёны беларускіх бортнікаў, якія ў другой палове XV пачатку XVI стагоддзя бралі ўдзел у абжыванні «нічыйных» падляшскіх земляў паміж рэкамі Нерасля, Чорная і Супрасль. Сярод іх былі суражскія бортнікі Кузьма Касцяневіч, Кац Бартнік, Сцецка Саковіч, Верамей Зелясовіч, Іван Іваніковіч, Федзько Селівановіч і іншыя[34].

Развядзеннем пчол-баровак займаліся паўсюль: у Беларусі, у Польшчы, ва Украіне, у Расіі. Спасылаючыся на пісьменніка Ржанчынскага, М. Вітвіцкі паведамляў, што польскія сяляне мелі па некалькі сотняў борцяў, а бортнікі Лебядзінскага лесу Кіеўскага Палесся выплачвалі ўладальніку ў якасці дзесяціны 200 бочак бітага мёду. У Магілёўскім ваяводстве ў XVI—XVII стагоддзях рэдка які пчаляр не назапашваў за сезон 2—5 пудоў сотавага мёду[35]. Патомны бортнік Б. А. Калеснікаў (вёска Рашэтнікі Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці) яшчэ ў пачатку XX стагоддзя ўтрымліваў 500 пчаліных сем’яў.

В. Концкі, аўтар першай славянскай кнігі па пчалярстве «Наука о пасеках», пісаў у 1612 годзе: «Среди множества богатств Русской земли …этот край и пчелами, щедрыми на мёд, не обделен»[36]. Пра гэта сведчаць дадзеныя тапанімікі. Назвы вёсак Бартнікі, Бортнікі, Бортнавічы, Бортніцы, Жэння Вялікая, Добрыя Пчолы і шмат іншых распаўсюджаны на ўсёй тэрыторыі рассялення беларусаў[37].

Але не ўсе назвы вёсак з асновай «борць» варта звязваць з бортніцтвам. Такія тапонімы, як Барташы, Борцякі, Борці, Борць-Турэйск, Борцялі, Борцялішкі, магчыма, утвораны ад этноніма «борці» — імені балцкай народнасці, якая згадваецца ў летапісах і беларускіх актавых матэрыялах[38] «бортеве». Пасля захопу іх земляў крыжакамі частка бортаў знайшла прытулак у Беларусі. На працягу некалькіх стагоддзяў яны захавалі сваё этнічнае аблічча, але з часам асіміляваліся з беларусамі, а тыя, якія аселі на абшарах этнічнай Літвы — з літоўцамі[39]. Памяць пра гэты народвыгнаннік, ахвяры тэўтонскай экспансіі, непераўзыдзеных будаўнікоў мастоў захавалася ў назвах многіх вёсак, дый у слове «барцяк», якім да цяперашняга часу на Гродзеншчыне называюць людзей, насельнікаў лесу. А ў сучаснай літоўскай мове слова «борць» абазначае адмыслоўца па будаўніцтве мастоў, то бок маставіка[40].

Бортніцтва пакінула глыбокі след у метрычнай сістэме беларусаў. Да цяперашняга часу яшчэ бытуюць даўнія адзінкі мер мёду[41] і назваў посуду для яго захавання: «ліпаўка», «кадоўб», «кадоўбчык», «ліпечня», «берасцень», «кузьня», «ручка» і іншыя. Пасля ўваходжання Беларусі ў склад Расіі былі прызначаны новыя гербы для беларускіх гарадоў. Для асноўнай геральдычнай выявы выбі-

ралася тыповая прыкмета, якая ўвасабляла вядучую галіну гаспадаркі дадзенай мясцовасці. У цэнтры гербаў Ігумена (цяпер Чэрвень) і Клімавіч у якасці галоўных сімвалаў на блакітным полі шчытоў змешчаны залацістыя пчолы[42].

Да XVII стагоддзя ўжо выяўляюцца прыкметы ўпадку бортніцтва як ляснога промыслу, а ў першай чвэрці XIX стагоддзя яно страчвае сваё былое гаспадарчае значэнне. На адной валоцы[43] лесу, як адзначае М. Вітвіцкі, які наведаў у гэты час Палессе, «было несколько бортей с пчелами, а пустых около пятидесяти»[44]. У гутарках з бортнікамі ён устанавіў, што ў 1775 годзе ўсе яны былі дзейнымі.

Адной з асноўных прычын рэзкага ўпадку бортніцтва з’явілася антрапагеннае ўздзеянне на прыроду, што спакваля набірала моцы. Асабліва адмоўны ўплыў наносіла драпежнае вынішчэнне лясоў. Лес для земляўласнікаў, асабліва буйных феадалаў, называных у Беларусі магнатамі, быў адной з істотных крыніц прыбытку. Не лічачыся ні з чым, акрамя сваіх асабістых інтарэсаў, яны распрадавалі яго літаральна на корані. Лепшыя гатункі лесу ў выглядзе будаўнічых, карабельных і бондарных матэрыялаў няспынным цягам сплаўлялі па рэках у парты Прыбалтыкі, а адтуль вывозілі амаль ва ўсе краіны Заходняй Еўропы. Лясныя распрацоўкі асабліва шырока разгарнуліся ў 30-я гады XVIII стагоддзя.

Апрача гэтага, у XVIII стагоддзі набылі распаўсюд лесахімічныя промыслы: вытворчасць паташа і ордаша[45], выраб смальчугі[46], гонка дзёгцю, нарыхтоўка смалы-жывіцы, драўнянага вугалю, шкіпінару і гэтак далей. Лясныя масівы катастрафічна скарачаліся, высечкі зарасталі нізкагатункавымі пародамі дрэў — асінай, бярозай, кустоўём. Каб уявіць, у што абыходзіліся лясныя промыслы, разгледзім толькі вытворчасць паташа. Для прыбытковай дзейнасці адной поташнай буды трэба выкарыстаць драўніну з 82 гектараў лесу. У Беларусі амаль тры стагоддзі працавала больш за дзве сотні поташных будаў[47]. Уявіце, колькі знішчана лесу, калі на працягу гэтага тэрміну толькі адна буда «пераварвала» яго з плошчы 24600 га.

Будаўніцтва чыгунак таксама выклікала досыць інтэнсіўную высечку лесу, асабліва шмат знішчана яго ў 1863 годзе пры ачыстцы прылеглых да чыгуначных калей тэрыторый. Лес высякаўся вакол станцый і паабапал чыгункі.

Раскарчоўка высечак і разворванне лядаў вялі да ўзнікнення новых так званых расцяробных пасяленняў, што таксама скарачала бортныя выгоды. Феадалы імкнуліся да расшырэння пасяўных плошчаў: яны прываблівалі сялян збоку, даючы ім розныя ільготы. Аднак мужыкі, як прышлыя, так і тутэйшыя, ахвотней расцярэблівалі лес пад ворыва, чым бралі абложныя землі, бо вызваляліся ад усіх павіннасцей на больш працяглыя тэрміны. У выніку абжывання новых аблог у Беларусі ўзнікла вялікая колькасць новых паселішчаў. Невялікія — у некалькі, а часцяком і ў адзін двор — яны досыць шчыльнай сеткай аперазалі ў канцы XVIII стагоддзя тэрыторыю Беларусі[48].

Ды не адны толькі змены экалагічнай абстаноўкі, выкліканыя масавым вынішчэннем лясоў, згубна адбіліся на бортніцтве. Агульнаму працэсу занядбання ў прыватнасці і ўсяго пчалярства ў цэлым, паспрыялі частыя войны, асабліва руска-польская (1654—1667 гады), Паўночная (1700—1721 гады), Айчынная вайна 1812 года. Акупацыйныя войскі паўсюль займаліся рабаўніцтвам, усе пасекі ў большасці паветаў былі знішчаныя. Нягледзячы на тое, што борці знаходзіліся ў лесе і не кожны мог узабрацца па гладкім ствале на вышыню 6—15 метраў, пацярпелі бортныя пасекі. Разарэннем борцяў займаліся не толькі ворагі, але і войска Вялікага Княства Літоўскага. Пры адсутнасці прыстасаванняў для пад’ёму на дрэва яго проста ссякалі. Рабаўніцтва борцяў набыло такі масавы характар, што соймы многіх беларускіх гарадоў вымушаны былі ўключаць у вайсковыя статуты адмысловыя артыкулы, якія прадбачвалі смяротнае пакаранне за знішчэнне бортных дрэў[49].

Да ўсіх бядот трэба зазначыць, што і само па сабе бортніцтва несла перадумовы будучага занядбання. Сутнасць разбойнай сістэмы пчалярства заключалася ў тым, што восенню ў пчол забіралі ўвесь мёд, а сем’і, зазвычай самыя моцныя,

знішчалі. На зіму заставаліся слабыя, частка з іх гінула ад нястачы харчу. Натуральна, такое становішча, паўтараючыся з веку ў век, вяло да аслаблення тутэйшай папуляцыі бортных пчол. Яны выраджаліся, страчвалі ўласцівыя бароўкам якасці, змяншалася іх агульная колькасць. З кожным годам станавілася цяжэй засяляць разрабаваныя самім бортнікам борці.

Адмоўны ўплыў на развіццё пчалінай сям'і ў борці, паводле меркавання вядомага знаўцы, папулярызатара і гісторыка пчалярства А. Пакорскага-Жораўкі, аказвала ніжняя падрэзка сотаў. Пчол прымушалі закладваць расплод у старых сотах, у той час як бароўкі ў натуральных умовах дзеля гэтай мэты заўсёды выкарыстоўваюць новыя[50].

Апошні ўдар па бортніцтве нанёс імпарт так званых каланіяльных тавараў — цукру, віна, гарэлкі, якія падарвалі манапольнае становішча мёду як адзінай слодычы і сырцу для вырабу хмельных напояў. А ў выніку з'яўлення газы знізілася значэнне воску, як распаўсюджанага сродку асвятлення. Здабываць мёд стала менш выгодна, бо на яго ўпалі кошты. Яны былі такія нізкія, што не апраўдвалася праца і выдаткі па доглядзе і ўтрыманні пчол.

Якая ж была прадуктыўнасць бортніцтва ў перыяд яго росквіту? Мы маем дастаткова звестак дзеля адказу на гэтае пытанне. У першай палове XIX стагоддзя гэта імкнуўся зрабіць у маштабах усёй Расіі М. Вітвіцкі. Адштурхоўваючыся ад фрагментарных сведчанняў Літоўскай метрыкі[51], галоўным чынам датычных Беларусі і Украіны, ён стварыў прыкладную карціну стану пчалярства першай чвэрці XVI стагоддзя. Карыстаючыся яго сістэмай разліку і дадзеных, што адносяцца толькі для Беларусі, паспрабуем вызначыць колькасць мёду, атрыманага ў нашым краі.

М. Вітвіцкі па выяўленых рэестрах склаў табліцу рэгістрацыі воску мытнымі каморамі Полацка, Гародні, Драгічына, Бярэсця (дадзеныя па Луцкай, Уладзімірскай і Валынскай каморах намі апушчаны):

У першай трэці XIX стагоддзя адзін пуд воску атрымлівалі з сямідзесяці пудоў сотавага мёду. Выходзіць, для атрымання 51053 пудоў воску на працягу 8 гадоў патрэбна было 3,6 мільёна пудоў сотавага мёду, а ў адзін год — каля 447 тысяч пудоў. Калі прыняць сярэдні сезонны прыбытак ад адной борці за 0,5 пуда, дык для атрымання агульнай колькасці мёду павінна быць каля 894 тысяч пчаліных сем'яў. На наш погляд, гэтая лічба цалкам рэальная. Частка прадуктаў пчалярства, бясспрэчна, заставалася на месцы, а частка праходзіла праз іншыя «васковыя каморы». Напрыклад, праз такую буйную, як Віленская, у якую паступаў воск са значнай тэрыторыі Беларусі: «2-го дня февраля почнутся личбы з восковничого[52] Виленского»[53].

У 1835 годзе М. Вітвіцкі пераканаўся, што ў параўнанні з першай чвэрцю XVI стагоддзя там не здабывалі і адной пяцісотай долі ранейшага мёду.

Для ажыўлення айчыннага пчалярства ў XVI стагоддзі была здзейсненая спроба выкарыстаць досвед лепшых замежных пчаляроў. У 1771 годзе «для науки до содержания пчел касающейся» ў Нямеччыну за кошт казны быў накіраваны навучэнец Смаленскай духоўнай семінарыі Афанасій Кавярзнёў. Стажыроўку ён праходзіў у вядомага ў той час пчаляра пастыра Шыраха. Якіхсьці зрухаў у пчалярстве па ягоным вяртанні не назіралася. Аўтар вядомай працы «Летопись русского пчеловодства за тысячу лет (с 912 по 1912 годы)» В. П. Попов скептычна ацаніў вынікі камандзіроўкі. Адзіная, паводле яго меркавання, карысць паездкі заключалася ў тым, што Кавярзнёў у 1775 годзе пераклаў на русскую мову кнігу Шыраха пра яго метад утрымання пчол.

Наступнай спробай удыхнуць жыццё ў прыгаслае пчалярства варта адзначыць адмену Кацярынай II падаткаў з усіх, хто трымаў пчол. У маніфесце ад 14 сакавіка 1775 года гаварылася: «Отрешаем....где есть сбор с бортового и пчелиного угодья, и повелеваем впредь онаго не сбирать и не платить»[54]. Гэтая мера распаўсюдзілася і на тэрыторыю Усходняй Беларусі, у 1772 годзе далучанай да Расійскай імперыі.

Аднак ніхто не мог спыніць павольнага, але няўхільнага працэсу змізарнення колішняй бортняй славы. У інвентарах XVII і асабліва XVIII стагоддзяў згадкі пра бортніцтва ўжо датычаць галоўным чынам такіх буйных лясных масіваў, як Наднёманская, Налібоцкая, Аўгустоўская і Белавежская пушчы[55].

Колішні асноўны экспарцёр воску Расія здолела ў 1835 годзе вывезці яго за мяжу ўсяго столькі, колькі ў XVI стагоддзі адпраўлялі праз адну Полацкую васковую камору. Азнаёміўшыся з вынікамі знешняга гандлю, заўзяты прыхільнік айчыннага пчалярства М. Вітвіцкі са скрухай заўважыў: «Бяда, дый годзе!» Неўзабаве, каб задаволіць усе патрэбы краіны ў воску, давялося завозіць яго з-за мяжы.

У Беларусі бортніцтва, як чыста рэліктавая з'ява, у адзінкавых выпадках датрывала да нашага часу. Апошняя ў Беларусі борць у старой асіне на сядзібе Віталюса Альфонсавіча Мацкевіча ў вёсцы Русакі Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці дзеіла яшчэ ў 1980 годзе. Дый і то яе выпадкова засялілі пчолы.

Бортныя дрэвы, як маўклівыя помнікі даўняга высакароднагаляснога промыслу, якім больш за тысячу гадоў займаліся нашыя дзяды-прадзеды і іх прашчуры, яшчэ і сёння можна сустрэць у розных кутках Беларусі.

## Заўвагі:

[1] Дзінатэрый (гр.) — страшэнны звер, вялізная да 4 метраў у вышыню выкапнёвая жывёліна з хобатам і загнутымі долу біўнямі ніжняй сківіны.

[2] Окладников А. П. Утро искусства. Л., 1967. С. 87.

[3] Слова мае аднолькавы сэнс на індыйскай (хіндзі) і беларускай мовах.

[4] Покорский-Жоравко А. И. Восковый клей и воск. «Посредник: Газета промышленности, хозяйства и реальных наук». СПБ, 1840, № 4. С. 25—26.

[5] Розов С. А. Очерки по истории отечественного пчеловодства. Рязань. 1972. С. 5.

[6] Полное собрание русских летописей (ПСРЛ). М., 1926. Т. 1. Вып. 1. С. 58.

[7] ПСРЛ Т. 2. Ипатьевская летопись. М., 1962, С. 5.

[8] Лысенко Р. Ф. Берестье. Мн.,1985. С. 22; Прижов И. История кобаков в России. Спб., М., 1868. С. 18.

[9] Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Вильно, 1867. П.1. С.216.

[10] Клеапатский П. Г. Очерки истории Киевской земли. Одесса, 1912. С. 482.

[11] Арциховский А. В. Древнерусские миниатюры как исторический источник. М., 1944. С. 27.

[12] ПСРЛ., М., 1926. Т. 1.С. 77, БелСэ Мн.,1977. Т. III. С. 155.

[13] АВК Вильно, 1891. Т. XXVIII. С. 164 (працытаваны дакумент напісаны ў 1638 годзе).

[14] А.З.Р. СПб., 1848. Т. 2. С. 11 (дакумент 1507 года).

[15] А.З.Р. СПб., 1848. Т. 3. С. 150 (дакумент 1570 года).

[16] А.З.Р. СПб., 1848. Т. 3. С. 150 (дакумент 1570 года).

[17] Этимологический словарь русского языка (Под общей ред. Н. М. Еланского) М. С. 170—171.

[18] Гурскі М. І. параўнальная граматыка рускай і беларускай моў. Мн., 1962, С. 8.

[19] Schrader O. Reallexikon der indogermanischen Altertums kunde. Berlin und Leipzig. 1917—1923. Bd. 1. S. 141.

[20] Верас Зоська. «Кароткі нарыс з гісторыі пчалярства». // Беларуская борць. Вільня. 1935. № 3/8. С. 4—9.

[21] Голобуцький В. Гомин, гомин по діброви. Київ, 1963. С. 22.

[22] Майхровіч С. К. Прыказкі і прымаўкі. Гіст. нарыс. Мн., 1976. С. 23.

[23] Цяпер Забычанскі сельсавет Касцюковіцкага раёна, Магілёўскай вобласці.

[24] Мейер А. Описание Кричевского графства или бывшего староства (рукопись библиотеки Казанского государственного университета). Кричев, 1786. С. 30.

[25] Витвицкий Н. М. Практическое пчеловодство. СПб., 1842, Ч. III. С. 11—15.

[26] Воронов В. П. Из дупла — в улей. // Пчеловодство. 1983. № 7. С. 22.

[27] Родзин В. А. Охота на «диких пчел». // Пчеловодство. 1947. № 9. С. 21—22.

[28] Книга Большому чертежу, или Древняя карта Российского государства. СПб, 838, С. 152.

[29] Очерки по археологии Белоруссии. Мн., 1940, Ч.1 С. 159.

[30] Кухаренко Ю. В. Средневековые памятники Полесья // Археология СССР. Свод археол. источников. М., 1961. Вып. EI—57. С. 8—24. Поболь Л. Д. Деревянный плуг. // Сельское хозяйство Белоруссии. 1956. № 8 С. 19; Копобушкина Т. Н. Земледелие на территории Белоруссии в X—XIII вв. Мн., 1979. С. 17.

[31] «Народная сельскагаспадарчая тэхніка беларусаў». // Пад рэд. В. К. Бандарчыка, Мн., 1974. С. 17.

[32] Витвицкий Н. М. Практическое пчеловодство. СПб., 1842. Ч. III. С. 20—21; Ч. IV. С. 96, 106—107; Некрасов В. Ю. Пчелы в Киевской Руси // Пчеловодство. 1980. № 5. С. 31—32.

[33] Chreptowicz J. Opisanie gospodarstwa pszczołowego, w Szczorszach sporządzone, roku 1785. Warszawa. S. 9.

[34] Wiśniewski J. Zarys dziejów osadnictwa wiejskiegó we wschodniej częsci województwa Białostockiego do polowy XVII wieku. Навуковы зборнік. Беласток, 1964. С. 9.

[35] Рыбальченко А. Н. Загадка пчелиного роя. Мн., 1982. С. 17; Некрасов В. Ю. Пчелы в Киевской Руси // Пчеловодство. 1980. № 5. С. 32.

[36] Kącki W. Nauka koło pasiek…Zamość. 1612. S. 11.

[37] Жучкевич В. А. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Мн.. 1974. С. 33—34, 314.

[38] ПСРЛ. М., 1962.Т. II. С. 877.

[39] ПСРЛ. М., 1962. Т. II. С. 877.

[40] Охманьский Е. Иноземные поселения в Литве XIII—XIV вв. в свете этнонимических местных названий // Балто-славянские исследования. 1980. М., 1981. С. 125.

[41] Скурат К. У. Даўнія беларускія меры: (Лексічны аналіз). Мн., 1974. С. 68—77.

[42] Россия. Т. IX. Верхнее Поднепровье и Белоруссия // Под ред. В. П. Семенова, СПб., 1905. С. 512, 525; Гербовые знаки белорусских городов// БелСЭ. Мн ., 1971. Т. 3. Уклейка паміж с. 432—433.

[43] Адзінка вымярэння плошчы, роўная 21.3 гектара.

[44] Витвицкий Н. М. Практическое пчеловодство…Ч. 1. С. 100.

[45] Поташ — шчолачная соль, вывараная з драўніны; ордаш ці перлаш — вышэйшы гатунак поташа, здабыванага па іншай тэхналогіі.

[46] Смальчуга — разнавіднасць поташу.

[47] Буда — лясное прадпрыемства для перапрацоўкі драўніны: «в пущах наших буды роздати робити на нас господаря» (АЗР. СПб., 1848. Т. 1. С. 183. Дакумент 1527 году).

[48] Беларускае народнае жыллё // Пад рэдакцыяй В. К. Бандарчыка. Мн., 1973. С. 21.

[49] Устава сойму менского военная 1507 года // АЗР.СПб.,1848. Т. II. С. 27—28.

[50] Покорский-Жоравко А. Опыт исторического обзора развития пчеловодства в России. СПб., 1843. С. 25, 34—36.

[51] Літоўская метрыка — агульная назва архіва дзяржаўнай канцылярыі Вялікага Княства Літоўскага.

[52] Воскаўнічы — службовец васковай каморы.

[53] АЗР. СПб., 1848. Т. III. С. 80.

[54] ПЗС. Т. XX. Ст. 14275. П. 21 Энциклопедический словарь Брокгауза и Ефрона. Т. 50. С. 865—873.

[55] Козловский П. Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII—XVIII в. Мн., 1969. С. 70—71.

***Пераклад з рускай Яўгена ЛЕЦКІ.***

***Працяг будзе.***